грѣха ради озлобляет ны и паки покаянья ради приемлеть; не хощеть бо смерти грѣшнича, но обратитися велить и живу ему быти. Что есть древо животное? — Смиреномудрие, ему же корень исповѣданье. «Исповѣмь бо, рече, на мя безаконье мое, и ты отпустил еси нечестье сердца моего». Того корене стебло — благовѣрье «Вѣра бо твоя, рече, спасет тя»; все бо вѣрующему даеться. Того стебла многи и различны вѣтви — «мнози бо, рече, образи покаяния: слезы, пост, молитва чиста, милостыни, смирение, вздыхания» и прокая. Тѣх вѣтвий добродѣтелий плод: любы, послушанье, покорение, нищелюбье — мнози бо суть путье спасения. Вижь, яко не в раи бѣ животное древо, ни в едемѣ, но во оземьствии, рекше отлучении сана. Изрину паки и Каина, въпросив его убийства братня, и по обличении показа ему животное древо, рек сице: «Будий стоня и трясайся», сирѣчь покайся о злобѣ, о зависти, о льсти, о убийствѣ, о лжи, смирися, постися, бди, на земли лежи. Но понеже сего не створи, но изиде от лица божия — недальствомь земля, но неимѣньем страха божия при свои души. Благым дѣлом не сущим в нас, ни покаянию о грѣсѣх, в коем си сану будем, далече бога есмы. Близь бо господь скрушеных сердцемь; смиреныя духомь спасеть, волю боящихся его створить. Лице же господне на творящая злая: потребити от земля память их. Сице и Павел изринул от святаго жертвеника Уменѣя и Филита и съблудившая в Коринфи священникы и оземьствова я противу святу олтарю, сирѣчь постави я с клирики, рек: «Имѣйте таковыя на студ, но утвердите к ним любовь, да не погрязнуть злою печалью, но да ся покають и живи будуть». Не всхотѣ сего древа животнаго вкусити Александро ковачь, о нем же рече Павел: « Да вздасть ему господь в день судный по злобѣ его». Не вкуси того древа Трефис ефесин и Николае. Быв от семи дьякон, иже отвергъся Христа и быв кумирожрець в Селуни, а он предаяше мучителем крестьяны, о нею же пишеть Иоан, глаголя: «От нас изидоша и быша на ны». Того породнаго не приимше еретици; прокляти быша и умроша душевною смертью, не разумѣша бо пророка глаголюща: «Вкусите и видите, яко благ господь». Нѣст бо грѣха, иже сдолѣеть божии милости. Точью не отчаим себе, яко Июда; ни невѣруим телесному въскресению, аки садукѣи, — но покаяньем толцѣмь в божия двери, дондѣже отверзеть нам райская врата. Не лож бо рекы господь: «Толцѣте, отверзется вам; ищѣте и обрящете; просите и дасться вам». Но да не предложениемь словес умножю писанье и зѣло предолжю бесѣду, но на предъреченая възвратимъся.

Видѣв же он человѣк свой окраден виноград, въсхотѣ отлучити слѣпца от хромца, — повелѣ первое привести слѣпца, да его опытаеть, кто есть преслушал заповѣдь его и присягл к невходьным бес повелѣния его. Ничто же бо възможет божия таитися ока, и никто же нас тако свѣсть себе, яко же бог всѣх нас свѣсть.

Повелѣ разлучити бог душю от тѣла. Словом бо божиим исходить от тѣла душа: «и отимеши бо, рече, дух их и ищезнуть и в персть свою възвратятся». Да егда видиши тѣло погребено в земли,

не мни ту суща и душа: не от земля бо есть душа, ни в землю входить. Но аще и святых видиши чюдотворныя мощи, не ту их твори душа, но божию разумѣй благодать, тако прославляющю своя угодники: «Славящая бо мя, рече, прославлю». Повелѣ привести слѣпца: по ищезновении от тѣла душа всякого человѣка пред бог приходить с приставленым к ней ангелом, вѣрнаго же и невѣрнаго, сущаго в законѣ и всякого безаконника. Господь бо, рече, испытаеть праведнаго и нечестиваго; вси бо роди язык от единоя быша крове рожении и рассѣяшася жити по лицю всея земля, им же бог створи себе благотворити, дая дождь с небеси и времяна обильная: «Сияеть бо, рече, солнце свое на добрыя и злыя» — и прокая. Но никто же о глаголѣх сих да не зазрить ми, — но испытайте писания и обрящете мя от божиих вземлюща книг. Пишеть бо Моисий: «Постави предѣлы языком по числу ангел божии». Иеремѣя же: «Един есть, рече, господь всѣх, иже под небесемь язык; аще бо остави я в своей когождо прельсти, но душа ихь пред нимь явиться, и тъ судить по дѣлом их». Павел же: «Что бо мнѣ, рече, внѣшним судити, но утреним и вы судите, а внѣшним бог судить». Утрьни глаголеть в законѣ, а внѣшныя — безаконнии языкы. Слышати бо подобаеть божие имя нынѣ разлучающимся от телес душам, да и в послѣдни день въскресше с телесы неблазньно поклоняться богови, а не им же ныня работаша прельщени бѣсом, по апостолу глаголюща: «И тогда увидить всяко око, и всяк язык поклониться, исповѣдая, яко господь Исус Христос в славѣ бога отца един». Но си вся учившеися вѣдять, — аз же о слѣпцѣ початую бесѣду противу силѣ по въмѣщению ума въкратцѣ скажю, аще и поимы творящих ми дозрю; вѣдѣ бо, яко не суть от премудрости, но от грубости сия сказания. Но обаче на основании пророчестѣ и апостольстѣ зижем, имуще уголника самого Христа.

Приведену же бывъшю слѣпцю, быст опытание. — «Не добра ли тя, рече, стража створих моему винограду! То почто его еси окрал?» Отвѣща ему слѣпець: «Господи, ты вѣси, яко аз слѣп есмь и не вижю без водящаго мя камо[1] ити и не вѣдѣ ни единого мѣста, аще и хотѣл бых. Ни чюх же никого же минующа мене враты, да бых крѣпко в слѣд его въпил. Но мню, господи, яко хромець есть крал». Вижь ложное нынѣ спирание души пред богом и клеветание на тѣло.

Сице же есть душевъны глагол: «Господи, аз дух есмь. Да ни ясти ни пити хотѣл есмь, ни чьсти, ни славы земныи искал есмь, ни телесное не разумѣх похоти, ни дьяволи створих воли, — но та вся тѣло есть створило».

Тогда повелѣ господин блюсти слѣпца во укромнѣ мѣстѣ, идеже сам вѣсть, дондѣже придеть сам к винограду и призоветь хромца, и тогда судить обѣма.

Того ради до второго пришествия Христова нѣст суда ни мучения всякой души человѣчи, вѣрнаго и невѣрнаго. Вѣруйте же в

[1] куды.

правду въскресению человѣчьских телес. Послеши бо, рече, дух свой, и съзижються, и обновиши лице земли. В Иезекили бо нам въскресения надежю показал есть. «Прорци, рек, сыне человѣчьск, на мертвыя сия кости, да будуть на них телеса и опнется на них кожа, да придет дух от четырь вѣтр и внидеть в мертвыя си, да оживуть». Се же все сам творець дѣйствуеть, не инако чина превращая, но инако исконьное дѣло свое понавляя. Преже бо созда тѣло Адамле, ти потом вдуну душю. Тако во утробѣ женьстѣй: перво от сѣмени зижеть тѣло, по пяти мѣсяць творить душю. Во крещении же первое поражаеть водою, потом же обнавляеть духом от тлѣнья грѣховьнаго. Тако и в послѣдни день: первое обновить землю и сбереть персть человѣчю и съзижеть всѣх нас телеса в мегновеньи ока, потом душа наша в свою когождо внидуть храмину, — по Павлю, глаголющю, яко сам господь в гласѣ архангеловѣ, в трубѣ божии сниде с небеси, и мертви о Христе въскреснуть преже, потом же и мы живии. Кто суть мертвии? Вси языци, не бывъше под божиим закономь, ни приимше крещенья: «Елико бо, рече, безаконьно съгрѣшиша, безаконьно погибнуть». Живыя же крестьяны нарицаеть. Виж всѣх человѣк телесем въскреснути и вѣруим Павлову послушеству, словесем господним глаголющем: «иже ли не створить искони богом создана человѣка, то не разумѣеть и крещением в живот порожена, тѣм же и не чаеть послѣдняго с телесы въскресения въстающим всѣм человѣком в бесконечны живот — овѣм ■ честь и славу, овѣм в студ и в муку». Но да и прокое речем.

Егда приде господин взяти плод от винограда и видѣв его окрадена, и призва хромца и совъкупи с слѣпцемь, и начаста сама ся обличати. Хромець глаголаше слѣпцю: «Аще не бы ти мене носил, ни како же аз могл бых тамо доити, понеже хром есмь». Слѣпець же глаголаше: «Аще не бы ты мнѣ пути казал, не бых тамо аз доити могл». Тогда господин сѣд на судьнѣм столѣ и начат има судити. И рече: «Яко же еста крала, тако да сядьть хромець на слѣпца». Всѣдшю же хромцю, повелѣ пред всѣми своими рабы немилостивно казнити в кромѣшней [1] мученья темницѣ.

Разумѣйте же, братье, сея притча сказание. Человѣк есть домовит — бог отец, всячьскых творець. Его же сын добра рода — господь наш Исус Христос. А виноград — землю и мир нарицаеть. Оплот же — закон божий и заповѣди. Слугы же сущая с нимь — ангели глаголеть. Хромець же есть — тѣло человѣче. Слѣпца же душю его мѣнить. А иже я посади у врат — человѣку бо предаеть бог ■ область всю землю, дав ему закон и заповѣди. Преступившю же человѣку повелѣние божие и того ради смертью осужену бывшю, первое душа к богу приводится и спирается глаголющи: «Не аз, но тѣло есть створило». И того ради нѣст мучения душам до второго пришествия, но блюдомы суть, иде же бог вѣсть. Егда же придеть обновити землю и въскресити вся умершая, яко же

---

[1] пякельнай.

сам бог преже глагола, тогда вси сущи в гробѣх услышать глас сына божия и оживуть, изидуть створше благая въскресение живота, а створши злая — въскрешение суда. Тогда бо души наши в телеса внидуть и приимуть въздание кождо по своим дѣлом — праведници в вѣчную жизнь, а грѣшници в бесконечную смертную муку. Ими же согрѣшить кто, тѣмь и мучен будеть.

Сице же и мнѣ о сих сказавшю не от умышленья, но от святых книг. Да нѣст се мое слово, но бесѣда; нѣсмь бо учитель, яко же они церковни и священнии мужи [1].

---

[1] Гэта прытча Кірыла Тураўскага была напісана каля 1160—1162 гг. і накіравана супроць двух пэўных гістарычных асоб, менавіта: Фёдара, епіскапа Растоўскага і яго гаспадара князя Андрэя Багалюбскага. (Гл. артыкул праф. І. П. Яроміна, «Притча о слепце и хромце в древнерусской письменности», змешчаны ў «Известиях отделения русского языка и словесности Академии наук», т. XXX, 1925, стр. 340—348.)

# СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ

Слова аб палку Ігаравым з'яўляецца агульным помнікам усіх трох братніх усходнеславянскіх літаратур: рускай, украінскай і беларускай, вытокам развіцця якіх была ў свой час Кіеўская Русь.

У 1185 г. ноўгарад-северскі князь Ігар Святаславіч сумесна з сваім братам Усеваладам, князем трубчэўскім, сынам Уладзімірам, князем пуціўльскім, і пляменнікам Святаславам Алегавічам, князем рыльскім, выступілі супроць качэўнікаў полаўцаў і былі разгромлены апошнімі ў прыдонскіх стэпах у тым жа годзе. Гэта гістарычная падзея і паслужыла непасрэднай прычынай для напісання «Слова», якое, па трапнаму выражэнню К. Маркса, прагучала ў той час «заклікам рускіх князёў да яднання якраз перад нашэсцем манголаў»[1].

Вуснамі невядомага аўтара «Слова аб палку Ігаравым» апявала агульнанародныя інтарэсы Кіеўскай Русі ў такі драматычна напружаны час, калі дзяржаўныя асновы Кіеўскай Русі раз'ядаліся частымі феадальнымі міжусобіцамі, а барацьба рускага народа за сваю незалежнасць набывала востры характар і патрабавала безадкладных намаганняў усіх рускіх князёў для арганізацыі адпору ворагу. У гэтым і заключаецца неперасягнутая каштоўнасць «Слова» як помніка літаратуры і грамадска-палітычнай думкі Кіеўскай Русі. Палымяны заклік аўтара «Слова» выступіць супроць полаўцаў «за землю Рускую, за раны Игоревы, буего Святъславлича» сведчыць не толькі аб вялікай ідэйна-палітычнай накіраванасці твора, але і аб тым высокім усведамленні патрыятычнага абавязку, якім кіраваўся сам аўтар пры напісанні «Слова».

Час напісання твора невядомы. Але зварот аўтара да рада князёў, менавіта да галіцкага князя Яраслава Асмамысла, які памёр у 1187 г., і да Усевалада Юр'евіча «Большое гнездо» (пам. у 1212 г.) як да жывых сучаснікаў падзей, апісаных у «Слове», дае падставу меркаваць, што твор гэты напісаны быў не пазней канца 1187 або пачатку 1188 гг.

Першыя звесткі аб «Слове» сталі вядомы ў канцы XVIII ст., калі аматар рускай старыны граф А. І. Мусін-Пушкін у 90-х гадах XVIII ст. адшукаў тэкст «Слова» ў рукапісным зборніку XVI ст., які належаў бібліятэцы Яраслаўскага спасаўскага манастыра. З гэтага спіска А. І. Мусін-Пушкін сумесна з Н. Н. Бантыш-Каменскім і А. Ф. Маліноўскім зрабілі ў хуткім часе копію «Слова» для царыцы Екацярыны II, а ў 1800 г. зрабілі публікацыю тэксту пад загалоўкам «Ироическая пѣснь о походѣ на половцов удѣльнаго князя Новагорода-Сѣверскаго Игоря Святославича, писанная старинным русским языком в исходѣ XII столѣтия с переложением на употребляемое нынѣ нарѣчие». У час маскоўскага пажару, у 1812 г., зборнік А. І. Мусіна-Пушкіна згарэў разам з большасцю экземпляраў першага выдання «Слова». Такім чынам, у якасці першакрыніцы пры вывучэнні «Слова» засталіся толькі яго першае выданне і архіўная екацярынінская копія «Слова».

---

[1] К. Маркс. Сочинения, т. XXII, стр. 122.

За вялікі прамежак часу, які аддзяліў арыгінал «Слова» ад яго спіска XVI ст., перапісчыкі «Слова» ўнеслі ў яго тэкст нямала скажэнняў і блытаніны. Перапісчыку XVI ст. многае ў тэксце помніка магло быць незразумелым і далёкім ад яго інтарэсаў, таму ён мала ўдзяляў увагі дакладнаму напісанню незразумелых для яго месц тэксту, з якога рабіў спіс. Але не ўсе цёмныя месцы гэтага твора з'яўляюцца спадчынай яго перапісчыкаў. Безумоўна, некаторыя з гэтых цёмных месц, над высвятленнем якіх ужо на працягу многіх дзесяткаў год працуюць вучоныя каментатары «Слова», трэба лічыць памылкамі першавыдаўцоў тэксту. Памылкі іх тлумачацца зачаткавым станам развіцця палеаграфічных ведаў у той час. Частка цёмных месц тэксту агульнымі намаганнямі вучоных растлумачана і прынята навукай. Астатнія ж папраўкі тэксту патрабуюць яшчэ больш грунтоўнай і ўсебаковай аргументацыі.

Высокапаэтычны тэкст «Слова» яшчэ ў XIX ст. пачаў падвяргацца літаратурным перакладам на сучасную мову. Многа было зроблена спроб перакласці «Слова» вершамі. Гэтага роду захапленне «Словам» працягваецца яшчэ і ў наш час. «Слова» перакладзена ўжо на многія мовы народаў Савецкага Саюза і на мовы рада зарубежных дзяржаў. Перакладзена «Слова» і на беларускую мову ў двух варыянтах народным паэтам рэспублікі Янкам Купалам. Першы празаічны пераклад «Слова», які больш дакладна перадае тэкст арыгінала, Купала зрабіў у 1919 г., ■ ў 1921 г. паўтарыў пераклад «Слова» вершамі.

Змешчаны ў хрэстаматыі тэкст «Слова аб палку Ігаравым» друкуецца па выданню акадэміка АН УССР Н. К. Гудзія (гл. Слово о полку Игореве, М., 1955). Паралельна гэтаму тэксту змяшчаецца празаічны пераклад «Слова», зроблены Я. Купалам (гл. Я. Купала. Збор твораў, т. 5, Мінск, 1954, стар. 187—197). Адхіленнем у гэтай правай калонцы тэксту з'яўляецца перастаноўка абзаца: «Тады азірнуўся на светлае сонца Ігар»... да абзаца: «О Баяне, часінаў старых салавейча». Перастаноўка гэтага месца перакладу абумоўлена была аргументаванай перастаноўкай адпаведнага месца ў тэксце арыгінала, аб якой Купалу ў свой час не было вядома.

## СЛОВО О ПЛЪКУ ИГОРЕВѢ, ИГОРЯ СЫНА СВЯТЪСЛАВЛЯ, ВНУКА ОЛЬГОВА

Не лѣпо ли ны бяшет, братие, начяти старыми словесы трудных повѣстий [1] о пълку Игоревѣ, Игоря Святъславлича? Начати же ся тъй пѣсни по былинамь сего времени, а не по замышлению Бояню. Боян бо вѣщий [2], аще кому хотяше пѣснь творити, то растѣкашется мыслию по древу, сѣрым вълком по земли, шизым орлом под облакы. Помняшеть бо, рече [3], първых времен усобицѣ. Тогда пущашеть 10 соколовь

## СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ, ІГАРА, СЫНА СВЯТАСЛАЎЛЕВА, УНУКА АЛЕГАВА

Ці не лепей было б, каб нам, брацця, пачаць старадаўнымі словы тужліву аповесць аб паходзе Ігаравым, Ігара Святаслаўліча?

Дый пачаціся песні той сягачасным ладам, а не складам Баянавым. Баян бо чарадзейны, калі каму песню хацеў утварыці, то расцякаўся мысляй па дзераву, воўкам шэрым па полі, арлом сізым пад воблакі.

Помнячы бо, скажам, даўных часоў разруху, выпуш-

[1] сумныя аповесці. [2] мудры. [3] як кажуць.

на стадо лебедѣй: который дотечаше[1], та преди[2] пѣснь пояше старому Ярославу[3], храброму Мстиславу[4], иже зарѣза Редедю пред пълкы касожьскыми, красному Романови Святъславличю[5].

Боян же, братие, не 10 соколовь на стадо лебедѣй пущаше, нъ своя вѣщиа пръсты на живая струны въскладаше; они же сами князем славу рокотаху.

Почнем же, братие, повѣсть сию от стараго Владимера[6] до нынѣшняго Игоря, иже истягну[7] умь крѣпостию своею и поостри сердца своего мужеством; наплънився ратнаго духа, наведе своя храбрыя плъкы на землю Половѣцькую за землю Руськую.

О Бояне, соловию стараго времени! Абы ты сиа плъкы ущекотал[8], скача, славию, по мыслену древу, летая умом под облакы, свивая славы оба полы[9] сего времени, рища в тропу Трояню[10] чрес поля на горы.

Пѣти было пѣснь Игореви, того внуку: «Не буря соколы занесе чрез поля широкая, галици стады бѣжать к Дону великому». Чи ли въспѣти было, вѣщей Бояне, Велесовь[11] внуче: «Комони ржуть за Су-

чаў 10 сокалаў на лебедзяў стада, а якую з іх дагоніваў сокал, тая першая песню пяяла старому Яраславу, ці хоробраму Мсціславу, што зарэзаў Радзедзю, перад войскам касожынскім, або краснаму Раману Святаслаўлічу.

Але, брацця, Баян жа не сокалаў дзесяць пускаў на лябяжае стада,— ён свае чарадзіўныя пальцы на струны жывыя ўскладываў, а тыя самі князям славу галосілі.

Дык пачанем жа гэтую, брацця, аповесць ад старага Уладзімера да Ігара сягачаснага, што скаваў розум сілай сваёй і навастрыў сваё мужнасцю сэрца; напоўніўся духу барацьбянага і павёў свае войска адважнае на землі Палавецкія за Рускія землі.

О Баяне, часінаў старых салавейча! Апяяў бы ты гэты паход, імкнучы салоўкай па дрэву выдумнаму, духам сягаючы воблакаў, славай звіваючы гэтага часу абедзве паловы, Траянавы сочачы след, цераз поле на горы.

Песню спяяў бы тады для Ігара, унука таго: «Не сокалаў бура занесла праз поле шырокае, галіцаў стады каціліся к Дону вялікаму»... Або апяяці было, чарадзейны Баяне, Велеса ўнуча: «Коні іржуць за

---

[1] дагоніць. [2] наперад, першая. [3] Яраслаў Уладзіміравіч (Мудры) — вялікі князь кіеўскі (1019 — 1054). [4] брат Яраслава — князь тмутараканскі і чарнігаўскі (пам. у 1036 г.). Пра яго перамогу над Радзедзяю апавядае «Повесть временных лет» (1022 г.). [5] унук Яраслава Мудрага—князь тмутараканскі (пам. у 1079 г.). [6] Уладзімір Святаславіч — вялікі князь кіеўскі з 908 г. [7] змацніў. [8] абычабятаў, праспяваў як салавей, услявіў. [9] абедзве палавіны. [10] «тропа Трояня» — мабыць шлях рымскага імператара Траяна (параўнай «траянавы валы» на Украіне і ў Румыніі). Асоба Траяна была абагатворана ў Рыме. З імем Траяна звязвалася і ўяўленне аб славянскім бажастве. Некаторыя даследчыкі «Слова» (Ціханраваў) спрабавалі растлумачыць гэтае месца такім чынам, што слова «Троян» памылкова пастаўлена замест слова «Боян». [11] Велес, або Волас — язычаскі бог жывёлагадоўлі, дастатку ва ўсходніх славян.

лою [1], звенить слава в Кыевѣ. Трубы трубять в Новѣградѣ, стоять стязи в Путивлѣ».

Игорь ждет мила брата Всеволода. И рече ему буй тур [2] Всеволод: «Один брат, один свѣт свѣтлый ты, Игорю; оба есвѣ Святъславличя! Сѣдлай, брате, свои бързыи комони, а мои ти готови, осѣдлани у Курьска напереди. А мои ти куряни свѣдоми къмети [3]; под трубами повити, под шеломы възлелѣяны, конець копия въскръмлени; пути имь вѣдоми, яругы [4] имь знаеми, луци у них напряжени, тули [5] отворени, сабли изъострени; сами скачють, акы сѣрыи влъци в полѣ, ищучи себѣ чти [6], а князю славѣ».

Тогда Игорь възрѣ на свѣтлое солнце и видѣ от него тьмою вся своя воя [7] прикрыты. И рече Игорь к дружинѣ своей: «Братие и дружино! Луце ж бы потяту [8] быти, неже полонену быти. А всядем, братие, на свои бръзыя комони, да позрим синего Дону».

Спала князю умь похоти [9], и жалость ему знамение заступи искусити Дону великаго [10]. «Хощу бо, — рече, — копие приломити конець поля Половецкаго с вами, русици; хощу главу свою приложити, а любо испити шеломомь Дону».

Тогда въступи Игорь князь в злат стремень и поѣха по чистому полю. Солнце ему тьмою путь заступаше; нощь,

Сулаю, слава звініць у Кіеве, трубы трубяць у Ноўгарадзе, стаяць сцягі ў Пуціўле».

Жджэ Ігар мілага брата Усевалада. І скажа яму буй тур Усевалад: «Адзін брат, адзін свет светлы ты, мой Ігару! Абодва з табой Святаслаўлевы дзеці. Сядлай, браце, быстрыя коні свае, а мае для цябе нагатове ўжо асядланы ўперад ля Курска. А куршчане мае табе ведамы кметы: пад гудамі трубаў радзіліся, пад шоламамі ўзгадаваліся, канцом дзіды ўскормлены; ім шляхі вядомы, ім рыцьвы знаёмы, лукі ў іх нацягнуты, сто стрэл нарыхтована, шаблі навостраны, самі яны імчацца, як шэрыя ваўкі па полі, шукаючы чэсці сабе, а князю славы».

Тады азірнуўся на светлае сонца Ігар і бачыць пакрытымі цемрай ад сонца ўсіх сваіх вояў. І скажа Ігар тут дружыне сваёй: «О, брацця й дружына! Лепей жа быці пацятаму, чым быці ў палоне. Пасядзем жа, брацця, на быстрыя коні свае зірнуці на Дон сінявокі».

На вум князю ўспала жаданне, не гледзячы з неба варожбаў, паспытываць Дона вялікага. «Хачу бо, кажа, дзіду заламаці аб поля канец Палавецкага; з вамі, русіны, хачу сваю голаў злажыці або напіціся шоламам Дона».

Тады князь Ігар уступіў у залатыя страмёны й паехаў па чыстаму полю. Сонца яму цемнатой заступіла дарогу: ноч,

---

[1] прыток р. Дняпра. [2] заўзяты, адважны. [3] выпрабаваныя ваякі. [4] аўрагі, равы. [5] падсумак для стрэл (калчан). [6] гонару. [7] дружыннікі. [8] пасечанаму. [9] усплыло князю на думку жаданне. [10] імкненне дасягнуць вялікага Дону засланілася яму прыкметай.

стонущи ему грозою, птичь убуди; свист звѣрин въста; збися Див [1], кличет връху древа: велит послушати земли незнаемѣ — Влъзѣ, и Поморию, и Посулию, и Сурожу [2], и Корсуню [3]; и тебѣ, тьмутороканьскый блъван [4]!

А половци неготовами [5] дорогами побѣгоша к Дону великому: крычат тѣлѣгы полунощы, рци — лебеди роспужени.

Игорь к Дону вои ведет. Уже бо бѣды его пасет птиць по · дубию [6], влъци грозу въсрожать [7] по яругам; орли клектом на кости звѣри зовут; лисици брешут на чрълёныя [8] щиты.

О Руская земле, уже за шеломянем [9] еси!

Длъго ночь мрькнет. Заря-свѣт запала [10]. Мъгла поля покрыла. Щекот славий успе; говор галичь убудися [11]. Русичи великая поля чрьлеными щиты прегородиша, ищучи себѣ чти, а князю славы.

С зарания в пятък потопташа поганыя плъкы половецкыя и, рассушясь [12] стрѣлами по полю, помчаша красныя дѣвкы половецкыя, а с ними злато, и поволокы [13], и драгыя оксамиты. Орьтмами [14], и япончицами [15], и кожухы начашя

стогнучы грозьбы яму, разбудзіла птушшо, а выццё звярынае ў стады іх збіла; Дзіў кліча паверх лесу, слухаць наказвае зямлі незнаёмай — Волзе, і Памор'ю, і Пасулью, і Суражу, і Карсуню, і табе, тмутараканскі балване!

А полаўцы нецярэбленымі шляхамі к Дону пабеглі вялікаму; толькі калёсы скрыпяць іх апоўначы, маўляў тыя лебедзі спуджаны.

Ігар к Дону войска вядзе. А ўжо бяда яго пасець птаха па дзераву; ваўкі па ярах нядобрае варожаць; арлы клекатам звяр'ё завуць косці збіраць; лісіцы брэшуць на шчыты бліскучыя.

О зямля Руская, ты ўжо за рубеж перасягнула!

Доўга ноч танула ў мроку. Зараніца досвіт набліжала; імгла поле засланіла; заснуў свергат салавейчы; гоман галічы ўзбудзіўся. Русіны поле шырокае загарадзілі шчытамі бліскучымі, шукаючы чэсці сабе, а князю славы.

Спазаранку ў пятніцу, патаптаўшы паганае войска палавецкае і рассыпаўшыся стрэламі па полі, паімчалі прыгожых дзяўчат палавецкіх, а з імі золата і папоны, і аксаміты дарагія; плашчамі, апоньчамі і кажухамі ды ўся-

---

[1] міфічная птушка, сустрэча з якой азначала трапіць у бяду. [2] цяпер г. Судак у Крыму. [3] старажытны г. Херсанес. [4] статуя. Каля Тмутаракані, на Таманскім паўвостраве, стаялі дзве вялізныя статуі, збудаваныя язычаскім багам Санергу і Астарці за 300 год да н. э. Напэўна, яны і меліся на ўвазе аўтарам «Слова». Другое тлумачэнне — гэта пагранічны слуп, або камень. [5] непратаптанымі, непраложанымі. [6] Гэта цёмнае месца ў «Слове». У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі гэта слова чытаецца «подобию». Па сэнсу пераклад такі: «птушкі з дрэваў падпільноўваюць яго бяду». [7] падымаюць. [8] чырвоныя. [9] за ўзгоркам, за гарызонтам. [10] запалала. [11] разбудзіўся, раздаўся. [12] рассыпаўшыся. [13] каштоўная тканіна. [14] пакрывала, засцілка. [15] накідка, плашч.

мосты мостити по болотом и грязивым мѣстом, и всякыми узорочьи [1] половѣцкыми.

Чрьлен стяг, бѣла хорюговь, чрьлена чолка [2], сребрено стружие [3] — храброму Святъславличю!

Дремлет в полѣ Ольгово хороброе гнѣздо [4]. Далече залетѣло! Не было оно обидѣ порождено ни соколу ни кречету, ни тебѣ, чръный ворон, поганый половчине!

Гзак [5] бѣжит сѣрым влъком; Кончак [6] ему слѣд править к Дону великому.

Другаго дни велми рано кровавыя зори свѣт повѣдают. Чръныя тучя с моря идут, хотят прикрыти 4 солнца [7], а в них трепещуть синии млънии. Быти грому великому! Итти дождю стрѣлами с Дону великаго! Ту ся копием приламати, ту ся саблям потручяти [8] о шеломы половецкыя, на рѣцѣ на Каялѣ [9], у Дону великаго.

О Руская землѣ, уже за шеломянем еси!

Се вѣтри, Стрибожи [10] внуци, вѣют с моря стрѣлами на храбрыя плъкы Игоревы. Земля тутнет [11], рѣкы мутно текуть, пороси [12] поля прикрывают, стязи глаголют. Половци идуть от Дона, и от моря, и от всѣх стран рускыя плъкы оступиша [13]. Дѣти бѣсови кли-

лякімі палавецкімі тканінамі ўзорнымі пачалі масты масціць па балотах і гразкіх мясцах.

Сцяг чырвоны, харугвя белая, чырвоны бунчук, сярэбраная дзіда — Святаслаўлічу Храбраму!

Дрэмле ў полі Алегава гняздо харобрае. Далёка заляцела! Не было яно зроджана ў крыўду ні сокалу, ні крэчату, ні табе чорны гругане, паганы палаўчаніне!

Гза бяжыць шэрым воўкам, Канчак яму знача след к Дону вялікаму.

На другі дзень вельмі рана крывавыя зоры світ узнімаюць, чорныя хмары з мора ідуць, хочуць прыкрыці два сонцы, а ў хмарах маланкі мігаюцца сінія.

Быці вялікаму грому! Ісці дажджу стрэламі з Дона вялікага! Тут паламаціся дзідам, тут пашчарбаціцца шаблям аб шоламы палавецкія на рэчцы Каяле, ля Дона вялікага.

О Руская зямля, ты ўжо за рубеж перасягнула!

Вось ветры, Стрыбожыя ўнукі, павеялі стрэламі з мора на храбрае войска Ігарава. Дудніць зямля; рэкі мутна цякуць; порасль пакрывае поле; сцягі гамоняць.

Ідуць полаўцы ад Дона і ад мора, і ад усіх старон рускае войска абступілі. Дзеці нячысцікавы клікам поле перагара-

---

[1] каштоўная рэч. [2] бунчук. [3] дрэўка сцяга. [4] северскія князі, удзельнікі паходу родзічы князя Алега Святаславіча. [5] і [6] палавецкія ханы. [7] 4-х князёў, якія ўдзельнічалі ў паходзе на полаўцаў. [8] пастукаць, пабіць. [9] магчыма ад слова «каяти», г. зн. праклінаць. Паводле іншых, гэта рэчка Калміус. [10] язычаскі бог вятроў. [11] стогне, гудзе. [12] порах, парахавы дым, пыл. [13] акружылі, абступілі.

ком поля прегородиша, а храбрии русици преградиша чрълеными щиты.

Яр тур Всеволодѣ! Стоиши на борони, прыщеши на вои стрѣлами, гремлеши о шеломы мечи харалужными [1]. Камо [2], тур, поскочяше, своим златым шеломом посвѣчивая, тамо лежат поганыя головы половецкыя; поскепаны саблями калеными шеломы оварьскыя [3] от тебе, яр туре Всеволоде.

Кая рана дорога, братие, забыв чти и живота [4], и града Чрънигова отня [5] злата стола, и своя милыя хоти [6], красныя Глѣбовны [7], свычая и обычая?

Были вѣчи Трояни, минула лѣта Ярославля, были плъци Олговы, Ольга Святъславличя. Тъй бо Олег мечем крамолу коваше и стрѣлы по земли сѣяше. Ступает в злат стремень в градѣ Тьмутороканѣ; той же [8] звон слыша давный великый Ярославль [8] сын Всеволод [8], а Владимир по вся утра уши закладаше в Черниговѣ. Бориса же Вячеславлича слава на суд приведе и на Канину зелену паполому постла за обиду Олгову храбра и млада князя [9].

дзілі, а русіны храбрыя загарадзілі яго шчытамі чырвонымі.

Яр тур Усеваладзе! Стаіш у барацьбе й засыпаеш ты вояў варожых стрэламі, грыміш ты аб шоламы мячамі сталёвымі. Дзе толькі даскочыш, сваім залатым, тур, свецячы шоламам, ляжаць там паганыя галовы палавецкія. Пашчапаны гартоўнымі шаблямі й шоламы аварскія ад цябе, яр тур Усеваладзе!

Якая цана ранам, брацця, таму, хто забыўся пачоту й жыцця, й Чарнігава горада, забыўся на бацькаўскі столпасад залаты, на сваю мілую пяшчоту, ясную Глебаўну, на звычай і абычай!

Былі вякі Траянавы, праміnуліся леты Яраслаўля. Былі паходы Алегавы, Алега Святаслаўліча: той бо Алег мечам разруху каваў і стрэлы сеяў па зямлі. Ступае са звонам у стрэмя злачонае ў горадзе Тмутаракані, той звон даўны чуе вялікі Яраслаўлін сын Усевалад, а Уладзімір кожну раніцу затыкаў вушы ў Чарнігаве. Барыса ж Вячаслаўліча нядобрая слава на суд прывязала на апошні, і ў зялёным заціннні каяльным божую пасцель паслала за крыўду Алегаву, маладога і храбрага князя.

---

[1] булатнымі. [2] куды. [3] авары—каўказскі народ. [4] гонару і жыцця. [5] бацько ўскага [6] жонку. [7] Вольга Глебаўна — жонка Усевалада. [8] У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі замест «той же» — «тоже», замест «Ярославль» — «Ярославь», замест «Всеволод» — «Всеволожь». [9] Гаворачы аб смерці маладога князя, аўтар «Слова», напэўна, меў на ўвазе смерць князя Барыса Вячаславіча, які загінуў у баі на Няжацінай Ніве каля Чарнігава ў 1078 г. Князь Барыс у той час разам з Алегам Святаславічам, дзедам Ігара, вёў барацьбу супроць Усевалада Яраславіча, падтрыманага братам, вялікім князем Ізяславам, сынам Уладзімірам Манамахам і пляменнікам Яраполкам.

С тоя же Каялы Святоплък повелѣ яти отца своего междю угорьскими иноходьцы ко святѣй Софии к Киеву[2].

Тогда при Олзѣ Гориславличи[3] сѣяшется и растяшеть усобицами; погибашеть жизнь Даждьбожа внука[4]; в княжих крамолах вѣци человѣкомь скратишась. Тогда по Руской земли рѣтко[5] ратаевѣ кикахуть[6], нъ часто врани граяхуть, трупиа себѣ дѣляче; а галици свою рѣчь говоряхуть, хотять полетѣти на уедие[7]. То было в ты рати и в ты плъкы, а сицей рати не слышано.

С зараниа до вечера, с вечера до свѣта летят стрѣлы каленыя, гримлют сабли о шеломы, трещат копиа харалужныя в полѣ незнаемѣ, среди земли Половецкыи. Чрьна земля под копыты костьми была посѣяна, а кровию польяна; тугою взыдоша по Руской земли.

Что ми шумить, что ми звенить далече[8] рано пред зорями? Игорь плъкы заворочает: жаль бо ему мила брата Всеволода. Бишася день, бишася другый; третьяго дни к полуднию падоша стязи Игоревы. Ту ся брата разлучиста на брезѣ быстрой Каялы. Ту кроваваго вина недоста; ту пир

З таей жа Каял-ракі Яраполк[1] палялееў між угорскімі інаходамі бацьку свайго да Сафіі святое да Кіева.

Тады пры Алегу Гарыслаўлічу рассяваліся й раслі міжусобіцы. Гібнула жыццё Дажджбожага ўнука; у калатнінах князевых людзі свой век скарачалі.

Тады на Рускай зямлі рэдка пяяў аратай, але вараннё пакрумквала часта, дзелячы труп'ё між сабою, а галіцы гоман заводзілі свой, на ежу ляцеці збіраючыся.

Было гэта ў бітвы і ў тыя паходы, а гэтакіх бітваў і слухам не чулі!

Ад рання да вечара, ад вечара да світу лятуць стрэлы гартоўныя, грымяць шаблі аб шоламы, трашчаць дзіды сталёвыя ў полі незнаёмым, сярод зямлі Палавецкае. Чорная зямля пад капытамі касцьмі была пасеяна, а крывёю палітая, — туга абышла па Рускай зямлі.

Што там шуміць? Што там звініць далёка рана перад зарою? Ігар палкі заварочвае: жаль бо яму міла брата Усевалада.

Біліся дзень, біліся другі, трэцяга дня к палудню рухнулі сцягі Ігаравы. Тут два браты разлучыліся на беразе быстрай Каялы. Тут віна крывавага не хапіла, тут баль да-

---

[1] Я. Купала пераблытаў імёны. [2] Некаторыя даследчыкі «Слова» тлумачаць, што тут не ясна выражана думка аб перавозе ў Кіеў забітага на Няжацінай Ніве (1078 г.) вялікага князя кіеўскага Ізяслава Яраславіча. Іншыя сцвярджаюць, што размова ідзе аб тым, як вялікі князь кіеўскі Святаполк Ізяславіч прывёз у Кіеў забітага пад Пераяславам у 1097 г. цела свайго цесця, палавецкага хана Тугаркана. [3] князя Алега Святаславіча аўтар «Слова» называе «Гориславичем». [4] унуку бога сонца. Гэты эпітэт аўтар надае рускаму народу. [5] рэдка. [6] аратыя пераклікаліся. [7] на здабычу. [8] У тэксце Мусіна-Пушкіна «давечя», у архіўнай копіі «давеча».

докончаша храбрии русичи; сваты попоиша, а сами полегоша за землю Рускую. Ничить[1] трава жалощами, а древо с тугою к земли преклонилось.

кончылі храбрыя русіны: сватоў напаілі, а самі палеглі за Рускую зямлю.

Нікне трава ад жаласці, а дзерава пад тугою к зямлі прыхілілася.



Паражэнне рускіх князёў у бітве з полаўцамі.

Ужо бо, братие, не веселая година въстала; уже пустыни силу прикрыла! Въстала обида в силах Дажьбожа внука, вступила дѣвою на землю Трояню, въсплескала лебедиными крылы на синѣм море; у Дону плещучи, упуди[2] жирня времена[3].

Усобица князем на поганыя погыбе[4], рекоста бо брат брату: «Се мое, а то мое же».

Ужо вось, брацця, невясёлая гадзіна наступіла, ужо пустыня сілу прыкрыла. Крыўда паўстала ў сілах Дажджбожага ўнука, дзевай узышла на зямлю Траянаву, успляснула крыллем лябяжым на сінім моры, а, плюскаючы ў Доне, спудзіла часіны шчаслівыя.

Князевы міжусобіцы — згуба для нас ад паганых. Казаць стаў брат брату: «гэта маё і тое ж маё!»

[1] нікне, схілілася. [2] прагнала. [3] багатыя часы, часы дастатку. [4] барацьба князёў супроць паганых спынілася.

И начяша князи про малое «се великое» млъвити, а сами на себѣ крамолу ковати; а погании съ всѣх стран прихождаху с побѣдами на землю Рускую.

О, далече зайде сокол, птиць бья к морю! А Игорева храбраго плъку не крѣсити [1]. За ним кликну Карна и Жля [2], поскочи по Руской земли, смагу людем мычючи в пламянѣ розѣ [3]. Жены руския въсплакашась, аркучи: «Уже нам своих милых лад [4] ни мыслию смыслити, ни думою сдумати, ни очима съглядати, а злата и сребра ни мало того потрепати».

А въстона бо, братие, Киев тугою, а Чернигов напастьми. Тоска разлияся по Руской земли; печаль жирна тече средь земли Рускыи. А князи сами на себе крамолу коваху, а погании сами побѣдами нарищуще [5] на Рускую землю, емляху дань по бѣлѣ [6] от двора.

Тии бо два храбрая Святъславлича, Игорь и Всеволод, уже лжу [7] убудиста, которую то бяше успил отец их Святъслав грозный [8], великый киевскый: грозою бяшеть притрепал [9] своими сильными плъкы и харалужными мечи; наступи на землю Половецкую, притопта хлъми и яругы, взмути рѣки и озеры, иссуши потоки и болота.

І пачалі князі аб малым «гэта вялікае» казаці і самі на сябе загубства каваці. А паганцы з усіх старон набягалі з перамогай на Рускую зямлю.

О! Далёка сокал заляцеў, птушак збіваючы, — к мору!

А Ігараву храбраму войску не ўваскроснуці. Па ім загаласіла Карына, і Жэля панеслася па Рускай зямлі, наводзячы смагу людзям у полымі рогу. Заплакалі жоны рускія, галосячы: «Ужо нам сваіх мужоў мілых ні мысляй памысліць, ні думай падумаць, ні вочмі сваймі азіраці, а золата й срэбра таго й пагатове не бачыць ніколі!»

І застагнаў жа, брацця, Кіеў тугою, а Чарнігаў напасцямі! Нуда разлілася на Рускай зямлі; няўцешная жальба пацякла сярод Рускай зямлі. А князі сабе самі праступства кавалі, а паганыя самі адны, з перамогамі наваліўшыся на Рускую зямлю, дань вымагалі па белцы з двара.

Тыя бо два храбрыя Святаслаўлічы, Ігар і Усевалад, ужо няпраўду збудзілі, якую тут прыспаў быў іх бацька, Святаслаў грозны, вялікі кіеўскі. Быў ён гразою: верх браў сваім войскам магутным і мячамі сталёвымі. Наступіўшы на зямлю Палавецкую, патаптаў узгор'і і долы; замуціў і азёры і рэкі; засушыў балоты й крыніцы.

---

[1] не ўваскрэсіць. [2] «Карна» і «Жля», напэўна, увасабляюць паняцце плачу і жальбы. («Карити» — г. зн. плакаць па памёршаму.) [3] раскідаючы агонь у палымяным рагу. Даследчыкі «Слова» зближаюць гэта месца з паказаннямі летапісу пра «жывы агонь» у трубах, або сіфонах, якія ўжываліся грэкамі і полаўцамі ў час вайны. [4] мужоў. [5] набягаючы. [6] па вавёрцы. [7] інтрыгу, вайну. [8] Святаслаў Усеваладавіч, вялікі князь кіеўскі (1176—1194), незадоўга да апісаных у «Слове» падзей, у 1184 г. у саюзе з некаторымі князямі разграміў полаўцаў, захапіў вялікую здабычу і ўзяў у палон хана Кабяка. [9] разбіў, разграміў.

А поганаго Кобяка из луку моря, от желѣзных великих плъков половецких, яко вихр, выторже: и падеся Кобяк в градѣ Киевѣ, в гридницѣ Святъславли. Ту нѣмци и венедици, ту греци и морава [1] поют славу Святъславлю, кають [2] князя Игоря, иже погрузи жир [3] во днѣ Каялы, рѣкы половецкия, рускаго злата насыпаша ту. Игорь князь высѣдѣ из сѣдла злата а в сѣдло кощиево [4]. Уныша бо градом забралы [5], а веселие пониче.

А Святъславь мутен сон видѣ в Киевѣ на горах. «Си ночь с вечера одѣвахуть [6] мя, — рече, — чръною паполомою [7] на кровати тисовѣ [8], чръпахуть ми синее вино с трудомь [9] смѣшено; сыпахуть ми тъщими тулы [10] поганых тлъковин [11] великый женчюг [12] на лоно и нѣговахуть мя. Уже дъска без кнѣса [13] в моем теремѣ златовръсѣм. Всю нощь с вечера бусови [14] врани възграяху у Плѣсньска [15] на болони [16], бѣша дебрьски сани и несоша е к синему морю» [16].

А паганага Кабяка з узлучыны морскай, ад жалезных вялікіх палкоў палавецкіх, як віхрышча выхапіў. І зваліўся Кабяк у горадзе Кіеве, у замку Святаслаўлевым.

Тут немцы і венедыйцы, тут грэкі і маравы пяюць славу Святаслаўлю, выдумляюць на князя Ігара, што патапіў багацце на донні Каялы, ракі палавецкай, насыпаўшы рускага золата там. Там Ігар князь ссядаў з залатога сядла і садзіўся ў сядло нявольніка.

Занылі сцены гарадоў, завяла вясёласць.

А Святаслаў сумны сон сніў у Кіеве на горах у гэтую ноч. «З вечара адзявалі мяне, кажа, у чорную пасцілку на цясовай кравапі; чэрпалі мне сіняе віно, змешанае з зеллем; сыпалі мне з пустых калчанаў паганых полаўцаў буйныя пэрлы на грудзі, ды песцяць мяне. Ужо дошкі без скрэпаў на маіх залатаверхіх харомах. Усю ноч з вечара дзікае груганнё гракала; пабыло каля Плеснеску на балоні, каля нетраў Кісані, і к сіняму мору нягслося».

---

[1] Разважаючы аб гэтых народах, аўтар «Слова» адзначае культурны свет таго часу і паказвае, дзе была распаўсюджана слава аб пераможным паходзе кіеўскіх князёў. [2] дакараюць, а магчыма, шкадуюць. [3] багацце. [4] рабскае. [5] гарадскія сцены. [6] У тэксце Мусіна-Пушкіна «одѣвахъте», а ў архіўнай копіі «одѣвах те». [7] пакрывалам. [8] кедравая. [9] з горам, з ліхам, з бядою. [10] пустымі падсумкамі. [11] іншаземцаў, трэба меркаваць, полаўцаў. [12] перламутр. Бачыць у ва сне перламутр, паводле візантыйскіх і старарускіх павер'яў — адзнака будучых слёз. [13] бэлька, на якую ставяцца кроквы для даху. [14] шызыя, сівыя. [15] мясцовасць у Галіччыне. [16] Адно з цёмных месц у тэксце «Слова». Сучасныя даследчыкі «Слова» тлумачаць яго так: «Усю ноч сівыя груганы каркалі ў Плеснеску на ўзбярэжжы; былі лясныя змеі («дебрьски сани»), і панясло іх да сіняга мора». Перакладчык Шторм прапануе такое тлумачэнне: «былі смертныя сані, і няслі іх да сіняга мора». Такое тлумачэнне Шторм робіць ад слова «дебрь», якое, на яго думку, азначае, «даліна, роў, магіла, яма» і «сані», якія ўжываліся на княжаскім пахаванні. Выраз «к синему морю» паказвае на глыбокую старажытнасць звычая. Сані, на якіх вазілі нябожчыка, былі тады падобныя да чаўна, бо па старому звычаю нябожчыка спускалі ў рэчку або ў мора на чаўне.

И ркоша бояре князю: «Уже, княже, туга умь полонила: се бо два сокола [1] слѣтѣста с отня стола злата поискати града Тьмутороканя, а любо испити шеломомь Дону. Уже соколома крильца припѣшали [2] поганых саблями, а самаю опуташа [3] в путины желѣзны. Темно бо бѣ в 3-й день: два солнца помѣркоста; оба багряная [4] стлъпа погасоста и с нима молодая мѣсяца, Олег и Святъслав [5] тьмою ся поволокоста, и в морѣ погрузиста, и великое буйство подаста хинови [6]. На рѣцѣ на Каялѣ тьма свѣт покрыла; по Руской земли прострошася половци, акы пардуже [7] гнѣздо. Уже снесеся хула на хвалу [8]; уже тресну нужда на волю [9]; уже връжеся Див на землю. Се бо готския [10] красныя дѣвы въспѣша на брезѣ синему морю, звоня рускым златом; поют время Бусово [11], лелѣют месть Шароканю [12]. А мы уже, дружина, жадни веселия» [13].

Тогда великий Святъслав изрони злато слово съ слезами смѣшено, и рече: «О, моя сы-

І сказалі баяры князю: «Ужо, княжа, туга розум твой замуціла: гэта вось два сокалы зляцелі з бацькавага залатога пасада, каб горад Тмутаракань пашукаці або напіціся шоламам Дона. І ўжо сокалам крыллі падсечаны шаблямі погані, а саміх іх павуцінай жалезнай апуталі. Цёмна было ўжо на трэці дзень: два сонцы патухлі, абодва чырвоныя згаслі слупы, а з імі і месяцы два маладыя. Алег і Святаслаў завалакліся цямрыцай і ў моры яны патанулі, і гордасці хану дадалі вялікай. На рэчцы на Каяле святло цьма пакрыла; па Рускай зямлі, як рысяў племя, распасцерліся палаўцы. Ужо ўзнялася над хвалай пахула, ужо ўссела насілле над воляй і ўжо ўрэзаўся Дзіў на зямлю. Вось бо гоцкія красныя дзевы запелі на беразе сіняга мора, золатам звонячы рускім: пяюць яны Бусавы часы, і помству лялеюць Шараканаву... А мы ўжо, дружына твая, не знаем вясёласці».

Тады вялікі Святаслаў абазваўся слаўцом залатым, са слязамі змешаным, і сказаў:

---

[1] менавіта Ігар і Усевалад. [2] падрэзалі; дакладней, зрабілі пешымі. [3] У тэксце Мусіна-Пушкіна: «опустоша». [4] ярка-чырвоны. [5] маладыя князі, удзельнікі паходу. Але, як вядома, іх імёны: Уладзімір, сын Ігара, і Святаслаў, пляменнік Ігара. У гэтым тэксце або памылка, або намёк на пляменніка і не дарослага яшчэ сына Ігара Алега, які мог быць у паходзе. Або, нарэшце, намёк на двух меншых сыноў Ігара: Алега і Святаслава. [6] зборнае імя для азначэння «паганых бусурман». [7] барсава. [8] ужо ганьба перамагла славу. [9] ужо прымус ударыў па свабодзе. [10] Аўтар «Слова» мае на ўвазе астаткі готаў, якія ў другім стагоддзі н. э. аселі на ўзбярэжжы Чорнага і Азоўскага мораў і жылі там аж да XVII ст. Паражэнне рускіх выклікала ў готаў радасць, таму што яно давала гоцкім купцам магчымасць разбагацець на гандлі нявольнікамі. [11] Цёмнае месца ў тэксце «Слова». Бус — або адзін з вядомых сваімі перамогамі палавецкіх ханаў, або, паводле іншых меркаванняў, замучаны ў IV ст. н. э. прыморскімі готамі цар антаў-славян, імя яго было Бооз. [12] Шарукань — палавецкі хан, які не адзін раз цярпеў паражэнне ад рускіх князёў канца XI і пачатку XII ст. ст. [13] ніякага вясёлля.

новча[1], Игорю и Всеволоде! Рано еста нача Половецкую землю мечи цвѣлити[2], а себѣ славы искати; нъ нечестно[3] одолѣсте, нечестно бо кровь поганую пролиясте. Ваю храбрая сердца в жестоцем харалузѣ скована, а в буести закалена. Се ли створисте моей сребреней сѣдинѣ! А уже не вижду власти сильнаго и богатаго и многовоя брата моего Ярослава[4] с черниговьскими былями[5], с могуты[6] и с татраны, и с шельбиры, и с топчакы, и с ревугы, и с ольберы[7]: тии бо бес щитовь с засапожникы[8] кликом плъкы побѣждают, звонячи в прадѣднюю славу. Нъ рекосте: «Мужаимѣся сами: преднюю славу сами похитим, а заднюю си сами подѣлим!»

А чи диво ся, братие, стару помолодити? Коли сокол в мытех бывает[9], высоко птиц възбивает; не даст гнѣзда своего в обиду. Нъ се зло: княже ми не пособие. На ниче[10] ся годины обратиша».

Се у Рим[11] кричат под саблями половецкыми, а Володимир под ранами. Туга и тоска сыну Глѣбову!

Великый княже Всеволоде![12] Не мыслию ти прелетѣти изда-

«О мае сыноўцы, Ігару і Усеваладзе! Рана пачалі вы зямлю Палавецкую рэзаць мячамі, а славы шукаці сабе. Але не з чэсцяю ўходалі, бо не з чэсцяй паганскую кроў пралілі. Вашы адважныя сэрцы ў сталі нязломнай закованы і згартованы адвагай. Дый што вы стварылі маёй сярэбранай сівізне! Не даждаліся вы сільнага й багатага брата майго Яраслава з яго многавоямі, з чарнігаўскімі ваякамі — з магутамі і з татранамі, і з шальберамі, і з тапчакамі, і з рэвугамі, і з альберамі. Яны ж, бывала, без шчытоў, з захаляўнымі нажамі, клікам палкі пабяджаюць, звонячы прадзедняй славай. Але вы сказалі: «Храбрымося самі! Самі пярэднюю славу захопім і з задняю самі падзелімся.

А ці ж дзіва тут, брацця, і старому памаладзеці? Калі сокал у гадах, высока ўзбівае ён птушак, свайго не папусціць у крыўды гнязда! Але ў тым гора, што князі ўжо мне ў непадмогу. У нішто абярнуліся тыя часіны! Вось у Рымаве крычаць пад шаблямі палавецкімі, а Уладзімір пад ранамі. Туга і нудота Глебаву сыну!»

Княжа вялікі, Усеваладзе! Ці не мысляй табе б прыляце-

---

[1] пляменнікі. Святаслаў — дваюрадны брат Ігара і Усевалада — звяртаецца да іх як старэйшы ў родзе. [2] тузаць, прымушаць плакаць. [3] без славы, без гонару. [4] Яраслаў Уладзіміравіч, князь чарнігаўскі (пам. у 1198 г.). [5] вяльможамі. [6] ваяводамі. [7] «татраны, шельбиры, топчаки, ревуги, ольберы» — назвы плямён, якія служылі ў войску чарнігаўскіх князёў. [8] падобныя да кінжалаў нажы; воіны насілі іх за халявамі сваіх ботаў. [9] «в мытех бывает» — ліняе. [10] на нішто. [11] г. Рымаў, які быў зруйнаваны полаўцамі пасля няўдалага паходу Ігара. Незадоўга пасля заняцця Рымава, у баю з полаўцамі быў цяжка паранены князь пераяслаўскі Уладзімір Глебавіч, які памёр у 1187 г. [12] Усевалад III Юр'евіч «Большое гнездо» (памёр у 1212 г.) быў вядомы сваёй сілай і багаццем. Ён за некалькі год да падзей, апісваемых у «Слове», зрабіў удалы паход супроць волжскіх балгар.

леча, отня злата стола поблюсти? Ты бо можеши Волгу веслы раскропити, а Дон шеломы выльяти! Аже бы ты был, то была бы чага [1] по ногатѣ [2], а кощей [3] по резанѣ [4]. Ты бо можеши посуху живыми шереширы [5] стрѣляти, удалыми сыны Глѣбовы [6].

Ты, буй Рюриче, и Давыде! [7] Не ваю ли вои злачеными шеломы по крови плаваша? Не ваю ли храбрая дружина рыкают, акы тури, ранены саблями калеными на полѣ незнаемѣ? Вступита, господина, в злата стремена за обиду сего времени, за землю Рускую, за раны Игоревы, буего Святъславлича!

Галичкы Осмомыслѣ Ярославе! [8] Высоко сѣдиши на своем златокованнѣм столѣ, подпер горы Угорскыи [9] своими желѣзными плъки, заступив королеви [10] путь, затворив Дунаю ворота, меча бремены [11] чрез облаки, суды рядя до Дуная. Грозы твоя по землям текут; отворяеши Киеву врата; стрѣляеши с отня злата стола солтани за землями [12]. Стрѣляй, господине, Кончака, поганаго кощея, за землю Рускую, за раны Игоревы, буего Святъславлича!

А ты, буй Романе, и Мстисла-

ці, каб бацькаў пасад убярэгчы! Ты бо можаш распырскаці вёсламі Волгу, а шоламам вычарпаць Дон. Каб ты быў, то была бы па нагаце нявольніца, а па рэзане нявольнік. Ты бо можаш насуха жывымі страляць самастрэламі, удалымі Глеба сынамі.

Ты буй Рурыча й Давыдзе! Ці ж не вашыя гэта ў крыві пазалачоныя шоламы плавалі? Ці ж не ваша дружына адважная рыкае, як туры, гартоўнымі ранена шаблямі ў полі незнаёмым? Уступіце, сябры, у залатыя страмёны за крыўду гэтага часу, за Рускую зямлю, за раны Ігаравы, смелага Святаслаўліча!

Галіцкі Асмамысле Яраслаўле! Высока сядзіш ты на пасадзе сваім златакованым; падпёр угорскія горы сваімі палкамі жалезнымі, шлях заступіў каралю, зачыніў Дунаю вароты, шыбаючы бярэмі цераз воблакі, да Дуная суды судзячы. Грозьбы твае па землях цякуць; адчыняеш Кіеву вароты; страляеш з бацькавага пасада залатога султанаў па-за землямі. Страляй, княжа, Канчака, паганага раба, за Рускую зямлю, за раны Ігаравы, адважнага Святаслаўліча!

А ты, буй Рамане і Мсціслаў-

---

[1] рабыня, нявольніца. [2] дробная манета. 20 нагат адпавядала адной грыўне [3] раб, нявольнік. [4] дробная манета. Адной грыўне адпавядала 50 рэзан. [5] кап'ё [6] дзеці князя Глеба Расціславіча — разанскія князі — прымалі ўдзел у паходзе Усевалада. За гэты паход яны набылі ад Усевалада свае маёмасныя ўдзелы. [7] Рурык, князь перамышльскі, і Давыд, князь смаленскі, — Расціславічы; прымалі ўдзел у крывавым баі з полаўцамі на р. Арэлі ў 1183 г. [8] галіцкі князь Яраслаў Уладзіміравіч (пам. у 1187 г.) быў адным з найбольш магутных князёў таго часу і даводзіўся цесцем князю Ігару, герою «Слова». Асмамысл, паводле меркаванняў Пацябні, — гэта такі чалавек, які мае адначасова восем думак, восем турбот адразу. [9] Карпацкія горы. [10] каралю венгерскаму. [11] цяжкасці. У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова» тут стаіць слова «времены». [12] «солтани за землями» азначае «турэцкіх султанаў за далёкімі землямі».

ве![1] Храбрая мысль носит ваш[2] ум на дѣло! Высоко плаваеши на дѣло в буести[3], яко сокол на вѣтрех ширяяся, хотя птицю в буйствѣ одолѣти. Суть бо у ваю желѣзныи папорзи[4] под шеломы латинскими. Тѣми тресну земля и многи страны: Хинова, Литва, Ятвязи, Деремела и Половци[5] сулици[6] своя повръгоша, а главы своя подклониша под тыи мечи харалужныи. Нъ уже, княже, Игорю утръпѣ[7] солнцю свѣт, а древо не бологом[8] листвие срони! По Рси и по Сули гради подѣлиша[9]; а Игорева храбраго плъку на крѣсити. Дон ти, княже, кличет и зоветь князи на побѣду. Олговичи[10], храбрыи князи, доспѣли на брань.

Инъгварь и Всеволод и вси три Мстиславичи[11], не худа гнѣзда шестокрилци![12] Не побѣдными жребии собѣ власти расхытисте! Кое[13] ваши златыи шеломы и сулицы ляцкии и щиты? Загородите полю[14] ворота своими острыми стрѣлами за землю Рускую, за раны Игоревы, буего Святъславлича!

Уже бо Сула не течет сребреными струями к граду Переяславлю, и Двина болотом течет оным грозным полочаном

ле! Храбрая мысль носіць розум ваш на дзела. Высока плывіцё на дзела, з адвагай, як сокал на ветрах лунаючы, хочачы сходаці птаха ў бітве. Ёсць бо ў вас жалезныя наперснікі пад шоламамі лацінскімі. Ад іх затрасліся ўжо землі і шмат якіх краеў: Хінова, Літва, Дарамела, яцвягі і полаўцы, кінуўшы дзіды свае й голавы свае нахіланіўшы пад тыя стальныя мячы.

Але ўжо, княжа Ігару, аслабела сонца святло, а дзерава лісць не на добрае скінула! Па Росі і Суле гарады падзялілі, а Ігарава храбрага войска не ўваскрасіці. Дон цябе, княжа, кліча і іншых князёў заве на пабеду.

Алегавічы, храбрыя князі, утаміліся ў барацьбе.

Інгвар і Усевалад і ўсе тры Мсціслаўлічы — не благога гнязда птахі шасцікрылыя! Не жэрабем пабедным сабе ўладу прыдбалі! Што ж вашы шоламы залатыя і ляцкія шчыты? Загарадзіце полю вароты сваймі вострымі стрэламі за зямлю Рускую, за раны Ігаравы, буйнага Святаслаўліча!

Ужо бо Сула не цячэ ручаямі срабрыстымі к гораду Пераяслаўлю, ужо Дзвіна балотам цячэ к тым грозным па-

---

[1] Раман Мсціславіч, князь уладзімір-валынскі (пам. у 1205 г.), Мсціслаў Яраславіч, князь луцкі (пам. у 1206 г.). [2] У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «васъ». [3] у ярасці. [4] нагруднікі, панцыры. [5] плямёны, з якімі ваяваў Раман Мсціславіч. [6] коп'і. [7] пахмурыўся, паслабеў. [8] не на добрае. [9] ворагі падзялілі гарады. [10] Алегавічы: Святаслаў, Ігар і Усевалад і сыны Святаслава, Алег і Уладзімір, якіх ён паслаў да Пасем'я абараняць Русь ад полаўцаў. [11] Паводле большасці даследчыкаў «Слова», маюцца на ўвазе тры сыны Яраслава Луцкага: Інгвар, Усевалад і Мсціслаў, якія тут называюцца Мсціславічамі па імю свайго прадзеда Мсціслава Уладзіміравіча (пам. у 1132 г.). А магчыма, маюцца на ўвазе тыя самыя Інгвар, Усевалад, Мсціслаў і іх дваюрадныя браты: Раман, Усевалад і Святаслаў Мсціславічы. [12] у 3-х князёў-сокалаў 6 крыл. [13] дзе. [14] стэпу, адкуль ішлі качэўнікі.

под кликом поганых. Един же Изяслав, сын Васильков [1], позвони своими острыми мечи о шеломы литовския, притрепа [2] славу дѣду своему Всеславу, а сам под чрълеными щиты на кровавѣ травѣ притрепан литовскыми мечи, и с хоти ю на кровать и рек [3]: «Дружину твою, княже, птиць крилы приодѣ, а звѣри кровь полизаша». Не бысть ту брата Брячяслава [4], ни другаго Всеслава [5]: един же изрони жемчюжну душу из храбра тѣла чрес злато ожерелие [6]. Унылы голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии. Ярославе [7] и вси внуци Всеславли! Уже понизить стязи свои, вонзить свои мечи вережени [8]; уже бо выскочисте из дѣдней славѣ. Вы бо своими крамолами начясте наводити поганыя плъкы на землю Рускую, на жизнь [9] Всеславлю; которою [10] бо бѣше насилие от земли Половецкыи!

На седьмом вѣцѣ [11] Трояни връже Всеслав [12] жребий о дѣвицю себѣ любу [13].

лачанам, пад воклік паганых. Адзін толькі Ізяслаў, сын Васількавы, пазваніў сваймі вострымі мячамі аб шоламы літоўскія. Перабіў славу дзеду свайму Усяславу, а сам пад чырвонымі шчытамі на крывавай траве, пабіты літоўскімі мячамі, з Хоціем лёг, а той кажа: «Дружыну тваю, княжа, птахі крыллем апранулі, а звяры кроў палізалі».

Не было тут брата Брачыслава, ні другога Усевалада; адзін ён выпусціў жамчужную душу з храбрага цела цераз залатое ажарэлле.

Занылі песні, зачахла вясёласць, трубяць трубы гарадзенскія.

Яраслаўле і ўсе ўнукі Усеслаўлевы! Апусціце ўжо сцягі свае! Пахавайце мячы свае пашчарбаныя! Вы бо сваімі нязгодамі пачалі наводзіць паганых на Рускую зямлю, на надзел Усяслава, ад чаго і насілле пайшло ад зямлі Палавецкай.

У сёмы Траянавы век жэрабя кінуў Усяслаў аб дзяўчыне мілай сабе.

---

[1] Ізяслаў, сын Васількаў, князь полацкі і гродзенскі, патомак Усяслава князя полацкага. Але летапіс такога князя не адзначае. [2] пабіў, перасек. [3] «и с хоти ю на кроватъ, и рек» — цёмнае месца ў тэксце «Слова». Ні адна папраўка каментатараў «Слова» да гэтага месца не здаецца пераканаўчай. [4] Брачыслаў Васількавіч, князь ізяслаўскі і віцебскі. [5] аўтар «Слова» мае на ўвазе Усяслава Васількавіча, князя віцебскага, а пазней полацкага, «другий» таму, што вышэй намякалася на яго дзеда, Усяслава Брачыславіча. [6] залатая грыўна, якую насілі на шыі знатныя асобы як адзнаку сваёй знатнасці. [7] мабыць падразумяваецца Яраслаў Усеваладавіч, князь чарнігаўскі, які памёр у 1198 г. [8] пашкоджаныя. [9] багацце, дабро. [10] нязгодаю, супярэчнасцямі. [11] умоўны эпічны лік, што азначаў даўнасць. [12] Усяслаў Брачыславіч (пам. у 1101 г.), князь полацкі, праўнук Уладзіміра І Святаславіча і Рагнеды. Далей ідзе намёк на прыгоды Усяслава, які ўпарта ваяваў з унукамі Яраслава Мудрага, намёк на захоп Ноўгарада, на паражэнне, якое ён атрымаў на р. Нямізе ад Ізяслава і Усевалада Яраславічаў, на захоп кіеўскага прастола, на сустрэчу са сваімі праціўнікамі пад Белгарадам і на пабег да ўсходу сонца ў Полацк. [13] здабыча нявесты сімвалізуе тут здабычу горада, у дадзеным выпадку Кіева або Ноўгарада, якія Усяслаў захопліваў, але не здолеў там доўга пратрымацца.

Тъй клюками [1] подпръся о кони [2] и скочи к граду Кыеву и дотчеся стружием [3] злата стола киевскаго; скочи от них лютым звѣрем в плъночи из Бѣлаграда, обѣсися [4] синѣ мьглѣ; утръ же вознзи стрикусы [5], отвори врата Новуграду, разшибе славу Ярославу, скочи влъком до Немиги с Дудуток [6].

На Немизѣ снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоцѣ живот кладут, вѣют душу от тѣла. Немизѣ кровави брезѣ не бологом бяхуть посѣяни, посѣяни костьми руских сынов. Всеслав князь людем судяше, князем грады рядяше, а сам в ночь влъком рыскаше: из Кыева дорискаше до кур [7] Тмутороканя, великому Хръсови [8] влъком путь прерыскаше. Тому в Полотскѣ позвониша заутренюю рано у святыя Софеи в колоколы, а он в Кыевѣ звон слыша. Аще и вѣща душа в дръзѣ [9] тѣлѣ, нъ часто бѣды страдаше.

Тому вѣщей Боян и пръвое припѣвку, смысленый [10], рече: «Ни хытру, ни горазду [11], ни птицю горазду суда божиа не минути».

О, стонати Руской земли, помянувше пръвую годину и пръвых князей! Того стараго Владимира [12] нельзѣ бѣ пригвоздити к горам киевским: сего бо нынѣ сташа стязи Рюриковы, а друзии Давидовы [13];

Падпёршыся клюкамі, ён на кані паімчаўся да горада Кіева і даткнуўся дзідай да кіеўскага залатога пасада. Ад іх скочыў зверам дзікім. Апоўначы з Белгарада ахутаўся сіняй імглою, а на раніцу, узняўшыся, браму стракалам адчыніў Ноўгараду, разбіў Яраслаўлеву славу і скочыў ваўком да Нямігі з Дудутак.

На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх.

Усяслаў князь людзям суд судзіў, гарадамі князёў надзяляў, а сам поначы воўкам гуляў. З Кіева да пятухоў дасцігаў Тмутаракані; вялікаму Хорсу ваўком шлях перабягаў. Таму ў Полацку рана званы пазванілі к заўтрані ў Сафіі святой, а ён у Кіеве звон чуе. Хоць і вешчая душа ў дзёрзкім целе была, але часта бяды нацярпеўся.

Яму першаму вешчы Баян і прыпеўку зламыў дасціпную: «Ні хітраму, ні быстраму, ні шпаркаму птаху не мінуці божага суда».

О! Стагнаці Рускай зямлі, успомніўшы быўшу часіну і быўшых князёў!

Старога таго Уладзіміра немагчыма было прыкаваці да кіеўскіх гораў! Цяпер бо яго сцягі сталі — адны Рурыкавы,

---

[1] хітрасцю. [2] сеў на каня. [3] жазлом або скіпетрам, які з'яўляўся адзнакай вялікакняжацкай годнасці. [4] ахутаўся. [5] раніцай ударыў сякерамі. У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова»: «утръ же возни стрикусы». [6] мястэчка каля Ноўгарада. [7] да пеўняў. [8] богу сонца. [9] у храбрым. [10] мудры. [11] разумнаму. [12] князя Уладзіміра, які памёр у 1015 г. [13] зноў намёк на княжаскія раздоры.

нъ розно ся[1] им хоботы[2] пашут, копиа поют[3].

На Дунаи[4] Ярославнын глас ся[5] слышит; зегзицею[6] незнаема[7] рано кычеть[8]. «Полечю, — рече, — зегзицею по Дунаеви, омочю бебрян[9] рукав в Каялѣ рѣцѣ, утру князю кровавыя его раны на жестоцѣм[10] его тѣлѣ!»

Ярославна рано плачет в Путивлѣ на забралѣ, аркучи[11]: «О, вѣтрѣ, вѣтрило! Чему, господине, насильно вѣеши? Чему мычеши хиновьскыя стрѣлкы на своею нетрудною крылцю[12] на моея лады вои? Мало ли ти бяшет горѣ[13] под облакы вѣяти, лелѣючи корабли на синѣ морѣ? Чему, господине, мое веселие по ковылию развѣя?» Ярославна рано плачет Путивлю городу на забороле, аркучи: «О Днепре Славутицю![14] Ты пробил еси каменныя горы[15] сквозѣ землю Половецкую; ты лелѣял еси на себѣ Святославли насады[16] до плъку Кобякова[17]; възлелѣй, господине, мою ладу къ мнѣ, абых не слала к нему слез на море рано». Ярославна рано плачет в Путивлѣ на забралѣ, аркучи: «Свѣтлое и тресвѣтлое слънце! Всѣм тепло и красно еси! Чему, господине, простре горячюю свою лучю на ладѣ вои, в полѣ безводнѣ жаждею

а другія — Давыдавы, але хобаты іх паасобку калышуцца.

Пяюць дзіды на Дунаі. Яраслаўны голас чуецца. Беспрыпыннаю зязюляй ранымрана галосіць: «Паляту, кажа так, па Дунаю зязюляй, абмачу рукаво бабровае ў Каяле рацэ, абатру князю раны яго на магутным на целе яго».

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі на сцяне, наракаючы: «О вецер, вятрыска! Чаму ты насільна так вееш? Чаму імчыш ханскія стрэлы на лёганькім крыллі сваім ды на вояў мужа майго? Ці ж веяць мала табе ўгары пад аблокі, лялеючы ў моры сінім караблі? Чаму ты вясёласць маю па кавылі развеяў?»

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі горадзе на сцяне, наракаючы: «О Днепру Славуцічу! Горы каменныя ты перасек скрозь зямлі Палавецкае; чоўны лялееў ты на сабе Святаслаўлевы к войску Кабякаву. Прылялей жа й мужа майго да мяне, каб рана я слёз не ссылала на мора к яму!»

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі на сцяне, наракаючы: «О светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло і красу. Нашто ж нанясло ты свой промень гарачы на вояў тых мужа майго? Па полі бязвод-

---

[1] У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова» гэта месца чытаецца: «рози нося». [2] бунчукі. [3] У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі чытаецца: «копіа поют на Дунаи». [4] «На Дунаи» — звычайны эпічны зварот ужыты для азначэння месца, дзе адбываецца дзеянне. [5] У тэксце Мусіна-Пушкіна «ся» адсутнічае. [6] зязюляю. [7] У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова» «незнаемь». [8] кукуе. [9] бабровы. [10] магутным. [11] галосячы. [12] на лёгкіх крылах. [13] угоры. У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова»: «гор». [14] старая назва Дняпра. [15] гутарка ідзе пра дняпроўскія парогі. [16] судны, чаўны. [17] намёк на шчаслівы паход князя Святаслава супроць полаўцаў у 1184 г.

им лучи съпряже, тугою им тули затче?»[1]

Прысну[2] море полунощи; идут сморци[3] мьглами. Игореви князю бог путь кажет из земли Половецкой на землю Рускую к отню злату столу.

Погасоша вечеру зари. Игорь спит. Игорь бдит. Игорь мыслию поля мѣрит от великаго Дону до малаго Донца.

Комонь в полуночи Овлур[4] свисну за рѣкою; велит князю разумѣти. Князю Игорю не быть![5] Кликну; стукну земля, въшумѣ трава, вежи[6] ся половецкии подвизашася.

А Игорь князь поскочи горнастаем к тростию и бѣлым гоголем на воду. Въвръже ся на бръз комонь и скочи с него бусым[7] влъком, и потече к лугу Донца, и полетѣ соколом под мьглами, избивая гуси и лебеди завтроку, и обѣду, и ужинѣ.

Коли Игорь соколом полетѣ, тогда Влур влъком потече, труся собою студеную росу: претръгоста[8] бо своя бръзая комоня.

Донец рече: «Княже Игорю! Не мало ти величия, а Кончаку нелюбия, а Руской земли веселиа!»

Игорь рече: «О Донче! Не мало ти величия, лелѣявшу князя на влънах, стлавшу ему

ным ім смагаю лукі звяло, а ўтулы тугой ім заткала!»

Прыснула мора з поўначы, смерчы імглямі ідуць. Князю Ігару бог знача дарогу з зямлі Палавецкай на Рускую зямлю дзе бацькаў пасад яго жджэ.

Патухла вячэрняя зорка. Ігар спіць, Ігар вока не зводзіць. Ігар думкаю мерае поле ад Дона вялікага к малому Данцу.

Апоўначы свіснуў Аўлур за ракою каню, разумеці загадвае князю. А князя Ігара няма! Клікнуў — дрыгнула зямля, зашумела трава, палавецкія вежы ўспужаліся.

А князь Ігар к трыснягу гарнастаем панёсся і гогалем белым паймчаўся к вадзе. На быстрага рынуў каня, саскочыў з яго босым воўкам, к логу Данца пакаціўся й паляцеў сокалам пад імгламі, забіваючы гусі і лебедзі к снеданню, полудню й вячэры.

Як Ігар паляцеў сокалам, тады воўкам Аўлур пакаціўся, абіваючы росы сабою сцюдзёныя: падарвалі бо коней сваіх быстраногіх.

І кажа рака Данец: «Княжа Ігару! Не мала вялічча табе, Канчаку дакукі, а радасці Рускай зямлі!»

А князь Ігар кажа: «О Доньча! Не мала вялічча табе, што лялеяў ты князя на хвалях і

---

[1] у стэпе бязводным смагаю лукі ім спрэгла, тугою ім калчаны заткнула, г. зн. воіны ад смагі не могуць страляць. [2] усхвалявалася, забурліла. [3] смерчы. [4] палаўчанін, які садзейнічаў пабегу князя Ігара з палавецкага палону і сам уцякаў разам з ім. У летапісу гэты палаўчанін называецца Лаворам. [5] Няма князя Ігара! [6] шатры, палаткі. [7] сівым, шэрым. У тэксце Мусіна-Пушкіна і ў архіўнай копіі «Слова» стаіць: «босым». Я. Купала таму ў сваім перакладзе і ўжыў такі выраз: «босым воўкам» замест патрэбнага выразу: «шэрым воўкам». [8] надарваў, перагнаў каня быстраю яздою.

зелѣну траву на своих сребреных брезѣх, одѣвавшу его теплыми мьглами под сѣнию [1] зелѣну древу; стрежаше его гоголем на водѣ, чайцами на струях, чрьнядьми [2] на ветрѣх! [3] Не тако ли, рече, рѣка Стугна: худу струю имѣя, пожръши чужи ручьи и стругы [4], рострепа к усту [5], уношу князю Ростиславу [6] затвори Днѣпрь темнѣ березѣ. Плачется мати Ростиславля по уноши князи Ростиславѣ. Уныша цвѣты жалобою, и древо с тугою к земли прѣклонилося».

А не сорокы встрокоташа [7]: на слѣду Игоревѣ ѣздит Гзак с Кончаком. Тогда врани не граахуть [8], галици помлъкоша, сорокы не троскоташа, по лозию [9] ползаша только; дятлове тектом [10] путь к рѣцѣ кажут, соловии веселыми пѣсньми свѣт повѣдают.

Млъвит Гзак Кончакови: «Аже сокол [11] к гнѣзду летит, соколича [12] рострѣляевѣ своими злачеными стрѣлами».

Рече Кончак ко Гзѣ: «Аже сокол к гнѣзду летит а вѣ соколца опутаевѣ красною дѣвицею» [13].

И рече Гзак к Кончакови: «Аще его опутаевѣ красною дѣвицею, ни нама будет сокольца, ни нама красны дѣвице, то

зялёную траву яму падсцілаў на сваіх берагах срэбраных, адзяваючы цёплымі ймглами яго пад ценем зялёнага дзерава, і сцярог на вадзе яго гогалем, чайкамі на ручаях, чарнедзямі на ветрах. Не такая, кажа, рака Стугна. Маючы вузкі працёк, праглынуўшы чужыя ручаі й распасцёршы хвалі к утоку, князю Расціславу маладому берагам цемным Дняпро зачыніла. Плачацца маці Расціслаўля па сваім маладым князю Расціслаўлю. Кветкі жальбою занылі, а дрэва з тугою к зямлі накланілася».

Не сарокі так застракаталі: гэта едзе Ігаравым следам Гза з Канчаком. І тады груганы не закрумкалі, галкі замоўклі, сарокі не стракаталі, па лозах паўзлі толькі. А дзятлы тукатам к рэчцы шлях паказваюць, салавейкі вясёлымі песнямі раніцу згадваюць.

І гаворыць Гза Канчаку: «Калі сокал ляціць да гнязда, мы застрэлім саколіча стрэламі сваймі залатымі!»

А Канчак Гзе адказвае: «Калі сокал ляціць да гнязда, мы сакольца апутаем краснаю дзевай!»

А Гза кажа Канчаку: «Калі мы яго дзеваю краснай апутаем, мець не будзема мы ні саколіча, ані краснае дзевы, ды

---

[1] шатром. [2] чорная чубатая качка. [3] у выразе: «чайцами на струях, чрьнядьми на ветрѣх» Пацябня прапанаваў у свой час зрабіць перастаноўку: «чрьнядьми на струях, чайцами на ветрѣх», бо плавае па вадзе чэрнядзь — качка, а чайка, лятаючы над вадою, толькі датыкаецца крылом да паверхні вады. [4] прытокі. [5] пашыраная к вусцю. [6] Малады князь Расціслаў Усеваладавіч утапіўся ў 1093 г., калі ратаваўся ад палавецкай пагоні. [7] застракаталі. [8] не каркалі. [9] па галінках. [10] стукам. [11] менавіта, князь Ігар. [12] Уладзімір, сын князя Ігара. [13] Параўнай гэта месца «Слова» з Іпатаўскім летапісам, дзе паведамляецца: «Тогда же приде Володимѣрь ис Половѣць с Коньчаковною, и створи свадьбу Игорь сынови своему и вѣнча его и с дѣтятемь» (стар. 659).

почнут наю птици бити в полѣ Половецком».

Рек Боян и ходы на Святъславля пѣснатворца стараго времени Ярославля, Ольгова коганя хоти [1]: «Тяжко ти головы кромѣ плечю, зло ти тѣлу кромѣ головы», Руской земли без Игоря. Солнце свѣтится на небесѣ, Игорь князь в Руской земли. Дѣвици поют на Дунаи, вьются голоси чрез море до Киева. Игорь ѣдет по Боричеву [2] к святѣй богородици Пирогощей [3]. Страны ради, гради весели.

Пѣвше пѣснь старым князем, а потом молодым пѣти. Слава Игорю Святъславличю [4], буйтуру Всеволоду [5], Владимиру Игоревичу! Здрави князи и дружина, побарая за христьяны на поганыя плъки! Князем слава а [6] дружинѣ. Аминь.

пачнуць нас тады біці птахі ў полі Палавецкім!»

І сказаў Баян аб днях Святаслаўлевых, Баян-песнятворац далёкага часу, Яраслаўлева, Алегава: «Княжа! Хоць і цяжка табе, галаве, без плячэй, але трудна табе, целу, без галавы!»

Так і Рускай зямлі без Ігара. Сонца свеціцца на небе, Ігар князь — на Рускай зямлі. Пяюць дзевы на Дунаі, галасы плывуць праз мора і да Кіева. Ігар едзе па Барычаву да святое багародзіцы Пірагошчай. Рады староны, весялы гарады.

Спяяўшы песню старым князям, а пасля маладым пяяці: «Слава Ігару Святаслаўлічу, буй туру Усеваладу, Уладзіміру Ігаравічу! Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых! Слава князям і дружыне!» Амінь.

---

[1] Сапсаванае месца ў тэксце «Слова». Многія спробы растлумачыць яго не далі яшчэ станоўчага выніку. [2] па Барычаву тракту, бальшаку. [3] царква, заснаваная князем Мсціславам у 1131 г. і названа так па той прычыне, што ў ёй знаходзілася «пирогощая» (г. зн. баштавая) ікона багародзіцы, якую прывезлі з Канстанцінопаля. [4] У тэксце Мусіна-Пушкіна: «Святаславлича», а ў архіўнай копіі: «Святаславличь». [5] У тэксце Мусіна-Пушкіна: «Всеволодѣ», а ў архіўнай копіі: «Всеволоде». [6] і.

# ЖЫЦІЙНАЯ ЛІТАРАТУРА

Жанр жыція як жанр царкоўна-дыдактычнай літаратуры ўзнік у старажытныя часы і ўжо ў перыяд Кіеўскай Русі быў прадстаўлен вялікай колькасцю як перакладных, так і арыгінальных твораў, якія ўзніклі пад непасрэдным уплывам тагачаснай палітычнай рэчаіснасці. Жыццё было адным з папулярных жанраў старажытнай літаратуры. Гэтым і тлумачыцца наяўнасць вялікай колькасці дайшоўшых да нас твораў гэтага жанра.

Жыційная літаратура бурна развівалася і тады, калі Кіеўская Русь распалася на рад самастойных феадальных княстваў. Не выпадкова, што жыційная літаратура атрымала шырокае распаўсюджанне ва ўсіх княствах, якія раней уваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, у тым ліку і на тэрыторыі княстваў сучаснай Беларусі.

На тэрыторыі Беларусі XIV—XVII ст. ст. апрача перакладной і агульнарускай жыційнай літаратуры, атрыманай у спадчыну ад Кіеўскай Русі, узнікалі і бытавалі жыціі, напісаныя на мясцовым матэрыяле. Аб колькасці твораў жыційнай літаратуры, якія былі распаўсюджаны ў Беларусі таго часу, сведчаць дайшоўшыя да нас розныя зборнікі жыцій [1]. У гэтых зборніках большай часткай змешчаны жыціі, якія прадстаўляюць сабою толькі спісы старажытна-рускіх арыгіналаў з адметнымі рысамі беларусізмаў у арфаграфіі і лексіцы. Але сярод іх сустракаюцца і арыгінальныя жыціі і такія жыціі, якія так пераапрацаваны на беларускай глебе, што ўяўляюць сабою зусім новую, адметную ад арыгінала, беларускую рэдакцыю. Прыкладам такой творчай перапрацоўкі аднаго з найбольш папулярных у старажытнасці жыцій з'яўляецца жыціе **Аляксея, чалавека божага,** якое пададзена ў хрэстаматыі ў раздзеле перакладной літаратуры. З арыгінальных жыцій, якія ўзніклі на тэрыторыі Беларусі і прысвечаны апісанню жыцця і дзейнасці пэўных гістарычных асоб тагачаснай Беларусі, у гэтым раздзеле хрэстаматыі падаюцца жыціе **Ефрасінні Полацкай** і ўрыўкі з тэксту жыція **Аўраамія Смаленскага**.

## ЖЫЦІЕ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

**Жыціе Ефрасінні Полацкай,** як і рад іншых жыцій, было папулярным жыціем яшчэ ў перыяд Кіеўскай Русі. Захавалася яно да нашага часу ў некалькіх спісках. Самы старэйшы з вядомых нам спіскаў гэтага жыція адносіцца да XIV ст.

Жыціе Ефрасінні Полацкай — адно з нямногіх жыцій агульнарускага перыяду ў літаратуры, у якім падаецца вобраз жанчыны-падзвіжніцы. Толькі пазней, пачынаючы ўжо з XVI ст., складальнікі жыцій пачынаюць усё часцей

---

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, выд. 2, стар. 43—45.

і часцей уводзіць вобраз жанчыны ў гэты жанр літаратуры. Да гэтага ж часу гісторыі літаратуры вядомы толькі тры жыціі, якія прысвечаны жанчынам: жыціе Вольгі, княгіні кіеўскай, жыціе Ефрасінні Суздальскай і жыціе Ефрасінні Полацкай.

Ефрасіння Полацкая з'яўлялася адной з наследніц полацкай княжацкай дынастыі: яна даводзілася ўнучкай славутаму полацкаму князю Усяславу Брачыславічу, аб якім упамінаецца ў «Слове аб палку Ігаравым». Бацька яе, Святаслаў-Георгій, быў меншым з сямі сыноў Усяслава Брачыславіча. У юнацтве Ефрасіння, не жадаючы выходзіць замуж, пастрыглася ў манастыр і з дазволу полацкага епіскапа пасялілася ў келлі Сафійскага сабора, дзе вяла пустэльніцкі вобраз жыцця. Там яна займалася перапіскай богаслужбовых кніг. Пазней заснавала свой жаночы манастыр, у які пастрыглася яе меншая родная сястра Градыслава і дваюрадная сястра Звяніслава. Ефрасіння, будучы ігуменняю манастыра, пабудавала на ўласныя сродкі дзве каменныя царквы: царкву Спаса, у пабудове якой ёй дапамагаў сродкамі яе бацька, і царкву Богамацеры. Абедзве царквы былі багата аздоблены. Тут, у царкве Спаса, яна палажыла дарагі напрыстольны крыж, зроблены з золата, срэбра і інкруставаны жэмчугам, а для другой царквы выпісала з Усходу славутую Эфескую ікону божай мацеры. Пад канец свайго жыцця яна адправілася ў падарожжа ў Іерусалім, дзе і памерла 23 мая 1173 г. Там, у Іерусаліме, згодна з яе жаданнем, яна была пахавана ў манастыры прападобнага Феадосія. Пазней, калі ў 1187 г. Саладзін рыхтаваўся захапіць Іерусалім, яе мошчы былі перанесены ў Кіеўскія пячоры, а ў пачатку XX ст. іх перавезлі ў Полацк.

Час напісання жыція Ефрасінні Полацкай дакладна вызначыць немагчыма, але жывасць апавядання, шматлікасць біяграфічных рысаў і наяўнасць вялікай колькасці славянізмаў у мове старэйшага з дайшоўшых да нас спіскаў гэтага жыція даюць падставу меркаваць, што ў пісца гэтага спіска ў якасці першакрыніцы, з якой ён спісаў тэкст жыція, было жыціе больш старэйшае па часу свайго напісання. Гэта меркаванне падмацоўваецца і наяўнасцю ў старэйшым з вядомых нам спіскаў такіх незразумелых месц, якія можна растлумачыць толькі тым, што перапісчык жыція няўважліва капіраваў арыгінал, з якога рабіў свой спіс.

Змешчанае ў хрэстаматыі жыціе Ефрасінні Полацкай друкуецца ўпершыню па рукапіснаму спіску XIV ст. Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына (гл. Погодин, 869, Сборник, лл. 318об. — 332).

*Месяца майя в 23 день*

## ЖИТИЕ БЛАЖЕНЫЯ ЕУФРОСИНИИ, ИГУМЕНИИ ВСЕДРЪЖИТЕЛЯ СВЯТАГО СПАСА ВО ГРАДѢ В ПОЛОДСЦѢ.

Господи, благослови!

Благословен господь бог Израилев, бог Аврамов, бог Исаков, бог Ияковль. Нѣсть бог мертвых, но живых.

Праведнии бо по смерти живи суть, яко же Соломан [1] во притчах глаголеть: «Праведници в вѣки живуть; от господа мзда их и строение от вышняго. Сего ради приимут венець из рукы господня».

Яко же и бысть, еже напред идущее скажем, о сих же сице [2] скажем. Снидѣтеся сущии в пустынях и в горах, житие ангелское имуще, старии немощь отложивше, а юнии, яко елени скачюще! Снидитеся вси: хощу бо вам представити трапезу от брашен [3] сих, да, ядше, возвеселимся душами вашими! Се бо есть трапезѣ за

[1] мудры ізраільскі цар. [2] так. [3] мучная страва. Тут ужыта ў сэнсе «духоўная ежа».

нетлѣющих брашен, иж гортань наслажають и чрево насыщають, а си душа веселящися, а ум укрѣпляющи на подвигы добрых дѣл. Сиа бо ядиаще кто — насытится, не вжадает во вѣкы, яже реченно в писании: «Не заморить господь гладом душа праведных».

Мы же напред лѣжащее возвратимся. О нем же начахом повесть сию. Вы же послушайте блазии[1], или князи или бояри, церковници, вы, честнии собори святых, сущих в монастырѣх, и простии людие. Снидитеся на новое слышание! Послушайте прилѣжно! Отвръзше ушеса своя и умякчивши нивы сердец ваших, приймете мно(го) спасенаго житя и послушайте жены сея преподобныя святыя подвигы и труды и любовь яже к богу. Иже предпоидуще скажем, како родися, или от ких родитель, или како воспитася, или како возрасте, в кою ли мѣру потече[2] вослѣд жениха своего Христа, и о той инде[3] скажем, а о сих сице есть по ряду.

Бысть князь в Полотсцѣ градѣ именем Всеслав[4]. И тъй имѣяше сыны многы. И бѣаше у него сын именем Георгий[5]. От него же родися си блаженая отроковица. Родителя же ея возрадоваста ся о рожествѣ[6] ея со всѣм домом своим. По днѣх тѣх повелѣста ю[7] крестити. Крестиша ю во имя отца и сына и святого духа. И питома бѣаше доилицею[8] своею, день от дни растяше. Отроковица, тѣло млеком питаемо, растяше, а душа святого духа наполняшеся.

(С)лучи[9] же ся девици деснаго[10] естества плод милостивый и толми[11] бысть любящи учение. Вѣсти же разшедшися по всѣм градом о мудрости ея, и о блазем учении ея, и о телѣснѣй твари[12] ея, бяше бо лѣпа лицем. Красота же ея многыи славныи ея князь на любовь приведе ко отцу ея, яко же пояти[13] ю невѣсту за сын свои. И всѣм, часто присылающим ся за сын свои ко отцу ея, отець же отвѣщеваше к ним: «Воля господня да будеть!»

Един же, преодолѣваше славным своим княжением и богатеством, присла ко отцу ея и спроси дщерь его за сын свой.

И пришедши ей возраст, и бысть 12 лѣт. И видѣв отець ея нача глаголяти княгинѣ своей: «Нама[14] уже лѣпо дати за Предислава князя»[15]. Она же глагола ему тако: «Бог хощеть и твоя, княже, воля тако будеть».

Тогда слышавши Предислава — тако бо бяше ей наречено имя родителема своима преже святого крещениа — расмышляша же в себѣ, глаголющи: «Паче же реку от святого духа...» Наполнишись мысли ея и рече в себѣ: «Воли како се будеть, оже отець мой мыслить причтати мя мужеви[16], то аще[17] тако будеть, то печаль мира сего не гоньзнути[18] ни како же лзѣ»[19]. Пакы в себѣ рече: «Но что успѣша[20] при нас бывшии родове наши? И женишася, и посягоша[21], и княжиша, но не вѣчноваша. И житие их мимо тече.

---

[1] добрыя. [2] рушылася. [3] у іншым месцы. [4] полацкі князь да 1101 г. Аб ім гаворыцца ў «Слове аб палку Ігаравым», што ён «сам в ночь влъком рыскаше», дамагаўся Кіева і адкрываў вароты Ноўгарада. [5] яго сын з язычаскім імем Святаслаў. [6] нараджэнню. [7] яе. [8] карміцелька. [9] у рукапісе слова «лучи» — «здарылася». [10] правага, справядлівага. [11] так. [12] краса. [13] узяць. [14] нам. [15] лепш нам аддаць Прадыславу замуж за князя. [16] аддаць замуж. [17] калі. [18] пазбавіцца. [19] магчыма. [20] дасягнулі. [21] выходзіць замуж.

Слава их погыбе, яко прах, и хужьши паучины. А иже прежнии жены, веземше мужескую крѣпость и поидоша вослѣд жениха своего Христа, предаша телѣса своя на раны и главы своя мечеви. А другыя паче желѣзу выя [1] своя не преклониша, но духовным мечем отсѣкоша от себѣ плотскиа сласти, и предаша телѣса своя на пост и на бдѣние [2], и колѣнное поклоняние, и на земли легание; то ти [3] суть памятни на земли. А имена их написана суть на небѣсех и тако со ангелы безпрестани славять бога. А си [4] слава есть прах и пепел, яко дым разыйдется, яко пара водная погыбает».

И тако ей помышляющи в сердцы своем, а ум ея болѣ на божию любовь подвизашеся [5]. И единою положись на сердци ея таково помышление, рече бо в себѣ: «Не се ли бы лучеши [6] всего житиа сего было, да бых ся постригла в черници [7]? И была бых подигуменьею [8], повинующися сестрам и учащися, како страх божий утвердити во сердцы своем, и како течение скончяти» [9]. И се на умѣ положивши, иде в монастырь, утаившися отца и матери и всѣх домашних.

В та же лѣта бяша кня(г)ини Романова [10] черница. И прииде к той, просящи ангельскаго образа приати и причтати [11] ся ту сущим черноризицам и быти под игом Христовым. Видѣвши же она, блаженая, уность [12] ея и возраст цвѣтущи от нея, и не хотящи острищи ея, и смятеся [13], и нача тѣлом утѣрпати [14], и сердцем ужасатись, и лицѣ на землю преклонивше на долг час ничющи [15]. Восклонившися и възрѣвши на уность ея, и воздохнувши, и прослезившися, глагола к ней: «Чадо мое! Како могу се сотворити? Отець твой, увѣдав, со всяцѣм гнѣвом возложить вред на голову мою. А еще юна еси возрастом. Не можеши понести тяготы мнишескаго [16] житиа. И како можеши оставити княжение и славу мира сего?»

Отвѣщавши же блаженая отроковица и рече ей: «Боже и мати [17]! Вся видимая мира сего и красная суть и славна, но воскорѣ минует, яко сон, яко цвѣт увѣдает. Вѣчная же и невидимая во вѣкы пребываають, яко же писание глаголеть: «Ни око видѣ, ни ухо слыша, ни на сердце человѣку не взыдѣ, яже бог уготова любящим его». Или отца моего ради нехощеши мя острищи? Не бойся, госпоже моя, того. Но бойся господа, владеющего всею тварию, и не отлучи мене ангельскаго образа!»

Она же, блаженая княгини, удивившися разуму отроковица и любви яже к богу, повелѣ волѣ ея быти. И огласив ю ерѣи [18]. И остриже ю. И нарече имя ей Ефросиния. И облече ю в черныя ризы [19]. И благослови ю игумениа благословением святых отець. И рече ей: «Буди, чадо, послѣдствующи [20] преже тебѣ бывших жен,

---

[1] шыя. [2] бяссонныя ночы. [3] тыя. [4] гэта. [5] схіляўся. [6] лепей. [7] манашка. [8] намесніца ігуменні. [9] закончыць жыццё. [10] жонка яе дзядзькі Рамана Усяславіча, памёршага ў 1116 г., была ў той час ігуменняю манастыра. [11] залічыць. [12] юнацтва. [13] разгубілася. [14] слабець, пакутаваць. [15] схіляць твар да падлогі. [16] манашскага. [17] па другому спіску жыція гэта месца чытаецца: «Госпоже и мати». [18] манастырскаму папу. [19] адзенне. [20] паслядоўніцай, дастойнай прыкладу.

рекше[1] Февронии[2] и Еупраксии[3] и иных множество, яже Христа ради пострадаша! Господь бог даст ти[4] силу и побѣду на супротивника[5] нашего дьявола». И то рекши, отпусти ю в келию свою.

И увѣдав отець еа, скоро шед в монастырь. Жалостно терзаше власы главы своея и любѣзнѣ целоваше ю, глаголя: «Горѣ мнѣ, чадо мое! По что се сотворила еси, печаль души моей принесе? По что ми[6] преже сего мысли своея не явила еси? Лютѣ мнѣ, чадо мое сладкое, жалости сердца моего! О горѣ мнѣ, чадо мое милое! Како гоньзнеть доброта твоя вражие пронырьство? Уже достоит ми плакатися острупленою душею ко господу богу моему, да внидеши в черътог царства его!»

Жалость же бысть всѣм в дому его о ней. Преподобная же Еуфросинья сего всего не брежаше[7] жалости отца своего. Но, яко добрый Храбор, вооружившися на супротивника своего, диавола, пребываше в монастыри, и повинующись игумении и сестрам всѣм, и вся преспѣвающи постом, молитвами и бдѣнием нощным. И оттолѣ начат подвижнѣйши быти, собирающи благыя мысли в сердци своем, яко пчела сот.

Иже пребывши нѣколико врѣмя в монастыри, и потом испроси тогда сущаго епископа, нарѣцаемаго Ильи, правящаго[8] стол святыя Софѣи в Полотстѣ, дабы ей повѣлел ту пребыти — во церкви святыя Софии и каменныя, в голубници. И повелѣ ей да пребывает. И ту, въшедши, нача подвижнѣйши подвиг постническы восприимати. И нача книгы писати своими руками. И наем емлюще требующим даяше.

Пребывающи ту нѣколико врѣмя, во ину убо нощь возлещи хотящи отпочити от многаго стояниа яже к богу в молитвах, и видѣ видѣние. Поим[9] ю ангел и ведѣ ю, идѣ же бѣ церкви святого Спаса мѣтохиа[10] святѣй Софѣи, яже зовется Селцѣ от людий. И ту показа ей ангел господень, и глаголя Еуфросинии: «Ту ти подобает быти!» Она же убо удившися. И дивляшеся в себѣ глаголющи: «Что се хощет ми быти!» Тои ж нощи видѣ дважды и трижды. Возбудившися от ѕна, и страхом славословящи бога и глаголющи: «Слава тебѣ, боже нашь! Слава тебѣ, сподобивый[11] мя во днешний день видѣти ангельское лицѣ святое!» И потом нача псалом глаголяти: «Готово сердце мое, боже! Готово сердце мое! И пакы к тебѣ привергохся[12] от утробы матери моея, бог мой еси ты! Яко восхотѣ, тако и сотвори на мнѣ, рабѣ твоей».

И кончявши еи утреняя[13], явися епископу Ильи. Той же ангел, глаголя: «Введи рабу божию Еуфросинию в церковь святому Спасу, на рекомое Селцѣ! Мѣсто бо то святое есть. Яко достойна есть царствию небесному, и, яко миро добровонно, молитва ея восходит

---

[1] менавіта. [2] Фяўронля, жонка мурамскага князя Пятра, выдзялялася, паводле аповесці, сваёю мудрасцю і набожнасцю. [3] Яўпраксія — жонка разанскага князя Фёдара Юр'евіча, забітага Батыем у 1236 г. [4] табе. [5] ворага. [6] мне. [7] не звярнула ўвагі. [8] назначанага кіраваць. [9] узяў. [10] месца, на якім знаходзілася раней царква. [11] удастоіў. [12] прыхілілася. [13] Давальны самастойны: «калі яна закончыла ранішнюю малітву».

к богу. Яко венець на главѣ церквѣ, тако почивает дух святый на ней. Яко солнце сиает по всей земли, тако и житие ея сиает пред ангелы божиими».

И въстав епископ въскорѣ страхом и трепетом обдержим. Иприиде же к ней. Еуфросиниа же, видѣвши епископа, и поклонися ему, глаголящи: «Благослови, владыко святы!» Он же глагола: «Бог да благословит тя, чадо, и дасть ти тръпѣние и силу на всѣх вразѣх, видѣмых и невидѣмых». Она же, поклонившися, рече: «Аминь. Буди мнѣ по глаголу, владыко, твоему святый».

Сѣдоста отвръзже блаженый архиепископ уста своя, нача бѣсѣдовати к ней о спасении души. Блаженая ж Еуфросиниа приимаше словеса его, яко сѣмена в житницу душа своея, ово 30, ово 60, ово 100. Много же бѣсѣдоваста с нею, и се прочее рече еи души: «Хощу ти прорещи слово, ты ж с любовию приимай!»

Она же рече рада: «Отче преподобный, прииму слово твое, яко дар многоцѣнный!» Глаголет ей епископ: «Вѣдаеши, чадо, се церковь есть соборная, идѣ же сѣдиши? Ту вси человеци собираются. А тебѣ, чадо, не лѣпо было зде пребывати! То се есть церковца святого Спаса в Сельце, идѣ же братиа наша лежать, преже нас бывшая епископи. Негли [1] бог посѣтить молитвами их и твоим трудом возградить мѣсто велико!»

Еуфросиниа же, слышавши то от епископа, яко тако ей изглаголал, и возрадовася душею и возвеселися сердцем. И явлению ангелову вѣру приимши, еже видѣ и слыша от него, и глагола епископу: «Бог да ми поспѣшит, отче, молитвами твоими святыми!»

Призва же епископ князя Бориса [2], стрыя [3] ея, и отца ея Георгиа, и преподобную Ефросинию, и силныя честныя мужа и постави. А сам на себя послухи [4] рече: «Се отдаю мѣсто святого Спаса Еуфросинии при вас. Да по моем животѣ никто же да не посудить [5] моего даниа». И се слышавше князя оба и боярѣ от епископа и поклониста ся ему, глаголюще тако: «Ей! Владыко святый! Се ти есть бог положил на сердци твоем, иже еси сицѣ смыслил отроковицѣ сей и попечение о ней». Еуфросинии же рекоша: «А ты иди послушай епископа! Еже ти велить, тако сотвори. Той есть отец всѣм нам. Нам подобает того послушати». Еуфросиниа, яже слышавши и возрѣвши на ня осклабленым [6] лицѣм, рече им рада: «Иду. Яко бог повелит ми, тако и будеть. Воля господня да будеть о мнѣ!»

Князи же и бояри, слышавши от преподобныя Еуфросинии глагол сы, возрадовашася. Приимши благословение от епископа, и поклонившеся преподобной Еуфросинии, и цѣловавше ю любезным цѣлованием, и ехаша в домы своя.

Еуфросиниа же, поклонившися святѣй Софѣи и благословившися от епископа, и той нощи воставши и поимше с собою едину черницу, и прииде на мѣсто, зовемое Сельце, иже есть церковца святаго

---

[1] няхай. [2] Барыс Усяславіч — полацкі князь з 1119 да 1128 гг. [3] дзядзьку. [4] падпарадкаванне. [5] не адменіць. [6] лагодным.

Спаса. И влѣзши ей в церковь, и поклонившися, и возгласи сице: «Ты, господи, заповѣда своим апостолом, рек: «Не носите с собою ничто же, токмо жезл един!» Аз [1] же твоему словеси послѣдствующи изыдох на мѣсто се ничто же имущи носящи, но точию [2] твое слово в себѣ имущи, еже рѣщи,— господи, помилуй! И еще же за все имѣние имѣю книги сея. Ими же утѣшает ми ся душа и сердце веселится. Лише [3] же сих триех хлѣбов, не имѣю ничто же, но токмо тебѣ, помощника и заступника и кормителя. Ты бо еси: отець убогым, нагим одѣяние, обидѣмым помощник, ненадѣющимся надѣяние. И буди имя твое благословено на рабѣ твоей Ефросинии отнынѣ и до вѣка! Аминь».

И так рѣкши, нача подвижнѣйши быти на молитву яже к богу. И ту ей пребывающи неколико врѣмя. Тогда посла ко отцу своему, глаголющи: «Пусти ко мнѣ сестру Городиславу, и — тако бо ю бѣста нарѣкла родителя — да научится грамотѣ». Он же посла к ней. Еуфросиния же со прилѣжанием учаше о спасении души, а она с прилѣжанием учашесь и приимаше, яко нива плодовита, умякчивши сердце свое. И глаголаше: «Господь бог устроит ми на спасение души моей, и твоими, госпоже, святыми молитвами!» И се ей рѣкши, преподобная же Еуфросиниа, введши ю в церковцю, и повелѣ ю ерѣеви, огласивши, облещи в черныя ризы, и нарече имя ей Еудоксѣя.

И по малѣх днех присла отець к ней: «И уже сестру свою Городиславу пусти ко мнѣ». Она же рече: «Еще не извыче [4] всей грамотѣ». И увѣда же отець ея, яко, утаившися его, остриже ю. И узьярився на преподобную Ефросинию, сердцем горя. И приеха к монастырю, глаголя: «Чадо мое милое, что се сотворила еси? Приложи сѣтование к сѣтованию души моей, и печаль к печали». Се ему глаголющю от горѣсти сердца своего, рѣками слезы точащу часто изливая от очию своею. Любезно държа Евдокѣю рече: «Чадо мое, на се ли вас я родих? Или на се ли вас я милостиво спитала? [5] Ужели вам брак уготовах уже чертогы [6] брачныя, порта [7] ваю [8] на сѣтованию положих себѣ? Чадо мое милое! Что ми воздастѣ в радости мѣсто горкиа печали, наполниста сердце мое?»

И вси бояре его, слышавше жалость князя своего, и плакахуся горко о напрасней печали князя их.

Блаженая же Ефросиниа отвѣщаваше отцу своему: «Что ради печалуешися нама? Имаевѣ бо печалника и помощника единого бога».

Отець же ея малу утѣху приим от преподобныя Еуфросинии и ѣха в дом свой. Еудокѣя же пребываше в монастыри, повинующися сестрѣ своей. Блаженая же Ефросиниа трудом [9] многым молящись к богу о мѣстѣ том, дабы бог устроил ей сенѣ [10].

Колико врѣмя бѣяше, княжна Борисовна, именем Звенислава, пришедши единою от дни и принесе всю свою утварь златую и порты

---

[1] я. [2] толькі. [3] апрача. [4] не вывучыла. [5] узгадаваў. [6] палацы. [7] дарагія ўбранні. [8] вашы. [9] стараннем. [10] прытулак.

многоцѣнныя в монастырь ко Еуфросинии и рече: «О госпоже и сестро! Вся красная мира сего ни во что ж ми ся мнит. Се дасть святому Спасу, а сама хощу поклонити главу под иго Христово».

Она же прият ю с радостию и повелѣ ерѣеви острищи ю и нарече имя ей Еупраксия [1]. И тако начаста пребывати в монастырѣ во едину мысль, яже к богу в молитвах. И тако бяше видѣти, яко едина душа во двою телѣсу. И потом блаженая Ефросиниа заложи церковь камену святого Спаса [2]. От начатка и [3] устроена за 30 недель.

Не хощу вам, братие, чад сказати. Бѣ муж Иоан, приставник над дѣлатели церковными. К нему же многажды прихожаше, глагола: «Свитающи дни [4], — глаголя, — Иоане, востани поиди на дело вседръжителю Спасу!» И во един от дний востав, Иоан прииде ко блаженой Ефросинии и рече: «Ты ли, госпоже, присылаеши и понужаеши мя на дѣло?» Она же рече: «Ни». И пакы размысливши премудрая жена и рече ему: «Аще не аз тя возбужаю, а кто тя взывает на таково дѣло, того послуша, и прилѣжно со тщанием».

Пакы другое чадо скажю вам, добри послушници. Уже сконча́ннѣ бывшим плитом. Нѣчем бяше вѣрха окончати. И поискавше не обрѣтоша ничто же. Печалующесь о том вздыхающе, и рече: «Слава тебѣ, владыко человеколюбче! Дарова нам болшая, дай нам и меншая, им же свершается церковь твоя!» И так ей помолившися, заутра же построению божию, обрѣтоша плиты в пещи. И в том дни совершися церковь. И крест поставиша. Преподобная же Еуфросиния, видѣвши церковь совръшеную, возрадавася душею. И бысть священие и велиа [5] радость всѣм крестьяном. И собрашась князи и силнии мужи [6], черноризици и черноризци, и простие людие. И бысть радость велиа. И празноваша дни мнози. И разидошась кождо во свояси.

Видѣвши же, яко исполни бог желание сердца ея, и вшедши в церковь, паде на земли ниць. И воздохнувши от сердца и от глубины душа и лице свое омочивши слезами, нача глаголати: «Ты, господи сердцевидче, благодетелю, боже, благы и милостивый! Господи, зри на храм свой, яже создах во имя твое! Яко же Соломон рече: «Вышний нерукотворенах церквах живет». Ты, господи, призри на мя, недостойную рабу твою Ефросинию, и на рабы твоя сиа, яже собрах во имя твое! Да приимеши иго твое легкое на выя своя и пуйдуть во слѣд тебѣ! И сотвори аз овца двора твоего! Буди им пастырь и дверник! Да ни един от них не будеть восхищен [7] волком губителя дьявола! Буди им, господи, оружие и забрало [8]. Да не приидеть нань злой, ни рана не преступить к телесама нашима! Не погуби нас з безаконий нашими, на тя бо упование положих, яко ты еси бог, знающим тя, и тебѣ хвалу всылаю до последняго моего издыханиа во вѣкы. Аминь».

---

[1] Гэта імя даецца па рукапісу XVII ст. У рукапісу XIV ст. яно чытаецца: «Еудоксѣя». [2] Царква пабудавана каля 1160 г. На пабудову гэтай царквы ахвяравау сродкі і бацька Ефрасінні Полацкай, у сувязі з гэтым і царква гэта пазней стала называцца Спас-Юр'еўскай. [3] яго. [4] наступнымі днямі. [5] вялікая. [6] баяры. [7] выкрадзен. [8] абарона.

Сестрѣ же учаще сицѣ, глаголющи: «Се собрах вы, яко кокошь [1] птенца, под крылѣ свои и в паствину свою, яко овца. Да пасетеся в заповедѣх божиих! Да и аз веселым сердцем подвизаюся учити вас, видящи плоды ваша трудныя и толико дождь проливаю к вам, а нивы ваша во едину мѣру стоят нерастуще, ни поступающѣ горѣ. А год приспѣвает свѣршению, и лопата на гумнѣ лежить. Но боюся, егда будеть плен [2] в вас. И предани будете огню негасимому. Подщитеся, чада моя, убѣжати того всего! Но сотворите ся пшеница и смелитесь в жерновах смирением, молитвами и постом, да хлѣб чист принесете ся на трапезу Христову».

Сице же ей учащи всегда, беспрестани, яко чадолюбивая дѣтем своим, любовь показующи.

Мы ж, братие, напред лѣжащее возвратимся. Выдѣвши же преподобная Еуфросиниа монастырь свой украшен, всего блага исполнен, и умысли создати вторую церковь каменую же святѣй богородици [3]. И тую совершивши, иконома украсив и освятивши, дасть ю мнихом. И бысть монастырь велик.

И видѣвши устроена два монастыря превелика зѣло и преборгата, и рече в себѣ: «Слава тобѣ, боже! Слава тобѣ, владыко! Благодарю тя, вышний! Что есми восхотѣла, то ми еси дал. Скончал еси желание сердца моего, господи». И рече: «Помилуй мя, господи, даруй прошение мое да конца: да бых видѣла пречистую богородицу Одигитрие в сей церкви!»

И посла слугу своего Михаила в Царьград ко царю, нарицаемому Мануилу [4], и к патриарху Луцѣ [5] с дары многоцѣнными, просящи от него святѣй богородици, еже бѣ евангелист Лука написал 3 иконы еще при животѣ святѣй богородици и постави: едину во Иерусалимѣ, другую во Цариграде, а третюю во Ефесѣ. Она же со тщанием прошаше Ефѣскиа святѣй богородици. Видѣвши же царь любов яе посла ефесеном 100 оружник своих и принесе святую богородицу в Царьград. Патриарх Лука собра епископы и соборы вся во святую Софию и благослови ю, и дасть ю слузѣ преподобныя Еуфросинии. Ю же с радостию приат и принесе госпоже своей Еуфросинии. Она ж, внесше в церковь святѣй богородици и постави ю [6]. И воздевши руцѣ, и рече: «Слава ти, господи! Слава тебѣ, еще реку! Слава тобѣ, владыко, сподобивый мя видѣти во днешний день образ пречистыя матери твоея!» И се рекши, украси ю златом и камением многоцѣнным. И устави вся во вторник носити по святым церквам.

И украсивши всю землю Полодцую (с)воим монастырем, и ви-

---

[1] кваКтуха. [2] пустазелле. [3] Гэта царква была пабудавана там, дзе цяпер знаходзіцца лацінскі могільнік. З 1581 г. царква разам з праваслаўнымі манастырамі была перададзена польскім каралём Стафанам Баторыем полацкім езуітам. [4] Мануіл Комнін — візантыйскі імператар з 1143 да 1180 гг., быў унукам імператара Аляксея Комніна (1081—1118), які быў жанаты з цёткай Ефрасінні Полацкай. [5] Лука Хрысаверг. [6] Гэта ікона пазней, у 1239 г. была перанесена дачкою полацкага князя Брачыслава ў Тарапецкую саборную царкву, у якой княгіня вянчалася з Аляксандрам Неўскім.

дѣвши яко просвѣти бог монастырь ея, вожделѣвши, рече: «Дабы ми доити град Иерусалима, поклонитися гробу твоему, господи, и всѣм святым мѣстом и цѣловати и тамо живот свой скончати! Видѣвши же стадо божественых овец совокупленых множество и радовашеся им, яко своему спасению».

На всяк же день учаше сестры своа: старыя же учаше тръпѣнию и воздръжанию, юныя же учаше чистотѣ душевней и бестрастию телесному, говѣнию образному, ступанию кротку, гласу смирену, слову благочестну, ядению и питию безмолвну, при старѣйших молчати, мудрѣйших послушати, ко старѣйшим покорѣнием, к точным [1] и меншим любовь без лицѣмериа, мало вѣщати, а много разумѣти.

Дан бяше таков дар Еуфросинии от бога: аще кто ея вопрошаше о которой вѣщи, она же ему разрѣшаше чему есть быти. А кто ея послушаше, тот добро послушаше; ни хотяше бо видѣти никого же которающася [2]: ни князя со князем, ни бояри с боярином, ни служанина служанином, — но всѣх хотяше имѣти, яко едину душю.

И посла по всей братии своей, повѣдающи им мысль свою, оже восхотѣ итить во Иерусалим. Они ж, слышавше вѣсть сию, с жалостию многою сьѣхашась от всюду ко блаженой Еуфросинии, и моляхуть ея со слезами, дабы их не оставила сиры [3]. Она же их утѣшаше благым своим смыслом, яко мати дѣти своя любяще.

И любим ей брат, нарѣцаемый Вечеслав, и приѣха к сестрѣ своей Ефросинии со княгинею и з детьми своими, пришед поклонись ей и рече: «Госпоже моя! Мати и сестро! Что оставляеши мя, правителю души моей, свѣте очию моею!?» Горко ему плачющуся, блаженая же Ефросиниа повелѣ ему итить идѣ же обитал, дѣти же его повелѣ оставити сестре своей Евдокѣи.

Дан бысть дар блаженой Ефросинии от бога: аще кого узрит очима своима, то разумѣваше в коем человецѣ сосуд избран хощеть быти богови.

Тогда же блаженая Ефросиниа, видѣвши братанѣ [4] свои, и рече има: «Хощу ваю [5] обручити жениху бесмертному и вовѣсти ваю в черътог царства небеснаго». Онѣма же послушающима усладися душа ею, паче сота медвена, словесем преблаженая Ефросини. И падосте на ногу ея, и глаголаста к ней: «Воля господня да будет, и твоя, госпоже, святая молитва! Да яко хощеши и створи нама, госпоже!» Преподобная же Ефросиниа с радостию и с поспѣшением призва брата своего и рече ему: «Аз хощу пострищи Кираанну и Ольгу». Тако бѣста нарѣкла родителя. Смятежеся отець ею о словеси сем и рече: «Госпоже моя! Что ми хощеши сотворити? Два плача прилагаеши души моей: плача ся отхода твоего и сѣтуя чаду дѣля своею». Мати же ея жалостию терзашеся.

Блаженая же Ефросиниа, пославши, призва епископа, тогда стол правящаго святѣй Софии, нарицаемаго Деонисиа. И введше

---

[1] к роўным. [2] у стане варожасці. [3] сіратамі. [4] пляменніц. [5] вас.

в церковь и нарече Кирѣаннѣ — Агафия, а Ольгу — Еуфимя. И благослови ю благословением святых отець. Сама же блаженая Ефросиниа, положивши великий наряд свой обѣма манастырема со братиею и с сестрами, и дасть дръжати и урядити сестрѣ своей Евдокѣи оба манастыря.

Сама же блажена, поклонившися у святого Спаса и у святыя богородица, и рече: «Ты, господи-сердцевидче! Се оставляю дом твой и не затворен никому же. И ты, господи, не затвори от нас твоего царствиа!»

И тако поиде во Иерусалим, поимше с собою брата своего Давыда [1] и сестру свою Евпраксѣю. Вся же братиа ея плакахуся горко отхода ради госпожа своея. И вси гражане выидоша проводити ю. Старии же плакахуся, яко дщери, рекуще: «Увы нам, вожю старости нашея, просвѣщение души нашей!» Юнии же глаголяху: «Камо заходиши свѣте очию нашею? Кто нашю юность восхластить воздержание юности нашея? Не оставляй нас сирых! Но в молитвах своих не забывай нас яже к богу!» Она же, поцѣловавши всѣх и благослави, и возрѣвши на небо, и рече: «Ты, господи-сердцевидче, ходивый со Аврамом, иди с нами, с рабы твоими, со Ефросиниею и со Давыдом и со Евпраксѣею!» И тако поидоша вси сущии с нею.

О дивное чюдо! Не бывавши нигдѣ же: ни в коей странѣ, ни во граде, ни в селѣ, нынѣ же, вземши мужескую крѣпость и премину вся грады и власти, приимающи от всѣх князей честь велику! И тако прешедши вся страны. И стрете ю царь, идый на угры [2]. И с великою честью посла ю в Царьград.

Она же, пришедши, поклонися святым церквам, и ту сущей великой церкви святой Софии, поклонившися и благословившися от патриарха. И купи различныя фимяны и кацию [3] злату. И поклонившися церкви, иде во Иерусалим.

И посла слугу своего Михаила тогда сущему патриарху, глаголящи: «Владыко святый! Сотвори милость на мнѣ! Повели, да отвръзутся врата Христова!» Он же по вопрошению ея быти и отворити повелѣ. И пришедши ко вратом, паде на землю, глаголющи: «Господи, Исусе Христе! Не вмени сего во грѣх, занеже [4] изволих по стопам твоим ходити!»

И внидох во святый град. И иде ко гробу господню. И пришедши поклонися и цѣлова гроб господень. И сущии с нею цѣловаша. И покадивши гроб господень златою кацѣею и многоразличными фимианы, и изыде. Обитá во святѣй богородици в руском монастыри. Во утрие день [5] иде второе ко гробу господню. Тако ж сотвори, поклонившись и цѣловавши и покадивши, изыде. И во 3 день то ж сотвори, давши злата много, и поставивши кацѣю

---

[1] Давыд, які суправаджаў Ефрасінню ў Іерусалім, даводзіўся ёй не братам, а дзядзькам. З Усходам ён ужо быў добра знаёмы: з 1130 да 1140 гг. ён знаходзіўся там у ссылцы сумесна з Расціславам і Святаславам, бацькам Ефрасінні. Туды іх саслаў вялікі князь кіеўскі Мсціслаў за іх адмову выступіць супроць полаўцаў. [2] венгры. [3] лампаду, кадзіла. [4] таму што. [5] на другі дзень.

злату на гробѣ и много различныя фимианы. И ставши у гроба господня, и воздѣвши руцѣ на небо, и воздохнувши из глубины сердца, глаголящи: «Господи, Исусе Христе, сыне божий и рожейся от присно девы Мариа! Спасениа ради нашего рекл еси: «просите и приимете». Аз грѣшная его просих и получих от тебѣ, владыко. Се же еще прошю от тебѣ, владыко, господи, милостиве: да скончаю мѣсто прошениа моего, приими дух мой от мене во святом градѣ твоем Иерусалимѣ, и пресели мя в вышний град твой во Иерусалим, и покой мя на лонѣ Авраама патриарха со всѣми угожешими! Аминь». И сице ей глаголавши, изыде во иже реченную церковь святыя богородица, игдѣ бѣ обитала.

Ту же посѣщением божиим в недуг впаде: нача болѣти. И лежащи на ложи своем глаголаще: «Слава тобѣ, владыко! Яко восхотѣ и сотвори на мнѣ, рабѣ твоей!» Тоя же ради болѣзни не может ити на Иордан, иде брат ея Давыд и сестра ея Евпраксѣя и сущии с нею. Она же лежащи на ложи, хвалящи бога глаголющи: «Господи, призри на рабу твою, Еуфросинию, и помилуй мя!» И приидоша бывшии на Иорданѣ, и принесоша воды от Иордана. Она же с радостию, воставши и пивши, и облиася по всему тѣлу своему, возлеже на ложи и рече: «Благословен господь бог, просвѣщая всякаго человѣка, грядущаго в мир! Тебѣ молю, человеколюбивому богу, ревнующи Петрову покаянию, во отверьжении отчая в себѣ плакась горко. Господи, прими того покаяние! Приими мене, недостойную рабу твою, Ефросинию, молящуся на супротивника моего дьявола! Да не возглаголет ми ничто же на страшнѣм судѣ твоем пред тобою, господи, злый раб, воступих ногама своима на змиеву его голову! И супротивихся окаяннѣи, его дерзости, надѣющись на твое человеколюбие, господи!»

И услыша бог молитву ея. И посла ангела своего. И глагола к ней: «О, блажена ты в женах, и благославен труд твой! И се уже отврьзоша ти двери породныя. И вси ангели собрашась дрьжаще свѣща, чающѣ твоего срѣтениа; а дар, его же просиши у бога, дасть ти ся». И се рек ангел к ней, отиде от нея.

Блаженая Ефросиниа возрадовась душею и скоро посла в лавру, глаголющи: «Се уже приспѣ ми время; да уже мя бог покоить. Приимите мя, да бых легла во церкви святаго Савы!»

Они же отвѣщаша к ней ту сущии черньци: «Имѣем запрещение от святого Савы, оже жены не приимати никоея же. На се ти есть монастырь Святая богородица общий. В нем же лежать о жены святыя милости святого Савы, милости святого Феодосиа, милости святых безмездника Козмы и Дамяна, именем Феодотиа и инии мнозии святии. Ту и тебѣ подобает лещи».

Приѣхав посол ея и возвѣсти преподобной Еуфросинии. Она же всѣм тѣм похвали бога и, пославши, купи себѣ гроб в комарѣ святыя богородица, и лежа дней 24. И познась при скончании и рече: «Призовите ми прозвитера, да ми дасть причащение. Уже бо звата и близ предстоить. Ждый повелениа владычня». И приде прозвитер, нося причастие. Она же, воставши и поклонися трижды и при-

лѣт, богу служечы и книги пишучы на цэрков. А потом забралася до Рыма и в Рыме, мешкаючы, богу служыла пилне. И мешкала колко год и осветилася, которую называют санкта Прекседыс, а по рускии Паросковѣя, которой же в Рыме и костел збудован на имя ее святое, там жэ ее и положыли. А брат ее, князь Глѣб Полоцкий, у молодых лѣтех своих, кнежывшы у Полоцку немного лѣт, и вмер. И положон ест у Полоцку у святое Софѣи со отцэм своим у в одном гробе. А полочане почали потому справоватися, як у Великом Новгороде и в Пъскове, а пана над собою не мѣли.

Скирмонту ж княжечы на Новегородцы. И князь Мъстислав луцкий и пинский почнет вальку[1] с князем Скирмонтом, хотечы его выгнати з отъчызны своее: з Берестя, а з Мельника, и з Городна, и з Новагородка. И Скирмонт пошлет послов своих до великого князя литовского, што вышол с Китавруса до Жывинбута, просечы его, абы помоч дал ему напротивко Руси. И князь великий литовский Жывинбут пошлеть ему на помоч сына своего старшого, Куковоитя, со всими силами своими литовскими и жомоитскими. И поидет князь великий Скирмонт с Куковотем и со всими силами на противку Мъстислава, князя луцкого и пинского. И на сей стороне реки Ясельды поразит князь Скирмонт князя луцкого и пинского на голову и всю раду рускую, толко князь Мстислав в малой дружыне ледве сам утек у город Луцко. А князь великий Скирмонт возметь город Пинск и город Туров. И заплакала Рус великим плачом, иж так окрутне[2] вси побиты от бэзбожное Литвы.

И князь великий Скирмонт сына великого князя литовского Жывинбутова Куковотя честовавшы и даровавшы безчысленое множество золота и серебра и боръздыми конми и отпустил почстиве до отца его, до великого князя Жывинбута литовского.

И коли Куковот прыидеть до отца своего Жывинбута, и не много пры отцы своем побывшы, и потом князь великий Жывинбут литовский и жомоитский умер. Тогды сын его Куковот сѣл на великом кнежени Литовском и Жомоитском.

Будучы пак в тот час царем Завольским именем Булаклай и прыслал послов своих до великого князя Скирмонта, штобы ему выходы его давал и баскаки его ховал по тым городом по тому, як с тых городов хожывали за предков яго князей руских. И князь великий Скирмонт под тое поддатися не хотѣл, и тым послом его носы, губы и ушы урѣзати казал, и до него отпустил.

И тот цар на лѣто собравшыся з многими силами своими и оръдами татарскими и пошол на Рускую землю. И много зла Руской земли учынил.

А князь великий Скирмонт, собравшы вси войска свои, и подкал его на границы своей у Койдонове, и поразил того цара и всю рать татарскую побил и самого цара убил. И з звитяжством ве-

---

[1] бой. [2] жорстка, бесчалавечна.

ликим пошол на Рускую землю. И взял город Мозырь, Чернигов и Стародуб и Корачев. И со всими в цэлости, звитяжство одержавшы, вернулъся назад. И мѣл князь великий Скиръмнт трех сынов: старшый Тронята, другий Люборт, третий Писимонт.

Князь великий Скирмонт у великой старости своей умер, и сын его Люборт сядет на Корачеве и назовется князь Корачевский, а Писимонт на Турове сядет, а Тронята на Новегородцэ. И пановали на тых городех много лѣт.

В тых лѣтех мати князя великого литовского и жомоитского Куковотева Поята умерла у великой старости своей. И князь великий Куковоит, милуючы матку свою, и вчынил балвана на образ ее, чынечы ей паметку. И поставил того балвана именем матки своее Поятьі вышей озера Жослии, который же образ хвалили и за бога его мели. А потом тот балван зъгнил, и на том мѣстцы липы выросли. И тые липы хвалили и за бога их мѣли во имя тое Поятьі оли ж и до сего дня. А за тым князь великий литовский и жомоитский Куковоит, милуючы подъданых своих, и сам умер.

И зоставил по собѣ сына на великом кнежени Литовском и Жомоитском именем Утенуса, который же сын, милуючы отца своего великого князя Куковоита, и вчынил балъвана на память отца своего. И поставил его на горе одной над рекою Святою, недалеко Дявилтова, которого ж хвалили и за бога мели. А потом тот балван згнил, и там гай вырос. И люди тым хвалили, и прозвали его именем пана своего Куковоита.

Троняте пануючы на Новегородцэ. И в тот час цар Завольский Курдас повстал з многими силами татарскими на Руские земли. И князь Тронята зберется з братею своею: с князем Писимонтом Туровским а с князем Любортом Карачевским и со всими силами, и к тому обослалъся с князми рускими: с князем Семеном Михаиловичом Друцким, и с князем Давыдом Мъстиславовичом Луцким и Светославом Киевским. И собравшыся с одного и пошли против цара Курдаса и всее рати его Завольское. И поткалися с ним за Мозырем на рецэ Окуневъцы, и вдарылися в полки межы собою, и вчынили бой вельми великий от пораня оли ж до вечора. И поможеть бог великому князю Тронэте и князем руским. Цара Курдыса и все войско на голово побили. Ледве сам цар у малой дружыне втек. И в том бою убили двух братов князя Тронятиных: князя Писимонта Туровского, а князя Люборта Корачевъского, а князя Семена, сына князя друцкого Михаила, а князя Давыдова, сына Луцъкого Андрея. И иных бояр много побили. И князь великий Тронята звитяжство одержавшы и добытку великого, золота, и серебра, и каменя и жэмъчугу, и шат[1] дорогих набравшы, и пошол у свою землю. А князи руские также у свои городы пошли.

И пануючы князю Троняте не мало лѣт, потом умер. И зоста-

[1] адзенне.

вил сына по собе на великом княжени Новгородском Олькгимонта. И княжыв Олькгимонт не мало, потом умер, и зоставил по собѣ сына именем Рынкголта на великом княжени Новъгородском.

И княжычы Рынкголту не мало лѣт на Новегородцы и на иншых городех руских. И вчынять змову межы собою князи руские почати вальку против великого князя Рынкгольта, и хотечы его согнати з отчызны своее городов руских, напервэй Светослав Киевский, а Лев Володымеръский и Дмитрей Друцкий. И собравшыся вси тры полки и пошли против великого князя Рынкгольта. И взяли тые руские князи татар на помоч собѣ от цара Заволского неколко тисеч татар. И князь великий Рынкгольт потъкал их на рецэ Немне на Могильной. И вчынил з ними бой вельми великий, и билися межы собою велми крѣпко, почоншы от пораня оли ж до вечера. И поможе бог великому князю Рынкголту, иж князей руских и всю силу их и орду татарскую на голову побил и сам, звитяжство одержавшы, з великим весэльем и добытком золота и серебра, и з великим набытем скарбов, и прышол к своим городом. И прышедшы до Новагородка, рознемогъся и вмер без плоду. Тут ся доконал род княжати рымского Палемона.

А иные поведают, рекучы, бы тот Рынкголт, прышедшы з оного побоища до Новагородка и был у Новегородцы, и якобы мѣл уродити трех сынов и зоставит по собѣ на великом княжени Новгородъском именем Воишвилака, ино[1] далей о том Воишвилаку не пишеть.

## О княжати Литовском Швинъторозе, сыне Утенусове

По смерти Рынкголтове панове, жалуючы господара своего прырожоного, и взяли собѣ господарем великого князя литовъского и жомоитского, сына Утенусова с Китаврусу, Швинъторого. И мало княжывшы Швинторогу на Новгородъцы и на руских городех. И отец его, князь великий литовский и жомоитский, Утенус умер. И сын его Швинъторог по смерти отца своего начнет княжыти на великом княжени Литовском и Жомоитском, и Новгородском и Руском. И вродил Швинторог сына Скирымонта. И оберет собѣ великий князь Швинторог мѣстцо на пущы велми хорошо, подле реки Вельи, гдѣ река Вилня упадывает у Велю. И просил сына своего Скирымонта, абы на том местцу было жъглищо вчынено, гдѣ бы его мертвого сожгли. И прыказал сыну своему, жебы по смерти его на том мѣстцу, гдѣ бы его зъжог, всих князей литовских и знаменитых бояр сожъжено было, и штобы вже нигдѣ инъде тѣла мертвых не были зъжены толко там, бо и перед тым жыгали тѣла мертвых на том мѣстцу, хто гдѣ умреть. И прыказавшы тые слова сыну своему Скирымонту, князь великий Швинъторог и вмер.

---

[1] толькі.

## О великом князе Скирымонте

Великий князь Скирымонт зостал по отцы своем на великом князстве Литовском, Жомоитском и Руском и, подлуг прыказаня отца своего, на том мѣстцы на усти реки Вилни, гдѣ у Велью упадываеть, вчынил жъглищо. И там тѣло отца своего зъжог и коня его, на котором еждчывал, и шату его, которую ношывал, и милосника его, на которого он был ласкав, и сокола и хорта его зъжог. И от тых часов князи великие литовские тѣла их на том мѣстцу жыгали. И для того тое мѣстцо от тых часов прозвано Швинторога, на имя того великого князя.

И коли которого князя великого литовского, албо пана сожжено было тѣло, тогды пры них кладывали ногъти рыси, албо медвежи, для того, иж вѣру тую мели, якобы судный день мѣл быти. И так знаменали собѣ, иж бы бог мѣл прыити и седѣти на горѣ высокой и судити жывых и мертвых, на которую ж гору трудно будеть узыйти бэз тых ногътей рысих, албо медвежых. И для того тые ногти подле их кладывали, на которых мѣли на тую гору лѣзти и на суд до бога ити. А так ачколвек [1] поганы были, а въжды потом себе знаменали и в бога одного вѣрыли, иж судный день мѣл быти. И вѣрыли з мертвых въстаню и одного бога, которы мѣл судити жывых и мертвых.

## О мужах латыголъских як прышли у Жомоить

Пануючы великому князю Скирымонту, и собралися мужы латыголове, которые седели над берегом морским, окияном, морем и прышли в землю Жомоитскую, и шкоды многие почынили, и кровопролитья в людех Жомоитских от них много стало. И князь Скирмонт собравшыся з силами своими и поидеть на них в землю их. И их самых выстинал, а иншых у полон вывел, и землю их пусту вчынил.

И в тот час, по выеханю князя великого Скирмонта з земли Латыгольское, прышли нѣмцы з за моря до тое ж земли Латыгольское и тую землю засели. И панове той Латыголе зостали и назвалися Ифлянты. И потом много лѣт пановал великий князь Скирмонт и зоставил двух сынов: Трабуса а Коликгина. И Трабус почнет кнежыти на земли Жомоитской, а Коликгин на земли Литовской и Руской. И кнежыл много лѣт и вмер. И почнеть по нем кнежыти сын его Роман. И по малом часе умре князь великий жомоитский Трабус, дядко князя Романов.

И по нем почнет кнежыти князь великий Роман на земли Жомоитъской и Литовской и Руской. И Роман мѣл пяти сынов: старший был Нарымонт, другий Довмонт, третий Гольша, четвертый Кгедрус, пятый Троииден.

---

[1] хоць, нягледзячы на тое што.

## О пяти сынех Романовых

По смерти великого князя Романа почнет кнежыти его сын старшый Нарымонт. И вчынил город Кернов, и знесеть столец свой з Новагородка до Кернова, и почнеть кнежыти и назовется великий князь литовский и новгородский и жомоитский.

А брат его Довмонт седит на отчызне своей на Утене, и назовется князем Утенским. А третий брат его Кгедрус зарубил город и назовет его именем своим — Кгедроити и прозоветься князем Кгедроитьским. А четвертый брат его Гольша, передшы (так!) реку Велю, и нашол гору красную межы горами над рекою Вилнею у мили от устья реки Вельи, гдѣ упадывает в реку Велю против Раконтишок, и вчынил город и назоветь его именем своим Гольшане.

И не много бывшы там. И ездечы оттоль у ловы у пущу за десеть миль от того города своего и найдет гору красную, и ровъвинами великими объляглую, и обфитостями [1] наполъненую. И сподобалося ему там, и он там поселилъся и на той горе учынил город над рѣчкою Кораблем. И перенесеться оттоле и там почнеть кнежыти и назоветься князем Гольшанским.

А пятый брат Троииден мешкал пры брате своем великом князи Нарымонъте. И довѣдался князь великий Нарымонт, што ж князи Ятвезъские померли, а люди их мешкают без господара. И князь Нарымонт поидеть на них. И они не противечыся поддалися и поклонилися ему. А так он, оставшы им господарем и вземшы их, дал брату своему Троииденю за вдѣл. И князь великий Троииден наидеть гору красную над рекою Бебрею. И сподобалося ему там вельми и зарубил город и назоветь его Раигород, и прозоветься князем Ятвезским и Доиновъским.

И будучы ему там на кнежени великие валъки чынил з Ляхи, и з Русью и з Мазовшаны, и завжды зыскивал [2] и над землями их силные окрутенства [3] чынил, што нижей описуеть у руской кроиницэ [4], иж горъшый был тым землям и окрутнейшый на них, нижли Антиох Сирский и Ирод Иерусалимский и Нерон Рымский, што так был окрутный и валечный [5].

Князь же великий Нарымонт поиметь жону у ифлянтского реченого Флядры дочку его, и брат его Довъмонт у того ж Флядры другую дочку его. И, не малый час жывучы, рознеможется жона князя Домонътова Утенского и вмерла. И князь великий Нарымонт, слышавшы смерть невѣстки своее, жаловал вельми и, будучы сам немоцон, и послал жону свою до брата своего Довмонъта, жалуючы жалости его. И коли прыехала жона Нарымонтова до Утены, жалуючы девера [6] своего князя Довъмонта, и князь Довмонт, видевшы невѣстку свою, возрадовался вельми а рекл так: «Мнѣ было

---

[1] багаццямі. [2] перамагаў. [3] лютасць, жорсткасць. [4] хронiцы, летапiсу. [5] храбры, мужны, адважны. [6] брат мужа.

жоны искати, а се мнѣ бог жону дал». И понял ее за себе. И в том стала великая брань и ростыржъка межы братею: великим князем Нарымонтом и князем Довъмонтом.

И князь великий Нарымонт, видечы жалост свою великую, иж брат его жону его за себе гвалтом взял, и обослал братю свою: князя Ќгедроитя, и князя Гольшу, и князя Троииденя, и тестя своего Флядра Ифлянтского. И собравшыся з братею и со всими людми своими, и потягнул на брата своего князя Довмонъта, и обогнал его у городе его Утене. И порозумел князь Довмонт, што ся не мог ему оборонити, и просил горожан своих, абы ему не подали города, поколь бы он прошол войско Нарымунтово. И сам спустилъся з города. И прошодшы войско Нарымунтово, и побежыт. И прыидет к городу Пъскову. Ино мужы пъсковские, видечы его мужа добра, и честна и розумна, и взяли его собѣ господарэм и назвали его великим князем Пъсковским.

А Нарымунт, узявшы город Утену и жону свою, и княжыл на Ќернове и на Новегородцы и на Жомоити. А Довъмонт на Пъскове. И обадва не малый час кнежыли.

Троиидень пак поиметь жону у княжати Мазовэцкого, дочку его. И мѣл з нею сына реченаго Рымонта. И коли сын его Рымонт доростал лѣт своих, и отец его Троиидень дал его для науки языка руского до Льва Мъстиславича, который заложыл город во имя свое — Львов. И мешкаючы Рымонту у князя Льва, и навчылся языка руского. И сподобалося ему вѣра хрестиянская и окрестилъся. И врозумѣл, иж тот свѣт ничого не есть. И опустившы свѣт, и пострыгъся в чернъцы, и названо имя ему Василий, а прозвищом Лаврыш. И будучы ему в чернъцох, прышол до дядка своего Нарымонса и просил его, абы ему дал в Новогородском повѣте мѣстцо на пущы подле реки Немна, гдѣ бы собѣ манастыр збудовати мѣл. И он ему допустил. И он собѣ там манастыр збудовал. И поставил напервей церъков святого Воскресенья. И оттоле прозвано Лаврышов манастыр. И будучы ему у манастыры, дядко его умреть. И панове литовские и жомоитские взяли собѣ великим князем Троиденя. И пануючы великому князю Троиденю, и князь великий Довмонт, пришодъшы зо Пъскова, возметь город Полътэск и почнеть княжыти на Пъскове и на Полоцку. И жаль ему было того велми, иж брат меншый осѣл панство у Литве. И почал о том мыслити, як бы его мѣл о смерть прыправити. А в тых часех пануючы Троиденю, умерли ему обадва браты: князь Гольша а князь Ќгедрус. А з оное вышейписаное вазни [1] князь великий Довмонт направил шесть мужыков на брата своего Троиденя забити, яко ж он шол безпечне собѣ з лазни в Новгородку. И тые мужыки его зрадне забили. И сам Довмонт, собравшыся з людми своими пъсковскими и полоцкими, и потягнул до Литвы, хотечы быти князем литовским и жомоитским.

И реченый чернец Лаврыш, по литовскии зовемый Лаврымонт,

---

[1] сваркі, разладу, варожасці.

а по рускии Василей, и жалуючы смерти великого князя Троиденя, отца своего, и оставившы чын чернеческий, и прышол до панов. И собравшыся со всякими силами своими литовскими, и потягнул противко Довмонта, хотечы помстити кров отца своего. И направившыся с полъки своими, и потъкалися з Довмонтом над озером. И коли зышлися полки с обу сторон, и был межы ними бой и сѣча великая, с поранку оли ж до вечера. И поможет бог Лаврышу, и все войско дядка своего Довмонта на голову поразил и самого его убил, и город Полтэск взял. И вернувшыся назад к стольцу отца своего до Кернова. И рек паном: «Коли мнѣ бог дал помстити кров отца своего, я свѣта того отрекаюся. Взял есми на себе чорную рызу, а господарства я не хочу. Возмите собѣ господарем, кого воля ваша будеть. А вед же я ражу вам ачъколвек ест братя моя Гольшын сын Олькгимонт, а Кгедрусов сын Кгинвил, ино еще они малы суть, не годяться на панство, бо дядко мой Нарымонт, коли сѣл на великом князстве Литовском, гэрб свой Китаврус зоставил брати своей, а собѣ вдѣлал герб чоловека на кони з мечом. А то знаменуючы через тот герб пана дорослого лѣт, хто бы мог боронити мечом отчызны своее. А про то оберыте собѣ господара доброго, хто бы мѣл боронити того панства великого князства Литовского. И так ми ся видить, иж бы и к тому был годный Витеня, который был маршалъком у в отца моего».

И панове не хотели переступити рады а воли господара своего, прырожоного сына великого князя Троиденева. Вчынили так, видечы мужа мудрого а годного Витеня, который был з рожаю а с поколенья с Колюмнов, з ымѣня деръжачого в Жомоити, реченого Аиракгола. Взяли его собе великим князем литовским и жомоитским, бо князь великий Троидень, будучы в Жомоити, ехал через имѣнье его Аиракголу и узрел оного Витеню еще малым младенцом, и вбачыл оное дитя обличем велми хорошо и възросту цудного, играючы з дѣтми малыми, и взял его к собѣ. И был у него коморником. И будучы в него в коморе, кождую реч цудне а радне панскую ховал и справовал. А так он, бачечы цноту его и доброе заховане, вчынил его в себе маршалъком. И был в него милосником и всяким справцою. А за тым, по смерти его, взяли его на великое князство Литовъское. Тут ся доконал род с Китаврусов, а начало великое княжэнье Витенево, род великих князей литовских с поколеня а з роду с Колюмнов.

## О великом князи Витене

Будучы великому князю Витеню на великом князстве Литовском, Жомоитском и Руском, и пановал много лѣт оли ж до старости своее во в покою. И родился ему сын Кгидимин. А потом умер князь великий Витеня. А после его сѣл на великом княжени Литовском, Жомоитском и Руском вышереченый сын его Кгидимин.

# О ПОБОИЩИ МАМАЯ, ЦАРЯ ТАТАРСКОГО, ОТ КНЯЗЯ ВЛАДИМЕРСКОГО И МОСКОВСКОГО ДИМИТРИЯ

Славутая перамога над татарамі 8 верасня 1380 г. на Куліковым полі, якая мела вялікае гістарычнае значэнне для Русі, вельмі хутка знайшла сваё адлюстраванне ў тагачаснай літаратуры. Па свежых слядах гістарычных падзей быў напісан цэлы рад твораў з праслаўленнем вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча, які сваёй перамогай над Мамаем палажыў пачатак вызвалення рускіх земляў ад амаль 150-гадовага татарскага панавання. Самымі старэйшымі літаратурнымі запісамі аб гэтых падзеях з'яўляюцца шматлікія летапісныя апавяданні і аповесці. Прыкладам іх у нашай літаратуры можа служыць аповесць «Нашэсце Мамая» з так званага «Летапісу Аўраамкі». Пазней, з цягам часу, на базе летапіснага матэрыялу, фактычных звестак і вусных паданняў аб Кулікоўскай бітве ўзнікалі і распаўсюджваліся на працягу трох стагоддзяў у розных рэдакцыях і спісках новыя больш пашыраныя літаратурныя апрацоўкі аповесці. Адной з такіх тыповых літаратурных апрацовак пазнейшага часу з'яўляецца беларускі тэкст воінскай аповесці «Аб пабоішчы Мамая».

У параўнанні з рускімі аповесцямі на гэту тэму беларускі тэкст «Аб пабоішчы Мамая» выдзяляецца сваёй сціслацю, яснасцю і паслядоўнасцю. Тут спачатку пададзены кароткія звесткі аб татарскіх ханах, якія перапісчык, напэўна, запазычыў з польскіх хронік, бо ні ў адным з рускіх тэкстаў гэтага раздзела аповесці няма, а потым размова ідзе аб здрадзе агульнарускім інтарэсам князя Алега Разанскага, які сумесна з вялікім князем літоўскім стаў саюзнікам Мамая ў барацьбе супроць вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча, празванага пазней Данскім. Пасля гэтага аўтар расказвае падрабязна аб тых дыпламатычных захадах князя Дзмітрыя Іванавіча, якімі ён імкнуўся стрымаць Мамая ад нашэсця на зямлю Рускую, аб яго падрыхтоўцы да бою, аб яго саюзніках, аб настроі рускіх перад боем, аб новай тактыцы вядзення бою і выніках перамогі. Тэкст аповесці падзелен на 12 раздзелаў, да кожнага з якіх пададзен сціслы, але выразны, адпаведны зместу загаловак. У мэтах найбольшай драматызацыі падзей і лепшай акцэнтацыі адзінства рускага і беларускага народаў аўтар паграшыў гістарычнай праўдай: замест літоўскага саюзніка Мамая вялікага князя Ягайлы ён падставіў яго бацьку Альгерда (1345—1377). Пры такой замене літоўскія князі Андрэй Полацкі і Дзмітрый Бранскі Альгердавічы, выступаючы сумесна з маскоўскім князем на Мамая, у імя справядлівасці паўстаюць не супроць брата, як гэта было на

самай справе, а супроць бацькі. Праўда, сваё палітычнае адзінства з маскоўскім князем яны тлумачаць толькі адзінствам праваслаўнага веравызнання.

Калі ўзнікла беларуская рэдакцыя гэтай цудоўнай патрыятычнай аповесці, дакладна вызначыць немагчыма. Да нас дайшоў толькі адзін яе спісак канца XVII ст. Па гэтаму рукапісу, які зараз захоўваецца ў рукапісным аддзеле Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына, і пададзен ніжэй поўны тэкст аповесці (гл. Погодин 1569, лл. 33—70 об.).

## ГЛАВА 1

### *Повѣсть о царех татарских, як довго над Русью пановали по пришествии Мамаевом в рускую землю на великого князя Димитрия*

Батиий, царь татарский, яко повоевал всю землю рускую, польскую, венгерскую, пришовши в шести соть тысячах татар року 6745, которую орду татарскую Золотою званно. От того часу през лѣт полтараста князи руские татаром голдовали [1], и цари татарскии, един по другом наступуючи, своих баскасковь, албо атамановь, то есть старост, над Русью постановляли, которыи, седячи в Руси, дань от Руси выбирали, судии судили и як хотѣли росказовали. От царей теж татарских и князи рускии стоновляны бывали, ажь року 6889 князи рускии, особливе Семион Иванович, князь Тверский, и Димитрей Ивановичь Семечин, великий князь Владимерский и Московский, своим мужеством и храбростовм татаров до конца побивши досконале зкинули з шии своей ярмо татарское и в першую пришли волность руского панованья.

Таким способом року 6865 Занабек, царь великий татарский, сын Азбековь, внук Батѣевь в Заволской, в Перекопской и Крымской ордѣ царьствовал, братовь своихь для лакомства пünованя позабивал и в руских панствах зневолных мочь свою широко розширал. Той заставил на царствѣ сына Бердебека, который также дватцать родных своих братовь позабивал, абы ему в панствѣ не перешкожали, але и сам ледве двѣ лѣти на царствѣ бывши, умерл. Сына тежь его Аскулпа, един мѣсяць царствовавшого, Нар, другий царик, забил. Нара зась в рок потым Хидир забил. Року 6868. Хидира, сын его власный, замордовал [2]. Але и той на царствѣ татарском, зле набытом, ледве седмь дний выбывши, от царя Темника Мамая был выгнанный и забитый року 6869.

Той безбожный царь Мамай, роспытавши у своих совѣтников о Батѣи, як землю рускую повоевал, князей позабивал, горады попустошил и под свою владзу подбил, сам той Мамай еще барзѣй научень от диявола, умыслил поити на рускую землю, мовячи: ижь я всю землю рускую борзѣй, нижь Батий, стустошу, толко якии лѣпшии и милшии городы себѣ оставлю, в которых буду зь своими татарами жити; не знаючи, злочестивый, же то все рука божия

[1] былі ў залежнасці. [2] забіў, закатаваў.

справуеть. О том зь своими нарядившися, собрал барзо великое войско татар, обѣцуючи им великии богатства рускии, перевезса через реку Волгу, не кажутчи своим и хлѣба пахати, але на руский хлѣб до сытости всѣм надѣятися. Дошол устия реки Воронежи, распустил свою облаву.

## ГЛАВА 2

### *О змовѣ злой князя резанского Олега зь князем литовским Олгердом на князя московского Дмитрия и о поселствах их до царя татарского Мамая*

Послышавши Олегь, князь резанский, ижь Мамай идеть на великого князя Дмитрия Ивановича московского Русь воевати и ночует на Воронежи, мало ума мѣючи, послал своего посла з великими подарками до Мамая, написавши такую грамоту: «Восточному царю волному Мамаю. Твой посадник Олегь резанский много тя молить. Слышах, господине, што хочешь ити на Русь, на своего служебника князя Дмитрия Ивановича московского, огрозитися ему хощеши. Нынѣ, всесвѣтлый царю, приспѣ время тебѣ: злата и богатства много наполнися земля Московская, а князь Дмитрий Ивановичь — великий християнин, егда услышить имя твое и гнѣвь твой, то отбежит в далняя стороны, албо в Новгород великий, албо на Двину. Золото московское многое и богатство все будеть вь твоихь рукахь, твоему войску на потребу. Мене зась, раба твоего, Олга Резанского, держава твоя нехай пощадит: я велми устрашу Русь и князя Дмитрия. И еще, царю, молю тя: обадва есмо твои слуги. И я великую обиду маю от того ж великого князя Дмитрия. И гды ему за свою обиду твоим царским именемь погрозилем, он того не дбает, и город Коломну за себе заграбил. Потом, царю, молю тя: дай мнѣ управу».

З тым писанем, выправивши Олегь своего посла к Мамаю, послал другого посла кь Олгерду, князю литовскому, з писмом таким: «Олегь, князь резанский, великому князю литовскому Олгерду радоватися. Вѣдаю, ижь давно мыслилесь князя московского Дмитрия зогнати, а самь землею московскою владѣти. Нынѣ приспѣль твой час великий бовѣм [1] царь Мамай идеть на него. Тепер пристанмо до царя Мамая, вѣдаю, же тобѣ даст царь Москву зь иншими городами, а мнѣ дасть Коломну, Володимер и Муромль, которыи городы суть моеѣ власти. Уже я послал своего посла кь царю Мамаю зь честью и дарами. Пошли и ты от себе своего кацѣя [2], написавши грамоту, якь сам знаешь».

Князь Олгердь, урадовавшися с того, подяковал князю резанскому. Сам з великими безчисленными дарами послал к Мамаю з таким писанем: «Великий князь Олгердь литовский царю Мамаю великому. Под твою милость прибегаем, присяжникь твой и много

---

[1] бо, таму што. [2] ганца, пасланца.

тя молить. Слышах, господине, што хочешь казнити своего служебника, московского князя Дмитрия. Того ради молю, царю, великую бовѣм пакость чинить твоему улуснику[1] князю резанскому Олгу, да и мнѣ покости дѣеть. Просим абадва, да придеть держава царьствия твоего на отоки[2] сия, и да приидет твое розсмотрение нашея грубости от московского князя Дмитрия».

З тым пославши, мыслили князи резанский и литовский, ижь князь Дмитрий утечеть, а мы с покоемь будем на его княжении сидѣти, и дарами утолимь Мамая, иж пойдем з руской земли спокойне. И дасть нам ярлык, албо привилей свой на княжение. Тыи сами не знали, што чинили, не помятаючи, же все есть в руках божиих, и кто под ким яму капаеть, той и сам в тую впадеть.

Князь зась Дмитрий ничего о той змовѣ на него князей не вѣдал. Царь Мамай принял пословь вдячне и дары. Прочитавши их писма и зразумѣвши рѣчь, частовал послов и отпустил. И кь князю резанскому и кь князю литовскому так отписал: «Дякую вам за дары, и што писалисте ко мнѣ о отчизнѣ руской, подарую вам, толко мнѣ присягните и з войсками своими мене споткайте, где можете. Я вашего на помочь войска не потребую, маю так войска много, которым Иерусалим давный и хотяй яко царство взялбым, толко вы зь своим войском огрозитеся князю Дмитрею при моей оборонѣ. Мнѣ, царю, з подобным царемь битися, а не з Дмитрием моим голдовником[3]. Досыть мнѣ, же мя, як царя, почтите. Ознаймѣте иншим своим князем: иду к ним с покоем.

## ГЛАВА 3

### *Князь Дмитрий Иванович московский молится и раду чинить на Мамая з митрополитом и зь своими князи, о змовѣ тежь князей Олга и Олгерда и Мамаевом замыслѣ довѣдавшися, збирает своих князей, гетманов и войска*

Взявши вѣдомость князь великий московский Дмитрий, ижь Мамай идет на него, ревнуючи Батию, зь гнѣвом барзо зафрасовалси. И ставши перед образом хрестным, над головою его стоянним, упал на колѣна и з плачем молился, жебы[4] господь богь грехи его простил и избавил землю рускую от безбожного Мамая. Помолившися, послал рихло[5] по брата своего Владимера Андрѣевича до Боровицы и по всѣхь князей и воевод своих. И гды приѣхал брат Владимерь и всѣ князи и воеводы к Москвѣ, взявши князь Дмитрий брата своего Владимера, пошол к преосвещенному митрополиту Киприяну, ознаймил ему о том, ижь безбожный Мамай идеть на нас.

Запытал его митрополить: «Чим, господине, его гнѣвь на себе подвигнулес, чого не далесь?»

---

[1] саюзніку. [2] граніцы. [3] залежным. [4] каб. [5] хутка.

Отповѣдил князь Дмитрий: «Все ведлугь[1] постановеня отцов наших и болше далем ему».

Рекль митрополит: «Жебы той безбожный не спустошил нашей земли, пошли ему дары и дарами его гнѣвь укроти. А если не схочеть, сам его богь укротит. Якь святый Василий великий учинил. Июлиану послал дары, а гды не принял, сам господь богь през мученика Меркулия его убил».

Теды князь Дмитрий, послухавши митрополита, выборного своего и разумного Захарию Тушишина послал зь многим золотом и срѣбром к Мамаю, придавши к нему двохь толмачовь[2].

Посланный Захария, гды пришол в Резань и довѣдался, ижь Олегь резанский и Олгердь литовский, змовившися на князя Дмитрия, поддалися Мамаю, послал зараз таемне кь своему князю Дмитрию, тое ознаймуючи. Што услышавши, князь Дмитрий розгнѣвался и зафрасованный[3], молился господу богу и просил, жебы его невинности сам он вышний помъстился. Помолившися, знову з братом своим пошол к митрополиту, ознаймил ему о змовѣ на его князя Олга резанского зь Олгердом литовским и, плачючи, рекл: «Согрешилем пред богом, але им ничого не есть винен: не беру ничего ничьего, своим естем доволен княжением».

Отповѣдил ему митрополит: «Даремная и несправедливая, ижь есть на тебе змова. Не фрасуйся. На бога в своей невинности надѣйся».

Теды князь Дмитрий, возвергьши на бога печаль свою, порадился зь своими князями и воеводами и послал на сторожу от Мамая крѣпких своих оружников: Радиона Ржевского, Иякова Андрѣева Волосатого, Василья Тупина и многих з ними рыцеровь. И казал им усердно стеречи и, под Орду подъежжаючи, языка добывати и правды Мамаевой мысли довѣдаватися. А сам князь Дмитрий Иванович по всей руской земли послал гонцовь зь своими грамотами, жебы всѣ готовы пришли до Коломны на Успение пресвятой богородицы на войну з Мамаем и з татарами. А поневаж[4] сторожи князя Дмитрия забавилися, послал еще на провѣдки Климента Полянина и Ивана Свесланика, казавши им скоро ворочатися. Тыи стрѣтили Василья Тупина, ведучого языка, который язык сказал князю Дмитрею, ижь Мамай, конечне, идеть на Дмитрия и на Русь, и якь з Мамаем зьедночился Олег, князь резанский, змовившися зь Олгердом литовским, и не спешить — ждеть осени.

Услышавши князь Дмитрий тую певную вѣсть, почал тѣшитися богом и рекль до брата своего и до всѣх князей и воевод, укрепляючи ихь: «Гнѣздо естесь мы великого князя Владимера киевского, который нась вывел зь тьмы безбожности и просветил правдивою вь истенного бога вѣрою. Ревнуймо ж ему! Биймося до смерти за вѣру святую правдивую з погаными татарами! Господь нам по-

---

[1] згодна, паводле. [2] перакладчыкаў. [3] сумны. [4] таму што, з той прычыны.

мощник. Не убоимься, что сотворить нам человекь! Хотяй кто нась за вѣру умреть зь святыми мучениками в небѣ венець прийметь».

Отповѣдил князь Владимер Андрѣевичь: «Брат стрѣнний и всѣ князи! Правдиве так есть, ижь за вѣру умираючии правдивую от бога заплату приимуть вѣчную. Готовы естесьмо всѣ на войну з татарами и головы свои за вѣру святую положити».

Тое услышавши, князь Дмитрий Иванович, ижь всѣ смѣло готовы на войну, барзо[1] утѣшился. И ведлугь его росказанья всѣ воиновь множество поспешили и пришли ко князю Дмитрею на Успение пресвятые богородицы, мовячи: «Дай нам, господи, течение совершити за твое святое имя!» Приѣхали теж тут же князи Белоозерскии с присторожными барзо великими войсками: князь Федор Семенович, князь Семен Михайлович, князь Андрѣй Скимъский, князь Глѣб Коргополский и Цынодовскии, также и Ярославскии пришли князи зь своими силами, князь Андрѣй Ярославский, князь Роман Проюрожский и князь Левь Курбьский, князь Дмитрей Ростовский и иншии князи. И собралися великия войска вь славном градѣ Москвѣ.

## ГЛАВА 4

### *Князь Дмитрий приимаеть благословение от святого Сергия в манастырѣ живоначалныя троицы и пророчество о звитязствѣ[2] над татарами*

Князь великий Дмитрей Иванович, взявши брата своего Владимера Андрѣевича и всѣхь преславныхь князей руских, пошол з ними к манастырю живоначалной троицы, кь преподобному отцу Сергию, и благословение взял от святые обители.

Просил князя преподобный Сергий, жебы послухал святой литоргии[3], был бовѣм день недѣлный августа 18 дня. По отпустѣ литоргии просил отець Сергий князя Дмитрея, жебы обѣдал у нихь. Князь отмовлялся, бо пришла вѣдомость, ижь поганыи уже зближаются. Отповѣдал ему старець: «Обѣд тобѣ на поспѣхь будеть. Еще тобѣ не готовь венець, а иншим многим венцы мученическии готуются». Послухавши, князь Дмитрей вкусил хлѣба, а святый Сергий тым часом казал воду святити з мощей святых мученик Фрола и Лавра, того дня святых мученик память была. И вьставши скоро от трапезы, преподобный Сергий покропил князя и все его воинство и дал великому князю кресть Христов — знамение на челѣ и рекл: «Господь да поможеть тобѣ на враги». И мовил ему тайно: «Маешь звитяжити врагов твоихь, сколко довлѣет твоему господьству».

Князь, подяковавши за благословение преподобному, рекл: «Дай мнѣ, отче, двох воиновь от твоего иноческого полку Пресвѣта и брата твоего Ослабля, то ты и сам поможешь нам». Сергий

---

[1] вельмі. [2] аб перамозе. [3] царкоўнае богаслужэнне.

преподобный зараз казал тым рицером свѣдомым наготоватися, и казал им вмѣсто прилбицы [1] схиму [2] зь крестами на головѣ носити, и отпустил ихь зь князем, мовячи: «Страждѣте, добрыи воины Христови». Подал тежь великому князю и всѣм з нимь мир и благословение.

Князь великий Дмитрий веселый пришол к Москве, сказал тое все преосвещенному митрополиту; и заказал ему митрополит, жебы того никому не сказал, што ему тайно рекл преподобный Сергий. А князь никому не сказал.

## ГЛАВА 5

### *О выправѣ и выходѣ з Москвы князя Дмитрия на войну против царя татарского Мамая*

Гды пришол августа вь дватцать седмый день на память преподобного Пимина, хотѣл великий князь Дмитрий пойти на безбожного Мамая. Пошол перше в церковь соборную пресвятой богородицы и, ставши пред образом Христовым, пригнувши руки до персей, молился, просячи Христа спаса, абы его грехов не помянул, судил обидящих и возбранил борющих его и дал побѣду на варваров, востающих на християн. Потом стал пред образом пресвятой богородицы, написанным от святого Луки, и молился, просячи, абы пресвятая богородица, яко заступница християном непостыдная, умолила сына своего и бога, жебы не дал осквернити храмовь своих святых и не погубил християн, але дал звитяжство християном над погаными. Оттоль пошол кь гробу святого чюдотворца Петра, митрополита Киевского. Просил и его, абы архиерея Христа спаса умолил, жебы его овца невредныи сохранил и отгнал и погубил волковь, безбожных варваров, хотячихь овца его поглотити.

Так скончавши молитвы, великий князь поклонился митрополиту. Митрополит зась [3] благословил князя, дал ему знакь побѣды — кресть святый, и отпустил. И послал митрополить священный соборь с крилошанами в Фроловскии ворота, в Костянтиновскии и в Николскии з крестами святыми и зь образами чюдотворными, абы всѣхь воиновь благословили на войну. Князь зась великий Димитрий пошол еще в церковь святого архистратига Михаила, где князи лежать. Там помолившися пред образом святого архистратига Михаила, воином скорого помощника, пришол кь гробом князей и рекл: «Прородители наши, истенныи вѣры святые православные поборницы, если маете дерзновение у бога, помолитеся за нас, потомков ваших, абы нам дал бог над погаными звитязство!»

По молитвѣ вышли з церкви. Княгиня Дмитриева Еудокия и княгиня Володимерова и иных княгинь много со слезами провожали своихь князей. Князь зась Димитрий тамо удержався от слезь, рекл своей княгини: «Жено, не плачь. Если богь за нами, кто на нас».

---

[1] замест шлема. [2] манашская шапка. [3] той час.

И так пожегнавши [1], всѣл на коня своего выборного, з ним и всѣ князи полетѣли з Москвы, якь бѣлыи соколы, нарядное войско. Князи теж Бѣлоозерскии особно зь своими полками стройно ѣхали. Князь великий Дмитрей отпустил брата своего Владимера на Брашево дорогою, бо не вместилося войско все едною дорогою, а сам пошол на Котел. Княгиня зась его зь снохою своею и зь иншими княгинями смотрѣли на поѣзд ихь, взышовши на свой высокий золотоверхий терем, и молилися, просячи своему князю от бога помочи на поганыхь татарь, жебы двох сыновь великого князя Дмитрия — Василия и Юрия не пустил вь сиротство.

Князь великий Димитрий взял зь собою десять мужей Сорожан, жебы обачили што будеть дѣятися и повѣдали потом в далних землях. И пошол великий князь Димитрий, за ним всѣ князи русскии з великим войском, аж стук стучить, гром гремить по ранней зорѣ от ихь поѣзду, якь вина пити весело спешатся. Князь Владимер Андрѣевичь Москву реку перевезся на красном перевозѣ в Боровицѣ. Князь великий Димитрий пришол вь суботу на Коломну, на память святого Моисея Мурина, августа. Тут же стрѣтили его многии воеводы з войсками на рецѣ Северской. Архиепископь з духовными и зь крестами стрѣтил в баштѣ [2] городовой и благословил великого князя и всѣхь з ним. Назавьтрее в недѣлю велѣл князь великий всѣм воеводам з войсками выѣхати и поле кь Девичю. И стало так великое войско на полях коломенскихь, аж очима зьглянути всего войска не можно было. И поставил великий князь над полками воевод. Себѣ в полкь принял князей Белоозерских. Правую руку себѣ учинил брата своего, князя Владимера Андрѣевича, дал ему Ярославских князей; а лѣвую руку себѣ учинил князя Глѣба Бранского. Передовым зась полк — Дмитрии Всеволож. Коломенского полку — Микула Василевич. Володимерский воевода — Юрьевский Тимофѣй Волуевичь. Костромский воевода — Иван Родионович Кувашия. Переяславский воевода — Андрѣевичь Серкизович. А у князя Владимера воеводы: Данило Велевут, Кононовичь Костянтинь, князь Федорь Елецкий, князь Юрьи Мещерский, князь Андрѣй Муромский.

## ГЛАВА 6

### *О посланью сторожов от князя Димитрия, о фрасунку Олга Резанского, и Олгерда Литовского для походу на войну князя Димитрия и о пристью Олгердовичов князей на помочь князю Димитрию*

Такь великий князь, спорядивши войско, казал перевозитися Оку реку и приказал всѣм крѣпко, жебы, идучи через землю Резанскую, ничого на волос не рушили. И сам, взявши благословение от архиепископа Коломенского, перевезся реку Оку. Оттоль пустил на трое сторожовь, жебы обачилися з татарскими

[1] развітаўшыся. [2] у вежы.

сторожами: Семена Мелика, Игнатия Крѣня, Фому Тину, Петра Юрьского, Карпа Алексина, Петра Чирикова и иных многих вѣдомцовь [1]. За ними и сам князь великий Дмитрий зь братом своим поспешал.

Послышавши Олегь, князь резанский, ижь великий князь Дмитрий московский з великими войсками идет против Мамая, почал боятися, из мѣстца на мѣсце переходити. Мыслиль послати до князя литовского Олгерда, лечь не могь, ижь дорога вся заступлена. Дивился отколь князю Дмитрею помочь и смѣлость повстати на Мамая и на нас двох князей. Сказали ему бояре его, ижь осмь дней уже, як мы слышали, же кулугер [2] именемь Сергий, вь отчинѣ его будучи прозорливый, вооружил его и дал ему на помочь двох калугеров своих. Рекл им Олегь: «Чему мнѣ давно не сказалисте? Пошол бымь к Мамаю, злочестивому царю, пупросил бым, жебы ничого не чинил злого. Бѣда мнѣ! Згубилем разум свой. И Олгердь, мудрѣйший от мене, не зрозумѣл пришлих [3] речей. Богь на нась обоихь поищеть нашей глупости. Великому князю боюся предатися, а до Мамая приставши, буду гонитель на вѣру православную и на братию, якь Светополка земля пожрет живаго. Молитва прозорливого Сергия князю Димитрию поможет. Так учиню: кому богь поможет, тому присягну».

Олгердь зась, зобрав литвы много, варягь и жмоди и пошол на помочь Мамаю. Пришовши Олгердь кь Одуеву, послышал, же великий князь Димитрий з великими войсками пошол на Мамая и тое, ижь Олегь, князь резанский, убоялся великого князя, стал, задержался у Одуева и рекл: «Ошукалемся, чюжого разуму слухаючи. Николи Литва не была учена князями резанскими. Тепер князь резанский Олегь и мене звюв з разуму и сам згинул. Тут тепер перебудмо, поколь почуемь звитязства князя московского».

В той же часъ сыны Олгердовы: Андрѣй, князь Полоцкий, и Димитрей, князь Бранский, будучи окрещены в православную вѣру през свою мачеху, княгиню Анну, за што отець ихь Олгердь поганин ненавидил, але богь любил, послышали, ижь великий фрасунок великому князю московскому и всему православному християнству от безбожного Мамая належить, и они фрасовалися. И послал князь Андрѣй кь брату своему меншему родному Дмитрию буквицу [4] малую, на которой тое было написано: «Вѣдаешь, брате, же нась откинул от себе отець нашь Олгердь для того, же принялисмо вѣру православную, але богъ нась приняль. Не жалуймо ж и до смерти подвизатися за вѣру святую. Пойдѣмо на помочь князю московскому Дмитрею и всему християнству против поганого царя Мамая».

Тое писмо прочитавши от брата своего, князь Дмитрий урадовался и з слезами рекл: «Дай нам, господи, доброе тебѣ угодное хотѣние совершити». Потом казал послу: «Мовте брату, ижь естемь готов з тобою ити з войском зколко маю». — Бо у них войска готовы были для дунайских татарь. — «Треба, — мовить, — нам ити на

---

[1] разведчыкаў. [2] манах. [3] будучых. [4] запіску, пасланне, грамату.

Сиверь кь Дону, где князь Дмитрий». И так утаѣмося тоею дорогою от отца».

Рыхло[1] теды обадва князи Олгердовичи, браты, пришли к Сѣверу и, знявшися, радосно привиталися, як Иосифь с Вениамином[2]. Оттоль з войском стройным зараз на Дон пришли, з которого ихь приходу великий князь Дмитрей Московский и зь братом своим, барзо радуючися, похвалил господа бога и, принявши ихь вдячне и чесно, великими ударовал дарами. И рекл имь: «Не для мене сте пришли ко мнѣ, але господь богь, любячи, послал вас к намь на помочь хрестиянству против поган, як Авраам Лоту[3], так вы нам. А через вась богь поможеть».

Зараз з тоею вестью послал великий князь к Москвѣ, к митрополиту, ознаймуючи, ижь Ольгердовичѣ, оставивши отца своего, пришли ему на помоч. З чого радуючися, митрополит зь слезами хвалил господа бога и приказал день и ноч за великого князя по церквах молити бога, набарзѣй[4] в Сергиевом манастырѣ. А княгиня Дмитриева Еудокия давала всякую милостиню, завше[5] до церкви ходила.

## ГЛАВА 7

*О взятю языка Мамаевого от сторожей князя Дмитрия, о радѣ его зь князями и ошукованю зь обоих сторон войск и о укреплении войск от князя Дмитрия и о молитвѣ его*

Затым великий князь пришол на мѣстъце, названное Березуй, за двѣ албо за три мили Дону, сентябрия пятого дня. Там прибѣгли два его сторожи — Петрь Готский и Карпь Алексин, и привели языка значного от сыновных царя Мамая. Той язык сказал, ижь царь на Кузминѣ есть, дожидается к себѣ князей: Олга Резанского и Алгерда Литовского, а твоего прихода и споткания не сподѣвается. Олгь писал к нему, иж за три дни матеть быти на Дону. Спытал его великий князь о силѣ Мамаевой. Отповѣдил язык, ижь никто его войска не переличить, барзо великое. Почал думати великий князь зь своим братом и зь князями литовскими: если перевозитись за Дон, чили тут стояти.

Отповѣдили Алгердовичи: «Сего дня кажѣмо войску перевозитися за Дон, то никто не погадает назад, а о великом войску поганском не фрасуймося. Богь не в силѣ человѣческой, але в правдѣ благоволить. Ярослав, перевезшися реку, звитяжил Святополка; и прадѣд твой Александерь Невский, перевезшися реку, короля немецкого звитяжил. Ты, бога призываючи на помоч, тое ж чини. Если и помрем, у бога заплату приимем, тым и войско свое подкрепляй. Не бойся. Витязей маешь много добрых».

Казал теды князь великий войском своим за Дон перевозитися. Тым часом почали вѣстники прибѣгати, ознаймуючи, ижь близко

---

[1] хутка. [2] біблейскія персанажы. [3] таксама біблейскія персанажы. [4] асабліва. [5] заўсёды.

уже бѣгають татаре. Тут же почали збиратися волки стадами, выючи безпристанно, галки и орьлы от устья Дону, кричачи и ждучи битвы, лисицы, брешучи, и иншии звѣри, на кров чигаючи [1] и на трупы.

Старѣйшии воины руские радовалися, неприятелей близко чюючи, а молодшии и иншии унывали, видячи пред очима смерть, которых укрепляли старѣйшии за смерть дочасную, вѣчный живот прекладаючи и венцы небесныи, о которых Сергий преподобный предрекл.

Шестой годины на день пришол Семен Мелик зь своею дружиною, за которым гнали татарове ажь до полковь руских, которыи их отогнали.

Обачивши татарове множество полковь руских оповѣдили царю Мамаю, ижь князи руские ополчившися стоять при Дону. Царь з гнѣвомь крикнул: «Так, моя сила! Если сих не побию, якь маю вернутися вь свою землю!?» И казал всему войску своему справитися.



Дзмітрый Данскі перад войскам.

Меликь зась сказал великому князю, иж на Гусин бродь перешли уже за единоч, заутра придуть на Прадву. А ты, великий княже, сегодня справь войско, жебы не поспешили поганцы. Зараз теды великий князь Дмитрий Иванович з братом своим, князем Владимером Андрѣевичомь, и зь князями литовскими: Андрѣемь и Дмитриемь Олъгердовичами, почали справовати и шиковати [2] през годин шесть. Особливе з Литовскоѣ земли Дмитрий Боброк, родом з земли Волынской, барзо нарядне своих ушиковал и порядне. Князь великий зь братом своим и зь Алгердовичами и з иншими князями, взывшовши на высокое мѣсто, обачиль всѣ хоругвы войска християнского и все войско ихь рядне вь зъброях и в прилбицах, от золота свѣ-

---

[1] пільнуючы, чакаючы. [2] рыхтаваць, строіць войскі ў баявы парадак.

тящихся, и порядне уішикованое на войну охочих рицаров, и богу молячихся о побѣдѣ на враги, удивился и урадовался. Также и князи литовскии почудилися и рекли: «Подобно тое войско царя македонского войску. Так великое, якь пред нами не бывало!»

И зсѣдши, великий князь пал на колѣнах пред образом Христовым, написанном на хорогвѣ чарной болшого полку, и помолился, мовячи: «Владыко господи, призри на нас, рабовь твоих, кровию твоею искупленых! Обрати лице твое на нечестивых варварь и даж нам на них побѣду молитвами пресвятой богородицы и руского светителя Петра!»

По молитвѣ всѣл на коня и з князями ѣздити почал по полкахь, кождому сам мовячи: «Братия моя милая, сынове хрестиянстии! Приспѣл часъ вашего подвига. Мужайтеся! Станте крѣпко на неприятеля, который уже на рецѣ Непрадвѣ близко! Господь силен, во брани господь заступник нашь, богь Ияковль! Уповайте на бога. Мирь вам его з нами заутра!»

Обачюся тое мовивши, отпустил брата своего Владимера уверхь по Дону в дубраву, жебы его полкь утаился. Дал ему годных рыцеровь своего двора и отпустил тежь з ним свѣдомого своего воеводу Димитрия Волынского. На ночь Рождества пресвятой богородицы, ночи тогды свѣтлый, и теплота была.

## ГЛАВА 8

*О примѣтах слышанных и о видѣнии явленном, з которых звитязство князю Димитрею пророковано над Мамаем, и о молитвѣ великого князя*

Димитрий Волынский взял самого толко великого князя. Выехал з ним в поле Куликово в ночи и рекл: «Спробую своей примѣты». И стал посредѣ обоих войск, руских и татарских, почал слухати на полк татарский обернувшися. Послышал стук велик, якь торгь, збираючися, албо город будуючися. Назадѣ их — волки, выючии грозно. По правой сторонѣ их — вороны, кричачии. И стался страх и крик великий пътатствь. Вороны, якь горы, летали против по рецѣ Непрадвѣ, а гуси и лебедѣ, крылми плещучи, незвычайную грозу позавали.

Рекл великий князь Волынцу: «Слышу, брате, великая гроза есть». Отповѣдил Волынець: «Призываюся, великий княже!»

Князь знову вернулся на полкь руский. «Што слышати?» — Спытал Волынець. «Што слышно? — Рекл князь. — Не слыхать ничого, толко видялем много зарей огненных, збираючихся». Рекль Волынець: «Огни — добрый знак. Призывай бога з вѣрою». И знову рекл: «Еще есть примѣта». И зсѣвши Волынец з коня, поникь на землю, приклонивь ухо правое и, долго лежавши, вьстал и поникь. Князь великий спытал его: «Што есть, брате?» Он не

хотѣл сказати, але примушен от князя сказал: «Едно есть тобѣ пожитечно [1], а другое скорбно. Слышалем землю, плачучюｃюся на двое: една сторона, якь нѣякая жона, плакала горко поганским голосомь сыновь своихь, а другая сторона, якь нѣякая панна, якь свирѣль, жалосно плачевным голосом. Зь тоеи примѣты я познаваю, ижь божиею силою и помочью святых мученик Бориса и Глѣба звитяжишь поганов, але будет многое падение войска християнского».

Услышавши тое, великий князь заплакал и рекль: «Нехай будуть звитязства господнии». Мовил Волынець: «Не кажи того никому, ни брату своему. Заутра кажи на конѣ сѣдати, милости бога и святых его и крестом — оружием непобѣдьмым огорожатися на противных».

Тоеи жь ночи нѣякий синглит, именемь Фома Кацѣй, поставлен сторожемь от великого князя на руначеру [2] Михайловѣ для мужества его, на крѣпкой сторожи от поган видел на высокости оболок, якь полки нѣякии от востоку, барзо от полуденной зась стороны пришли два младенцы свѣтлыи, маючи свѣчи и мечи острыи в руках, — которыи были мученики Борись и Глѣб, — и рекли полковником восточным поганским: «Кто вам казал потребляти нашу отчизну, которую нам господь даровал?» И почали их сѣчи младенцы мечами, и не един от них не избыл цѣлый. Назавтрее сказал тое видѣние самому князю. А князь заказал ему, жебы никому не повѣдал. Сам зась великий князь, поднесши руки и очи на небо, почал з плачем молитися: «Господи, молитвами святых мученикь Бориса и Глѣба, поможи мнѣ якь Моисею на Амалика, якь Ярославу на Святополка и якь прадѣду моему Александру не хвалящогося короля немецкого разорити его отчество! Поможи нам, християном, твоимь рабомь поганым, блюзнячих [3] тя!

Так помолившися поѣхал к полъком.

## ГЛАВА 9

*О поставлении от князя Дмитрия Михаила вмѣсто себе, о листѣ от святого Сергия, о охотѣ князевой на войну и о выеханю на герць [4] з татарином Пересвѣта чернца*

В празникь Рождества пресвятой богородицы, третей годины на день справившися, почали обои войска трубити на войну. Рускии трубы гримѣли, а татарскии якь онемѣли. Еще не зышлися з собою, бо мъгла была, а великий князь Димитрий, ѣздячи на своемь выборном конѣ, укреплял свое войско и мовиль зь слезами: «Не страшѣтеся, за святые церкви и за вѣру християнскую и за отчизну милую голов своихь класти не щадѣте!»

Так укрѣпивши, подѣхал под свою чорную короговь и, зьсѣв-

[1] карысна. [2] незразумелае слова. Магчыма, трэба чытаць: «на реку на Черу»? [3] зневажаючых. [4] паядынак.

ком зацном руском, а злаща перед тым довстипном, учоном народе языка своего славнаго занедбане а просто взъгарду, с которое за покаранем панским оная ясная их в слове божьем мудрость, а которая им была, праве, яко врожоная, гды от них отишла, на ее мѣстьце на тых мѣст такая оплаканая неумеетность пришла, же вжо некоторие и писмом се своим, а злаща в слове божем, встыдают!? А наостаток, што может быти жалоснейшая, што шкарадша [1], иж и тые, што се межи ними зовуть духовными и учители, смѣле мовлю, намней его не вмеют, намней его вырозуменя не знают, а ни се в нем цвичат, але и ани школы ку науце его нигде не мают, зачим в полские або в иные писма за такою неволею, немало и у себе и дети, не без встыду своего, бы се одно почули, немалаго заправуют?

Тут бых я им их же хоть одного, з мнозства личбы оных славян Иоанна або Григория, которых дле великое, не толко в своем, але теж и в розных езыках, науки и для вдячное их вымовы аж золатоустыми звали, бы были живы, рад их взял собе за причинцу до них в том, а наостаток за светка им тое речи. Естли б бо тепер были, заисте зуметь бы се мусели, видечи, яко окраса и оздоба народу их в потомстве их отнята а просто загинула; которим о як же бы потреба се стареть [2] о улитоване самих над собою. Гды бо бы, не рекучи в часы давние, посмотрели, яко то был зацный, славный, острий, довстипный [3] народ их в умеетности и яко многокрот посторонние учоные народы их мудрость мусели похвалять и овшем се от них учить.

Але бы хоть самое писмо свое, тетраевангелия [4] и апостола словенского, которое, могу мовить, перед тисечею лѣт от нѣкоторого з словян выложоно, а которое не одно в их, але и по всѣх церквах: сербских, московских, волоских [5], булъгарских, харвацких и иных чтут, уважали. Исте, хто бы хотел а умел тот выклад чести, обачил бы иж цѣлевал, а снать [6] и за собою оставил. Тот муж, наш милый словенин [7] латынских и иных толмачов яко властне слова з греческого выкладал, иж трудно зрузуметь, чи болшь греческий або словенский език умел.

И бы не было болшь, тогды и оттуль досыть знак немалый маем, як пред тым словяне, которым а што можеть быть природженшого одно не Русь, был люд довстипный, а естли бы пак [8] еще се короткости не фолкговало [9], а злаща бы были в читанью писмь своих оних беглийшими, то есть же бы се неплонно [10] им приводило.

Бы были, мовлю, што се там пишеть паметниками о их довстипе и остности, якие оны синоды з папою римским и з иными памети годные мевали, яко мнозства людей к вѣре з блудов выдвигали и яко в розмаитых езыках учоными были; к тому, яко живот свето-

---

[1] найбольш брыдкая. [2] старацца, турбавацца. [3] разумны, вучоны. [4] чатырохевангелія. [5] малдаўскіх. [6] значыць. [7] падразумяваецца Кірыл, вынаходца славянскай азбукі і перакладчык святога пісьма на славянскую мову. [8] аднак, зноў жа. [9] не уступалі, берaглі. [10] не дарма.

бливый вели, яко теж межи собою злых и фалшивых в вере братов знашали, лечили, направляли; яко зась учителей своих [1], водле науки слова божего, светобливым малженством от иных отделили, и их тым оздобеных всим народом и верам и понине ку прикладу, праве, яко свечу, чистостю малженства светячую были показали, — было бы што заисте[2] широце о них выписовать.

Але только один явный, ясный а вечное памети годный, приклад их припомню, а которий и без писма всим вѣдомый, значный а праве видомый есть. Яко они дле так великое светобливости своее мимо иных таким гойным [3] даром были от пана оздобени, же не рекучи мимо папу римского, але и мимо оных часов наученших народов в Либии, в Антиохии, в Пентаполии, Сыцылии, в Месопотамии, в Палестыне, в Финицыи и инде. Яко то и на око бы се усмотрѣти могло и у нам недалеких влохов, немцов, поляков, французов, ганкликов [4], гишпанов, а коротко мовечи, над всих на свете християнских народов, в слове божьем прозрѣвши, сами одни только того были доказали, же, подлуг науки апостольское, своим влосным езыком от так давного часу слово боже выложили, имели и нам зоставили. В чом иные вси народы их прикладом, ледве се аж за тых наших веков обачили и до того, и то не без малого забуреня и ображеня, пришли, же слово божее з латинских и иных писмь своим теж езыком прирожоным перекладати и читати почали.

Але дал бы то пан, иж бы вы, каждый от себе, о зацные панове, котори есте той речи якобы отцами по таких фалебных предках своих позастали и на мѣстьца их вступили, поневаж в том або жадное помочи люцкое дле греху нет, або только вы сами тому з милости ку отчизне вашой помочи бысте могли, гды ж простота человека бедного посполитого [5], на вас очи завжды удавала и удает и за вами идет.

В тую потребу отчизны вашое, в простоту грубую про недастаток науки братии вашое прикладом своим милосерным, если есть што милости братерское у вас, — гды ж межи всими люцкостями ничого не есть так власного, а злаща богобойному человеку, яко улитоване, которим указуем по собе неякое подобенство добротливости божее, а наконець, дле заплаты собе от пана вечное, — тому народу вашому, неумеетностью заведеному и утрапеному [6], допомагаючи, митрополита вашого, владык и учителей ваших до того прозбами вашими вели, же бы не подкупов, не посулов дле поседаня столиць один перед другим, не до животей и привильев, один над другого обварованейших [7], але слова божего сами се учили и других з маетностей и именей от ваших предков им не на марнотрацства, не на строй и што такого, але дле наук наданых. Ова [8] бы ку науце, — леч не такой, яко тепер на вѣчный свой встыд только прочести и то ледво в своем езыку на болшь учатсе, — школы заложити и науку слова божего, от так много лѣт занедбаную, выдвигнути

---

[1] маюцца на ўвазе Кірыл і Мяфодзій. [2] сапраўды. [3] шчодрым. [4] англічан. [5] простага. [6] забітаму, прыгнечанаму. [7] больш замацованых. [8] вось.

братьи вашой хотели и усиловали. Которих я не одному которому, але всим и з с тою потребою отчизны вашое богопойной пилности, ростропности и верности поручаю и зоставую, просечи пана, абых был готов, если она до конца згинет, з нею згинуть, або, если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть.

А тут вжо конець речи моей чиню [1], которую замыкаючи, и то в жалости моей мовлю, если на тот час за нашю невдячность милосердья бы божего не было, тую казнь от нас отдалити. Злаща тепер наокол видим, иж везде вси рѣчи злыми розсудками так суть попсованы, иж не можеть быть ничого такь добре поведено, на што бы потвар [2] не могла быть учинена, а ни теж жадин [3] от того, чого се раз хватить отступить не хочет, абы се не здал в чом поблудит. Еще теж ижь посполите бываеть, же живого человека в дарех, а злаща своего або собе знаемаго, люди скромне и без образы зносить не могуть. Прото абых и при правдивой повести зостал и злого мниманя ушол, не мовлю всих, але таких ни усилною прозбою, ни плонным забеганем, а ни лагодными и прибавляючими доводы спирати хочу, але учинивши повинности своей досыть, мусим до маестату [4] божего отозватьсе, перед которим вси стати мусим.

А в том ничого не вонтьпим [5], же оный справедливый судья речь нашю пофалить, хотя ее так неприятели взгаржають и выкидають.

А тепер побожного читольника дле Христа просим, естли мнимает [6] в нас быть што выступного [7] або з стороны науки, або з стороны нас, абы того не приписовал нашой злости, але люцкой кревкости а не умеетности, а иж бы дле Христа отпустил. А естли ж тая рѣчь есть не мала, в которой нам вину даеть, нехай нас не соромотит, але нас нехай в том християнске напоминаеть, бо естосмы готови и зь Иоаном Крестителем здробнети, абы пан Христос рос.

Наостаток, всих побожных дле Христа просим, абы жадное васни [8] не мели против тым, которие нас щипанемь, ожиганем преследують, або иж бы и зь Ияковом або Иоаном не жадали спущеня огня з неба дле забореня господы и месца у них слову божему и овшем водле науки Христовое. Нехай им всего добра зычать, а з нами нехай за них пана бога просят, абы се упамятали а збавени были, и иж бы сами собе не зазрели так великое ласки божее зь их же имь достойностью и зацностью зачинаючое. Аминь.

---

[1] У рукапісе на л. 270 ёсць прыпіска: «Перед тисечею лѣт з геврейского ветхий, а з греческого новый завет, то есть всю библею, што ж иных або толковых писм, их предки выложили и в своих церквах власным єзыком своим и понине оставили, а они тепер не толко в геврейских, в греческих, але и в словенском своем умеетность стратили». [2] ганьба. [3] ніякі. [4] трону. [5] сумнявацца. [6] думае, мяркуе. [7] адхіленага. [8] варожасці.

# БАРКАЛАБАЎСКІ ЛЕТАПІС

У другой палавіне XVI ст., побач з традыцыйнымі літаратурнымі жанрамі, у беларускай літаратуры ўзнікае новы жанр — мастацка-гістарычныя запіскі, або мемуары. Сваімі знешнімі рысамі гэты жанр нагадваў шматлікую і шырока распаўсюджаную ў свой час, а цяпер паступова адыходзячую ў мінулае, летапісную літаратуру.

Як і ў летапісах, у мемуарах строга захоўваўся храналагічны парадак перадачы тых або іншых звестак, хваляваўшых аўтара, многа ўвагі ўдзялялася апісанню стану надвор'я, не заставаліся па-за ўвагай аўтара і значныя грамадска-палітычныя падзеі яго часу. Але круг гістарычных падзей у мемуарах значна вузейшы, чым у летапісах. Аб'ектам адлюстравання ў мемуарах у большасці выпадкаў з'яўляюцца толькі тыя падзеі, якія непасрэдна звязаны з асобай аўтара. Аўтар тут выступае сам у ролі расказчыка аб бачным і перажытым, пагэтаму эмацыянальная насычанасць мемуараў звычайна большая, чым у традыцыйнай летапіснай літаратуры.

З мемуарнай спадчыны Беларусі XVI ст. да нас дайшлі «Запіскі жыхара сяльца Баркалабава» (Баркалабаўскі летапіс) і «Дзённік» Фёдара Еўлашэўскага.

Баркалабаўскі летапіс ахоплівае час з 1563 да 1608 гг. У параўнанні з «Дзённікам» Еўлашэўскага ён дае больш звестак грамадска-палітычнага жыцця сваёй эпохі. Але ў апісанні грамадска-палітычных падзей аўтар летапісу не заўсёды бывае дакладны. Ён часта блытае даты падзей, імёны цароў, епіскапаў і да т. п. Гэта дае падставу меркаваць, што аўтар летапісу быў міранінам, чалавекам, які блізка стаяў да земляробчай працы і быў далёкі ад разумення гістарычных падзей свайго часу.

Аўтар Баркалабаўскага летапісу да гэтага часу не высветлен. Спробы ж некаторых даследчыкаў прыпісаць аўтарства летапісу Аляксею Мсціслаўцу або Фёдару Магілеўцу не маюць пад сабою дастатковых і бясспрэчных падстаў.

Арыгінал Баркалабаўскага летапісу зараз захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве (фонд Сінадальнай бібліятэкі № 790).

Урыўкі з Баркалабаўскага летапісу друкуюцца ў хрэстаматыі па выданню М. В. Доўнар-Запольскага (гл. Университетские известия, № 12, Киев, 1898. Прибавление, стр. 1—38).

*Могилев*

За господаря кроля Жикгимонта [1], за митрополита Иону, за владыку полоцкого пана Хребтовича, за держанем пана Стафия Воловича, за старосту его пана Баркулаба Корсака, а пан Иван Чорный был городничим, место Могилев засели люди прихожие на Леткове, к Печерску идучи, то вотчичи — Сухоч, Бутак Андросович, около места прихожие люди селяне с Княжич, з Головчина, з сел многих; которые сели за Дубровною, то буйничане и голынчане селяне, также и з Радивонкович. Бо первей было село Радивонковичи, а потом Буйничи — старые села давние; а которые сели на слободе на Гривце, на берегу около Кощоваго, коло Десятиныя, продки их з Смоленска пришлые смоляне, то ест Гаврило Дристун, Иван Беляй, Максим и иных много, также Овтушко Богатый, — тые вси з Смоленска пришли. Лета 1526 болший замок зароблен и принято много горы Могилы, на который теперя замок Могилев стоит по на горце Могиле, назван Могилев. Почавши от Днепра, идучи подле Дубровны аж и за Печерское не гетой стороне кгрунты, то все Буйницкое было, а Буйничи село княженье можное [2] держало: князь Крошинский, князь Мосалский, пан Бакулаб, пан Солтан, пан Филон и иных панов много...

*Барколабов*

По взяти Полоцком за господаря короля Августа, за митрополита Девочку, за владыку полоцкаго Варсанофия Волоха, за ласкою господаря кроля, за великие и почстивые послуги, за силное горловане [3], за нелютование здоровя, и нежалование маетности [4] у справе рыцерской военной его милости пана Буркулаба Ивановича Корсака, ротмистра и старосту дисенского, на лесе глухом, на грунте лесном, на врочищу, прозываемом Брус, закликавши на волю и давши слободы год дванадцать людем прихожим за волею божиею и за благословенством людей духовных заложил замок именем своим Баркулабов року 1564.

Такъже соорудил храм святаго духа а другий престол рожство господа нашего Иисуса Христа и посветил его року 1568. За владыку Варсонофия, за митрополита Иону, року 1568, за кроля Августа [5], за пана Баркулаба и за врядника его Раковскаго села Вендорож, Куты, Ловечы, Будища людми прихожими засадили, а потом в том же Вендорожи року 1586 во великий пост церков святого Покрова сооружена и попу вендорожскому его милость князь Богдан Соломерецкий тую церков отдал, бо тая была первей парафея баркулабовская, парафея отца Алексея Гавриловича Мстиславца, отца Феодора Филиповича Могилевца...

---

[1] маецца на ўвазе польскі кароль Сігізмунд I Стары (1506—1548). [2] моцнае, уплывовае. [3] храбрасць. [4] маёмасць. [5] Сігізмунд II Аўгуст (1528—1572).

Року 1576 наехал, албо взято Стефана Батуру [1], княжа Семикгродское, на кролевство Полское. Тот господарь король Стефан Батура, княжа Семикгродское, праве был человѣк побожный, рыцерский, военный, щасливый, правдивый, правый. Того ж року корону принял, а Гендрик [2] король с кролевства полского утек до своее земли.

На початку от него новый календарь украдоватися почал; прето немного лет и на свете мешкал [3].

Пан Баркулаб Иванович Корсак, староста дисенский и ротмистр кролевский, войт дисенский, рыцер и военник добрый, славный, замок Дисну, замок Вороничи, замок Леплю, замок Чашники—тые вси замки по взятию Полоцком веспол [4] с паном Романом Ходкевичом сами и з своим людом позакладали [5] и места поосажали людми добрыми. А потом року 1576 месеца августа 20 дня в понеделок у вечере дву годин в ночи пан Баркулаб переставился [6] на старостве Дисенском в замку Дисенке, а погребено честно [7] тело его у месте Виленском у церкви святыя богородицы...

### *Москва Могилев выжгла в Петров пост*

Року 1580, господарь король Стефан был под Псковом и взял город Псков [8], а Москва, то ест Серебреный, з немалым войском, место славное Могилев выжог; там же у краи Шклов, Копысу, села велми выпустошили такъже и около Могилева. На Орши и до Радомли, Мстиславля тых замков не подходила ани рушила; а в Боркулабове князь Чарторийский Иван [9] з войском своим на тот час был, так теж и Темрюк со тристами войска татарского при нем был у Баркулабове, на тот час и сторожу у Новоселках московскую поймали; а потом Темрюк и князь Чарторийский князь Иван, взявши ведомость певную от сторожи московское, которую поймали у Новоселках, то ест на имя Ивана, и князь Иван Чарторийский зехал от Шупень, дорогою великою шкловскою до Могилева тягнул, а Москва под местом Могилевом места жгут, а Темрюк з Баркулабова дорогою могилевскою на Задубровеня до замку Могилева з войском притягнул, а войско литовское у Шклове стояло. Тепер же от Могилева почали отпирати с трех сторон: Чарторийский от Шупень, Темрюк з Баркулабова, войско литовское з Копыси, из Шклова, Москву от Могилева отперли, побили, отогнали. Страшно было трупу московского гледѣти, реку Днепр силным трупом язовища [10] загородили, иж колко не-

---

[1] Стафан Баторый, польскі кароль (1576—1586). [2] Генрых Валуа быў каралём у Польшчы пасля Сігізмунда II Аўгуста два гады, потым тайна пакінуў польскі выбарны трон і вярнуўся на радзіму ў Францыю, дзе стаў французскім каралём. [3] жыў. [4] супольна, сумесна. [5] заснавалі. [6] памёр. [7] з пашанай. [8] Звестка аўтара не адпавядае сапраўднасці. Акружэнне г. Пскова Баторыем адбылося ў 1581 г. і поспеху не мела. [9] зяць Баркулаба Корсака, жанаты на яго дачцы Еве. [10] рыбалоўная застава на рацэ або сажалцы.

дель днепровое рыбы не ядали и воды не пивали, для великого гнюсу трупу московского.

Року 1579, пан Андрей Гудовский, урядник баркулабовский, собравши войско немалое пешаго и конного люду триста с паном Филоном и з его милостью князем Богданом Соломерецким, старостою кричевским, а надо всими тыми войсками люду учтивого [1] яко шесть тисечей пан Андрей Гудовский гетманом был; под Смоленском и Рославлем так места выжгли волости, села попустошили; под замком Смоленским моцно и охотне штурм мели, толко не дал им господь бог его достати, албо выняти [2]; з ласки божое з добычею великою до домов своих здоровы з доброю славою приехали...

Року 1583, месеца септеврия [3] 8 дня, его милость князь Богдан Соломерецкий, староста кричевский и луцкий, приехавши з войска з службы з двору его к(о)р(олевской) милости с под Пскова, по взятию, панну Евву Баркулабовну, старостянку дисенскую, у стан малженский [4] за себе взял, а веселе было у месте Виленском...

Того ж року 83, праве о светом Петре, албо на самый день Петра и Павла [5] святого у Головчине робили, пруд сыпалы. Якобы о полудни у месте Головчине у брони остроговой силный и великий гром забил 12 человек, а трех человек не знашли, не ведет где ся подели, если вода занесла, албо песок засыпал.

Того ж року многа множества страшных и великих чудес господь бог оказати рачил: [6] перуны и грады великия, сухость, морозы маль не через все лето были у Литве. От великого морозу на поли у колосьи жито посхло, многия домы панов зацных от перунов великих погорели, зиме з морозов и метелицы по дорогам многое множество людей убогих, также и купецких померло. А лете великий жар был: жито, яри, трава, также ярины огородныя все погорело у Литве, а звлаща [7] около Менска, около Вилни, люди убогия з хлеба на Русь давалися — молодцы [8], жонки, девки, много на Русь и на Украину понаходило...

Року 1586 веснѣ у великий пост пан Михайло Гарабурда послом на Москву ходил. Оттоль вывез примиря [9] на год двадцать, а мешкал на Москве аж до семое суботы, а приехавши у Литве умер.

Того ж року на святаго Юря мороз а снег у колена выпал. Тогды на Фоминой недели люди овсы, ячмени сеяли, а пред се был урожай добрый. Того ж року пан любенский и пан троцкий умер, а пану Лву Сапезе волость пана Любелскаго досталася.

Року 1583 календар новый выдан за кроля Стефана, за митрополита Девочку, за владыку полоцкого Терлецкого ляха, бо перед тым был ротмистром, и век свой зжил. На тот же час было великое замешание промежи панами и промеж людми духовными, также и людми простыми было плачу великого, нареканя силнаго,

---

[1] шаноўнага. [2] узяць, захапіць, вызваліць. [3] верасня. [4] шлюбны. [5] Гэты дзень царкоўнага календара прыпадае на 12 ліпеня. [6] пажадаў. [7] асабліва. [8] хлопцы. [9] перамір'я.

похвалки[1], посварки, забуйства, грабежи, заклинания, видячи яко новые свята установляли, празники отменяли, купцом торги албо ярмарки поотменяли, — праве было начало пристья антихристова, у таком великом замешанью. Того ж часу почали у во Лвове, у месте Виленском, у Берестю школы науку выдавати, братерство якоесь установляти и тым закон и веру утвержати, за патриархи не кажут бога просити, ани его успоминати, толко за папежа[2]; тепер же почали сеймы — соборы чинити и до них изежчатися...

Року 1586, месеца декабря 4 дня часа 9 о полудни, великий король полский Стефан Батура, княжа Семикгродское, переставился, а поховано у Кракове.

Року божого нарож (еня) 1586 взято на кролевство Полское кролем королевича швецкаго.

Року 1587, зима была велми снежная, морозы силные, метелицы великие, так же и весна велми неуставична[3] была: редкий день минул без снегу, аж до святого Юръя, а Юрей святый был 2 недели по святе; а потом на четвертой недели по святе в ночи были немилостивые страхи: великие дожды кгвалтовные домы подрывали, верхи позносили, яко через всю тую ноч не засыпали люде, по полям у пастухов статки градом побило, а в лесе деревем, у князя Головчинского много стирт з житом перун пожог, по селам статки мало не вси побив град по полям...

Року божого нарожения 1587 месяца июня 7 дня послы шли московские до Варшавы кроля обирати на кролевство полское по смерти кроля Стефана: боярин и наместник коломенский, велико перимъский Стефан Василевич Годунов, боярин и наместник коломенский Феодор Михайлович Троекуров, ярославский печатник и ближний дияк господарский Василей Яковлевич Щолканов, думный дияк Дружина Панътелеев Петелин. На том же сейму варшавском ничого доброго не усеймовали, бо межи панами была великая незгода: поляки вотовали[4] на Максимилиана, цесаря християнского, Литва вотовала на князя московского, кролевая вотовала на кролевича швецкого, и затым розехалися, не постановивши ничого доброго. На том же зьезде было немилостивые посварки и забойства, выличили на том сейме невинне забитых сем сот голов. Были теж на том сейму з многих и далеких земль, то есть от царя турецкого, от князя московского Ивана Василевича, от Максимилияна, цесаря християнского, от кроля швецкого; всих тых было з розных украин послов двадцать. Конвакация[5] септебря 20 дня: пана Кишку послали послы по кролевича швецкого Жикгимонта Третего, с которым кролевая сама послала двору своего выбраного люду коней пятсот.

Року божого нарож. 1588 взято на кролевство Полское кролевича швецкаго Жикгимонта Третего, а короновано у Кракове на вознесение Христово. Того ж часу и тело кроля Стефана поховано.

---

[1] пагрозы. [2] па́пу рымскага. [3] няўстойлiвая. [4] падавалi голас. [5] сейм для прызначэння караля.

Прето што ся почнет не з благословенства божого и старших панов господарей наших, а за призволеньем белых голов, не много господь бог помогает и грады множит, албо покой дарует. Тепер же за держаня кроля пана нашего Жикгимонта Третего явилася промеж панами великая немилость, показалося отщепенство и великое гонение у святой вере на церкви Христовы, а наболей на веру кафолическую [1], на веру християнскую; оставивши голову Христа спасителя нашего, показуют и становят на то местце старшим головою Петра и насветшаго папежа. Были войны розные великие Зыкшмилем (з Мокголем) Волоским, з кролем шведским, з козаками запорозскими, праве, згола [2] якобы мало не пуста земля была. Так же у збожью неурожай, голоды великие, дорогов силная, поветрие [3], моры, лета непогодныя незрожайныя, праве на все недобро и неспоро было стало...

Того ж року 88, у месте Виленском там у тых краях, так же у Киеве и на многих странах великий мор был. Того ж року 88, от семое суботы аж до Рожства Христова велми великая была непогода и неуставичность: в лете дожду не было, а у восень снегу не было, толко вѣтры а дожды, у восень о святом Покрове велми поводок великий был, аж под лугом пошла, праве яко на весне велика была, а до Рожства Христова у Днепре вода прибывала, из берегов выливалася.

Року того ж 88, месяца генвара 18, после святого Афанасия на третий день дожды великие были, аж снег согнало, праве было яко на веснѣ: пастухи на бор с статками погналися на паству, а потом за недель три знову зима лютая...

Року 1590, были козаки запорозкие Матюша с полком, Голый с полком, у Могилеве аж до Минска приставъство по волостях брали, а кривды шкоды не чинилы, толко жонок охочих, тых намовляли и заклинали, абы з ними на низ ишли, и взяли з собою жонок и девок, яко двести поголов...

Того ж року 92, сталося великое и немилостивое замешане у вере от римлян на святую веру восточную греческую; почали соборы помесные чинити, то ест у месте Виленском братство навчоных людей до себе на поратунок прибавили з места Лвовского Григория Раготинца, Стефана Зизания. Тые силную и великую войну з рымляны мевали, не толко на ратушах и при рынку, по дорогах, но и посредку церкви святое войну, потарчку [4] великую мевали, яко ж им господь бог против их упоров великих измышленных уставов и законов николи не помог и не поможет. Тепер же почали от господаря кроля до архиепископов с прозбами и грозбами листы фалшивые писати и посылати по всих градех.

Року 1590, месеца июня 29, у Берестю Литовском на рождество Иоанна Предтечи был собор, за митрополита Рагозу, а за владыку полоцкаго Терлецкаго, нижли [5] на том зьезде ничого доброго не вчинили, на который собор и его милость князь Богдан, староста

---

[1] праваслаўную. [2] зусім, цалкам. [3] эпідэмія. [4] палеміку. [5] але.

кричевский и олучицкий, посылал попа своего баркулабовскаго Федора Филиповича...

На день святого Иоанна рожства [1], в понеделок, вбежал отец митрополит в место Берестко. Службы тогды при нем было архимандритов, то ест именем з монастыра Супресля, на имя отец Исаия Великая Борода, з Бытенино монастыря пана Тризны игумен Паисей, диякон Игнатей, а архидиякон Калист, архимандрит лаврешовский Гедион Бролиницкий, архимандрит городненский, архидиякон Осаф, господина митрополита дворный Григорей Иванович, протопопа Нестер з Городна, иных много множство — архимандритов, игуменов, протопопов, попов. Того же дня было читано козане от владыки володимерского Патея о ржествѣ Иоанове душеполезно. По казаню зошлися. Того дня митрополит был на обеде во отца Патея. Во второк службы божии не было, толко поведал казане тое ж владыко володимерский Патей о пастырех: аз есм пастыр добрый, душу свою полагая за овца, — видит волка грядуще и прочие. Того ж дня владыко луцкий приехал со братие своею.

Того ж дня на том же козаню, коли пытал владыка володимерский туж всех стоящих во церкви, мовячи: «ели добре ест читано, албо зле?» Весь собор рек: «добре». Тут же стоячи подле, слово рек владыце володимерскому на оча некто Валериян Палисвет, иж дей, отче владыко, ты читаеш зле, то ест противу себе читаеш. В тот час и того ж дня было во церкви великое забурене и замешане, аж Полисвета тако вон с церкви вивести. Того же дня по обеде козали Велирияна поставити сред монастыра пред собою вес собор и пытали его тыми словы: «Што ты за потребу мел мовити до мене во церкви? Мов ты со мною тепер очивисто [2] пред всеми». Тогды Валериян, принявши благословенство от всего збору, рек: «Ото чесный светый архиепископе и твоя светыне, нас добре учиш, а сам зле чиниш, малых робят неразумных у попы ставиш, а от них по осми коп [3] береш». В тот час был посред монастыря великое замешане и посварак, аж Валерияна, бивши и мардовавши [4], во багаделню в ланцуг казали посадити.

Во среду скоро по взатрени козали звонити на збор. Собравшимся светым отцем во церков, напервей отчинили царские врата, запалили свечи, поставили налой на онбоне, положили евангелие разгорненое. Митрополит сел на особливом месте, владыки на особно, архимандрити на особливом месте, также архидияконы, протопопы, игумены, священницы, братства на особливом месте, также панове, бо их мало было. Слышали, иж римляне [5] будут. Напервей рекли: «Амин». Потом рек архидиякон велегласно [6]: «Встанте, встанте, встанте! падши ниц, молитву, молитву мовити о пришествию святого духа на собор сей и на люди сия»! По сем пытали

---

[1] З гэтага абзаца пачынаецца дадатак да апісання Брэсцкага сабора 1590 г. які ў рукапісу знаходзіцца на лл. 14 об. — 16 об. і прадстаўляе сабой устаўку да адпаведнага месца. [2] асабіста відавочна. [3] капа азначала лік 60. [4] мучыўшы, катаваўшы. [5] прадстаўнікі каталіцкага веравызнання. [6] гучна.

владыки всех, мовячи, на што ся тут собрали, албо зъехалися. Тут если бы были иноверцы, тут же бы почали о вере гадатися[1]. По опыте онем[2], иж се не было с ким годатися, туж показывали кривды свои, кому от кого деетьсе. Потом подавали листы и жалобы братства на владыку лвовского Болобана. Потом, тут же во церкви стоячи, дал жалобу отец владыка володимерский Ипатей на владыку лвовского Болобана, иж дей позвов от митрополита посланых не принял и попа посланнаго до него казал збившы втопити. По сем лъвовяне и Виленскѡ братство право свое братское туж покладали, яко они братство моцне мают и где школы братские мают мети. Потом листы от многих панов до митрополита и до всех владык писаных подавали, так жалобных. Потом был вечер, хлеба ести разошлися.

Во четверток тую справу справовали: которые листы на кого показывали, на который бы мели вырок[3] отдати и их проклятию поручити.

В пяток вырок выдали, иж маем в недѣлю прокляти владыку лвовского, также архимандрита и попов его. Того ж дня подан был лист от арцибискупа Станислава з Незна, абы мы сами тако ж и вы соборов жадных[4] не чинили без битности его корол. милости. В тот час было забуреня и плач всем великий.

В суботу постановлене творили — церковное правило, яко се мают справовати во церквах, и со крестами за Муховец реку до монастыря вси отцы ходили, там же было дивно зрети.

В недѣлю по службе божей было выволане и проклинане владыки илвовского, также и архимандрита его, што страшно слышати и жалосно велми то поведати, яко се там деяло. Тут же седячи отец Михайла митрополит[5] показовал лист писаный от велможнаго княжати Соломерецкого через посланце его.

В понеделок духовное право было з великим жалем, иж маят ехати вес собор до его королевской милости о всех справах.

Второк розехалися з Берестя; митрополит ехал до монастыра Супресля...[6]

## *Был сенод у Берестю рок 1596 месеца октоврия 16*

Так се деяло на день зьезду зложоно октобра по-старому, а 16 по-новому. Сходилися духовенства и рыцерства послы и панове засесть и духовенъства до господы княжати его милости воеводы киевского[7] до каменицы пана Роского, отколь посылали до митрополита двох особ от духовных, а двох с кола рыцерского, ознаймуючы, иж се зьехали на сенод, абы ознаймил местце, на которое бы ся сходили з ними для намов, тому часови належачих. Он отказал, иж еще не намовилися о местцу, але до заутрешнего

[1] размаўляць. [2] гэтым. [3] прысуд, прыгавор, пастанова. [4] ніякіх. [5] Міхаіл Рагоза. [6] На гэтым канчаецца ўстаўка. [7] князя Канстанціна Астрожскага.

дня четверга 7 октобра отложил. И прибита была карта [1] от него в церкви соборъной мурованой, там местце схоженю ознаймуючи. В том часе мел быти ему дан позов духовный от отца Никифора, ексарха [2], посланого на то от Гаврилия, патриархи Костентинопольского, абы перед ним становился назаутрее для усправедливеня в таковых выступках, в чом будучи от кого-с перестережоный, митрополит и владыка крылися у господе ксендза бискупа луцкого. Того дня не рано у середу прибыл до Берестя его милость пан воевода троцкий [3], и зараз был у его милости княжати воеводы киевского, который повѣдил, иже ест послове от его королевской милости на тот сенод з его милостю паном канцлером и паном подскарбим, которых же немаш, абы се тым его милость не ображал. Тую обмову его милость кгды княжа в коле поведил, тым вси были ображени людским повоженьем, же их милост знати не дают и не давали и стерегли уплыненье ся часу сыноду. Сынод зачали того дня. На самым року маршалка обрали духовные, также поселств с килку поветов слухали. У четверг заседали княжа воевода киевский и з сыном княжатем, воеводою волынским, велми рано на свитанью до его милости пана воеводы троцкого, а были там годин зекгаровых [4] болш пяти под полудень. В тим приехал пан канцлер с подскарбим и шли просто до воеводы троцкого, где и князя застали и знову толко ж час немалый сами стравили. От себе слали послов до митрополита шесть особ с кола рыцерского, 6 особ духовных, 6 послов з места, давши до него мовене, и на писме доложивши в нем, абы часу не зволочил, а з ними зышолъся и намовил. Кгды ж тот зьезд толко народу рускому зложон, дознавши его быть, и тых владыков [5] отщепенцами оных за пастыров не мети, а иных обрать, а их зложить старатисе будуть, если о собе справы певное не дадуть публице, если при старой вере и благословенстве патриарха стоять.

Тых послов поткало княжа, — вжо ехали до митрополита [6]. Тые послы митрополита зостали вже в панов сенаторов менованых. Которому кгды так поселство веселое прочитали, просили о цедулу [7] тую; одно ей им не дано. Тые вси пришли от митрополита без отказу, обецуючи своих послать, яко зараз и прислали пана Прецвица, кашталяна [8] каменецкаго, пана Шуйского, третего каменецкого инстикгатора [9]. Тые до княжати его милости широкими словы реч учынили о том поселстве, иж то з господы вашей милости ровне яко отповедь, обо декрет яким был послан до митрополита, ображаючисе тым о то, иж им того там писма не зоставили: кгды ж они головного по того зьезде местце его кр (олевской) милости поведаючисе быть конклюзыи [10] одной, одное справы без их милости

---

[1] аб'ява. [2] намеснік, упаўнаважаны. [3] князь Мікалай Радзівіл. [4] гадзіннікавых. [5] Кірыла Тарлецкага, Іпація Пацея, Ляонція Пелчыцкага, Дзіанісія Збаражскага. Гермагена. [6] Міхаіла Рагозы. [7] маецца на ўвазе пісьмо епіскапаў да караля, у якім яны давалі сваю згоду на унію з каталіцкай царквой. [8] службовая асоба высокага рангу, накшталт губернатара. [9] пракуратар. [10] заключэнне, патрабаванне боку ў судовым працэсе.

быти не могла. Княжа учинил обмову, иж там был у их милости, однак држачи то от их милости всих, же што колвек чинили, то бачне чиним и при них стоить и стояти будет; потом розвелися троха з речу до плачу, же се то они ничым ображають: «Мы вси маем ся тым ображати от тых здрайцов наших, которые то навариили и от тых, хто им того помогаеть, вжды терпливе зносячи явную кривду, на бога помсту и оборону положив». Потом поведил пан Гулевич, человек досыть добре годный, маршалок обраный, иж не княжа его милость, але мы вси послали, а княжа его милость ест яко одна персона. Если их милость и оные послы поведили, же-х мы не до вас посланы, але до их милостей княжат, и до новокрещенцов и евангеликов, не мем жадное справы. На тот час где они будут, там ничого слушного постановлено быти не может. Он теж поведал: «я теж вас не прошу, абысте який отказ чинили от мене». Княжа теж оповедаючисе вобец[1], же ничого без них в той справе чинити и мовить без их милости не хочет. Потом по малой хвиле прислали их милость, же сами хочут быти у княжати.

И приехал пан воевода троцкий, пан канцлер, пан падканцлерий и ишли на упокой до княжати. По годинѣ мають быть у княжати, прислал до кола, иж хочут их милость быти у вашей милости, а то вже было смеркшисе; чекали на них килка годин. В том образившысе тым вси, иж так долго на них чекают, кгды ж не вем, о чом намовы сами з собою чинят: зде идет о всих нас и сумненя нашого. Прирекши у пятницу о 14 године зьехатисе и речи зачатыи кончити и разъехалисе, а гурмом з нареканьем. И то могли сенаторове слышать добре, бо были окна на улицу, а гук немалый теж был людей.

На завтрее в пятницу по мене прислав пан подскарбий и иных собрав до себе, там же напоминал: а што ведать, якую с того потеху, обецуючы на потомные часы, ведучи до згоды; чого а николи в нас не мог зеднати з отказу, же мы не хочем быти таковыми, яко там тые отщепенцы. Он мне отказал: ваша милость не смееш пана воеводы смоленского. И на том заплатил[2], жем не от его милости приехал, але сам от себе.

Потом ехалисмы до кола до братии. Там же была инструкция поселств, читаных зо всих земль и поветов, земли Волынское, с Подоля, с Подгоря, з Руси, из Литвы, зе Лвова, с Киева, с Премышля, с Пинска, же много их плачом были порушони, у послов самых привилев браты их; указовано, колко постановеных порядков патриарха костентинополского, а по тым часе от королей их милостей конфѣрмованых[3] доводов. За се на писме, што ведять, як много указалосе на митрополита, як писал до людей листов зашитых и отвористых, упевняючи их, иж не ведает, ани мыслит о том отщепенстве. За тым реченье мовены были, не быти им послушным,

---

[1] разам, сумесна, наогул. [2] адказаў. [3] довады, якія абапіраюцца на догматы царквы.

от духовных. Теж декрет на писме был наготован, коли пан каменецкий и з ним княжа воевода волынский от панов послов его крол. милости, абы с кола рыцерского было высажено депутатов чтыри, а з духовных чтыри. Также много они своих не ведаючы, иж до добрых речей хочут се зносит, до чого далися намовити, еднак не инде и на иншом месте, одно там же, где смы заседали; в другой избе варовавши [1] собе тож, абы их депутаты в жадную се реч без ведомости всего кола не вдавалися; але поданые, от них слышавши, до кола принесли. Там панове сенаторове дали невинне нашим латине. А потом скоро казанье вчынил на две годиле княжа. Наши килку посланцов слали, зовучы своих до себе, что обачивши сенаторове казали му кончити.

И пришли наши. То ж што-с мы розумели, принесли нам, иж хочут згоды, абы папежа головою признати, календарь приняти. На то собе не дали наши реч ани слова, отказали до них через пана Древинского и пана писара володимерского, иж на то зезволити не могут з многих причин на тот час, аж не всим порадком тако верячы и неслушным поступком зачалися о направы в речах духовных, с так малою частю людей духовных ничого становити не могут; але папеж нехай с патриархами о том намовит, або порозумене вчынившы сенод зложат и о том становят, а мы без старших своих духовных о том и мыслити не хочем. Тыи принесли орацыи [2] до них, жалосно учинено, упорными зовучы. За тым декрет от того наместника патриархового оферован. В том ноч зашла.

В суботу скоро смы се зешли до кола, декрет патриаршый и проклятство на митрополита и владыки было по-руску чытано, переложено з кгрецкого, барзо словы пиенкными [3] и досыт жалосными. В том пан канцлер литовский [4] прислав до мещан виленских, зовучи их до себе, которые пойти не хотели до их згоды. Тот же им отповедал, иж того з жалем и со клопотом уживете, — што они светчили в коле. Пан маршалок теж наш усказал до пана канцлера, иж есте, панове Литва, стратили, — тым преводим не мало панства до Полски. В том зараз от пана канцлера и от пана подскарбего пришли до княжати воеводы киевского инъстикгатор каменский с килку слуг их, припоручаючы у тридесяти тысечей золотых оного екзарха, посла патриаршеского, зовучы его шпекгом з Белгорода и до того Стефана и попов зовучы их выволанцами [5]. На што княжа им отказал, иж не толко ве тридесяти тисечей золотых, але и в килку кроть сто тысечей приймую и на сейме их становити будут, а там се откажет, если слушне выдают выволане на людей невинных; а хто слушне заслужил, на того не выдают; а коли колко был, а вказувано на то и грека, тот отец Никифор Азар Протасый, сей яко бы первоседалник по патриарсе, пытал, што то за кголк; поведал му по-грецку, иж его препоручают. И став на лаве, упросивши, поведал, иж тот сам здрайца, хто мене здрайцою подоймо-

---

[1] забяспечыўшы. [2] прамовы. [3] прыгожы, цудоўны, добры. [4] Леў Сапега. [5] выклікаными ў суд.

вает, духовный жены детей нимаш, абых се ме того подоймовать для набытя маетности, але и свое острадал для имени Христова; але тые сами сут здрайцами, иж крадут християн, подмовляют, розные причины найдуют. И вказал привилей свой всих чтырех патриарху посланныя его в тот край зо всякою моцъю, яко бы сам патриарх был доброволного приеханъя на сейме, обецуючысе ставити, яко и станет.

Так же княжа его милость, жалем будучи порушоный, вказал до пана канцлера и до пана подскарбего, иж нехай королем его милостю не грозят, бо он весть, яко повинность и веру пану своему хова, и его фамилия старожитна, не новотна; але нехай их милость мовят, мне грозят сами собою; если што мают до мене, ставлюся их милости всюды, где ми кажут.

Потом прислали князя Шуйского из другим якимсь лешком [1], иж ■ нас згода доходит в костеле, если воля вашей милости быть там з собою помоч быти. Поведил, же зараз пошлем. Десять человек с кола рыцерского, десять особ духовных, десять послов мещан выправлено, або протестацыи осветченье вчинили, — на то не зезволят. И возные [2] были з княжатем ■ енералов килка. Которые кгды приехали до костела, там их до фортки гайдуки пана подскарбего и пана воеводы троцкого и слуга не пустили; они теж ехали назад з великою жалостю. А то было в суботу вже не рано. Того дня княжа воевода волынский, волынцов и подолян мело быть не мало у пана подскарбего на обеде, и не были там, будучи тым барзо образкоаы. Протестацый не принято ■ замку нѣяких наших: Митрополита и владыков праве кгвалтом, слыше, примушано до присяги. Они просили для бога на отложеньи до сейму, але арцыбискуп лвовский, бискуп луцкий, пан канцлер их упевняли ласкою кр. его милости, обецуючи то им, привели их до присяги, а там же митрополит з четырма владыками присягнул на старшинство папежу, на календар и на артикул, иж дух святый от отца и сына походит и на едность костела. И зараз в неделю езуита в соборной церкви служил имшу [3], а Скгарга казане поведал, а Потей службу служил у костеле в Рожейского олтара. Там же у олтара руского, где служил римлянин, в келиху вино у кров барзо шпетную [4] смродливую обернулася, же тот езуита непоживал, а у олтаря римского у Потея вино обернулося у простую горкую воду.

Там же у Берестъю нашолъся был человек якийсь простый, который великие речы мовил, же страх слов его людей преникал, бо Писмо все на паметь знает; штось дивного, певне не тот, што мел у голову заходити, и напоминал, абы люде своей веры моцность держали. Тых лотров [5], митрополита, их владык не видали, бо их не пустили римляне. Того ж дня в суботу зараз с костела пан воевода троцкий приехал до княжати, пожекгнал [6], жалуючи незгоды ■

---

[1] з палякам. [2] ураднік, абавязкам якога было вызначэнне вінаватасці каго-небудзь, разноска позваў у суд і назіранне над выкананнем судовых прыгавораў. [3] абедню. [4] брыдкую, агідную. [5] нягоднікаў, вырадкаў, разбойнікаў. [6] развітаўся.

ехал до Чернавчич. А мы в неделю вси разьехалися, заварши[1] то и запечатовавшы и подписавшисе до того писмом, албо универсалу его кр. мл. послалисмы; ужили пана Гулевича, маршалка, а пана Еламолинского и пана Броневского, людей годных: праве два евангелицы, а третый новокрещенцов...

Лета божого нароженя 1595, месеца ноябра 30 дня в понеделок за тыдень перед святым Николою, — Севериян Наливайко; при нем было козаков 2000, дел 14, гаковниц[2]... Место славное Могилев, мѣсто побожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всѣх яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жен, детей малых побили, порубали, попоганили, скарбов теж незличоных побрали с крамов и с домов. Тут же войско литовское пана Радзивила троцкого, гетмана литовского, до Могилева у погоню за козаками притегнули люду рыцерского конного збройного: татар 4000, литвы 14000. Над тым людом был гетманом на имя Миколай Буйвид. В той час Наливайко лежал у Могилеве две недели.

Услышал о том Наливайко, иж гетман з великим людом и з делами до Могилева тягнет, тогды Наливайко з могилевского замку на гору Илинскую, где тепер церков святого Георгия стоит, бо на тот час не было, выехал. А так войско литовское на поли Буйницком, именю велможного его мл. князя Богдана Соломерецкого, старосты крычевского и олучицкого, на войско Наливайково вдарили и кругом оступили. Там же зранку аж до вечера, яко бы вже к вечерни звонити час, межи собою битву мели, яко ж Литва з войском великим натискали на войско Наливайкино. Пред се один другому войску мало шкоды учинили, бо великую армату, так дѣл[3] и гаковниц, пулгаков велми при собе множство мел, также люд свой отаборив конми, возьми, людом, шол моцно. Яко ж з дела с табору Наливайкины козаки пана зацного пана Григория Анюховского забили; первей коня под ним застрелили, а потом, выпадши с табору, козаки его самого розсекали. Тепер же Литва от козаков отступивши, до Могилева на болший луп[4] поехали, а козаки на всю ноч ехали до Быхова аж на низ. Литва за казаками гналася аж до Рогачева, да ничого згола не вчинили козаком; а литва и татары рушилися до Менска, до Новагорода и до Вилни, набравшися тутешнего краю лупу.

По выеханью казаков и литвы, тогды было зиме ни зима, ни лѣто, ни осень, ни весна аж до месеца мая до святого Афанасия снегу не было.

А иж козаки Наливайкиного войска почали творити шкоду великую замком и паном украйного замку. Того ж року 95, з войском литовским погонивши в селе Лубни, на речце Суле, козаков побили. Первей Савулу стяли[5], Панчоху чвертовали. А Наливайка Северина, поймавши по семой суботе, до кроля послали, там

---

[1] закрыўшы. [2] гармат. [3] гармат. [4] грабеж. [5] засеклі.

же его замуровавши, держали аж до осени святого Покрова; там же его чвертовано...

Року 1599, месеца мая 27 дня, праве в семую суботу с полудня, у месте Баркулабове пришла до церкви боркулабовское дочка жидовки Марямки, арендарки боркулабовское, именем Стирка; и пилне слезне упадала и просила священика боркулабовского Федора Филиповича для бога, абы была прекрещена у веру християнскую. Яко ж порадившисе с паны постронными, з боярми, земянми, з шляхтою и з урядником баркулабовским паном Федором Плетинским, наупоминаучы писмом святым и приводячи ее до памети, если правдиве маеш тот умысл християнкою быти ни для малженства, абысь мела за которого человека християнского замуж пойти, албо для лакомства маетности, али правдиве. Оная жидовка именем Стирка тыми словы отповедала, стоячи пред церковъю пред всѣми зацными паны и пред народом християнским: иж дей я, панове мои, вже давно з молодости моея, а правдиве дей вже полтора рока, яко сама ся на то позволила, просячи со слезами господа бога, и кладучи честный святый крест, ложачися и вставаючи, на лицы своем, абы мне дал то видети, християнкою зостати; с хутъю [1] и з великою радостю того прагну Христову веру мети. Яко ж назавтрии в день сошествия святого духа з народом божим и много множтво панов шляхты людей учтивых, так мужей яко и жен и детей, яко ярмарочного часу крещена была, у ваннѣ погруженна, и названа во святом крещении именем Елена. Того ж дня матка ее Марьямка с криком, с плачем, для бога просечи, приходила тут же до крестилницы, падаючи просила, абы ее не крестившы пустили, обецуючи за то великий поклон и подарок дати. Яко ж нѣкоторые мещане видели многое чарованъе оное Марьямки, што она поганскими чарами египетскими дочце своей чинила: яко была везена до их милостей князей до Буйнич, оная Марьямка, улезши у лазню студеную, голову открывши, волосы роспустивши, печку розметала, чаровные поганские слова говорила, проклинала, обема рукама назад кивала, ноги свои везала, иного много зла поганства творила, проклинала, абы жива не была...

Новины в. м. ознаймую, которые ми в тую пришлую среду, праве вседаючому на рокош [2] с Подляша мене дошли. Препис з листу слов власных до мене писаного в. м. выписую. Нещасливые новыны моему милостивому пану ознаймую, же наши битву з рокошаны програли, што кролевской милости пришло людей тридцать тысечей чужеземского на помоч. Который надею великую маючи а до того рады злое услухавши, легце себе важечи [3] панов рокошан, которых не было болш над пят тисечей, хотев их смерти, але они плац отрымали. Хотя з обу сторон не мало пало, але еднак стороны нашей чужеземского люду немцов не мало пало. То уже битва была по выезде моем с Подвыслицы, зачым тут наши

---

[1] жаданнем, ахвотай, схільнасцю. [2] шляхецкае паўстанне супроць палітыкі караля. [3] значачы.

мазурове и подляшане и инших воеводств бегут заразем за ознайменьем от тамътоль от панов депутатов, як на кгвалт [1], яко перепис универсалу тые новины от понеделка 8 дня октобра на выезде моим тые новины принесены...

Року 1600, месеца септевриа [2] 18, в четверток пан Ян Варшавский, также его милость пан Лев Сапега, канцлер литовский, староста могилевский, на Москву до царя восточного князя Василия Годунова [3] послами ходили, и з ними княжат панов зацных множество и мешкали на Москве недель 20. Тамо ж приняли примире на год 20...

Того ж року у самую у восень не по обычаю месеца септеврия 17 дня у волторок от западу силный великий гром был в нас и по всим сторонам велми силно гримел, также и блискане молони было; а и ночи мороз и вѣтер был, а тое было прознаменование — напредѣ будеш читати рок Христа 602, 603: великие болести, хоробы, так же войны великие, голод, неврожай силный, было поветрие албо мор на людей перехожих, множество на низ [4] идучих; около тысещ 4000 з голоду мужей и жен детей пошло, так иж страшно было видети, иж на улицах, по дорогах, по гумнах, у ровех псы мертвых многих тела ели.

Року 1601 великая война была у Вифлянтех с королем шведским за Жикгимонта Третего. Того ж року запорозкие козаки у Швецыи были, да ничого не помогли, толко великую шкоду господарю вчинили, бо место славное, место богатое Витебск звоевали, мещан побили, панны поплюгавили [5], скарбы побрали, многое множство людей порубали, незличеные скарбы побрали...

Року 1601. Тот был неуставичный: то ест почали жито на хлеб жати голодные люди пред Усѣкновением главы святого Иоана Предтечи, а в копы почали жито жати на святого Симеона Столпника; и то было зерня велми мякко. А дожали жито перед Покровом за 2 недели, бо дожд уставичне шол недель 12. Яр почала высыповатися о святом Петрѣ, а по святом Покровѣ за две недели почали яр жати; и то было зелено. А потом после святого Симеона Столпника октября 4 дня снег великий выпал; прето што было пашни, ярицы, овса, пшеницы, ечмень, горох, боб, то все снегом напало, и великую яри шкоду учинило. Згола было всему не добро, як збожю, также и людем; а предсе цена збожю средняя была...

Того ж року 1601, месеца октобра десятого дня, цѣлую неделю снег силный и кгвалтовный ишол, выпал до полголени; также и буря силная была. Тогды пшеницы, ярицы, овес, гречиху, горохи и вси овощы, великое множство ярицы на полях непожатые, также и копы жатые снегом позаметала метелица, иж было жалосно и страшно гледети и выповедити уздыханя и плачу людей убогих, пашников немаетных. А так лежал тот снег 2 недели аж до Дми-

---

[1] насілле, павіннасць. [2] верасня. [3] Барыса Гадунова. [4] у Запарожскую Сеч. [5] дзяўчат гвалтавалі.

значне примѣшивают. Зачим им далѣй, тым болшей невинных бѣд прибывает зо всѣх сторон.

Не припоминаю тут жалосных кривд, которые от нѣкоторых небачных римского вызнанья людей, мимо звычай давный, з неучтивостью и зелживостью нашею змѣшаные, относимо! Чесные малженства[1] наши в роспач невстыдливый вшетечными[2] мовами своими приводят! В церквах отмѣны чинячи, тѣла мертвых греческой вѣры людей, из землѣ выкопаные, вымѣтуют! От свѣдецтв старожитной вѣры греческой людей, яко бы вѣры негодных, отдаляют, и оным книг правных, которые ведле права никому не мают быти боронени, боронят! Презвитеров наших на дорогах споткавши розмаитыми деспекты[3] карают!

Которые то всѣ уразы[4], от гонителей римского вызнанья отношеные, не так нас от них, як от отступников старожитной вѣры греческой болят! Хто ж бовѣм не видит, же за их справою тые уразы вщалися?![5] Бо поколя отступленье их не было затривожило, з ласки божей былихмо от них волными, и в яком-таком седѣлихмо покою. За их же ся справою вщали, и им далѣй, тым болше посполитуются[6] везенья, морды[7], наѣзды, гоненья и иншые тым подобные бѣды тых, которыи за ними ити а старожитной вѣры отступити не хочут. Чого в каждом кутѣ, гдѣ одно греческой вѣры люде живут, прикладов много!

А уже той поломень, от иншых вщатый, и старших нашых правдивых духовных доходит. Уже архимандритови киевскому, якобы для статечности[8] при старожитной поприсяженой вѣрѣ духовным быти переставаючому, манастыр Печерский отняти хочут! Уже и владыци лвовскому, для тоее ж статечности монастыр Жидичинский, который аж дотоль за привильем короля его милости спокойне держал, кгвалтом наѣхавши на оный, през штурм с пролитьем крови выдирают! Уже иншых много тым подобных, кровью пахнучих, выступков дѣет!

А за тое ж то, дѣеписе, дяковати маемо?! Изаж[9] за тое не мает нам быти волно нарекати? За тое ж то невдячностью называеш, иж на такие уразы стискуемо? Бысмо добре ничого иншого не терпѣли, едно тое, жебысмы митрополита и владыков отступных, по отступленью греческой вѣры, прономий, на вѣру греческую наданых, уживаючих и пастырми ся нашими удаваючих видѣли, — изаж бы о то самое стисковати нам ся не годило? Малые ся то кому рѣчи видят; але атоли и тых малых рѣчей христиане, в неволи турецкой живучи, з ласки божей не терпят! Бо еще николи до приймованья розной вѣры людей за преложеные духовные не сут приневоляни, — а то там права не маеш, которое бы достоинство вѣры греческой уменшованья и пониженья боронило, — а то там конфедерации не маеш, которая бы прономии релѣи греческой

---

[1] шлюбы. [2] разбэшчанымі. [3] рознымі здзекамі. [4] удары, траўмы. [5] пачаліся. [6] робяцца звычайным, прывычным. [7] забойствы, катаванні. [8] сталасці, паважнасці. [9] хіба, няўжо ж?

толко людем вѣры греческой даванье варовала. А нам и право, и конфедерации, и привилья, и звычаи, и иншии фундамента волности набоженства маючим, же ся то в волной Речи Посполитой дѣет, — и яко ж не стисковати, и яко ж не нарекати на тое, яко ж с того доволни быти маем?! Бо добре тое нас самых не заходило и не долегало, а жебыхмо хотя в иншей вѣры особах такий праву кгвалт чиненый видѣли, — и за ж бы нам хуть ку задержаню ойчистой волности и права посполитого мовчати о тое допустила? А што ж коли то ся в вѣрѣ нашей дѣет: же отступници не толко хлѣба собѣ неналежачого заживают, але и звѣрхность над нами силомоцью ростягают; коли за оказиею тоей зверхности их в сумнѣньях наших нам кгвалт ся дѣет; коли нас (волные нам набоженства отправовати и церкви будовати заборонаючи) горше от безбожных жидов кладут; коли взглядом вѣры, на маетности, на здровья и на учтивое наше з розных мѣр натирают; коли в том всем помочи през прозбы и поселства частокрот повтараные шукаючи, не найдуемо? И як же не маемо стисковати, а и з жалем сердечным нарекати?!

Певныхмо, же жаден бачный за зле того нам мѣти не будет; а и дѣепис занехает[1] нас невдячниками грубыми называти, хотя то тых таковых прикрых скарбов, которих спасителными зовет, не тылко с хутью[2] не приймуемо, але и жалосне же их в нас поневолне ткают, стискуемо! Нехай ся сам ткнет, — чи бы мовчал, чи бы дяковал, гдѣ бы его то, што нас долегает, долегало? А либо бы он, чого не розумѣемо, долеглость такую и з вдячностью и з мовчаньем вытрвати мог!? Мы ся объясняемо, же на таковую терпливость, жебы то, коли болит, не стогнати и не охтати — здобытися не можем. А теж досыть в том терпливости нашей, же хотя так уражени будучи, хоть так през долгий час в уразах своих жадного улженья[3] через прозбы одержати не могучи, хотя видячи, иж зношеньем старых крывд новые побужаемо, — еднак то злого злым не отдаваемо, ани ся до кгвалту против кгвалтови мечемо.

Ожидаемо змилованья бога вседержителя, просячи его, абы нам того креста ослабил, а тым часом нас терпливостью обдарити рачил! Ожидаем змилованья его королевской милости, маючи надѣю, же вжды коли в уши свои панские (которые теперь от нам незычливых праве якобы заткани суть) жалостные нареканья наши припустит, и слушному жаданью нашому мѣсце зоставити рачит. Ожидаем на вашу милость всѣх корунных и великого князства Литовского и панств ку тому належачих обывателей обаченье, а зали вжды коли в тые наши справы, так яко ся годит, углянете и уразы наши ведле потребы лѣчити будете. Чого абысмы тым певнѣйшие были, ту конец тому роздѣлови учинивши, в замкненью тоей всѣй «Отповѣди» нашей до вашей милости мову свою обернувши, што ваших милостей ку тому приводити мает, вкоротцѣ припомнимо.

---

[1] пакідае. [2] ахвотай, жаданнем, намерам. [3] спачування.

## ЗАМКНЕНЬЕ ОТПОВѢДИ С ПРОЗБОЮ И З УПОМИНАНЬЕМ ДО КОРОННЫХ И ВЕЛИКОГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО ОБЫВАТЕЛЕЙ

Уже ся теды дотоля соборовому дѣеписови [1] на книжки о соборѣ Берестейском, розмаитых потварей [2] и фалшов полные, вкоротцѣ отповѣдило.

А особливе показалося многокротный выступок митрополита и владыков нѣкоторых, которые противко присязѣ, патриарсѣ константинополскому при рукоположению учиненой, против обѣтницам своим, против каноном церковным и соборовым, против праву посполитому, против угодам, з людми римского вызнанья чиненым, против листом королев их милостей, не толко мимо позволенье, але и против протестациам нашим, — облудне и фортелне [3] з нами собѣ поступуют, зверхности патриархов восточных отступили, и не толко своим, але и нас всѣх, которыесмы о том ни мыслили, именем папежови его милости римскому послушенство фалшиве отдавали, и рекомо нѣякуюсь едность Флоренскую отновляючи, до николи небывалого вѣры старожитной греческой вышпочеванья, а з кгрунту праве вывороченья дорогу слали, и по сей день стелют. Чого взглядом, же прономий на вѣру греческую наданых далѣй ведле права уживати не мают, довелося.

Показолося теж, же поступки нас, старожитной вѣры греческой людей, на соборѣ Берестийском и з жадное мѣры слушне ганеные быти не могут.

Показалося, же розумѣнье о едноначалствѣ церковном папежов их милостий римских — ани в евангелии, ани в святых учителех, ани в историах церковных фундаменту не мает.

Показалося, же тые наганы [4] патриархии Царигородское и похвалы зверхности римское, которых синодовый дѣепис в своем до руского народу упоминаню ужил, не суть таковые, жебы ку воли им старожитной релѣи и звѣрхности нашее греческой отступити нам ся годило; причом зараз, за оказиею слов дѣеписовых, нѣкоторые способы, которых в привоженью нас до отступленья вѣры нашей тых часов заживают, с показаньем же слушне на них стискуемо, суть припомнены.

Догодилося теды таким способом пред ся взятью нашому, которого, як есмо в предмовѣ припомнили, той переднѣйший быв цѣль— оказанье невинности нашей, а выкроченья [5] стороны противной.

Сумнѣнье доброе, свѣдѣцтво нам в мыслях наших о невинности нашей даючее, а в ласци и помочи господа бога вседержителя нас упевняючее, переднѣйшею есть потѣхою нашею. Леч притом, абы и люде вси тое бачили, упрйме [6] собѣ того, яко якой великой потѣхи, зычимо, и того самого ищемо в том писмѣ нашом, которое на

[1] гісторыку. [2] розных паклёпаў. [3] крывадушна і карысліва. [4] намовы. [5] выкрыццё. [6] шчыра.

нас розмаитые мов наших на сеймох по тые часы заглушенья найболшей, видит бог, вытиснули. Тые ж заглушанья велми жалостныи суть причиною, же до ваших милостей, милостивыи панове сенаторове, и цныи [1] коруны Полской и великого князства Литовского рыцерство, тую тут прозбу и упоминанье чинимо, которое бы на сеймох и на инших, радом о Речи Посполитой и намовам о лѣченью уразов отданых, зъѣздѣх найвласнѣйшее и найслушнѣйшее мѣсце мѣти мѣло.

Не есть вашим милостям тайно и за прошлыми скаргами, и за теперешним припомненьем — великие а праве незносные, не толко маетности, здоровья и учтивости, але и сумнѣнью заходячее зневоленье и стисненье наше. А иж братьею нас своею зовете и члонками [2] едного тѣла Речи Посполитое менуете, — просимо: ужальтеся над утисненою братьею своею! Нехай вас рушат як власне в. м. обходячие раны и уразы наши! Если ж теды ваша милость (чого не розумѣемо) против нам озябла, вжды нехай в. м. рушит милость прав в. м., которые в едных дощках з нашими (в которых кгвалт тепер терпимо) замкнены, и едными звязками утвержены суть! Стережитеся того, абы тоею дирею, которая ся в правах нам служачих дѣет, вси ся вашим мстям [3] свободы не выслизнули! Штоть нас долѣгает, то и вашим милостям всѣх прикладом и секвелля [4] заходит. Николи в жадной речи посполитой всѣм зараз утисненье не докучило: злегка той пожар идет, хто его на чужом не гасит, той посполите [5] на своем его кгрунтѣ а прудко обачует!

Нехай вашим милостям рушит огляданья ся на вѣру, сумнѣнья и почтивости ваши, которыми до перестереганья прав, волность набоженства варуючих, естесте обовязани. Нехай в. м. рушит уваженье того, же либо бы есте нам отступленья вѣры нашее зычили, людми, а не скотами естесмо, а з ласки божей людми свободными, на которых абы што през моц и мус вымочи мѣл, прожне [6] собѣ хто обѣцовати мает! А либо бы в чом иншом тое быти могло, — в вѣрѣ, которая в сердцу а в умыслѣ своем мѣсце мает, иза ж к тому может быти яковое подобенство?!

Хто ж з людей смертелных привлащити собѣ может шафунок [7] вѣры, которая есть самого господа бога даром?! Хто ест так потужным [8], абы умыслом пановати а до вѣренья того, чого сумнѣнье чие не приймует, або до невѣренья того, што приймует, приневолити кого мочи мѣл?! Ничого не ест так доброволного, як набоженство и вѣра, так же ее мус бы найболший ни в ком не сварит; позвирхнюю толко облуду [9], вѣри подражняючую, а господу богу барзо мерзкую, далѣй ничого в людех боязливых, а межи небоязливыми розлитье крви справити может!

Приклады, того посвѣдчаючие, у нас их не шукаючи, рачите в. м. мѣти с посторонных краев, в которых не откилку лѣт, але без

---

[1] сумленнае, высакароднае, прыстойнае. [2] часткамі. [3] міласцям. [4] наследак. [5] звычайна, заўсёды, часта. [6] дарэмна. [7] марнатраўнасць. [8] магутны, моцны. [9] крывадушнасць.

мала от ста, не леда[1] от кого, але от монархов свѣта найможнѣйших[2] и найпотужнѣйшых, не леда з яковым промыслом, але який може быти на свѣтѣ и найсилнѣйший и наймудрѣйший, люде до набоженства, собѣ ся неподобаючого, притискани были. Што ж ся тым справило? Чи ся едность вѣры и згода досконала уклѣтила?[3] Ничого? Але што? За примушаньем пришло до васни[4], з васни до ростырков[5], з ростырков до розорванья, з розорванья до внутрной войны, которая межи всѣми злыми рѣчами на свѣтѣ ест найгоршею: бо взрушенье права и божого и прироженого, кгвалты, пожоги, наѣзды, крви розлянье, спустошенья, а коротце мовячи— вшелякие кшалты[6] злых припадков в собѣ замыкает. До того такая война, над иные внутрние войны, як ядовитшая быти так и должей трвати мусит. В инших войнах внутрних бовѣм одна сторона до уступенья другой, за обаченьем слушной ее причины, снадне приведена бывает: тут зась (гдѣ кождый то, штс вѣрит щирою и спасителною правдою быти мнимает[7]; а за тым же што ж колвек терпит, для правды терпит, и през тое терпѣнье мученического вѣнца и живота вѣчного доступует — есть певного розумѣнья) — який способ може быти вынайденый гамованья? Само аж зобополное знищенье, упрацованьеся[8], высиленье, выжаленье[9], зубоженье — звыкло такие войны але не в час гамовати, а згоду пожадаsucc нерыхло[10] приворочати. Што иж так есть, для бога, милостивыи панове, гамуйте в час тые кола, поки ся не розбѣжат!

Жалосная реч — терпѣти утиск от вышшого, жалоснѣйшая — от ровного, найжалоснѣйшая — от подлѣйшого. Терпливость, часто ображаная, в попудливость звыкла ся премѣняти. Недуфанье[11] о доступеню справедливости през звыклые средки, недуфанье о помочи, выгледанье за некараньем и негамованьем утисненых — што раз то болшого утрапенья до незвыклого утисненым одыймованья звыкло бывати причиною утрапеным.

Ужалтеся, для бога, над отчизною сполною! Уважте кондицию ее инакшую ниж инших королевств, в которых огонь внутрней войны и до того часу не есть угашеный. Там мѣста, там замки, там тверди[12] оборонные густо седят; зачим недив, же долго ся собѣ опирали и опирают. У нас гдѣ бы ся той поломень (которого, боже, уховай!) появил, прудко бы вси того широкого панства мазанки попопелѣли! Там турок — одлеглый, о татаринѣ — ледво слыхати! А мы их тут туж при боку маем; и хотя в згодѣ мешкаючи[13], от них в небеспеченствѣ уставичном[14]; а к тому и з инших сторон покоем, приязнию и примирьем не доконца убезпечени естесмо.

Досвѣдчилисте в. м., в якой есмо згодѣ з в. мстями прошлых вѣков мешкали, хотясмо при старожитной вѣрѣ греческой и при патриархах в Греции будучих статечне[15] трвали. До милости, до

---

[1] не ад іншага. [2] здольнейшых. [3] наступіла. [4] сваркі, спрэчкі. [5] нязгоды, нелады. [6] вынікі. [7] мяркуе. [8] стамленне сябе. [9] засмучэння, пазбаўлення сілы. [10] няхутка. [11] не жаданне. [12] крэпасці. [13] жывучы. [14] пастаянным. [15] стала.

зычливости, до ратунку в потребѣ розность церемоний ничого не перешкожала!

Досвѣтчайте уже теж в. м. тое милое згоды и едности, которую наши отступнии митрополит и владыкове лѣпити почали! Видите в. м., якие скутки[1] тая едность приносит и принести может! Видите, же за нею, мѣсто причиненья, нарушенье старожитной згоды и милости наступило!

Якого ж еще далѣй досвѣтченья ждете? Чому ж рачей[2] што прудщѣй до того не помагаете, яко бы ся старосвѣцкии задержанья домовой згоды способ привернул? Чому молчаньем своим на то, што ся дѣет, причину королю его милости пану нашему милостивому до того розумѣнья даете, якобы мовы и стискованья наши уваженья годны не были? Присягали есте, милостивые панове сенаторове, права стеречи и речом шкодливым в Рѣчи Посполитой забѣгати: а чому ж хотя видите, же права ся у нас ламлют[3], мовчите? А чому ж хоть небезпеченство з утиску взглядом релѣи чиненых упатруючи[4], оному в час не забѣгаете? Чому и его королевской милости, абы ему в том забѣг, с повинности своей в том не напоминаете? Если ж взгляд на католицкую римскую вѣру и помноженья еи прагненья в. м. в том гамует, — а што ж в. м. о прошлых королях полских зречете, которые през шесть сот лѣт волность набоженства нашего, хотя до того присягами не были обовязовани, вцале нам без отмѣны заховали? Чи прото католиками не были? Не рачте их в. м. своими поступками в тое вдавати розумѣнье!

О оных давных христианских цесарѣх читаемо, же хоть их к тому жадные обовязки не притискали, еднак не толко христианом бога и тройци единого вызнаваючим и от всякой змазы[5] еретическое волным, але явне облудным волности набоженства позволяли. Пишет Сократ, костелный историк, о Иовинианѣ цѣсару, же не толко кождому якового хотѣл набоженства позволял, але теж похлѣбцом[6], которые ся ему приспособляючи, до его вызнанья нещире отзывали, приганяючи, мовил, же дошел того, же не бога хвалили, але шарлат! Той же Сократ пишет о Уалентинианѣ цесару, же правдиве с тым переставал и тых боронил, которые с ним едной вѣры были; вшак же однак и Арианом не наприкрялся. А Зизомен о цесари Гратианѣ теж пише, же волность набоженства, правом з стороны того учиненым, был опатрив[7]. О Феодосию зась цесару Сократ тые слова написал: «Феодосий цесар никого для вѣры не бѣдил[8], ани з собою до сполной вѣры и набоженства примушал; але кождым на свои мѣсца сходитися, и о том што на христианство належит розумѣти позволял, ведле того до якого розумѣнья хто был прихилный». О том же Феодосию той же Сократ на другом мѣсцу так написал: «Цесар так далеце против христиан-

---

[1] вынікі. [2] вярней, ахвотней, лепей. [3] зневажаюцца, парушаюцца. [4] бачачы. [5] ганьбы, знявагі. [6] падхалімам, падлізам. [7] асцярожны. [8] турбаваў.

ству был набожный, же не толко священников велми почитал, але и Новатианы, гомоусион[1] вызнаваючих, милостью огортывал».

То так давные оные цесари собѣ в справѣ вѣры поступовали! Чого не читаем, абы им христианские епископи за зле коли мѣли! Не читаем теж, абы их господь бог для того карати был мѣл! И овшем о Феодосию читаемо, же господь бог сам з неба напротив его неприятелем воевал, вѣтры кгвалтовные на них побудивши, и их стрѣлбу на их самых навспак[2] оборочаючи.

Нехай же теды милостивые панове сенаторове римского набоженства, взгляд на католицтво в. м. не отводит от пилного короля его милости упоминанья з стороны забѣженья небезпеченства, которое тая новотная непевная едность моцью попиранья уродити может. Вшак же ему забѣчи не трудно: толко отмѣну, которая завше звыкла бывати шкодлива, и за отмѣною идучие праву противные утрапенья зараз знесши, а звычай старожитный привернувши!

До того просимо: абысте нам с повинности уряду своего рачили быти помочни у его королевской милости, пана нашего милостивого, которому честь, вѣру и послушенство в речах, вѣрным подданым належачих, неотмѣнне отдавати хочемо. Тѣла, добра, маетности и учтивости наши звирхности его королевской милости суть от нас доброволне подданы: так же ведлуг права посполитого о них чинити розсудок может. Души самые, сумнѣнья и набоженства наши зоставилисмо цѣлые цареви небесному, который яко нам так и его королевской милости панует. Тому самому в той мѣрѣ же догожати и приспособлятися хочемо, нехай нам его королевская милость, границы звирхности своей уважившн, за зле мѣти не рачит. Вшак если же блудимо и грѣшимо, грѣшимо тому пану, который сам, всѣх нас души в моцы своей маючи, часу своего суд о них чинити будет. Той небесный пан нехай судит, если ж што на нас сходит, и на отдаванью повинности нашей его королевской милости, по котором взаем того, абы нам присяги своей панской додержовати а ведле прав пановати рачил, потребуемо.

И до того абысте ваши милости (помнячи на тое, иж, для проступства звирхности, подданых господь бог звыкл карати), кроля его милости вести рачили, — пилно в. м. просимо. Учинте то в. м., если не ку воли нам, тогды ку воли Речи Посполитой, ку воли короля его милости пана нашого, которому молчанье и поблажанье в. м. барзо хотя незначне заважает. Бо тым молчаньем фундаменты и филяри[3] власти и всякого щастья его королевской милости, выворочаны и подваляны бывают.

Што бовѣм иншого и приступ до той зацной столици зъеднало, и фундаментом есть пановапья его королевской милости, одно пакта[4] з нами учиненые а права корунные. На то ся найболшей оглядаючи, повинное послушенство его королевской милости вси отдаемо. Тое самое его королевской милости ласку, у господа бога

[1] чалавека. [2] назад. [3] калоны, слупы, апоры. [4] пастановы.

царя найвышшого, тое милость у подданых, тое повагу у посторонных еднати, тое填пнованье его королевской милости утвержати, тое подданых его королевской милости ублагословляти мает,— коли его королевская милость ни богу в сумнѣнью своем, ни нам вѣрным подданым своим в поприсягненой повинности не зостанет, и коли права наши нам а волности держати будет. Бо иж не золотом, не множеством пѣнезей, не богатствы, не замками моцными, не мѣсты будовными тое зацное королевство, над которым его королевскую милость господь бог преложил, межи иншими народы слынет; але толко самою волностью, которое инше народы, хотя в достатках всѣх оплываючии, нам подданым его королевской милости зазрят.

Хто ж не видит, же задержаньем в цалости свободы нашей, тая найболшая его королевской милости оздоба то есть, же людем волным пановати рачит, зараз ся задержит? До того иж то есть реч певная, же милость, сворность а згода домовая тую коруну за продков его королевской милости в той цѣлости, которую его королевская милость застати рачил, з великою славою и пострахом у посторонных народов, всегды болшей ниж муры або замки якие, держала!

Хто ж не видит, же и тепер задержаваньем межи нами згоды и милости внутрней панство его королевской милости утвержатися будет!

Што ж прешлые сеймы труднило? Што ж в людех ку службѣ Рѣчи Посполитой озяблость справило? Што ж посторонным небезпеченством охотне и сворне забѣгати не допустило и не допущает? Едно уразы и долегливости [1], на которые з розных сторон подданые его королевской милости стискуючи, лѣкарства не найдуют; а особливе — уразы взглядом релѣи утерпѣваные, которые межи людми недуфность, несворы и незгоду им далѣй, тым болшую множат, а в порадѣ о посторонных небеспеченствах на домовый поломень оглядатися кажут.

Розумеючи тое, снать, нѣкоторые, же тая незгода домовая есть на тое добра, же нею люде забавлени, а едни других грызучи, што их сполне догоряет — так далеце не усмотруют. Леч и тая практика же омыляет часто — досвѣдченье свѣдчит. Певнѣйшая то так собѣ поступовати, якобы до стискованья не было причины, ниж, для покрытья болших поступков на несворные чинячие тумулты (которые чти жадной звирхности примножают) а за часом ростырками высиленые межи собою обыватели Речи Посполитой, усмотрѣвати.

Для бога теды, милостивыи панове сенаторове, знову просимо: рачтеся ваши милости, в повинности своей почуваючи, его королевскую милость, пана нашего милостивого, з стороны того всего напоминати, хочете ли молодшой братии своей до того розумѣнья о собѣ причины не давати, же и до неласки у господа бога, и до огиды у подданых его королевской милости привести, и суптелне [2]

[1] траўмы і пакуты. [2] празрыста.

рекомо што иного по собѣ показуючи,招ованье его королевской милости затруднити, и потомству его королевской милости до него за часом дорогу загородити — мыслите?!

А што до их милости панов сенаторов присяглых прав и свобод наших и безпеченства Речи Посполитой сторожов мовимо, — тое ж все и вам, малодшим их милостям братьи, а тое ж Речи Посполитой сыном перекладаемо и в. м. просимо: абысте до того ж ся мѣти, так же нам утрапеным помагати, а в особѣ нашой прав и волностей своих и всей Речи Посполитой цѣлости охороняти рачили! Не почитайте в. м. того за привате, часть толко обывателей тых панств заходячую! Коли нѣкоторые люде, ку воли лакомыи хтивости славы присягу его королевской милости и право посполитое мѣнят, и егда от порту конфедерации, до которогосмы ся з ласки божей в час, некоштуючи, як иншие народове, долгого для релѣи крви пролитья припустили, нас за ся одопхнути, и так той корабль Речи Посполитое до розбитья ся привести усилуют, а рекомо релѣи стерегучи, до того абы з релѣею отчизна наша згинула значне дорогы стелют! Присмотрѣтеся в. м. особам, которые то чинят, — обачите на чолѣ в том полку частью обыватели тутошние, которые жон, ани дѣтей не маючи, так далеце не маются на што огледати, частью, а найболшей чужоземци, которые волоцугами будучи, а прирожоной против нашей отчизнѣ Речи Посполитой зычливости в собѣ немаючи, оной згубу, за которым оным ничого бы не згинуло, не толко намнѣй бы ся не зафрасавали [1], але теж нѣкоторые в своей зависти, которые нам волности и повоженья завидят, тым бы ся утѣшили.

Што все же иж так ест, певни есмо инакшей нижь дотуль в той мѣрѣ чулости и опатрности, певны есмо в бѣдах и долеглостях нашых скутечнѣйшей [2] прихилности и помочи в. м., о которую пред господом богом всевидцем, и пред всѣм свѣтом с припомнѣньем повинности шляхецкой и христианской, и с привоженем напомнити обовязков вѣры сумнѣнья и почтивости ваших милостей. Усилне жадаемо и просимо с тым оповѣданьем ся, же за недбалостью в той мѣрѣ ваших милостей и за негамованем тых початков, если ж до чого коли злого (чого, боже, уховай) в Речи Посполитой прийдет, а затым если ж так в цѣлости квитнучих як есте от предков взяли, свобод прав потомком своим не отдасте, — не при нас того неотданья вина, але при в. м. всѣх, легце собѣ прозбы и напоминанья наши важичих зостанет. Которое то оповѣданье наше, як и прошлые небезпеченства и внутрней войны затрясненье, иж не жадным злым умыслом, але толко из зычливости и з милости ку отчизнѣ сполной чинимо, певнисмо, же теж его нихто опачне [3] выкладати и до приписованья нам яких здорожных замыслов, от которых з ласки божей далеки естесмо, потягати не будет.

Затым уже и замкненью той «Отповѣди» нашей конец чинячи, ку господу богу з молитвою ся оборочаем...

---

[1] не засмучаліся, не турбаваліся. [2] дзейснай, эфектыўнай. [3] скажона, памылкова.

# МЯЛЕЦІЙ СМАТРЫЦКІ
## (1577 — 1633)

Мялецій Сматрыцкі (свецкае імя Максім Герасімавіч) нарадзіўся на Падоллі ў мястэчку Смотрычы (Украіна) у 1577 г. у сям'і рэктара Астрожскай праваслаўнай акадэміі.

Бацька яго — у мінулым камянецкі гарадскі падстараста — быў адукаваным для свайго часу чалавекам і з'яўляўся аўтарам аднаго з першых твораў палемічнай літаратуры «Ключ царства небесного» (1587 г.) Твор гэты быў накіраваны супроць езуіцкай прапаганды новага (Грыгар'янскага) календара і ў той час карыстаўся выключнай папулярнасцю сярод праваслаўных, якія змагаліся супроць захадаў каталіцкай царквы.



Першапачатковую адукацыю М. Г. Сматрыцкі атрымаў дома пад непасрэдным наглядам свайго бацькі, Герасіма Данілавіча, і кіраўніцтвам грэка Кірыла Лукарыса. Далейшая вучоба Мялеція працягвалася ў сценах праслаўленай у той час Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе ён вучыўся філасофіі. Пасля заканчэння Віленскай акадэміі М. Г. Сматрыцкі паступіў на працу да князя Саламярэцкага ў якасці хатняга настаўніка і выхавальніка дзяцей князя, якіх да яго прыходу вучыў вядомы тагачасны грамадска-палітычны дзеяч, таленавіты вучоны і педагог Лаўрэнцій Зізаній.

Каля 1606 г. М. Г. Сматрыцкі з мэтай павышэння сваёй адукацыі накіраваўся за граніцу і там на працягу двух год слухаў лекцыі ў Лейпцыгскім і Вертэмбергскім універсітэтах.

Вярнуўшыся на радзіму, М. Г. Сматрыцкі пасяліўся ў Вільні і прыняў актыўны ўдзел у барацьбе супроць каталіцызма. Тут ён напісаў рад сваіх твораў і праявіў сябе як таленавіты пісьменнік-паленіст.

У 1618 г. пад непасрэдным уплывам архімандрыта віленскага Святадухаўскага манастыра Ляонція Карповіча Сматрыцкі пастрыгаецца ў манахі гэтага манастыра і прымае імя Мялеція, а праз год Карповіч узводзіць яго ў сан свяшчэнніка манастырскай царквы. Пасля смерці Л. Карповіча іерусалімскі патрыярх Феафан у 1620 г., аднаўляючы праваслаўны епіскапат на Украіне і ў Беларусі, паставіў М. Г. Сматрыцкага епіскапам полацкім.

У 1623 г. М. Г. Сматрыцкі з мэтай высвятлення ва ўсходніх патрыярхаў некаторых заблытаных і спрэчных пытанняў багаслоўя адправіўся на Усход і прабыў там каля двух год. У 1626 г., перажываючы духоўны крызіс, М. Г. Сматрыцкі тайна прымае унію, але яшчэ канчаткова не парывае з праваслаўем. І толькі пасля таго, як у 1628 г. Кіеўскі праваслаўны сабор асудзіў М. Г. Сматрыцкага, пракляў яго і прымусіў самога публічна адмовіцца ад «Апалогіі», як кнігі, у якой праводзіліся варожыя праваслаўю ідэі уніі з каталіцкай царквой, М. Г. Сматрыцкі неўзабаве адкрыта парваў з праваслаўнай царквой і напісаў сваю «Пратэстацыю» супроць рашэнняў Кіеўскага сабора. З гэтага часу ўся пісьменніцкая дзейнасць М. Г. Сматрыцкага была накіравана на абарону уніі і каталіцызма. Адкрыта парваўшы з праваслаўем, М. Г. Сматрыцкі асудзіў, як ерэтычныя, усе свае ранейшыя творы, напісаныя ім да 1626 года.

Памёр М. Г. Сматрыцкі ў Дзерманскім манастыры на Украіне ў сане полацкага уніяцкага архіепіскапа.

Як таленавіты палеміст-публіцыст, аўтар рада мастацкіх твораў, М. Г. Сматрыцкі займае адно з відных месц сярод пісьменнікаў-палемістаў першай паловіны XVII ст. Аднак літаратурная спадчына М. Г. Сматрыцкага не была роўнай у адносінах ідэйна-палітычнай накіраванасці і мастацкай вартасці. Калі ў першы перыяд сваёй літаратурнай дзейнасці, да пераходу ў унію, М. Г. Сматрыцкі напісаў на польскай і беларускай мовах такія высокамастацкія і палітычна завостраныя творы, як «Антиграфи альбо отповедь на скрыпт ущипливый» (палемічны трактат 1608 г., накіраваны супроць «Гармонии» Іпація Пацея), «Фринос, то ест Лямент св. единэй повшэхнэй апостольскей всходней церкве з объясненем догмат вяры», «Казанье погребное», «Апраўданне нявіннасці»; навуковы падручнік, па якому ў свой час вучыўся яшчэ і М. В. Ламаносаў, — «Грамматики словенския правилное синтагма» (1618 г.), то пасля 1626 г. М. Г. Сматрыцкі, па сутнасці, не стварыў нічога каштоўнага. Палітычнае рэнегацтва пісьменніка абумовіла сабою і азнаменавала дэградацыю, аскудзенне і занапад яго літаратурнай дзейнасці.

У гісторыю беларускай літаратуры М. Г. Сматрыцкі ўвайшоў толькі першым перыядам сваёй творчасці, калі ён быў актыўным барацьбітом супроць царкоўнай уніі 1596 г. і сваёй творчасцю садзейнічаў актывізацыі народнавызваленчай барацьбы супроць захадаў Ватыкана, выступаўшага ў палітычным саюзе з польскай шляхецкай дзяржавай. Нягледзячы на тое, што сацыяльна-палітычныя погляды М. Г. Сматрыцкага-пісьменніка, які выражаў ідэалогію апазіцыйна настроенай супроць уніі буйнай беларускай і украінскай праваслаўнай шляхты, ніколі не адпавядалі інтарэсам шырокіх народных мас, яго палемічныя творы гэтага перыяду аб'ектыўна мелі прагрэсіўнае значэнне, асабліва яго славуты «Фрынас».

Твор гэты быў выдадзены віленскай Святадухаўскай манастырскай друкарняй у 1610 г. на польскай мове гатычным шрыфтам пад літаратурным псеўданімам Феафіла Арфалога.

Непасрэднай прычынай для напісання «Фрынаса» М. Г. Сматрыцкаму паслужылі віленскія гістарычныя падзеі 1609 г., менавіта пагром праваслаўных манастыроў і цэркваў уніяцкім мітрапалітам Іпаціем Пацеем.

Поўны жальбы, горкага дакору і смутку «Лямент» праваслаўнай царквы, пададзенай М. Г. Сматрыцкім у алегарычным вобразе маці, пакінутай на мукі сваімі дзецьмі, раздаўся ў самы нязручны момант для знешнепалітычных планаў караля Сігізмунда III і яшчэ больш узмацніў нянавісць праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны да уніі. У той час, калі ў Маскве праходзілі

перагаворы аб абранні на царскі трон польскага каралевіча Уладзіслава, «Фрынас» М. Г. Сматрыцкага даваў рускаму народу яркі малюнак той перспектывы, якая магла здзейсніцца ў Маскве пры абранні царом каталіка. Вось чаму, калі польскі кароль даведаўся аб надрукаванні «Фрынаса», то ён у чэрвені 1610 г. выдаў загад: аўтара і друкароў «Фрынаса» пасадзіць у турму да наступнага распараджэння аб іх, продаж і куплю кнігі забараніць пад пагрозай штрафу ў суме 5000 чырвоных злотых, Святадухаўскую друкарню канфіскаваць, а знойдзеныя там экземпляры кнігі спаліць, купленыя экземпляры «Фрынаса» здаць прадстаўнікам дзяржаўнай улады. Тым не менш, знішчыць поўнасцю тыраж «Фрынаса» М. Г. Сматрыцкага каралю не ўдалося; некалькі экземпляраў кнігі захавалася і да нашага часу.


ΘΡΗΝΟΣ

Lament iedyney S.

Powszechney Apostolskiey

Wschodniey Cerkwie / z obiaśnieniem Dogmat Wiary.

przez

Theophila Orthologa / Teyże świętey Wschodniey Cerkwie Syna.

W WILNIE

Roku Pańskiego 1610.

Цітульны ліст «Фрынаса» М. Сматрыцкага.

Пададзеныя ніжэй урыўкі з «Фрынаса» з'яўляюцца перадрукам з экземпляра, які захоўваецца ў аддзеле «Росика» ў Ленінградскай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына. Тэкст друкуецца ў два слупкі: у левым друкуецца па арыгіналу, але для зручнасці чытання гатычны шрыфт арыгінала заменены лацініцай, якая зараз ужываецца ў польскай мове, а ў правым слупку — у перакладзе ўкладальніка хрэстаматыі.

## ФРЫНАС

гэта значыць Плач адзінай святой агульнай апостальскай усходняй царквы з тлумачэннем догматаў веры, упершыню з грэчаскай на славянскую, а зараз з славянскай на польскую мову перакладзены ФЕАФІЛАМ АРФАЛОГАМ, сынам той жа святой усходняй царквы.

ROZDZIAL I.

*W ktorym się zamyka Lament, albo narzekanie cerkwie .s. wschodniey na syny wyrodne.*

Niestetysz mnie nędzney, niestetysz nieszczęsney! Ach, ze wszech stron z dobr złupioney! Niestetysz na świecką ciała mego hańbę, z szat zwleczoney! Biada mi nieznosnemi brzemiony obciążoney! Ręce w okowach, iarzmo na szyi, pęta na nogach, łańcuch

РАЗДЗЕЛ I.

*У якім змяшчаецца Плач або нараканне святыя ўсходнія царквы на сваіх сыноў, якія ад яе адракліся.*

Гора мне беднай, гора нешчаслівай! Ах, з усіх бакоў з маёнткаў абрабленай! Гора мне, абдзёртай на свецкую ганьбу з рыз маіх! Бяда мне, абцяжаранай невымоўнымі цяжкасцямі! Рукі мае ў аковах, ярмо на шыі, путы на на-

na biodrach, miecz nad głową oboietny; woda pod nogami głęboka, ogień po stronach nieugaszony, zewsząd wołania, zewsząd strach, zewsząd prześladowania. Biada w mieściech y we wsiach, biada w polach y dąbrowach, biada w gorach y przepaściach ziemie. Niemasz żadnego mieysca spokoynego, ani pomieszkania bespiecznego. Dzień w boleściach y ranach, noc w stękaniu y wzdychaniu. Lato znoyne ku zemdleniu, zima mroźna ku śmierci, mizernie bowiem nagość cierpię, y aż na śmierć prześladowana bywam. Przedtym śliczna y bogata, teraz zeszpecona y uboga. Niegdy krolowa wszystkiemu światu ulubiona, teraz od wszystkich wzgardzona y strapiona. Sam do mnie co żywo wszelkie narody, wszyscy obywatele ziemscy przystąpcie, posłuchaycie głosu mego, a poznacie com była przed laty y zadziwuyciesię! Naśmiewiskiem teraz światu iestem, a przedtym ludziom y aniołom podziwienie.

Ozdobnam była przed wszystkimi, wdzięczna y miła, śliczna iako iutrzenka na wschodzie, piękna iako miesiąc, wyborna iako słońce, jedynaczka u matki swey, wybrana rodzicielce moiey, iedyna czysta gołębica, niepokalana y żadney zmazy y zmarzku, abo czego takowego niemaiąca. Oley wylany imię moie, studnia wod żywych nazwisko; mnie uyrzawszy corki sionskie, nabłogosławieńszą krolową być głosiły. A wkrotce mowiąc, (tom była między corkami sionskimi), co Jeruzalem między wszystkimi miasty żydowskimi,

гах, ланцуг на клубах, меч з двух бакоў востры над галавою, вада пад нагамі глыбокая, няўгасны агонь па баках, адусюль стогны і енкі, адусюль страх, адусюль праследаванні.

Бяда ў гарадах і вёсках, бяда ў палях і дубровах, бяда ў гарах і прорвах зямлі. Нідзе няма месца спакойнага і прытулку бяспечнага. Дзень у болю і ранах, а ноч у стогнах і ўздыханнях праходзіць. Пякучае лета праймае мяне да непрытомнасці, а холад зімовы да смерці, таму што цярплю нагату прымусовую і нязноснае праследаванне. Раней [illegible] была цудоўная і багатая, а цяпер абрыдлая і бедная. Калісьці была каралеваю, якую кахаў увесь свет, а цяпер усімі пагарджана і даведзена да смутку. Падыйдзіце да мяне ўсе народы, усе жыхары зямлі; паслухайце майго голасу; пазнайце, чым я была раней, і падзівіцеся мною! Цяпер я стала пасмешышчам для ўсяго свету, а раней была для людзей і ангелаў прадметам захаплення.

Я была багацей за ўсіх аздобленая, прывабная і мілая, прыгожая, як ранішняя зорка на ўсходзе, цудоўная, як месяц, бліскучая, як сонца; як адзіная дачка ў сваёй маці, я была падаравана ёй адзінай чыстай галубкай, нявіннай, цнатлівай і нічым не апаганенай.

Цудоўны бальзам маё імя, а прозвішча — крыніца жывыя вады. Калі мяне ўбачылі дочкі Сіона, то прадракалі мне быць найблагаславеншаю каралеваю. А карацей кажучы, тым была паміж сіонскімі дачкамі,

y co lilią między cierniem, tom ia była między dziewicami. Dla ktorey piękności pożądał krol śliczności moiey, pięknieyszy nad syny ludzkie, a ulubiwszy mię, wiecznym małżeństwa związkiem, z sobą ziednoczył.

Dziatkim rodziła y wychowała, a te się mię wyrzekły y zstały mi się naśmiewiskiem y urąganiem. Abowiem zwlekli mię z szat moich, y nago mię z domu mego wygnali, odięli ozdobę ciała mego y głowy mey wdzięczność wzięli.

Co więtsza?! Dniem y nocą staraią się o biedną duszę moię y o zgubie moiey ustawicznie myślą. O wy, ktorzy przedemną stoicie, wy, ktorzy patrzycie na mię, posłuchaycie a uważcie, gdzie iest boleść, iako boleść moia, gdzie frasunek y żal, iako utrapienie moie!

Dziatkim rodziła y wychowała, a one się mię wyrzekły y zstały mi się ku upadku. Dla czego siedzę teraz, iako iedna z lamentuiących wdow! Pani niegdy wschodu słońca y zachodu, południowi y pułnocnym kraiom dniem y nocą płaczę, a łzy po iagodach moich, iako potoki rzeczne cieką, a niemasz ktoby mię pocieszył; wszyscy mię odbieżeli, wszyscy mną wzgardzili. Krewni moi daleko ode mnie, przyiaciele moi nieprzyiaciołmi się zstali, synowie moi iaszczorczego pozayrzawszy plemieniu, żywot moy zarazliwemi żądły usiekaią.

што Іерусалім сярод усіх гарадоў яўрэйскіх, што лілея сярод пустазелля, такою і я была сярод усіх дзяўчат. За гэту прыгажосць маю кароль, прыгажэйшы за ўсіх сыноў людскіх, пажадаў майго хараства, а пакахаўшы мяне, з'яднаў з сабою вечным сямейным шлюбам.

Дзяцей радзіла і выхавала, а яны адракліся ад мяне, сталі смяяцца з мяне і абражаць мяне, бо раздзелі маё цудоўнае адзенне і голую мяне выгналі з уласнага дому, адабралі аздобы майго цела і пазбавілі маю галаву ўсёй яе чароўнасці.

Што можа быць горшым?! Днём і ноччу я павінна турбавацца аб маёй беднай душы і пастаянна думаць аб сваёй раптоўнай пагібелі! Усе вы, хто стаіць перада мною і глядзіць на мяне, паслухайце і падумайце, хіба ёсць дзе боль, большы, чым мой, ці ёсць дзе такі смутак і жаль, як пакуты мае!

Дзяцей нарадзіла і выхавала, а яны адракліся ад мяне і сталі прычынай майго заняпаду. Вось чаму я сяджу адна цяпер, падобна той удаве, якая з гора лемантуе. Яшчэ нядаўна гаспадыня ўсходу і захаду сонца, паўднёвых і паўночных краёў, цяпер дзень і ноч плачу, а слёзы цякуць па шчаках маіх як патокі рачныя і няма каму мяне супакоіць: усе ад мяне паўцякалі, усе пагарджаюць мною. Сваякі мае далёка ад мяне, прыяцелі сталі ворагамі, сыны мае, пазайздросціўшы племю яшчарак, джаляць маё цела заразнымі джаламі.

Słuchaycie żałosney mey powieści wszelkie narody, bierzcie w uszy wszyscy, ktorzy wo kręgu świata mieszkacie! Synowie y corki moie, ktorem rodziła y wychowała, opuściwszy mię, szły za tą, ktora imi nie bolała, aby się z zbytkiem tłustości iey nasycili. Kapłani moi olśnęli. Pasterze moi (niechcąc wiedzieć że o dusze idzię) oniemieli. Starcy moi zgłupieli. Młodzieńcy moi zdziczeli. Corki moie na wszeteczność się udały, y wszyscy iednym zamysłem Boga y prawdy iego zaniedbawszy, na duszę się moię sprzysięgli.

Rozwarli paszczeki swoie, y gwiżdżąc zgrzytaią na mnie zębami swemi mowiąc: «Oto iuż dzień ten przyszedł, ktoregoch my oczekawali, podźmy a zatracim ią, y wykorzenim z ziemie pamiątke iey!» Miasto miłości, uwtaczaią mi, a dobroć moię złością mi oddaią, y nienawiścią miłość mi moię nagradzaią. Położyli mi miasto kosztownych szat moich zbotwiałe płaty y zstałam się im w przysłowie.

O boleści dusze moiey! Niestetysz mnie oszarpaney, biada mnie wzgardzoney, przytępiła się od ustawicznych łez bystrość oczu moich, zatrwożyły się wnętrzności moie, ustał w boleści żywot moy, a lata moie w wzdychaniu, ustały, iako dym, dni moie, a kości moie, iako skwarki, wyschły, posieczonam, iako siano, y uwiędło serce moie, od głośnego płaczu mego, przyschła kość moia do ciała mego.

Rozdarli na mię paszczeki swoie, iako paszczeki nieprzyiacielskie, słowy zdradliwemi, y prze-

Слухайце жалобную аповесць маю ўсе народы, слухайце ўсе, хто жыве на зямлі!

Сыны і дочкі мае, якіх я нарадзіла і выхавала, пакінулі мяне і пайшлі за той, якая імі не пакутавала, каб досыць насыціцца ад яе тлустасці. Святары мае асляплі, пастыры, не жадаючы ведаць таго, што змаганне ідзе за душу, анямелі. Старцы мае здурнелі, юнакі здзічэлі, дочкі пайшлі на распусту, і ўсе аднадушна, бога і праўду забыўшы, замахнуліся на маю душу. Разінулі пашчы свае і, скрыгочучы са свістам на мяне сваімі зубамі, кажуць: «Вось ужо і дзень той прыйшоў, якога мы доўга чакалі, пойдзем жа і знішчым яе і выкаранім з зямлі памяць аб ёй!» Замест кахання абражаюць мяне, за дабрату маю злосцю мне плацяць і ўзнагароджваюць нянавісцю міласць маю. Замест каштоўных рыз маіх надзелі на мяне струхлелыя анучы і зрабілі мяне прадметам насмешак.

Гора мне ў гэтай душэўнай пакуце! Гора мне абшарпанай, бяда мне пагарджанай, ад пастаянных слёз прытупілася вастрыня майго зроку, парушаны ўнутраны спакой, ад пакуты змарылася цела маё, ад пастаяннага ўздыхання старэю, як дым, праходзяць мае дні, косці мае сталі падобны высушаным скваркам, як сена, пасечана я, і сэрца завяла, ад голаснага плачу майго, мае косці прысохлі да цела.

Раззявілі на мяне свае пашчы, як варожыя пашчы, напоўненыя здрадлівымі і фальшывымі словамі. Узялі ў свае

wrotnemi napełnione. Wzięli siekiery w ręce swoie, y szukaią dusze moiey, aby ią zagubili.

Zewsząd sieci, wszędzie padoły, zewsząd zaraźliwe żądła. Owdzie wilcy drapieżni, a tam lwy ryczące. Zowąd smocy iadowici, ztąd bazyliki srogie. Nie nayduię ktorędy się obrocę, nie wiem gdzie się mam udać. Do kogo głowę moię skłonić, komu mię w obronę podam. Nie iest li to, o niebo y ziemia, nowa boleść y niesłychany żal żem syny rodziła y wychowała, oni się mię wyrzekli? Jednemu mężowi panną poślubiona, iednemu w małżeństwo oddana, z iednegom poczęła, w iednym żywocie nosiła, iednym mlekiem karmiła, rozmaitych iednak obyczaiow (niestetysz) syny na wstyd y boleść moię widzę. Niemasz nikogo ktory by oyca naśladował. Niemasz żadnego ktoryby szedł za matką. Co więtsza! Wyrodkom y podeyrzanym zayrzawszy ięzyki swe naprzeciw rodzicom naostrzyli. Oyca sromocą, matkę lżą. Oycowską nauką wzgardzili, macierzyńskie staranie znieważyli, wszyscy wespoł odpadli y niepotrzebnymi się zstali. Niemasz z tak wielu żadnego, ktory by czynił dobre...

Niemasz żadnego. Wszyscy naprzeciw mnie, iako naprzeciw tey, ktora by nimi nigdy nie bolała, powstali. Wszyscy uzbroieni, iako na głownego się nieprzyiaciela, zbuntowali y szukaią dusze mey na wygnanie. Nieszczęsna ż ia matka! Com takowego uczyniła,

рукі сякеры і шукаюць маю душу для таго, каб яе загубіць.

З усіх бакоў сеці, усюды ямы, з усіх бакоў ядавітыя джалы. З аднаго боку драпежныя ваўкі, з другога — рыкаючыя львы. З гэтага боку ядавітыя смокі, а з таго — бязлітасныя васіліскі. Не знаходжу таго, да каго магла б звярнуцца. Не ведаю, куды накіравацца, перад кім схіліць сваю галаву, пад чыю абарону падацца. О неба і зямля! Хіба ж то не пакута і не чуты жаль, што сыноў нарадзіла і выхавала, а яны ад мяне адракліся? Аднаму мужу была пашлюбёна, за аднаго выдадзена замуж, ад аднаго зацяжарыла, у адным чэраве насіла, адным малаком карміла, аднак (нажаль!) сыноў розных звычаяў, на пакуту і сорам свой, бачу. Ніводнага няма з іх, хто быў бы паслядоўнікам бацькі. Няма нікога, хто ішоў бы за маткай. Больш таго, пазайздросціўшы вырадкам і тым, што выклікаюць падазрэнне, яны навастрылі свае языкі супроць бацькоў. Бацьку сарамоцяць, а матку абражаюць. Бацькоўскай навукай пагардзілі, мацярынскае старанне знявmažылі, усе разам адпалі і непатрэбнымі сталі. Было іх многа, але няма ніводнага, які рабіў бы добрыя ўчынкі...

Няма ніводнага. Усе паўсталі супроць мяне, нібы супроць той, якая ніколі імі не пакутавала. Усе узброены, як на небяспечнага ворага, узбунтаваліся і шукаюць прычыны, каб знішчыць мяне. Няшчасная ж я маці! Што я зрабіла такое,

że nieznośne prześladowanie od własnych moich synow cierpię. Co żem śmierci godnego zbroiła, że zdrowia mego nie iestem bespieczna?..

Niechże w nieukorzoney złości ich przyczynę weyrzę: od oyca li onę przyrodzenia prawem, czyli z matki wychowania względem wzięli? Ponieważ iako owoc dobry o dobrym drzewie świadczy, tak y dobre dziatek obyczaie dobry rodzicow żywot opowiadaią. Takież y przeciwnym sposobem złości rodzicow niegdy to przypisuią, co w potomkach ganiono bywa. Lecz żadną się to miarą nie naydzie w rodzicach. Ociec bowiem iest dobry, cichy, skromny, łagodny, łaskawy, pokorny, y aż do śmierci posłuszny. A matka czysta, święta, niepokalana, dobrotliwa y obyczayna.

Ociec mądry, sprawiedliwy, szczodry, miłosierny, na gniew nie prędki, a do łaski chciwy, nie do końca srogi, ani na wieki gniewliwy. Matka dziatki miłująca, ćwicząca, przemyślna o swoich, posłuszna aż do krwię y wszelakimi cnotami przez tego, ktory ią sobie poślubił, przyozdobiona y ubogacona. Dla czego ani oycowskiego przyrodzenia prawo, ani macierzyńskie mleko do tak wielkiey złości dziatek naszych przyczyną nie były...

Jam strapiona, ja mizerna y nad wszystkie matki nieszczęśliwsza, ktorą gdzie się kolwiek obrocę, wszędy syny moie na zdradzie mnie nayduię. Tu nieprzebyte iamy kopaią, tam drotowe sieci zarzucaią, z owąd iadowite żądła wypuszczaią, a ztąd śmier-

што цярплю ад сваіх уласных сыноў нязноснае праследаванне? Што ж я зрабіла вартага смерці, за што жыццё маё знаходзіцца ў небяспецы?..

Пашукаю ж я прычыну іх непрымірымай злосці. Можа яна дасталася ім у спадчыну ад бацькі, а мо' з матчынага паблажлівага, нястрогага выхавання? Бо як добры плод сведчыць аб добрым дрэве, так і добрыя паводзіны дзяцей аб добрым жыцці бацькоў апавядаюць. І наадварот, злосці бацькоў прыпісваюць тое, што асуджалася ў патомках. Але нічога падобнага ні ў якім выпадку не знойдзецца ў іх бацькоў, бо бацька іх добры, ціхі, сціплы, лагодны, ласкавы, пакорны і паслушны да смерці. Што ж датычыцца маці, то яна чыстая, бездакорная, нявінная, пяшчотная і ветлівая. Бацька мудры, справядлівы, шчодры, міласцівы, на ґнеў не паспешны, ахвочы да ласкі, не вельмі строгі, а калі гнявіцца, дык не на доўгі час. Матка дзеталюбная, строгая ў меру, клапатлівая, паслушная да крыві, аздоблена і ўсялякімі дабрачыннасцямі ўзбагачана ад таго, які на ёй ажаніўся. Пагэтаму ні бацькоўскія ўроджаныя якасці, ні матчына малако не былі прычынаю такой вялікай злосці нашых дзяцей...

Засмучана я, убогая, бедная і самая нешчаслівая маці з усіх матак, бо куды толькі ні пайду, усюды бачу, якую мне сыны прыгатавалі здраду. Тут яны непраходную яму капаюць, там закідаюць драцяныя сеці, з гэтага боку выпускаюць ядавітыя джалы, а з таго смяр-

telne trucizny leią: iedni iawnie, drudzy taiemnie, niektorzy pochlebstwem, a niektorzy groźbą, wszystkim iednak iednostaynie o żywot moy idzie; wszystkim iedna matka w nienawiści...

Biada mnie nieszczęsney, żem syny rodziła na boleść moię y corki na zranienie moie! Lepiey mi zaiste było bezpotomney mieszkać, niż na tak gęste niezbożnych synow huffy patrzyć. Lepiey w prawdzie y onym się było nie rodzić, niżli się narodziwszy wieczną zgubę odziedziczyć, w ktorey lżey będzie Sodome y Homorze niż onym...

O biskupowie, biskupowie! O synowie, ktorzyście oycem y matką wzgardzili! Dziatki w pałacach krolewskich porodzone y wychowane, a teraz do karczem y sałaszow swą wolą przewabione. Dokąd snem leniwstwa spać będziecie? Dokąd gniusu niedbalstwa od oczu serc waszych nie otrzecie? Przyidźcie do wod czworotocznych ewanielskich potokow, a omyicie błoto prostoty rozumu waszego! Izaliż ieszcze nie macie na tey nieoszacowaney utracie dosyć, ktorą ia za waszym niedbalstwem ponoszę, tak wielka złota, srebra, pereł y kamieni drogich, ktoremim ia od oyca waszego przed kilkądziesiąt lat iako nayzacnieysza krolowa przyozdobiona była, zgubą? Gdzie teraz nieoszacowany on kamuszek, iako lampa łsnąca się carbunculus, ktoregom ia między innemi perłami, iako słońce między gwiazdami w koronie głowy mey nosiła, — dom książąt Ostrożskich, ktory blaskiem światłości staro-

тэльны яд выліваюць. Адны гэта робяць адкрыта, другія тайна, некаторыя ліслівасцю, а некаторыя пагрозай, аднак усе аднолькава пасягаюць на маё жыццё, усім адна матка ненавісная...

Бяда мне, што сыноў нарадзіла на пакуту сабе, а дачок на раны! Лепей мне, па праўдзе кажучы, было б беспатомнай жыць, чым глядзець цяпер на такую гушчу сваіх бязбожных сыноў. Лепей было б ім, сапраўды, не радзіцца, чым, нарадзіўшыся, атрымаць у спадчыну вечную пагібель, у якой будзе лягчэй Садому і Гаморы, чым ім...

О біскупы, біскупы! О сыны, занядбаўшыя бацьку і маці! Дзеткі, народжаныя і выхаваныя ў царскіх палатах, а зараз па свайму жаданню перайшоўшыя ў карчмы і шалашы! Дакуль вы будзеце спаць непрабудным сном? Дакуль вы будзеце яшчэ трымацца нядбайнай гнуснасці? Прыдзіце да вод шырокіх чатырох евангельскіх патокаў і абмыйце гразь прастаты вашага розуму! Хіба ж вам яшчэ мала той каштоўнай страты, якую я зношу, дзякуючы вашай нядбайнасці, такой вялікай страты золата, срэбра, перлаў і дарагіх каменняў, якімі я ганарылася, аздобленая вашым бацькам, на працягу колькі дзесяткаў год як найслаўнейшая каралева? Дзе зараз той вельмі каштоўны каменьчык-карбункул, бліскучы як светач, які я насіла ў сваёй кароне паміж іншымі перламі, як сонца паміж зорамі, — дом князёў Астрожскіх, які вылучаўся сярод іншых

дати истотне видѣчи, изались не маем покланяти, кгды юж не баранок фикгуралный, але тот, который гладит грѣхи всего мира, богу отцу приносится на офѣру?

А тое все ку тому целю мовится, абысте ся яко найлепѣй приготовали на приход царя рожденнаго, бо мовит еден з докторов церковных: «Елико вмистѣлище, толико влагалище. Як правѣ великое начине подаси, так много в него з даров божиих волется. Если умысл затарасует [1] печалми житейскими, там юж благодать святого и животворящаго духа премѣшкивати не может. Если сосуд вилготный и заплеснѣлый будет, там балсам найкоштовнѣйший несвойдет. Если серце твое хто иншый опанует, если тобою справовати будут страсти и наметности [2], там юж иншый господар в том дому быти мусит. Яковое бовем сполкованне [3] Велиару со Христом?»

Леч ты глупым и шаленым застаеш, же не хочеш так гойными дарами обогачоным быти, и на принятие так гойных даров начиня не даеш и заставаеш убогим, кгды не принесеш умыслу росспростертаго и спанялого, которое бы годно и способно было на принятие добр тых. Але жебысь ся в тых дарах бозских барзей закохал, зтупует добро универсалное на низкость земную, в котором вси потѣхи и вси добра замыкаются.

Приходит твой цар, который так ест потужный и так можны, же всю орду шатанскую звалчит [4] и внивеч обернет, а до того добродѣйства невымовные оказует, же ласкаве и приятелске з тобою жити обецует. Приходит отец тот, которы всими достатками сынов своих опатрует [5]. Приходит тот отец, который сына марнотравного готовый ест приняти до дому своего и в шату [6] его первую обалакает [7] и юж не телца упитанного, але самого себе дает на том банкетѣ преможном, на той трапезѣ [8] безсмертной и готов тебе, як пеликан свое дѣти, кровию своею оживляти, так и тот мысленный кровию своею найдорожшою, излиянною за весь мир, оживотворити. А ты того всего невдячным се ставаеш, и всими тыми дарами бозскими погоржаеш, и не хочеш приспособит на принятие того гостя милого и пожаданого.

Чи много з вас, православные християне, умысл свой приспособили а от земных вещей отдалили? Чи много з вас зезволили обмыти дом свой душевный през исповѣдание грѣхов своих и от серца истинное покаяние? Чи много з вас сосуд свой выхендожили [9] на влитие балсаму того неошацованого? Леч кгды было которому з вас ознаймено, же кроль и монарха сегосвѣтны мает приехати до дому твоего и в ним обецне [10] мешкати, азали было ся не готовал на принятие до дому своего, азали было не толко дом свой, але и себе самого, приоздобил яко найлепѣй? Для чого ж душевны дом у тебе так ест плюгавый? Чому того сосуду гнилого и заплѣснѣлого не выхендожиш? Если на столѣ, або на лаве, макулы якое не терпиш, а на души чому ее терпиш? Для чого доброхотне

[1] заслоніць, загародзіць. [2] пачуцці. [3] сумяшчэнне. [4] пераможа. [5] даглядае. [6] адзенне, рызу. [7] адзяе. [8] страве, ежы. [9] вычысцілі. [10] цяпер.

тых даров бозских лишаешся? Изали не ведаеш, же ярмарок живота нашего барзо ест коротки и рихло юж скончится, а ты еще ничого не купил? Затым хотябыс тепер одну слезу з очий сердечных выпустил, теды далеко потребнѣйшая ест и болшую вагу в собѣ мает, а нижли по сконченю того ярмарку рѣки быстроточные. Для того теды ширей лаком в то се инферует[1], абысте ся почували в своей повинности Христи, абысте помнели на свою вокацию[2], абысте принамней самых иновѣрцев завстыдили, которые килка крот до року, албо килканасте раз в своих синакгогах коммоникуют и оплатки полыкают[3]. А вы, Христи титулуючися, до которых Христос спас мовит: «Аще правда ваша не избудет, паче книжников и фарысеов, не внидете во царство небесное, если правѣ так жити не будете, абы самое житие ваше было кшталтом[4] и прикладом иншим, если не будете так живота своего провадити, абы и самые иновѣрци, видечи честное житие ваше, прославляли отца вашего, теды лѣкайтеся помсты и караня от бога». До того не толко дом свой душевный очищайте, але теж и приоздобляйте его добродетелми, то ест постом, молитвами, милостынею.

А жебы той огонь любви божое в нас не згасл, самого того всими царствуючаго царя, которы грѣдет родитися в яслех скотнях, просимо, абы ваша серца тым огнем любви его палали, абы теж нам дал умысл таковый, абысмо вдячными были и годными стали тых его даров невымовных и добродѣйств з неогорненого его до нас милосердия, которое он нам гойне и щодробливе, яко скарбница неисчерпаемая щедрот и бездна наиследимая милости, показовати рачил до того, абысте яко найлепѣй приготовали на принятие до душевных домов ваших царя новороженнаго. А другие, хоч юж и короткий час, не отмовлялися по исповѣди до причастя, хоч на 11 годину беспечне ся до той винници становили, але быстe ветхаго человѣка совлекли з похотьми его, дом душевный приготовили. Новый абовем Адам нового кгмаху[5] на мешкане собѣ потребует. Волаймы ж теды с пророком: «Сердце чисто. Созижди во нем, боже, и дух прав обнови во утробѣ моей! Яко тобѣ подобает всякая слава, честь навѣки вѣком. Амин».

---

[1] апавядаецца. [2] часовае жыццё. [3] глытаюць. [4] узорам, формай. [5] будынку.

# АФАНАСІЙ ФІЛІПОВІЧ

## (1597—1648)

Афанасій Філіповіч нарадзіўся каля 1597 г. на Брэстчыне ў сям'і рамесніка. У дзяцінстве атрымаў добрую па таму часу адукацыю і ў юнацкім узросце заняўся педагагічнай дзейнасцю, якая працякала пры дварах праваслаўнай шляхты.



У 1620 г. Афанасій Філіповіч паступіў на прыдворную службу да літоўскага канцлера Льва Сапегі ў якасці «інспектара» (хатняга настаўніка. — *А. К.*) Яна Фаўсціна Лубы, якога польскі ўрад у сваіх палітычных мэтах выдаваў за Дзмітрыя — сына рускага цара, і быццам бы законнага наследніка маскоўскага трона.

У 1627 г. Афанасій Філіповіч, пераканаўшыся ў тым, што Луба не рускі царэвіч, а нейкая невядомая асоба, пакінуў прыдворную службу ў Сапегі і пастрыгся ў манахі віленскага Святадухаўскага манастыра. Праз некаторы час ён пераехаў у аршанскі Кутэінскі манастыр, а адтуль у Межыгорскі манастыр пад Кіевам. З Межыгорскага манастыра Філіповіч зноў накіраваўся ў Святадухаўскі манастыр, адкуль у 1633 г. яго накіравалі намеснікам ігумена Дубойскага манастыра каля Пінска.

У 1636 г., у сувязі з тым, што Дубойскі манастыр па волі літоўскага канцлера Альбрэхта Станіслава Радзівіла быў перададзены езуітам, Філіповіч пераехаў у Купяціцкі манастыр каля Пінска. З гэтага манастыра Афанасій Філіповіч у канцы 1637 г. накіроўваецца ў Маскву да цара Міхаіла Фёдаравіча прасіць «ялмужны» (міласціны) для Купяціцкай манастырскай царквы і, карыстаючыся выпадкам,

схіліць цара Міхаіла к вайне за вызваленне Беларусі і Украіны. У гэтых мэтах Філіповіч, будучы ў Маскве, у сакавіку 1638 г. напісаў спецыяльна для цара «Гісторыю» свайго падарожжа ў Маскву і адначасова паведаміў рускаму ўраду аб падрыхтоўцы ў Рэчы Паспалітай новага самазванца на маскоўскі трон — Яна Фаўсціна Лубы.

Пасля звароту з Масквы, Філіповіч у 1640 г. быў абраны ігуменам брэсцкага Сімеонаўскага манастыра. У Брэсце Афанасій Філіповіч узначаліў барацьбу мясцовага праваслаўнага брацтва супроць незаконных дамаганняў уніяцкай капітулы[1]. Абставіны гэтай няроўнай барацьбы прымусілі яго два разы ездзіць на вальныя сеймы Рэчы Паспалітай у Варшаву ў 1641 і 1643 гадах.

У 1643 г. за сеймавае выступленне з рэзкай палітычна завостранай «суплікай» (прашэннем), адрасаванай каралю Уладзіславу IV, Афанасій Філіповіч быў арыштаваны, а затым сасланы ў Кіеў. У Кіеве ён падвяргаўся суду духоўнай кансісторыі, але на судзе быў рэабілітаван і накіраван зноў у Брэст на месца сваёй службы.

У 1644 г., у час сваёй службовай паездкі ў Кракаў, Афанасій Філіповіч наведаў там рускага пасла князя Львова і аддаў яму асабістае пісьмо Лубы, змест якога даў рускаму пасольству падставу патрабаваць ад польскага ўрада выдачы Лубы як самазванца на расправу рускаму цару. За гэтую палітычную паслугу рускаму пасольству польскі ўрад арыштаваў Філіповіча і пасадзіў яго ў турму як дзяржаўнага злачынца.

Знаходзячыся ў турме, Філіповіч напісаў рад публіцыстычных артыкулаў, накіраваных супроць унутранай і знешняй палітыкі шляхецкай Рэчы Паспалітай і пануючай у дзяржаве каталіцкай і уніяцкай царквы. Палітычная завостранасць і сацыяльная насычанасць артыкулаў, якія пасылаліся каралю Уладзіславу IV, з'явіліся прычынай другой ссылкі Афанасія Філіповіча ў Кіеў (у 1645 г.) пад строгі нагляд мітрапаліта Пятра Магілы. Ссылка Афанасія працягвалася да 1647 года. За час гэтай ссылкі ён аб'яднаў усю сваю ранейшую публіцыстыку ў адзіны звод — «Дзіярыуш». У якасці арганічных звязак паміж асобнымі артыкуламі Афанасій Філіповіч выкарыстаў дадатковы матэрыял, які меў прамое або ўскоснае дачыненне да яго жыцця і дзейнасці. Прарабіўшы гэтую работу, Філіповіч перадаў адзін са спіскаў свайго «Дзіярыуша» мітрапаліту ў якасці дакумента, які апраўдваў усю мінулую дзейнасць аўтара, з разлікам на амністыю; але гэтым ён не наблізіў сваё вызваленне.

Вярнуўшыся з ссылкі ў 1647 г., Філіповіч зноў пасяляецца ў Брэсце. У 1648 г., у хуткім часе пасля пачатку паўстання Багдана Хмяльніцкага, польскі ўрад у трэці раз арыштаваў Філіповіча за яго дапамогу паўстаўшым казакам порахам і агітацыйнымі лістоўкамі, тэкстам якіх з'яўляліся яго ранейшыя публіцыстычныя артыкулы. І нягледзячы на тое, што «віноўнасць» Філіповіча не была даказана на судзе, польская шляхта па-зверску пакарала яго смерцю 5 верасня (па старому стылю) 1648 года.

Афанасій Філіповіч быў палымяным змагаром за ўз'яднанне Беларусі і Украіны з Расіяй, непахісным абаронцам інтарэсаў і правоў сацыяльных нізоў беларускага і украінскага народаў. Яго літаратурная спадчына з'яўляецца адным з буйнейшых дасягненняў палемічнай літаратуры таго часу. Смелы і мужны змагар супроць феадальна-каталіцкай агрэсіі Афанасій Філіповіч сваім вострым словам палеміста выкрываў і ганьбіў «уніятаў і ўсіх улад рымскіх», духоўных і свецкіх феадалаў, якія, па яго трапнаму выразу, «згола в зверев и птахов драпежных ся перекинули и подобными стали, а праве юж и над зверов подданых своих и убогих людей драпежать и над ними ся збыткують».

Афанасій Філіповіч быў бліжэйшым і адзіным, вядомым нам да гэтага часу, прадаўжальнікам таго дэмакратычнага напрамку палемічнай літаратуры Беларусі і Украіны XVII ст., асновапаложнікам якога з'яўляецца таленавіты украінскі публіцыст-дэмакрат Іван Вішанскі.

Ніжэй пададзены ўрывак з «Дзіярыуша» Афанасія Філіповіча з'яўляецца адным з яго публіцыстычных артыкулаў цыкла турэмнай публіцыстыкі. Тэкст

---

[1] Калегія духоўных асоб пры епіскапскай кафедры.

артыкула друкуецца па рукапісу Дзяржаўнага гістарычнага музея Масквы. (Гл. фонд Сінадальнай бібліятэкі, № 856, лл. 156 об. — 166). Поўны тэкст рукапіснага «Дзіярыуша» надрукаваны ў «Русской исторической библиотеке», т. IV, Спб., 1878, сл. 48—156.

# НОВИНЫ ПРАВОВѢРНЫМ ПОЖАДАНЫЕ О УСПОКОЕНИЕ ВѢРЫ И ЦЕРКВИ ПРАВОСЛАВНОЙ ВОСТОЧНОЙ, ЯК БЫ СУПЛИКУЮЧИ ПРЕЗ НИХ ДО КРОЛЯ ПАНА И ДО СЕНАТУ ЕГО ВСЕГО, ВЕДЛУГ ТИТУЛОВ КОЖДОГО, В ТЫЕ СЛОВА

Наяснѣйший по Исусѣ Христѣ, кролю полский, пане, пане и добродѣю мой велце милостивый! Яко вѣрный подданый вашое кролевское милости пана, а пана мнѣ милостивого, я, убогий законник [1] чину св. Василиа Великого, так вашой кролевской милости, пану мнѣ милостивому, як и всѣм станом вышшым, средним и нижшим ознаймую. Иж запевне-запевне хотѣлем и готовалемся, юж [2] справою духа святого (як тому простым сердцем вѣрую) на сейми валном [3], в року теразнѣйшом [4] 1645, на пересторогу всего христианства, под той час схилку [5] свѣта (в чом воля творци нашего ест), списавши [6] в килка десят фастикулов [7], в костелѣ варшавском, при бытности вашой кролевской милости, як найспокойнѣйший час, розным особом и сенатором подати, оголосити и доводне [8], не сам през себе, але о укрѣпляющим мя [9] Исусѣ Христѣ, довести и указати.

Леч [10] дивные справы бога, в троици святой православно славимаго и пречистое богородици, ходотайки, благодѣтелки и патронки нашое, упередивши той час перед сеймом за килканадцать [11] недѣль, як бы о причинѣ иншой, о Дмитровича, царевича московского (а то власне прикладом слѣпорожденнаго воженя од суду до суду для лѣпшого обясненя так великой, страшной, поважной и святобливой [12] справы свѣтлости, мовлю, всѣм пожаданое вѣры православное), взято мене до вязеня и в оковы. За що я пониженым [13] сердцем, як правовѣрный слуга божий, православно творцу моему подяковавши, о то из вязеня, ведлуг воли бозской и часу потребного, вспоможенем [14] пречистои богородици, повинности моей досыть чиню: о воли его пресвятой и о собѣ нендзном [15] обясняю таким порядком.

Я то нендзный Афанасий Филипович, который праве з детинства и от взятя розуму моего, ласкою божею и молитвами пречистой богородици, в вѣры православной и церкви правдивой восточной [16] статечным [17] будучи, по науках церковно-руских, служилем

---

[1] манах. [2] ужо. [3] генеральны. [4] цяперашнім. [5] канец. [6] маецца на ўвазе яго «Гісторыя» падарожжа ў Маскву ў 1637—1638 гг. [7] звязак экземпляраў. [8] грунтоўна, аргументавана. [9] мяне. [10] але, аднак. [11] некалькі. [12] свяшчэннай. [13] пакрыўджаным. [14] дапамога. [15] няшчасны, бездапаможны. [16] праваслаўная царква грэчаскага веравызнання. [17] сталым.

на розных мѣстцах и у небожчика пана Сапеги [1], гетмана, 7 лѣт служилем за инспектора [2] Дмитровичу, якомусь царевичови московскому, который, за вѣдомостю [3] кроля Жигмонта Третего [4], в опецѣ его был. Там же, зрозумѣвши омылность [5] свѣта того, чернцем [6] зосталем, року [7] 1627, у Вилни при церкви православной Святого духа, рукоположением господина отца годной памети Иосифа Бобриковича [8]. И былем з послушенства в монастыру Кутеенском под Оршею и в Межигорском под Киевом, през час немалый учачися воли бозской и законного живота [9].

Леч бывает в законников перемѣна. З Межигоря послушне, гды [10] знову ѣхати ми [11] пришло, святой памети годный муж господин отец Коментарий [12], игумен на тот час межигорский, при отцу Самоилу Борецким [13], рекл ми на ползу тые слова: «Брате Афанасий, чернец естесь [14] в монастырѣ Межигорском. Принамнѣй [15], тые три речи заховай: першая — будь послушным старшим своим, другая — правила церковного пилнуй, третяя — бесѣд женских стережися. Тые гды, даст бог, сохраниш, спасешися и будеш потребен на службу церкви Христовой. Иди с миром!» Идучи мнѣ до Вилна, за Чорнобилем [16] пред Мозиром, по взрѣчу [17] Днѣпра, в пущи на дорозѣ придал [18] ми ся человѣк барзо [19] хорый. Взялем его на себе и несл немало. Той человѣк потом (дивные справы в таемницах бозских много зо мною мовивши) дал ми [20] имя найсолодшее Исус Христос на сердце мое и указал ми як тое маю заховати: 1) мѣрность [21] зо всѣми людми в пожитии розумне мѣти; 2) послушенство, чистость и убозство заховати законное [22]; 3) на смерть двоякую памятати уставичне [23]; 4) воли бозской завше-завше [24] во всем се оддавати, што я паметаючи (дару бозского ведлуг часу таити не треба) и по сесь час [25], выритое ласкою его святою, на сердцу своем маю; 5) если бы што противного воли бозской з немощи [26] ся телесной притрафило [27], то сповѣдью и покутою досконало себе очищати.

Я то нендзный Афанасий, который з Вилня, по вступленю порядном [28] на иерейство [29], з воли бозской и старших моих, былем намѣстником в монастыру Дубойском, под Пинском. Там през три лѣта з духами злыми, видомыми и невидомыми, барзо бѣдилемся [30]. И гды князь Радивил, канцлѣр литовский, року 1636, именем Полоза утискуючи церков православную, одбирал монастыр той Дубойский на езуиты барзо мудрие, фундуючи [31] их в мѣсти [32] Пинском, а в тот час барзо страшнии видоки [33] на неби и на земли (не

---

[1] Леў Сапега, літоўскі канцлер да 1632 г. [2] хатні настаўнік. [3] па даручэнню. [4] польскі кароль Сігізмунд III Ваза; быў каралём да 1632 г. [5] памылковасць. [6] манахам. [7] года. [8] Іосіф Бабрыковіч, намеснік ігумена віленскага Святадухаўскага манастыра, пазней — да 1635 г. магілёўскі архіепіскап. [9] жыцця. [10] калі. [11] мне. [12] межыгорскі ігумен да 1628 г. [13] родны брат кіеўскага мітрапаліта Іова Барэцкага. [14] ёсць. [15] хоць бы, па меншай меры. [16] горад у Кіеўскай вобласці. [17] уздоўж ракі. [18] з'явіўся нечакана. [19] вельмі. [20] мне. [21] справядлівасць, законнасць. [22] манашскае. [23] пастаянна, заўсёды, цвёрда. [24] заўсёды. [25] і да гэтага часу. [26] слабасці. [27] здарылася. [28] прынятым па звычаю. [29] поп, святар. [30] змагаўся, вёў барацьбу. [31] заснаваць, увесці. [32] мясцовасці, горадзе. [33] відовішча.

през сон, але в день и на явѣ, толко як в захвиценю [1] яком будучи) видилем. На небѣ — хмуры [2] барзо гнѣвливые з войсками ушиковаными [3], на каране готовыми, и на земли—седм огнюв пекелных, на седм грѣхов смертелных зготованых. З тых огнюв, в пятом жаристом гнѣви, трох особ выразне видилем: нунциуша легата [4], в коронѣ папежской [5]. Жигмонта кроля и Сапегу гетмана, за преслядоване церкви восточной барзо смутно седячих. Которое видене, гдым другим указовал, видити не могли. Толко один святобливый [6] муж господин отец Иларион Денисович, игумен купятицкий и пинский, тые справы бозские видил и дивовался. Подстаростий [7] пинский, пан Огродинский, незадолго потом, гды заѣждзал [8] тот монастыр, голосно волал [9]: «Отцеве! Для бога, што то ест?! Страх мя здыймует [10]. Чи не маш якой здрады? Пале [11] под мостом чи не подпилованы? Отцеве, для бога, не жартом то мовлю, страх ми здоймует!» И долго ся трвожачи [12], аж за проводом отцев виленских, в монастыр зо всѣм поѣздом въѣхал и обнял [13]. Я, зась [14] з горливости [15] моее до благочестиа святого, списавши жалосный лист взглядом людей [16] православных, которых там не тисеча было, маючи добрую надѣю з вѣры православное, же [17] ся тыи люде, або в особѣ тых людей вся церков восточная до православиа святого мает вернути, и полецилем [18] тот лист пречистои богородици Купятицкой, з подписами рук людей годных не мало. А мяновите подписался: отец Силвестер Краскиевич, игумен циперский, Леонтий Шицик, игумен дубойский, Иларион Денисович, игумен купятицкий, Самоил Рогаля, друкар братства Виленского, Афанасий Филипович, намѣстник дубойский, Себестиан Гуляницкий, урядник дубойский, Иван Крупка, писар дубойский провентовый [19], и инших не мало. Мене зась од того часу в монастыру Купятицком на послушание оставлено и былем терпливе.

Я то нендзный Афанасий, который року 1637 с Купятич для ялмужны [20] на Бѣлую Русь будучи высланый, дивною справою бозскою и переводом пречистое богородици Купятицкое (который образ на граници московской правдиве и на небѣ виденый был), без писаня, чудовне столици Московской доѣхавши, за рѣкою Москвою, в Ординской улици, на господи [21], там даной будучи, справедливе о том, што ся дѣяло в дорозѣ, историю списавши, царю московскому, ведлуг [22] росказаня бозского (як тому простым сердцем вѣрую), на задержанье и оборону и помножене вѣры святой православной подалем.

Я то нендзный Афанасий, который року 1640 послушне з Купятич за волею бозскою (што доводне показуется) на игуменство церкви православное до Берестя Литовского [23] (где то фундамент

---

[1] захапленні. [2] хмары, воблакі. [3] пастаўленымі ў строй. [4] пасол, афіцыйны прадстаўнік рымскага папы. [5] папскай. [6] набожны. [7] наместнік старасты. [8] захопліваў. [9] клікаў на дапамогу. [10] ахапіў, агарнуў. [11] сваі, апорныя слупы пад мастом. [12] хвалюючыся. [13] заняў, захапіў. [14] тым часам, тады. [15] стараннасці. [16] пры сведках. [17] што. [18] даручыў, рэкамендаваў. [19] харчовы, прадуктовы. [20] міласціны. [21] пастаялы двор, гасцініца, карчма. [22] адпаведна, паводле. [23] старажытная назва горада Брэста.

унѣи[1] проклятой стался) приѣхавши, права и привилея[2], на пергаменах найденые, з страшным проклятством на униты[3], до книг гродских берестейских актиковалем[4] и оголосилем в церкви и на розных мѣстцах, волею бозскою указуючи, же тое роздѣлене Руси а приняте унѣи незвычайным способом з неналежным пастырем ест барзо проклятое. Потом з метрик[5] вашой кролевской милости варшавских екстрактами[6] тые справы[7] повыймовавши ново, привилей с потверженьем оных прав на церков православную Берестейскую од вашое кролевское милости, пана нам щасливе панующого, Владыслава Четвертого[8], с подписом руки набылем. Але запечатовати[9] его ксионже[10] канцлѣр и ксиондз подканцлѣрий и за тридцать таляров[11] твардых не хотѣли. И гдым был в покоях их милостей, мовили до мене: «Будете всѣ униатами, то дармо запечатуем, бо вѣдайте, же под клятвою нам заказано от святого отца папежа, абы юж болшей вѣра грецкая[12] тут не множалася». На тот час и ксионже Клецкий в покою ксионжеця канцлѣра был и причинялся[13], прочитавши привилей, абы запечатовано. Леч жадным[14] способом не запечатовали.

Потом пришолем до старших отцев моих, а о то зрозумѣлем, же кождый з них свою привату уганяет[15]. Господин отец Коссов[16] двох тисечей золотых в кождый рок на владыцство Могилевское доходит; отец Гулевич баницию[17] з себе зносит, владыцство Премыское пустивши в вѣчность (як в конституции написано) «на унѣю»; отец Жолуд цегелню толко в Вилни правом сталюет[18]; отец Шицик привиля, еден собѣ на архимандрию Овруцкую, а другий Филатею на игуменство Золотоверхого Михаила[19] набывает. Един господин отец Варлаам Дѣдковский святобливе в справах церкви Печерской з розсудком духовным працовал. Иншие отцеве всѣ и законники в своих приватах приѣхали и мовят з собою: «я маю, я маю з потребу у себе церквей. Як собѣ хто хочет, нехай ся домовляет; я не дбаю». И юж о грунтовным успокоеню вѣры православной ани зменки[20] было.

Мѣщане зась убогие з Люблина, Сокаля, Орши, Пинска, Бѣлска, Кобрыня, Берестя и з инших мѣст и мѣстечок плачливе ляментуют, же юж не мают и людей, з ким бы церквей своих доходити могли! Нимаш отца и мужа святого Леонтиа Карповича, архимандриты виленского и отца Иосифа Бобриковича, старшого виленского! Нимаш мужей памяти годных Михаила Кропивницкого[21], Лаврентиа Древинского[22] и пана Мефодиа Киселя[23] з колегами его в поле

---

[1] царкоўная унія (саюз) 1596 г. [2] асобы від граматы на прадмет карыстання маёмасцю. [3] асоб, якія прынялі уніяцкае веравызнанне. [4] занёс у кнігі, заактаваў, упісаў. [5] актавых кніг. [6] выпіскамі, копіямі. [7] дакументы. [8] сын караля Сігізмунда III быў польскім каралём з 1632 г. да 1648 г. [9] заверыць, засведчыць. [10] князь. [11] нямецкая сярэбраная манета вартасцю ў 3 маркі. [12] праваслаўнае веравызнанне. [13] хадайнічаў. [14] ніякім. [15] дамагацца. [16] Сільвестр Косаў, магілёўскі архіепіскап з 1635 г. да 1647 г., а з 1647 г. — кіеўскі мітрапаліт. [17] выгнанне. [18] замацоўвае юрыдычна. [19] адзін з багатых кіеўскіх манастыроў таго часу. [20] ніякага клопату. [21] М. Крапіўніцкі — адзін з віднейшых абаронцаў праваслаўя. [22] Л. Дрэвінскі — брацлаўскі ваявода. [23] М. Кісель — стараста Віленскага праваслаўнага брацтва.

рицерском не стало, абы о успокоене грунтовное вѣры православное грецкое домовлялися! Немаш в набоженствѣ належном, ведлуг сумненя православных людей, волности юж и за гроши! Ах, бѣда ж! Креста не принявши дѣтки, а дарослые без шлюбов живут, а умерлых в полях, в огородах и в пивницах потаемне в ночи погребают! Немаш, мовлю, волности юж и за гроши! Над турецкую неволю, тут в панствѣ христианском православные люде болшую неволю терпят и мают! Бо оршане бѣдные за тое, што в братствѣ своем новую церков збудовали, двѣстѣ червоных золотых подканцлѣрому за печать давали. А сокаляне сто червоных золотых и пятдесят коров до фолварку особы едной за причину [1] толко давали. И иншие также барзо ся убиали, а ничого юж не справили. Яко ж и прошлых часов, противники правды святой, умыслне [2] (поджогою духа злого) хотячи вынищити тут в панствѣ христианском вѣру православную грецкую, од сейму до сейму незбожне огризуючи одкладали; наостаток, торгаючи [3] сеймы, и докладати [4] юж в конституциах, абы укрывжоная усправедливене мѣла, не зезволяли.

Тое все выбачивши, я, нендзный з дару духа святого, як тому простым сердцем вѣрую, шолем до господы, за «Панну Марию» [5], през новое мѣсто в Варшаве, мыслячи в собѣ през имя Исус Христово, в сердцу моем нарисованое, и з горливости вызнаня православного мовячи: «О, боже справедливый! Як то ваги [6] несправедливости юж-юж до самого центрум и крѣсу [7] припали [8]. Юж-юж и сами отцеве наши старшии в вѣры православной о помноженю хвалы бозское не дбают. Юж вси як бы ся ее встыдают. А што болшая — нѣкоторые, для гоноров и свободы свѣта того латиною [9] и много о собѣ розумѣньем, ошуканы будучи (ах, бѣда ж!), з вѣры правдивое до иншое вѣрки, як Смотрицкий [10], Скуминович и иншие, небачне перекидаются. И всѣ немал [11] з латинников наших милых, праве, ■ еден струп злѣвшися, власне юж в вонтпливость [12] людем простым вѣру правдивую и церков всходнюю подают и, як бы храмлючи, волают: «О, и тая, о, и тая вѣра ест добрая!» А то быть не може, абы много вѣр мѣло быти добрых, бо написано: «Един господь, едина вѣра, едино крещение» [13] и прочее. Тое мыслячи, обачилем невѣсту, од костела Панны Марии як бы в роспачи обнаженно бѣгучую и волаючую з великим ляментом, руки вложивши на голову: «Згинулам! Взято ми з ложка взголовье и колдру» [14]. Помыслилем в собѣ през имя Исус Христово: «так тепер церков православная тут в панствѣ том христианском ляментует в окраденю од злодеѣв полуденных (то есть униатов проклятых) ложа мысленнаго Саломона и в обнаженю з покрытя еи прекраснаго» (бо в тот же час превротник [15] якийсь, злодий и блюзнѣрца [16] Касян [17] выдал

---

[1] за хадайніцтва. [2] намерана. [3] зрываючы. [4] запісаць, унесці. [5] кафедральны каталіцкі сабор. [6] чаша вагі. [7] граніца, мяжа. [8] перайшлі. [9] каталіцкаю вераю. [10] маецца на ўвазе М. Г. Сматрыцкі, архіепіскап віленскі. [11] амаль. [12] няпэўнасць, падазронасць. [13] спасылка на «Біблію», Ефес, гл. 4, ст. 5. [14] узялі ў меня з ложка падушку і коўдру. [15] адступнік ад веры, здраднік. [16] паклёпнік. [17] Касіян Саковіч, пісьменнік-палеміст, які здрадзіў праваслаўю і перайшоў у лагер католікаў.

книжку [1], обнажаючи сакрамента [2] пресвятые церкви православной восточной). Тое мислячи, гдым поровнался истем [3] з тоею невѣстою, далем ей червоный золотый, мовячи: «Купи собѣ што можеш». А о то зараз пал на мене дух святый в плачливом жалю и долго в том ревливе плакалем. Потом в господи [4], у Стефана Русина Пикаря в коморци, гдым одправовал акафист [5] до пречистои богородици, теды, власне в тых словах: «от всѣх нас бѣд свободи», барзо ретелный [6] голос од образу пречистои богородици слышати было таковый: «О, Афанасий, супликуй [7] тепер на сейми през образ мой, в крестѣ изображенный Купятицкий, до кроля полского и Речи Посполитое, грозячи правдивым гнѣвом и страшным судом божиим, который правдиве юж-юж приходит, если ся не обачат. Нехай же первѣй унѣю тую проклятую вѣчне зганят, бо того впрод потреба; и може быть еще добре».

З росказаня теды я пречистое богородици и моцью честнаго креста о имени Исус Христовѣ, як тое ся и объясняет, року 1643, права маючи добрии, як играч який, маючи карту добрую, и як Илиа пророк, горливостю до православной вѣры, в Варшаве на сейми валном, образ пречистои богородици, в крестѣ изображенный Купятицкий, в седми штуках, на полотни малеваных, з гисториею московскою [8] (вѣрность в том вашой кролевской милости, пану моему милостивому, освѣдчаючи) и з написом, на пересторогу гнѣву божого и страшного суду его вмѣсто суплики от церкве всходнеи в замку и в избѣ сенаторской [9] пред маестатом [10] и обецностю [11] вашое кролевское милости, пана мнѣ милостивого, певным а велце поважным особам сам очевисто [12], а в рицерском коли [13] през диакона моего нѣкоторым особам также значным, — подавалем и голосно, ведлуг презреня бозского, права показуючи, волалем. «Наяснѣйший кролю полский, пан мой милостивый. О то кривду незносную маем. Не хочут нам, людем правовѣрным, в справах побожных церковных привилеев печатовати. Не хочут нас ведлуг прав заховати поприсяжоных вашой кролевской милости. И юж то от пятидесят лѣт [14] вѣра правдивая и церков восточная грецкая под вами, паны христианскими, в кролевствѣ Полском для збытков [15] унѣи проклятой, аж назбыт [16] утиски терпит. А то за причиною и помочю ненавистных капланов [17] рымских, а найбарзѣй езуитов барзо мудрых, которые то, езуиты, внутрности людские в дѣтках малых отливными [18] словы на науки облудные [19] и на титулы высокие побравши, в школах комедии строячи, в костелах катедры маючи, и книжки переницованые [20], измышленые ошуканем шатанским, выдаючи, незбожне до людей простших, потаковников своих, и огиду

---

[1] маецца на ўвазе пасквільны трактат Саковіча «Perspectiwa». [2] святыню. [3] хадою. [4] у доме. [5] царкоўнае хвалебнае песнапенне. [6] выразны і шчыры. [7] скардзіся, пратэстуй. [8] маецца на ўвазе яго «Гісторыя» падарожжа ў Маскву. [9] верхняя палата польскага сейма. [10] тронам. [11] прысутнасць. [12] асабіста. [13] ніжняя палата сейма. [14] на працягу 50 год. [15] дастаткаў. [16] непамерныя. [17] ксёндз, духоўная асоба каталіцкай царквы. [18] красамоўнымі. [19] крывадушныя, каварныя, хітрыя. [20] скажоныя.

подают и преслядуют правовѣрных христиан, сами будучи неправовѣрные».

Я то, нендзный Афанасий, который назавтрее, в суботу, ведлуг росказаня нѣкоторых панов сенаторов, сам пришолем з диаконом моим Леонтием до пана Опалинского, маршалка [1], даючи о собѣ справу. А од пана маршалка посланый былем до его милости ксиондза бискупа познанского, на имя Андрея Шолдровского, человѣка велце [2] уважного, о котором и его милость отец наш метрополит Могила мовил (гдым был в Киеви слышал): «добрый то мой приатель». Тот, у вечер приѣхавши, з сенату од вашей кролевской милости, тую потѣху [3] рачил [4] нам ознаймити, же «король, пан наш милостивый, казал запечатовати вам тот привилей, которого потребуете. Прийдѣте юж ютро [5] до ксиендза подканцлѣрого, а тепер идѣте до господы».

Я то, нендзный Афанасий, который од своих отцев старших до запечатованя привилею недопущеный и злыми словы зганеный, за шаленого менованый, а згола [6] во всѣм (пане боже, им прости!) уруганый, оплваный и осмѣяный и обвиненый зосталем, а за тое самое, жем [7] ся их не докладал, справуючи тые суплики (если то слушна докладатися в таких таемницах бозских). Ах, бида ж мудрым, з латины до чого пришло! Юж ничого вѣры не прикладают и воли бозской не послушают, але, все на себе и на розум свой принявши, волю свою полнят и свои своих гнембят [8]. Бо там зараз в Варшавѣ, на Долгой улици, в господи одверного [9] вашой кролевской милости, на имя Яна Желязовского, през килка недѣль аж до розъѣзду сеймового в вязеню нендзно [10] мя з диаконом моим Леонтием вязили и трапили [11]. С которого то вязеня не могучи я жадным способом (в справи так знаменитой церковной, которая ся точит ведлуг воли бозской) до розсудку их духовного повабити и привести (о то ревностью дому божого запалившися и собою взгордивши [12], не будучи шаленым и овшем [13] маючи имя Исус Христово, на сердцу моем выритое, толко для самого упаметаняся [14] старших отцев моих, доброволне, не жалуючи, обнажити себе и в болотѣ ся помазати, абы церков, облюбеница Христова, одѣта и очищена была), шалемным як бы учинившися [15], из вязеня сам вчесне [16] вышедши наго, толко каптур [17] и парамант [18] для знаку законного на собѣ маючи, в болотѣ ввесь поплюскавшися и костуром [19] себе бьючи, по улицах варшавских бѣгал и волал великим голосом: «Бѣда проклятым и невѣрным! Бѣда проклятым и невѣрным! Vae maledictus et infidelibus!» Што постерегши в господи, челядь владычая слѣд пошляковали [20] и бѣгучого мене юж до брами [21] Краковское (бо хотѣлем в рынку в костелы вбѣгати и волати

---

[1] старшыня сейма, важак дваранства. [2] вельмі. [3] радасць. [4] меў ласку, пажадаў. [5] заўтра. [6] зусім, наогул. [7] што. [8] ганьбяць, прыціскаюць. [9] брамніка. [10] дрэнна, кепска. [11] мучылі. [12] пагарджаючы. [13] вядома. [14] каб апомніліся. [15] на полі рукапісу прыпіска: «юродство доброволное для Христа». [16] своечасова. [17] манашская шапка. [18] манашская раса. [19] кій з булдавешкаю з косці, металу або дрэва. [20] высачылі, знайшлі па следу. [21] вароты, арка.

тые ж слова, а то в день Звѣстованя [1], по-новому: «Бѣда, бѣда проклятым и невѣрным!»), там теды под брамою мя обскочили и, потрутивши [2] в болото, в колѣно и болш глубокое, стали надо мною з великим тумултом [3] людей през долгий час, аж з господы воз привезено.

Тогды я, нендзный Афанасий, як бы умерлым удаючися, великое зимно [4] терпѣл (бо мѣсец был марец [5]) и юж як бы ледво живый на вози до господы владычей привезеный и знову до вязеня вкиненый был.

Я то, нендзный Афанасий, который обвиненый будучи за суплики през образы пречистои богородици, в сенати поданые, и за обнаженя ся мое для церкви Христовы, як бы шаленое, инстигацией [6] якогось Даниловича, писара владычого, од старших отцев (до мене ведлуг диоцезии [7] и мѣстца сеймового в справи той судити неналежных) былем сужоный, декретованый [8], презвитерства [9] и игуменства деградованый [10]. И юж на выѣзди з Варшавы, не маючи где мя подѣти, былем пресыланый од господы до господы: от отца владыки до игумена луцкого, од того до старшого виленского, з господы знову до отца Косова за Вислу рѣку човном проважено, из-за Вислы повторе до Варшавы проважено до отца старшого виленского, господу на лазни маючого. Старший виленский, выѣждзаючи, казал челяди своей отдати мене до отца Шицика [11] под генсиорек [12]; тот потрете перевозит мя през Вислу. Одтоль же хотѣлем доглядѣти, абы запечатовано привилей (ведлуг ознайменя [13] бискупьего [14]) у подканцлѣрого. Не давши ми вѣры в том, отцеве старшии мои провадят мя з Варшавы до Киева.

В Киеви жаден мя не спытал, што бым кому был винен, през час немалый, што мя барзо фрасовало [15], звлаща [16] видячи, же о покой церковный и о помножене хвалы бозское не дбают. А надто трапили мя огнѣ алхимицкие [17], которие палено в седми печках на ошукане особы едной [18], на которой, ведлуг того часу, много бы належало взглядом вѣры православной и церкви восточной, о чом ся ознаймовалем одчасти господину отцу Зосиму Печерскому и отцу Иосифу Дунаевскому.

Я то, нендзный Афанасий, который знову (ведлуг злого уданя) [19], за росказанем его милости отца нашего метрополиты киевского Петра Могилы, в консистории [20] киевской от духовных отцев, як злочинца який, сужоный былем; на том судѣ, гдым припомнил, як мя в Варшаве водили од господы до господы, отец Гизель рек: «як од Аннаша до Каиафаша» [21]. Потом видили, жем и без позву

---

[1] каталіцкае свята «Благовещение». [2] загнаўшы. [3] натоўпам. [4] холад. [5] сакавік. [6] падбухторванне, судовае праследаванне. [7] епархія, епіскапскае ўладанне. [8] асуджаны. [9] папоўскага сана. [10] пазбаўлены. [11] Ляонцій Шыцік, былы ігумен дубойскі. [12] пасадзіць у турму, надзець на шыю і рукі калоду як злачынцу. [13] паведамлення. [14] епіскапскага. [15] хвалявала. [16] асабліва, тым больш. [17] уразілі мяне агні (інтрыгі) алхімікаў. [18] намёк на мітрапаліта Пятра Магілу. [19] паклёп, нагавор. [20] духоўная ўстанова пры епархіяльным архіерэі з адміністратыўнымі і судовымі функцыямі. [21] біблейскія першасвяшчэннікі.

нань[1] стал, инстигатора[2] не мѣлем, зараз од всего без декрету волным мя учинили, и за благословлением его милости отца нашего метрополиты киевского и всея России, ексархи[3] святого апостолского фрону[4] константинополского, Петра Могилы, одправовалем литургии[5] святыя так в Печерах, як и на великом престоли в церкви Успениа пречистои богородици Печерской чудотворной з диаконом меам[6] частокротне. А той суд и декрет, неслушне на мене в Варшави учиненый, потлуменый зостал безвѣстне.

Я то, нендзный Афанасий, который, первѣй за волею бозскою, а потом и за благословением листовным его милости отца нашего метрополиты киевского, з напомненем[7] пастырским знову, ведлуг жаданя братства православного Берестейского, на игуменство присланый, где, в монастыру убогом з братиею моею законною колконадцатми (що вѣдомо богу и людем) пристойне живучи, мѣлем так я сам, яко и братиа моя (а мѣщане убогии зособна) од студентов своеволных езуитских и од попов унитских непоеднокрот[8] битя, мордованя[9], уруганя[10], на монастыр нахоженя, дорогою истья през ринок з святостями вшелякими забороненя и незносннии утрапеня[11]. В Кобриню Облочинский якийсь, архимандритом унитским мянуючися, на дорози доброволной[12], законников, на моих конях до мене з Купятич посланых, гвалтовне забравши (О, бида ж!), священноинокови бороду урѣзал, диакона обнажил и выгнал их. А кони два з возом, з рѣчами на килкасот золотых заграбил. И од инших на многих мѣстцах барзо великие кривды и бѣды мѣлем и мѣвалисмо.

В певных теды потребах церковных и монастырских, особливым прейзренем бозским, ѣздилем до Кракова. Там будучи у его милости пана Сапѣги[13], воеводы новогродского, просилем яко добродѣя своего (бо на его милости грунти мешкаем)[14], абы з ласки своей зъеднати[15] рачил у вашой кролевской милости лист упоминалный[16] до тых кривдников для того, же у кождого права нам, православным христианом, о справедливость трудно. На кождом мѣстцу, в дворах и в судах, уругаются з нас и гучат на нас: «гу-гу, Русин, люпус[17], релиа[18], господи помилуй, схизматик[19], турко-гречин, одщепенец, Наливайко»[20] и болшей того, хто их вѣдает, як на огиду нас подаючи до людей, навымышляли. О тож, ведлуг того теды утрапеня нашего и уруганя, листу упоминалного до тых кривдников просилем. Але убогих утрапене — паном жарты. Рекл[21]: «Поп з попом побился—што ми за рѣч?[22] Будте униатами, будте, то в покою будете жити, або идѣте собѣ до их старших по справедливость.

---

[1] без павесткі на суд. [2] абвінаваўцы. [3] намесніка. [4] сталіцы. [5] абедня, галоўнае царкоўнае богаслужэнне. [6] лацінскі выраз — «маім». [7] павучаннем. [8] часта, неаднаразова. [9] цяжкія пабоі. [10] абражанне, лаянку. [11] злосці. [12] свабоднай. [13] маецца на ўвазе Мікалай Сапега. [14] жывём. [15] выклапатаць. [16] напамінаючы, г. зн. строгі. [17] воўк. [18] фанатык. [19] адшчапенец; так уніяты называлі праваслаўных, якія не прынялі царкоўнай уніі. [20] маецца на ўвазе Севярын Налівайка, важак казацкага паўстания ў 1595 г. [21] сказаў. [22] якая мне да гэтага справа.

И лист тут до мене писаный, в котором признавает[1], же вам кривду учинил, о то вам на свѣдоцтво до права отдаю. А тут дармо есте проклусалися[2] и стравили килкадесят золотых».

Зачим я далем всему покой. Толко порекреовавши[3] вколо мѣста з оказии для ялмужны (а снать и прейзренем бозским), былем у посла московского, припоминаючи ему и бытье мое опатрностю[4] бозскою року 1638 в столици московской. А гдым был пытан о Дмитровичу, о котором под небытность мою в Берестю юж ся и довѣдали од пана Галенского, намѣстника гродского, в яком он тут титули и выхованю, а я реклем: «Дмитрович и сам о собѣ не вѣдает, хто ест, по-готову жаден, аже не подписуется царевичом». Я, як невѣдомый жадной хитрости и не маючи полеценя[5], ни от кого в таемницах о нем, далем картку[6] его, до мене з господы писаную, з подписом руки в тые слова: «Ян Фавстин Дмитрович».

С Кракова ѣхалем до Варшавы для выкупеня привилею, о котором през писане юристы на имя Зычевского мѣлем вѣдомость, же тот привилей, которогом на сейми потребовал, есть юж запечатован. Але же за тую печать хотѣл шести тисячи золотых, мянуючи: «жем то през езуитов справил, а коштом моим великим». Я зась, убогий, до задатку першого десяти червоных золотых (на которые и тепер цероград[7] его маю), давалем еще двадцать червоных золотых, а наболшей облик[8] давалем. Але же не взял. Теды я, оглевѣвши тот привилей запечатованый а постерегши[9], же его в метриках немаш, болшей не убивалемся: полецилем[10] все воли бозской и часови щасливому.

Приѣхавши я до братии моей до Берестя, рихло[11] потом в кляштори[12] отцов барнадинов перший раз з сцептрум[13], умыслом звитязства[14] (бо видилем запечатаный привилей), далем образ пречистой богородици в крестѣ Купятицкий вымалевати. Вымалеваный гды ми принесено, за червоный золотый одержалем его. И маючи в целии[15] моей, гдым ведлуг часу пред тым образом одправовал молитвы, на тых мѣст, як и прошлых часов, барзо-барзо великий страх пал на мене, и власне од образа того слышати было голос таковый: «О, Афанасий, супликуй еще през образ мой в крестѣ Купятицкий на сейми пришлом[16] до кроля полского и до Речи Посполитое о вынищене грунтовное унѣи проклятой. Добре будет, если услухают и вынищат еи: поживут еще в приданых лѣтах щасливе, ибо и планеты указуют Меркуриуша для Венери ласковость в тых лѣтех. А порядок сына моего в суженю: первѣй пытати Адама, потом Еввы[17]; на остаток декрет страшный як слово вымовити злому будет за выреченем слова». По том теды я престрашеню барзо слабый былем пять дний. Правдиве, ани пилем, ани ѣл, мыслячи, што чинити. «Бѣда мнѣ мовити таковые речи и на таковом мѣстцу, бѣда не мовити справ бозских!» Постановилем в собѣ, еднак, мовити.

---

[1] Маецца на ўвазе сам Аблачынскі. [2] паспяшылі прыехаць. [3] затрымаўшыся. [4] апекаю. [5] даручэння. [6] пісьмо. [7] распіску. [8] вэксаль, даўгавая распіска. [9] убачыўшы. [10] даверыўся. [11] хутка. [12] манастыр. [13] скіпетр, царскае жазло. [14] перамогі. [15] апіска ў слове «кельні». [16] будучым. [17] Паводле біблії, першыя людзі на зямлі.

На тых мѣст [1] пришло ми выразумене и побудка з дару духа святого (як тому простым сердцем вѣрую), же униаты волею своею од рымлян [2] ошуканы, а римляне мяновите в постановеню бозском и порядку духовном ошуканы от шатана [3] проклятого. Образ богородици и тое справует, абы всѣ и геретици [4] узнали, же ест правдиве кролевою небесною и добродѣйкою великою всему народу людскому, ведлуг прироженя, а затым и всѣ святыи божии. Крест знаменует (як хоругов гербовая) присте Христово на суд справедливый барзо-барзо прудко [5]. «Ознаймуй же, Афанасий, о тых справах моих и неодкладне волай, голоси, як труба найкриклившая, верещи [6], бо час тому. Абы вси, що именем Исус Христовым титулуются, до направы пришли, то ест: отщепенци и геретики, лютеране, ариане, нуриане, сасове, звинглиане [7] и иншие тым подобные, што ено вѣруют в Христа господа, абы в порядок правдивый, духовный, седми сенодами постановленый, пришли, то ест: на правицу тепер прихилилися и прилучили, бо врихлѣ [8] не будут часу мѣти до покуты. А войну мѣти с потребы и слушне с поганы и невѣрными Христови, абы был над всѣми еден пастыр Исус Христос, а не папеж, и една овчарня Исус Христова, а не папежова, бо теж не папеж в евангелии святом мовит: «ины овца имам, яже не суть от двора сего, и тыя ми подобает привести и глас мой услышат, и будет едино стадо и един пастыр» [9].

Таковою теды я, нендзный Афанасий, волею бозскою, примушоный будучи, южем [10] был почал се и готовати на высоким театрум свѣта того, сейму, мовлю, валного, а Полщи будучого, пред всѣм гмином [11] людским: в костелѣ, под бытность вашой королевской милости, по прочитаню евангелии, в казаню [12] поднести писаня в килкадесят фастикулах з образами пречистои богородици Купятицкой и з гисториею московскою (як и на прошлом леймѣ в сенатѣ), а розным станом коронным и великого князства Литовского, также купцом чужеземцом (которыи если бы были), на розных мѣстцах потрафляючи [13] в найлѣпшее оголошене зачатую справу подати и обяснити, за причиною [14] пречистои богородици и всѣх святых, чого по нас в тых схилку лѣт и страшного суду бог всемогущий потребует.

Що ж я, нендзный робак [15], за обмову о собѣ дам, гды то творца мой Исус Христос и матка его пречистая богородица Купятицкая так трудную, дивную и барзо великую справу и послугу на мене покорного, як на быдлятко Валаамово [16], вложити зезволили? О, Исусе Христе, мой одкупителю! Чи не волѣл бым я, нендзный, сидѣти в монастыру, як другии духовные отцеве и братиа мои, молячися тебѣ, творцу моему, за себе и за всю владзу, духовную

---

[1] тым часам. [2] каталікаў. [3] сатаны, д'ябла, чорта. [4] ерэтыкі. [5] хутка. [6] гаварыць бесперапынна. [7] прыхільнікі ерэтычных веравызнанняў з пункту погляду артадаксальнай царквы. [8] у хуткім часе. [9] гл. «Евангелие» ад Іаана, гл. 10, ст. 16. [10] ужо. [11] натоўпам, зборышчам. [12] у пропаведзі. [13] здолець, змагчы, справіцца. [14] за хадайніцтвам. [15] чарвяк, нікчэмны чалавек. [16] Валаам — біблейскі прарок.

и свѣтскую, а особливе за добродѣев моих? Чи не уважалем я того собѣ? Уважалем и уважаю, дивуючися непонятным справам его святым. Подаю то до побожного уваженя вашей кролевской милости, пану и добродѣеви мнѣ велце милостивому. Што бым я мѣл чинити нендзный человѣк, простак, гарбарчик [1], калугер [2] убогий межи монархами свѣта, вашою кролевскою милостью и царом московским, гды бы не было в том особливой воли и опатрности бога в тройци святой единого? Поневаж [3] сам рачит мовити: «без мене не можете творити ничего же» [4].

Русь же од патриархи константинополского, Нового Рыму, по Володимеру [5] князю з прейзреню [6] божого окрестилася року божого 987, в двадцать лѣт и двѣ по поляках. И од того там часу до патриархи константинополского в духовное послушенство и благословенство належит. Тое многим вѣдомо, а невѣдомыи нехай в Длугоша [7], каноника краковского, и в иншие лѣтописци вейзрят.

Унѣя же ест проклятая — правом доводне [8] ся показует. Хто колвек отбѣжит пастыра [9] своего власного благословенного и братства, а удастся до другога, собѣ неналежного, тот нехай будет проклятый от отца и сына и святого духа! Нехай будет и по смерти не раздрѣшен [10]. Нехай будет мѣти клятву отцев святых, што сенодовали в Никеи, и всѣх святых божиих! А той то [11] пастыр и отец духовный правдиве так везал, которому правдиве, ведлуг воли божией, межи пятми столицами духовными на том дочасном свѣтѣ с певных а тых барзо важных причин и таемниц бозских, духом святым утвороных и споряжоных, межи столицами, мовлю, пятма: константинополскою, антиохийскою, рымскою, александрийскою, иерусалимскою, — едина владза и ровность духовной владзы з иншими столицами константинополской дана ест; владза правдивым порядком звязовати и розвязовати, ведлуг росказаня Христова: «глаголю вам, его же свяжете на земли, будет связан и на небеси, а его же раздрѣшите на земли, будет раздрѣшен и на небеси» [12].

Хто того не вѣдает, же унит тот, который одбѣг пастыра своего власного для своее воли, ест правдиве проклят, а меновите тот, который без споведи и покаяния належного изшол з того свѣта.

Вѣдати и тое потреба, як Люциперови [13] з найвишшого неба зтручене [14], так унитови з церковного неба для пожаданя столка сенаторского, проклятство ся стало. Грѣх содомский [15] и иншие великие своеволи в велебных отцев для певных сродков опущаются, леч пыха [16] проклятая найбарзѣй ся ганити мусит.

---

[1] падмайстра скурніка. [2] манах, пустэльнік. [3] таму што. [4] спасылка на «Евангелие» ад Іаана, гл. 13. [5] Уладзімір — вялікі князь кіеўскі да 1019 г. [6] з волі. [7] польскі гісторык Ян Длугаш (1415—1480). [8] выразна, грунтоўна, дакладна. [9] на полі рукапісу ёсць прыпіска: «власть епископа Хребтовича Богуринского». [10] апраўдан. [11] на полі прыпіска: «владза патриаршая». [12] гл. «Евангелие» ад Матфея, гл. 18, ст. 18. [13] біблейскі архангел, адвержаны богам. [14] падание. [15] біблейскі горад Садом, вядомы з паданняў вялікай распустай яго жыхароў. [16] пагарда, ганарыстасць.

Потий[1], перед владыцтвом каштеляном[2] берестейским будучи, мѣл столок в сенатѣ. Гды зась зостал владыкою[3], оного ему умкнено[4]. Зачим розумѣючи о собѣ много, в розных особах и у пана виленского Ходкиевича порады шукал и бадался[5]. «Чему то под кролем полским волности маем сполные[6], а не засѣдаем столков з бискупами?» Теды духовные рымские порадили оному, же «за причиною короля пана: гды будете мѣти од отца святого, Старого Рыму папежа, благословенство, то латво[7] вам будет мѣти межи нами и столок сенаторский». Потий теды, для самого столка сенаторского, з Терлецким, з Рогозою[8] и з иншими наслѣдовцами своими, таемне намовившися, выборнѣйших людей правовѣрных з народу российского так княжат, панов, яко и земян обывателей нѣкоторых, в реестр[9] списал, именем всей церкви российской православной восточной, здрадливе, не помнячи на клятву, которую и сам на себе писал и выдал, рымскому папежови, ведлуг принятя вѣры и креста святого до народу российского неналежачому, послушенство оддал. Еднак, за тое столка не одержал. Толко, з похлѣбства[10] ксиенжий и порады их особливой, ласку кролевскую в оборонѣ тоей унѣи и фундаций[11] их церковных до сего часу мѣл.

Од того теды часу, взявши ненависть, за злою офѣрою своею и за непорядным уроженем ся и той проклятой унѣи, як Каин Авеля и Измаил Исаака[12], так проклятый унит православного брата своего забиял и преслядовал. И аж по сесь час за помочью похлѣбцов и противных правды святой ведлуг часу за попущенем божиим що хотѣл, то броил[13]. Людей убогих вшелякого стану так в братствах церковных, як и в радах[14] вшеляких, судовых и цеховых будучих, потваряючи[15] незбожне зо всего, що мают православные христиане з вѣры православной, з сумненя чистого, з славы доброй и маетности[16] и зо всего почтивого злуплял, торгал и шарпал и розмаите мордовал и забивал. А над то — що болшая — церкви печатовал, одбирал, нищил, вниввеч оборочал. Набоженства сумненью побожному волного заборонял. В мѣстах, в мѣстечках и селах, в добрах[17] кролевских и шляхетских, як то в Люблини, Сокалю, в Бѣлску, в Полоцку, в Витепску, Острогу, Лвови, Грубешови, в Белзи, Кобрыню, Берестю и в инших, аж назбыт прикрости и злости выражал и преслядовал. В многих розных мѣйсцах в панствѣ том христианском непотребные колотнѣ[18] для той проклятой унѣи аж по сесь час дѣялися. Наостаток, и з козаками внутрняя война непотребная для той унѣи проклятой была. Для тоей милость

---

[1] Адам Пацей, у духоўным званні Іпацій (1541—1613), епіскап брэсцкі і ўладзімірскі; пасля пераходу ў унію з 1599 г. і да смерці — уніяцкі мітрапаліт. [2] адміністрацыйная пасада накшталт губернатара. [3] епіскапам. [4] пазбавілі. [5] пытаўся. [6] агульныя. [7] лёгка. [8] Кірыл Тарлецкі, уніяцкі луцкі епіскап; Міхаіл Рагоза, уніяцкі мітрапаліт да 1599 г. [9] спісак. [10] падхалімства. [11] уладанняў. [12] Каін і Авель — сыны Адама і Евы. Ізмаіл сын Аўрама ад Агары, а Ісак сын Аўрама ад Сары. [13] рабіў зло. [14] аб'яднаннях. [15] узводзячы паклёп. [16] уласнасці. [17] уласнасці, маёнтках. [18] сварка, вайна.

## Отрок 4.

Принесѣте честь, иноцы, царю изверхнѣйшему.
Принесѣте покору, мирстии, всех началнѣйшему.
Сего еднаго имя над цари всѣ вызнавайте,
Сему днесь до земли и з нами ся и поклоняйте.
Соборе божий, умилно спѣвай яко своему,
Алексею царю, помазанцу зась божиему!
Учинѣте ему зо всей хоти честь повинности
Не лицемерною душею его царской милости.
Будем тя пред всѣми, велебний царю благочестивый,
Не толко на сем едном местцу, бось христолюбивый,
Но и по всем миру добродѣтель твою хвалити
И за твое царское величество бога молити,
Абы-сь нас в бѣдах наших нынѣ и всегда ратовал
И от зловѣрных людей россов и церков заступал,
Абы юж далѣй благочестия не турбовали,
А самы ся и вѣрѣ православной шире складняли.

## Отрок 5.

Блажен убо царю, котрый людий впалых ратует.
Бог теж в его потребѣ над ним ся о разъзлютует,
Вцале заховает, и здоровъя ему набавит
В панованю неотменном з ласки своей поставит.
Плещѣм руками, радуючися небоязливе,
Витаючи царя, спѣваймо всѣ и згодливе.
Тот всѣм россом цар, князь и государь и обладатель,
Церкви же святой велки заступник и благодатель.
Ввесь род российский просит бога: да сохранит его
Во премногие лѣта, вѣрного слугу своего.

## Отрок 6.

Витаем тя, православный царю, праведное солнце,
Здавна бовѣм прагнули тебе души наши и сердце.
Витаем тя, царю, от востока к нам пришедшаго,
Бѣлорусский же от нужды народ весь свобождшаго.
Радуйся церкви наша, святая и восточная,
Яже испущаеш словеса всѣм медоточная,
Ибо ты первѣе духом святым начася здати,
През Алексея Михайловича днесь расширяти.
Не бойся, земле Российская, и не устрашайся.

Дѣдич[1] з востока пришол, ему низко поклоняйся.
Алексей Михайлович всѣх россов царь и государь
И иных народов великий князь, так теж и владарь,
Который поднял за благочесте велии труды,
Дабы во русийской земли оттряс ереси всюды.

### Отрок 7.

Слава тебѣ, Христе, боже чудный, но и преславный
Царю человѣколюбивый, а над всѣ вѣки дивный,
Крепкий и милосердия полный, наш Христе боже!
Кто ж из нас негодных милости твою выстовит
можe,
Жесь нам дал радостный и веселый день дочекати
А очима нашима в Витебску днесь оглядати
Государя царя Алексея Михайловича,
Великого князя всей Российской земли дѣдича?!
Жительствуй же на много лѣта наш праведный
царю,
В послѣдок дний з востока посланый з божого дару
К нам, тебѣ единовѣрных, звѣрми похищенных
З запада немилосердным иным родом плѣненных!
Тобою мы ис пашен илвовых свобождаемся
И смѣле противо всѣх зловѣрных поставляемся.
Но пройдохом сквозѣ огни, яко же рече, и воду,
Чающе известися тобою мы, на свободу.
По сем не предаждь нас врагом нашим в
поругание,
Церкви же нашой восточной во попрание,
Или мечем з милости своея оным погрози,
А всѣх привести ко православной вѣрѣ помози.

### Отрок 8.

Ничого тут по римской вѣрѣ. Знати то потреба,
Же здесь здавна руская земля язык мает з неба,
О чом и привилей кролевский старый опѣвает, —
Иж над три дни цар у Витебску мешкати[2] желает
Толко, — албо преч из града идь, албо теж
крестися,
А з вѣрными всегда во церкви господу молися.
Прото и вас молю, иновѣрцы, вы покорѣтеся
А под крѣпкую руку царскую всѣ смирѣтеся
К правой вѣре нашой, апостолми насажденной,
Мученическою же кровию печатлѣнной.
Богобоязливе и покорне всѣ приступѣте,

[1] наследнік, нашчадак. [2] жыці.

Злая помышления от сердца преч отринѣте,
Абысте на церков гонения венц[1] не чинили,
Но с нами православными в вѣрѣ единой жили.
Православному теж Алексею царю радѣте,
А здравия своего за его всѣ не щадѣте,
За что не токмо тут, на земли, восприимете славу,
Но в царствѣ небесном имѣти будете похвалу,
Которого яко правѣрным имѣти желаем,
А православному царю лѣт многих восприяем.

### Отрок 9.

И вам, бояром, да дасть господь бог многая лѣта,
Бысте возлюбленный Израиль новаго завѣта
Противо новых фараонов, врагов своих, стасте,
Велия труды, яко той, на войнѣ подъясте.
Вы есте воинове царя, россом избранное
И богом небесным в силѣ теж его посланное
Противо народов свирѣпых, наших губителей,
Горделивых, гнѣвливых, а злых церкви гонителей.
Вы на тую войну, бояре, былисте готови,
За вѣру з смѣлостию пойшли, яко дѣти лвовы,
Не убоястеся ничого на той войнѣ злого,
Огнем дышущи Параклита, духа пресвятого.
Ревностию любви божей крѣпко запалены
А в силѣ его божественной были поставлены
Противо всего их злосливого ополчения.
Не устрашистеся мечнаго оных сѣчения
Мечов их еретыцких, на ся в войнѣ обнаженных.
Не убоястеся и кулей, огнем роспаленных,
За вѣру благочестивую и церков. Страдати
Изволисте. Мы вас за то будем выхваляти.

### Отрок 10.

Вы з неволи увесь русийский народ свободили
И ереси из земли давной руской скоренили.
Добрая ж то по вѣрѣ война, боярове, ваша.
Дай, Христе, боже вѣчный покой! Радость то ест
наша.
А чтосте в войнѣ ризы своя ■ кровѣ фарбовали,
За тое в небѣ коруну тем себѣ зготовали.
А котрый кров свою за церков и вѣру проливал,
За то небесное дѣдицство себѣ зготовал.
А которых в землю тѣла в войнѣ покровены,
Вѣруем, иж небеса суть им отворены.

---

[1] больш.

Они нынѣ со божиими ангелы ликуют
И триумф вѣчного веселия исправуют.
Они рукою божиею суть коруновани
И на житие небесное царствие позвани
Превѣчне и з сыном божием в небѣ царствовати
И свѣт царственной славы его оглядати.

### Отрок 11.

И твое святительство хвалим буди, Питириме,
Священный митрополите всегда и нынѣ,
Яже на сей войнѣ всячески потрудился еси,
Всегда утверждая воинство сладкими словесы,
Дабы несумнѣнно ишли воевати за вѣру.
Ты же о сем приносил всегда святую офѣру
И за православного царя и воинство его,
Богу моляся присно, ради збавеня своего
В трудѣх и в бдѣниих всенощных, тѣло си труждая,
И за вся христианы, богу молитвы воздая,
За что да сподобит тя господь услышати свой глас,
Который будет ко праведным мовленый и до вас.
Высте, благии раби мои, также и вѣрныи,
Ибо будовцы церкви моей былисте пилнии,
За сия внийдѣте во радость господа своего,
Чтосте послухали гласа любезно моего.
Понежесте вы прац своих зѣло приложили
И таланты звѣроныи вам монумножили,
Над малыми вѣру на земли ко мнѣ показали,
За то в многоочных чину херувимов стали.

### Отрок 12.

Слава тебѣ, Христе, боже наш, царю вѣчной славы,
Звитяжцо [1] чудный и преславный небесной
державы,
Яко сам спасение наше, боже, нам справуеш
И дивным дары твои нам негодным даруеш!
Ты нынѣ благоволил еси над нами владѣти
Царю з востока, церков и нас от врагов хранити.
Да даст тебѣ, царю, господь благ совѣт и
премудрость,
Силу, мужество и побѣду с небесе, и крепость,
Дабы еси врагов своих всѣх до конца побѣдил,
И чтобы инным народом страшенея сотворил.
По сем и з найнизшим поклоном нашим упадаем

---

[1] парамoжца.

Пред твоим царским величеством и всѣм воздаваем
Вам за выше не тескливое тепер выслуханье,
З разрадованною душею чиним декованье [1].

## СТИСИ КРАЕСОГЛАСНИИ КО ПРЕСВѢТЛѢЙШЕМУ САМОДЕРЖАВНѢЙШЕМУ ВЕЛИКОМУ ГОСУДАРЮ ЦАРЮ И ВЕЛИКОМУ КНЯЗЮ АЛЕКСИЮ МИХАЙЛОВИЧЮ ВСЕЯ ВЕЛИКИЯ И МАЛЫЯ И БѢЛЫЯ РОССИИ САМОДЕРЖЦУ. ОТРОКИ ГРАДА ПОЛОЦКА, ПРИТЕКШИМИ ВО ЦАРЬСТВУЮЩИЙ ГРАД МОСКВУ, ГЛАГОЛАНИИ В ЛѢТО ОТ ВОПЛОЩЕНИЯ БОГА СЛОВА 1660, МѢСЯЦА ИАНУАРИА 19 ДНЕ

### 1.

Радости сердце мое исполнися,
Яко предстати тебѣ приключися,
Богом нам даный православный царю,
России всея вѣрный ґасподарю!
Яко бо солнце весь мир просвѣщает,
Сице [2] во сердцах радость проникает
От лица царска. Тѣм же припадаем
К стопам ти, яже лобзати желаем.

### 2.

Лобзаем вѣрно крѣпку ти десницу [3],
Юже имамы за свѣтлу денницу,
Царю восточный, царю стран премногих,
Нас избавивый от противник многих.
Прогнавы мрачны з Руси еретики,
Буди ж в побѣдах преславен во вѣки!
Царствуй над всѣми вселенныя страны,
Из язык мрачных твори христианы.
Разшири вѣру, свѣт омрачным буди,
Иже во смертнѣй сѣни [4] гибнут люди.

---

[1] Тэкст пададзены па рукапісу № 731, лл. 288—292. Гэтыя вершы С. Полацкага, паводле сцверджання І. М. Тарабрына (гл. Протокол 38 заседания Славянской Комиссии Императорского Московского Археографического Общества от 23 февраля 1899 г.), з'яўляюцца другой тэкстуальна адметнай перапрацоўкай тых прывітальных вершаў, якімі С. Полацкі разам са сваімі вучнямі Богаяўленскай брацкай школы сустракаў цара ў г. Полацку 5 ліпеня 1656 г. Першапачатковы тэкст тых вершаў («метраў»), складзеных некалькімі асобамі і канчаткова адрэдагаваных С. Полацкім, знаходзіўся ў рукапісу № 1800 былой Маскоўскай Сінадальнай Друкарскай Бібліятэкі. У канцы XIX ст. або пачатку XX ст. рукапіс гэты дзесьці згубіўся, і мы цяпер не маем магчымасці дакладна высветліць, у якой ступені С. Полацкі перапрацаваў першапачатковыя «метры». [2] так, гэтак. [3] правая рука. [4] прытулку.

Настави на путь заблуждших ко аду,
Даждь обижденным щедрую отраду.
Дабы им с нами сице воспѣвати:
Много лѣт царю дай бог царствовати!

3.

Кто не весело в солнце возглядает,
Егда от него просвѣщен бывает!
Из красны весны кто не веселится,
В ню же благ всяких много исполнится!
Солнце твое нам зрится лице быти,
Пресвѣтлый царю! В твоем свѣтѣ жити
Всегда желаем; в твоей благодати
Скуднии будут изобиловати,
Як в веснѣ красной. Тѣм же веселуем,
Егда прекрѣпку десницу цѣлуем,
Ей же от бога молим быти данным
В державу вѣчну всѣм скипетром странным.

4.

День есть веселый, день превожделенны,
Вонь же предстати тебѣ сподобленны
Мы, твои раби, и десну лобзати,
Веселым сердцем сице цѣловати:
Царствуй, пресилен, преславен повсюду,
Гдѣ солнца запад и встает откуду!
Подай ти господь во мирѣ сияти,
Второму солнцу, всѣми обладати,
Дабы тобою мрака избѣжати
Всим родом земли и вѣру познати.
Буди Константин и Владимир миру,
Сотри кумира и прослави вѣру.
Подай ти господь миром обладати,
А в вѣк будущий в небѣ царствовати.

5.

Уста вѣтийска глагола лишатся,
Радости нашей егда присмотрятся,
Юже с твоего лица изчерпаем,
Яко тя здрава, крѣпка соглядаем.
Пресвѣтлый царю и непреборимый,
В кончинах земли ужасна славимый,
Кто свѣтла солнца не видѣ на небѣ,
Сей не зна славы, яже есть о тебѣ;
Земля и море, аер исполнь ея,
Буди ж и в небѣ глас славы твоея.

6.

Коль чысло много звѣзд пресвѣтлых в небѣ,
Вся солнца свѣтом украшают себе;
Сице на земли всея Русси грады
Чрез тя сияют, приемлют отрады.
Без тебе тма есть, як в мирѣ без солнца,
Свѣти ж нам всегда и будь оборонца
От всѣх противник, иже поношаху
Благочестивым и зѣло стужаху.
Буди милосерд к державным ти градом,
Яко обыче отец своим чадом.
А мы вси молим превѣчнаго бога,
Да даст ти в мирѣ лѣта жити многа.

7.

Мойсий иногда на гору высоку
Возшед бѣ с творцем миру прешироку
Бесѣдова с ним, потом же оттуду
Повращен, лучми сияя повсюду.
Мы твоей воли царстей послушливы
Здѣ притекохом, чаем, яко и мы
Лучми твоея будем благодати
Возвратившеся изрядно сияти.
Прочиим дабы по нас ревновати,
Под твою милость всегда прибѣгати,
Ея же ради милость ти от бога,
Молим, да дасться на лѣта премнога.

8.

Солнце на землю не само дѣйствует,
Но и луна с ним много изводствует.
Ты, царю, солнце, а луна Мария
Царица. Ея лучами Россия
Премного свѣтла и в нуждах охладу
Во скорбѣх скору приемлет отраду.
Ея молбами и труды по бозѣ
Царство и грады состоят премнози.
Оныя щедрость бога преклоняет,
Да всѣм милостив и прещедр бывает.
Тѣм же пред нею главы преклоняем,
На много лѣта сияти желаем.

9.

Небом Россию нарещи дерзаю,
Ибо планиты в онѣй обрѣтаю.

Ты — солнце; луна — Мария царица;
Алексий свѣтла царевичь денница,
Его же зари пресвѣтло блистают,
Его бо щастем врази упадают;
На имя его вси трепещут страхом,
Бѣжат от славы, яко уповахом,
А щастѣ ему имать работати,
Многия страны в область подавати,
Дабы яко солнце денница свѣтила,
Славою концы земли исполнила.
Утро денница обыче сияти,
О дни будущем благовѣствовати.
Во малѣ даст бог день пресвѣтлый будет,
Егда денницы свѣтлости прибудет
В многих побѣдах на вси страны свѣта,
Точию дай бог многа ему лѣта.

10.

Зѣло Россия в свѣтила богата,
Як звѣздми небо; сице [illegible] ней полата
Царска сияет царевен лѣпотами,
Звѣздам подобных всими добротами.
Спросить бы солнце, аще видѣ ровну,
Яко Ирину [illegible] Руси Михайловну;
Ей подражает благородна Анна,
В единых стопах с нею Татианна,
Царя Михайла дщи Федоровича,
Царств многих и князств истинна дѣдича.
Что Евдокиа з Марфою сестрою
Есть в русском свѣтѣ, аще не звѣздою!
Равнѣ Софиа имать возсияти,
Екатерина також з благодати
Дателя всѣх благ. Твоя дщери, царю,
Возраст приемше по вышняго дару.
И нова свѣтлость новонарожденна
Просвѣтит сей мир Мария царевна.
Вси бо суть свѣт нам. Тѣм же молим бога,
Да соблюдет я на лѣта премнога.

11.

Еще свѣтила и аз усмотряю,
В них же солнечну силу обрѣтаю.
Князи, боляре не мрачно сияют,
Егда ти царску волю исполняют.
А зари свѣтлы в онѣх суть тобою,
Яко же солнцем в звѣздах со луною.

К тому не мала суть свѣтила власти,
Иже о твоем молѣбствуют щасти.
Да побѣдитель будешь всего мира
И да исполнит мир тобою вѣра.
Всим того дѣля серцы привѣтствуем,
На многа лѣта жити усердствуем.

12.

Ничто во мирѣ лучше, яко глава
Крѣпкаго тѣла, егда умна, здрава:
Вся тамо чинна бывают строенна,
Идѣ же глава умом есть бодрственна.
Велие тѣло славная Россия,
Ты еси глава, царю велий, сия;
Глава же честным каменем вѣнчанна,
Волею бога на царство созданна.
Тобою тѣло царства окормися,
Умом и храбрством въсюду прославися.
Блаженный град сей, царство все блаженно,
Яко тобою зѣло укрѣпленно.
Удобнѣй да есть солнце сострѣляти,
Нежели град сей богом храним взяти
Богопротивным: кто любо на тебе,
Прекрѣпка царя, вооружит себе!
Бог есть с тобою, с ним буди царь свѣта;
Царствуй над людми, им же многа лѣта [1].

---

[1] Тэкст пададзены паводле выдания І. П. Яроміна (гл. Труды отдела древнерусской литературы, т. VIII, изд. АН СССР, М. — Л., 1951, стар. 357—361).

# ПАЛІТЫЧНАЯ САТЫРА

Напружаная вызваленчая барацьба беларускага і украінскага народаў у канцы XVI і пачатку XVII ст.ст. стварыла спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення ў літаратуры новага жанра — жанра палітычнай сатыры, накіраванай супроць іншаземнага засілля. Засілле гэта ў тыя часы, з прычыны агрэсіўнай польскай шляхецка-каталіцкай палітыкі, было вельмі моцным ва ўсіх сферах эканамічнага, палітычнага і духоўнага жыцця Беларусі і Украіны. Яно абражала пачуццё нацыянальнай гордасці беларускага і украінскага народаў.

Да нашага часу літаратурных помнікаў гэтага жанра захавалася вельмі мала. Адным з такіх цікавых помнікаў беларускай палітычнай сатыры XVII ст., якому ўсё-такі пашанцавала дайсці да нашага часу, з'яўляецца славутая «Прамова Івана Мялешкі, кашталяна смаленскага», выказаная быццам бы на Варшаўскім сейме 1589 г. у прысутнасці караля Сігізмунда III Вазы.

Па свайму зместу «Прамова Мялешкі» — гэта пародыя на сеймавую прамову, востры палітычны памфлет, сатыра на грамадска-палітычныя парадкі, якія панавалі ў тагачаснай Рэчы Паспалітай і прывіваліся ў Беларусі і на Украіне нямецкімі і польскімі прышэльцамі, сатыра на норавы прышэльцаў і іх паслядоўнікаў з ліку найбольш заможнай і апалячанай беларускай і украінскай шляхты.

Упершыню гэты цудоўны твор быў надрукаваны ў 1819 г. польскім гісторыкам І. У. Нямцэвічам у зборніку «Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polsce» (т. 2, стар. 341—344) лацінскім алфавітам па спіску бібліятэкі графа Серакоўскага. У 1851 г. гісторык польскай літаратуры М. Вішнеўскі ў т. VIII сваёй гісторыі польскай літаратуры надрукаваў другі спісак гэтай «Прамовы» па рукапісу шчорсаўскай бібліятэкі Храбтовічаў. У 1865 г. «Прамова» была надрукавана М. І. Кастамаравым кірыліцай у другім томе «Актов, относящихся к истории Южной и Западной России» па невядомаму спіску, але блізкаму да таго спіска, які надрукаваў у свой час Нямцэвіч. У 1926 г. сярод папер Турава-Пінскай архіепіскапіі была знойдзена і надрукавана трэцяя пашыраная рэдакцыя «Прамовы», запісаная ў свой час стражнікам брэсцкага ваяводства Міхалам Бельскім.

Наяўнасць трох рэдакцый «Прамовы» сведчыць аб тым, што яна была папулярным для свайго часу творам і бытавала ў шырокім коле насельніцтва, дзе падвяргалася пераробкам і дапаўнялася рознымі гумарыстычнымі падрабязнасцямі. Відаць, што спіскаў «Прамовы Мялешкі» ў свой час было многа, але далёка не ўсе яны захаваліся.

Аўтар «Прамовы» невядомы. Меркаванне Д. І. Даўгялы аб тым, што аўтарам яе быў мазырскі шляхціц Цыпрыян Камуняка, пазбаўлена дастатковых падстаў. Але бясспрэчна тое, што аўтарам гэтай цудоўнай пародыі быў добра адукаваны службовы шляхціц, які дасканала ведаў палітычнае жыццё Рэчы Паспалітай таго часу і быў у курсе нават звычаяў каралеўскага двара. Яго абурала ўсё тое, што было непрыемна не толькі для шырокіх народных мас, але і для яго, прадстаўніка службовай шляхты. Па сваіх поглядах гэта быў

патрыёт-дэмакрат, якому былі дарагі радзіма, народ і яго лёс, за паляпшэнне якога ён змагаўся вострым словам сатырыка.

Матэрыялам для «Прамовы» аўтару, відаць, паслужылі ўласнаручныя запіскі мсціслаўскага кашталяна Івана Мялешкі, напісаныя ім пасля Варшаўскага сейма 1609 г. Пасля смерці Мялешкі гэтыя запіскі пад пяром невядомага аўтара ператварыліся ў падложны гістарычны дакумент, прыпісаны Мялешку, прозвішча якога да некаторай ступені адпавядала фрывольнаму, сатырычнаму характару тэксту «Прамовы».

Тэкст «Прамовы Мялешкі» друкуецца па спіску Турава-Пінскай архіепіскапіі, надрукаваным Д. І. Даўгялам у сваім артыкуле «З беларускага пісьменства XVII ст.», які змешчаны ў «Трудах Белорусского государственного университета», № 16, Мінск, 1927, стар. 200—205.

## [ПРАМОВА МЯЛЕШКІ] [1]

Наяйснейшы милостивы королю и на мене ласкавые панове братя! Выехавши з дому, богу ся помолил, штоб к вам здоров приехал да и вашу милость здоровых огледал.

Пришло мне з вами радити [2], а я на таких зьездах николи не бывал и з королем его милостю николи не засѣдал. Толко за князей наших, которие королевали и которие воеводами бывали, сэнтэнтий тых не бывало, правым сердцем просто говорили, политыки не знали, а у рот правдою, як солею в очи, кидывали. Скоро ж короли больш немцев як нас улюбили, почали нами шебунковати [3], и што старые наши князи собрали, то все немцом роздали нашые господари. Проч Жикгмонта [4] короля! Того нечего и в люди личити, бо Подляше [5] и Волынь наш вытратив, ляхом менечися [6]. Але Жикгимонта первого [7], — солодкая память его. Той немцев, як собак, не любил и ляхов з их хитростю велми не любил, а Литву и Русь нашу любително миловал. И горяздо лепш нашие за него [8] мевалися хоть в так дорогих свитах [9] не хаживали. Другие без ноговиц [10], як бернардыны [11], гуляли, а сорочки аж до косток [12], а шапки аж до самого поеса нашивали.

Дай боже и знов такой годины приждати и тепер! Я сам коли по домовому вбираюся, то ее милость, пани Мстиславская, малжонка [13] моя, натешитися и наглядетися на мене не можеть.

Над то вже огледимося на все тое, милостивые панове, и на тую нуждну немецкую штуку, што наброили [14]. А коли ж то у іх [15]

---

[1] Іван Мялешка — сапраўдная гістарычная асоба. Паходзіў ён з шляхецкага кола Слонімшчыны. Службовая біяграфія І. Мялешкі пачынаецца з 23 чэрвеня 1593 г., калі Сігізмунд III даў яму прывілей на пасаду стольніка Гродзенскага павета. У 1598 г. ён займаў пасаду мазырскага падкаморыя, г. зн. пасаду галоўнага межавога суддзі. З 2 студзеня 1602 г. Мялешка — маршалак слонімскі. З 1603 да 1610 гг. ён кашталян (камендант, начальнік крэпасці, замка) мсціслаўскі, потым да 1615 г. кашталян брэсцкі, з 1615 г. кашталян смаленскі. Тут ён і памёр у канцы 1622 г.
[2] распараджацца, раіць. [3] махлярыць, круціць. [4] Маецца на ўвазе кароль Сігізмунд II Аўгуст (1548—1572 гг.). [5] частка тэрыторыі на захад ад г. Брэста. [6] называючы сябе палякам. [7] маецца на ўвазе кароль Сігізмунд I Стары (1506—1548). [8] у час яго кіравання дзяржаваю. [9] адзенне. [10] штаноў. [11] каталіцкія манахі. [12] да пятак. [13] жонка. [14] надурылі. [15] маюцца на ўвазе немцы.

бывало: у сукнях[1] перестых[2] ходят, а гроши без числа мают, а што городов и мест держать[3], то не хыхі[4]. Да он пак[5] и замешалися з нами и горяздо умеют все лихое говорити. Королем, паном и Речи Посполитой як туж было баламутять[6]. А коли сам немчино идеть, любо жена его поступаеть — через скурку скрипить, шелестить и дорогим пижмом[7] воняет. Коли ж до тебе паничик приедеть, частуй же его достатком, да еще и жонку свою подле его посади. А он сѣдить, як бес надувшись, морокуеть[8], шапкою, дей, перекривляет и з жонкою нашептываеть, дей и в долонку сробеть[9]. Да коли ж бы гетакого чорта кулаком в морду, или по лицом, по хрибте, так што бы король, его милость, не слыхал! Нехай бы морды такой поганой не надымал.

Помню я короля Гэнрика[10], который з заморской, немецкой, стороны, был, да зрозумел, што мы ему не много давали шебунковати, а немци его не велми перекриковали, так он, познавши, што то не штука, да и сам никому не оказавшися проч поехал. Аж в свою сторону, аж за море скинул.

Кажучи правду, не так виноват король, як тые радные баламуты[11], што при ним сидят да крутять. Много тутако таких ест, што хоть наша костка, однак собачим мясом обросла и воняет! Тые, што нас деруть, губять радные! А за их баламутнями нашинец выживитися не можеть, Речи Посполитую губят! Волынь з Подлясем пропал нам! Знаю, нам приступило, што ходим как подъвареные, бо ся их боимо, правды не мовимо, еще з подхлѣбными[12] языками потакаемо. А коли б такого бѣса кулаком в морду! Забыв бы другы мутити.

И то, милостивые панове, не малая шкода, слугы ховаемо ляхи. Давай же ему сукню хвалендыфзовую, корми ж его сластно, а з их службы не пытай. И толко убравшисе на высоких подковах до девок дыбле[13] и ходить з великого куфля трубить. Ты, пане, за стол, а слуга лях собе за стол. Ты борщик, а слуга лях на покутнику штуку мяса. Ты за фляшу, а он за другую, а коли слабо держиш, то он и з рук вырветь. Толко пилнуеть: скоро ты з дому, то он молчком приласкает ся до жонки. И такого чортополоха з немцами выгнати, што до нас влезъли противко праву нашому. Од их милостей, панов ляхов, гинуть старие наши поклоны смоленские![14] Передирайте очи лепше о инфлянты[15], бо тые мечники как влезуть, то их и зублем[16] не выкуриш, як пщолы од меду.

Але здармо поговорили есмо о разных наших утратах. И то не малая штука[17] — кони дрыганты[18] на стайни ховати! Давай же им

[1] адзенні. [2] тонкага каляровага бацісту з дробнымі кветкамі. [3] трымаюць пад уладай. [4] аб тым нечага размаўляць. [5] яшчэ. [6] збіваюць з толку. [7] мускусам, парфумай. [8] трымае думку аб ганебным. [9] скрабе. [10] Генрых Валуа, польскі кароль з 11 мая 1573 г. да 17 чэрвеня 1574 г. [11] ветрагоны. [12] ліслівымі. [13] крадзецца. [14] З тэксту «Прамовы» не зразумела, аб якіх «паклонах смаленскіх» ідзе размова. [15] прыбалтыйскія немцы. [16] дымаром. [17] справа. [18] скакуны.

и лето и в зиме овес и сено, подстилай же их на ноч, ховай же для их слугу ляха, конюшего и машталера [1], а з них жадное [2] службы не пытай. А коли ж еще лях, як жеребец, рже коло девок, как дрыґант коло кобыл, приими ж к нему двох литвинов на страж; бо и сам дидко не упилнуеть!

И то на свете дурнина — годинники! Мне притрафилосе [3] на тандете [4] в Киевѣ купити. Дали есмо за его три копы [5] грошей, а як есмо послали до Вилни на направу, ажно на пятую копу крутить злодей заморщик! Добры то наш годинник — петух, што нехыбне о полночи кукаракуеть.

И то велми страшная шкода — гологуздые кури ховати, их достатком варити и инные пташки смажити. Торты тые цинамоном, микгдалами [6] цуковати. А за моей памети присмаков тых не бывало. Добрая была гуска з грибъками, качка з перчиком, печонка з цыбулею или чосныком. А коли на перепышные достатки — каша рижовая [7] з шафраном. Вина венгерского не заживали перед тым. Малмазию [8] скромно пивали, медок и горилочку дюбали, але гроши под достатком мевали. Мури силные муровали и войну славную крѣпко и лучшей держали как тепер.

И то не до речи [9]: в богатых сукнях пани ходять! Не знали перед тым тых портукгали или фортугали [10]. А подолок рухается, а коло подолка чепляется. А дворанин в ножку, как сокол, згледаеть, што бы где щупнути солодкого мяса. Я ж радил бы, нехай бы беложонки нашие в запинаные давные убералисе козакины, шнурованые на заде носили розъпорки, а к тому, што бы з немецъка зоривали плюдрики [11]: не так бы скоро любителну скрадывали бреднию. А тепер хотя з рогатиною на варте стой, в живые очи такого бѣса не упилнуеш.

Далей о чим радити, не знаю. То вашей милости припоминаю, што бы завсегда сколко сенаторов и панов литовских при королю его милости было, был бы и я. Толко короловщины [12] не маю, бо перед другими не схопил. А што есмо казали, все правда. А Уршулю [13], королевну его милости, миленко в ручку поцаловали, как и другие малодшие сенаторчики. Не дивуйтеся, милостивые панове братья! Вѣк вѣком сказываеть: сивизна в бородѣ и чорът в лидъвях [14] за поесом. На хорошее видане ставку купил.

Не толко в Смоленску, але и в Мозыру увесь повет о том давно радил, кого бы мудърого на той зъѣзд к той сентентии выправи-

---

[1] страмяннога, г. зн. аб'ездчыка. [2] ніякай. [3] здарылася. [4] на кірмашы. [5] тры капы адпавядае ліку 180. [6] міндалямі. [7] рысавая. [8] вельмі каштоўнае заграгнічнае віно. [9] непаразуменне. [10] залатых медальёнаў. [11] штаны, нагавіцы. [12] зямельны надзел з каралеўскага фонду. [13] Уршуля Мейер — вядомая фаварытка караля Сігізмунда III Вазы, з'явілася пры двары караля каля 1608 г. Яе ўплыў у прыдворных сферах пачаўся пасля 1614 г. і ў хуткім часе стаў неабмежаваным. [14] у бёдрах.

ти менѣ велдомого[1] до вашей милости послали, и што бы, бог дал, умети перед королем его милостию и вами, панове братья, одкрити нашие рады.

Сказал бы хто з вас лучшей, толко не баламутячи, то и я на том перестану.

## [ЛІСТ ДА АБУХОВІЧА][2]

**Ліст да Абуховіча,** як і «Прамова Мялешкі», з'яўляецца літаратурным помнікам жанра палітычнай сатыры XVII ст. Але ў параўнанні з «Прамовай» гэта сатыра вузейшага маштабу. Сатырычнаму паказу падпадае тут толькі адзін бок тагачаснай рэчаіснасці польскай дзяржавы, менавіта, амаральнасць і прадажнасць службовай шляхты, яе бяздарнасць у дзяржаўным кіраванні, асабліва ў ваеннай справе, якая была яе манаполіяй. Вось чаму аўтар «Ліста» далёкі ад тых радыкальных вывадаў у сваёй сатыры, якія робіць аўтар «Прамовы Мялешкі». Яго палітычныя ідэалы неакрэсленыя, а таму тут і не вызначана тое, за што ён змагаецца вострым словам сатырыка. Аўтар толькі развенчвае ваенны талент свайго героя і падае яго ў камедыйным плане на суд грамадства. Ствараючы вобраз Абуховіча, ён не паскупіўся на сатырычныя фарбы і згусціў іх да гратэску, выкарыстаўшы ў гэтых мэтах багаты арсенал беларускага фальклору, з якога ён браў з'едлівыя і трапныя прыказкі і прымаўкі. А гэта сведчыць аб тым, што аўтар «Ліста» быў добра адукаваным для свайго часу чалавекам, які ведаў не толькі літаратуру, але і фальклор і ўмеў карыстацца яго сродкамі ў сваёй творчасці. Імя яго нам невядома. Меркаванне ж Д. І. Даўгялы аб тым, што аўтарам «Ліста» трэба лічыць Цыпрыяна Камуняку, патрабуе яшчэ больш пераканаўчага абгрунтавання.

Як і «Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча», дзякуючы сваёй сатырычнай накіраванасці супроць польска-шляхецкай улады, карыстаўся выключнай папулярнасцю сярод беларускага народа. Яго чыталі і перапісвалі, аб гэтым сведчаць тыя спіскі гэтага твора, якія захаваліся да нашага часу, менавіта: 1) «Віленскі спіс», 2) «Адэскі спіс» і 3) «спіс Кракаўскай бібліятэкі». Першыя два надрукаваны Д. І. Даўгялам у «Трудах Белорусского государственного университета» (№ 16, Мінск, 1927 г.), дзе «Віленскі спіс» пададзены ў разначытаннях да «Адэскага спіса».

Мы падаём тэкст «Ліста да Абуховіча» па фотакопіі «Кракаўскага спіса», якую нам прадставіў ст. выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага кандыдат філалагічных навук П. Ф. Крапівін, лацінская транскрыпцыя тэксту заменена кірыліцай.

---

[1] вядомага. [2] Піліп Казіміравіч Абуховіч — асоба гістарычная. Паходзіў ён з буйнай шляхты Мазырскага павета. У свой час закончыў Замойскую акадэмію і праславіўся як выдатны прамоўца. Пісаў і друкаваў вершы на лацінскай мове. У 1632 г. Абуховіч быў дэлегатам на сейм ад Мазырскага павета. З гэтага часу ён неаднаразова быў паслом ад розных паветаў і выконваў розныя дыпламатычныя даручэнні ўлады. 25 верасня 1653 г. атрымаў ад польскага караля пасаду смаленскага ваяводы, а 23 верасня 1654 г. смаленскі гарнізон добраахвотна здаўся Маскве пасля 110-дзённай аблогі. Гэта нарабіла шмат непрыемнасцей Пілілу Абуховічу. Грамадская думка проста абвінаваціла яго ў здрадзе Рэчы Паспалітай. Супроць яго была ўзбуджана сеймавая справа, якая ў 1658 г. закончылася пацвярджэннем нявіннасці Абуховіча ў справе здачы Смаленска рускім войскам. Але сам Абуховіч да гэтага часу не дажыў. Ён памёр 6 верасня 1656 г. Зыходзячы з гэтага, час узнікнення «Ліста» трэба аднесці да 1655 г. Справа Абуховіча была ўзнята на сейме 19 мая 1655 г.

Милостивы пане Обухович, а мой ласкавы пане! З умыслу моего посылаю служку нашего давного, пана Иоахима Говорку, обвещывшы доброе здоровие Вашмосци [1] чыли нездоровие, в яким тот час господь ховать рачыт [2] после того перепуду [3] московского. И я так знаю, што нудно Вашмости на жываты [4].

Не гневайсе, Твоя Милость, на мене, што тытулу воеводского не доложыв. Написавшы б я воеводою смоленским, то бы я солгав; написавшы б опять безвоеводзким, то бы се Вашмость гневал, хоць не за што.

Я так разумею: коли Смоленск оддали, то и тытул продали. Много людей об том звещали, што люде и грошы побрали. Лепей было, пане Филипе, седзець табе у Липе [5]. Увалявся есь в великую славу, як свиня у грась, горш то ся стало, коли хто упадзе у новом кожусе у густое болото, у злом разуменю, у обмовах людзких и у срамоти седзиць, як дзяцел у дупли. От нам за тое, што дзешово Москва соболи продавала: всю Русь з людзми одобрала. И то есьмы обачыли, соболие колнеры познавесьмы [6] зараз, што худо будут биться нашие жолнеры [7]. А што мы дурные у кожухах сем лет Смоленска добывали, то вы мудрые у соболях за четырнадцат недель оддали. Боюся вельми, што б за тое баба кому пупа не резала!

Об меншую, чаю, вину, — кажут людзе, — Осьцика небощыка [8] напалохав кат у Вильне, аж мясо его валялося, што одно карточку писав до Москвы неосторожно. Мы и цара в ногу цаловали и грошы побрали, а без маль нам тое не минется!

Пан Госевски [9] не много по-лацинску умев, а з мнейшым [10] людом и апаратом военным и жывностю Смоленска додержав! Мудрость велика, — кажут люде, — як свини. Қали много еи кто зажывает, той ничего не дбает. А кали человек надто кусит — и постягнут [11] мусит и хвосту бывает непокой. Зофиа-философиа радзила [12] седзець высоко, говорыт глыбоко. Қуделя, пане, — жыноцкая реч, да што б пекла горазд оладки. Ест у мене старые книги у новом

---

[1] ваша міласць. [2] пажадае. [3] перапалоху. [4] у жыцці, на сэрцы. [5] Ліпа — вёска над р. Сноўкай у 10 *км* ад станцыі Гарадзея, была старадаўняю ўласнасцю рода Абуховічаў. [6] мы пазналі. [7] салдаты. [8] Маецца на ўвазе Рыгор Юр'евіч Осцік, які быў пакараны смерцю ў 1580 г. у Вільні за пісьмовыя зносіны з маскоўскім баярынам Нашчокіным, як дзяржаўны злачынца, які быццам бы дамагаўся далучэння беларускіх зямель да Рускай дзяржавы. [9] Размова ідзе аб смаленскім ваяводзе Аляксандру Корвіну Гансеўскім (1625—1639), які асабліва праславіўся сярод польскіх магнатаў і шляхты ў 1632 г., калі абараняў Смаленск, абложаны рускімі войскамі Шэйна. 10 месяцаў Гансеўскі трымаўся, пакуль каралевіч Уладзіслаў не з'явіўся яму на дапамогу. [10] меншым. [11] па сэнсу павінна быць «пастагнаць». [12] давала параду, раіла.

кути. Завсюды я там много вычытав жоноцкой псоты, яковых з ума зводзяць людзи мудрых, многих и святых, а што б пак нас грешных к лиху не прывели.

А коли б дотуль Вашмость писаром [1] быв, то б чоловеком слыв. И того б з нас годи [2] было за нашое лихое шалбёрство [3]. Показуюць людзе и тое на Вашмостей, якобы до вымысьлення подымнаго [4] никто не быв прычыною, только Вашмость, которым выкурыли нашых мужыков, як воробьёв з веников. Без мало: з мудрых ораторов не будет много ратаёв [5]. Послом зоставшы много правды не говорыте, толко берете копы [6]. Депутатом копы, комисаром копы. А тые копы пострыгут не одного в хлопы [7], а пан нет ведома гдзе будет. У Гданьску есть там кому вал сыпати и без нас.

Што люде старые мовили, то все правда. И горазд у памяти маю, коли быв пан Мелешко, кашталяном смоленским будучы, на сейме. И я на тот час за ним з кордиком [8] стояв, як мова в тые слова была: «Панове! Кажу Вам правду. По вельми мудрых людзях ничто на свети готая худела [9], що з болота чыниць золото, а з золота болото своими шалберскими мовами и дышкурсами [10]. И он пан з прауды непрауду зробив, а што бы е убогих людей не милы ошукав и в блазны пострыгли [11]. Але поколь он того докажет, сам кепом [12] зостанет. Надувся в сенате, як петух галагуски, а правды не пытай. Усё баламутня. З уткою [13] дерзыт «так, так, так», а коли мовит тое [14] «не так», и писнути не хочет».

Не боявся так короля Егомости [15] Зыгмунта [16] и усех сенаторов, а ни умев болей ено [17] Часовник [18] и Псалтыр почытаць!

По многих книгах зблудився теперычны розум, як коза по лесе. А на прауду святую ни од кого ока здорового нет. Одно баламутня. И сами погибнут и нас погубят. Кожден мости, пане, ужыват буде. А какая такая особка, таки ж и поп чоловек!

Циунец [19] мой з рыкунею [20] быв з сынами [21] на торгу у лонной маетности [22] моей. Чув од когось и то мене звестив, што ляхы [23] на Вашмости вельми позакарычывали хвосты [24]. Одно б только сейм дошов, альбо оны быв хочут Вашмости о тое турбоват. Не кеп-

---

[1] Маецца на ўвазе пасада пісара Вялікага княства Літоўскага, якую Піліп [4] від Абуховіч займаў у 1651—1653 гг. [2] досыць. [3] махлярства, ашуканства. падатку ад коміна. [5] земляробаў. [6] лічба, роўная 60. Тут «копы» ўжыта ў сэнсе «хабар». [7] халопы, рабы. [8] шабелька. [9] «готая худела» — сэнс гэтага выразу незразумелы. Магчыма гэта месца сапсаваў перапісчык, бо ў «Адэскім спісу» яно чытаецца: «гэтая хвіля». [10] развaжаннямі. [11] Тут сапсаваны цэлы сказ, які па «Адэскаму спісу» чытаецца: «а що бы нас, убогих людей, не мели ошукать и ■ блазны пострыхчы». Па «Віленскаму спісу» чытаецца: «штоб нас ошукать и у блазны постригти». [12] дурнем. [13] Па «Віленскаму спісу» чытаецца: «З гурбою». [14] прапушчана, напэўна, слова «хто». [15] яго міласць. [16] Маецца на ўвазе кароль Рэчы Паспалітай Сігізмунд III Ваза (1587—1632). [17] адно, толькі. [18] Часаслоў. [19] «Циунец» — асоба, абавязкам якой было наглядаць за сялянскай працай на паншчыне. [20] жанчына, якая даглядала кароў у маёнтку пана. [21] У «Адэскім спісу» гэтае слова чытаецца: «з сырамі», што больш адпавядае сэнсу. [22] «лонная маетносць», г. зн. нерухомая маёмасць, якая перадавалася ў спадчыну. [23] зняважлівая клічка палякаў. [24] «позакарычывалі хвосты», г. зн. апалчыліся.

ско! Дай то, боже, штоб ся тое дармо не минуло. И то ли правда, чы ли не, показывают на Вашмости, якобы Вашмость у два на дзесят сот пехоты зъехав на одзыскане Смоленска. Даремно то, Вашмость, старане! Маючы чатырнадсот пехоты до обороны Смоленьска людзей зацных и добрых пры жывности и гармате, да не хотев боронити, а тепер только маючы [1]; грэблю в маентности Полонной [2] сыпат позваляю, а [3] Смоленска назад одзыскиват!

Ой, пане! годи фронцавитат [4], як слижа у Немэн упустит. Не заутра ужо тое буде! Минут его и трое люди!

И тое кажут доводне. Во всих штурмах Вашмости только одного ткача забито и то не вельми знаменитого. Ктось побрэдил, якобы Вашмости воеводство Краковское король Его Милость в нагороду Смоленска мае дати. Боятся ляхы вельми, што бы Твоя Милост венгром оных не продав.

Нешто, пане, сто родом дому деется! Дзед Твоей Милости, коли генералом быв в Мозыру, то, — слышав, — што за малые грошы неправду продавав. Пан отец Вашмости, судёю будучы мозырским за моей памяти, у кого больш взяв, того хороше осудив. Коли небощык з тэго света уступив [5], мозыране вельми рады были! А коли б Вашмость догэтуль за правдою ходив, то б и бог помогав!

До души то мени так дивно, што Вашмости трыста подвод под одну постель Москва дала! То б гэто не постель была так вельми цяжкая! Хыба каждая перына обернулася в чэрвоные золотые? Сяк так нагородився Вашмости пуд [6] московски. Коли б гэтакую кучу «гною» дал вывести из Смоленска Хмельницкому до Чэгорына, и то б не без шкоды было!

Пане! У мене гэтой брэдни ест не мало! Одных перын девят, кром дробных подушек, и то одна кобыла возит, где тэй брэдни потрэба!

Меу бы што и болей до Вашмости писати, зленивяуся довже и стат не могу. Да не гневай же ся, Господару. А кто ж кого осцерэжот, коли не милы, давный свой друг?

Датт з Тулян [7] дня 6-го иулия 1665 [8] року.

---

[1] У «Віленскім спісу» пасля гэтага слова чытаецца: «дванадесять пехоты». Без такой устаўкі сэнс сказа па гэтаму рукапісу губляецца. [2] Маецца на ўвазе в. Палонная, якая размешчана над р. Рутаю (левым прытоку р. Сервеч) па дарозе з Навагрудка ў Карэлічы, у 3-х *км* ад Карэліч. [3] прапушчана адмоўе «не». [4] Тут незразумелае месца ў тэксце «Ліста», мабыць трэба чытаць «францiцца», г. зн. паказваць гонар. [5] памёр. [6] спалох. [7] Напэўна маецца на ўвазе населены пункт Тулянін, які знаходзіцца ў 79 *км* ад г. Слоніма. [8] Дата помніка ва ўсіх трох спісах розная. У «Адэскім спісу» ён датуецца «6 юлиа року 1655», у «Віленскім спісу» — «6 юния 1655 году». За дакладную дату трэба лічыць 1655 г. Аб гэтым сведчыць дата вызвалення рускімі войскамі г. Смаленска, менавіта 3 кастрычніка 1654 г. і, што асабліва важна, час смерці самога Піліпа Абуховіча. «Ліст» жа адрасуецца яму як жывому адрасату. Што датычыцца месяца напісання, то хутчэй за ўсё «Ліст» быў напісаны ў чэрвені месяцы, як гэта адзначана ў «Віленскім спісу». Аўтару «Ліста» яшчэ невядома пастанова Варшаўскага сейма ад 19 мая 1655 г. па справе Абуховіча. Аўтар яшчэ толькі паведамляе аб чутках, што Абуховіча збіраюцца судзіць на бліжэйшым сейме Рэчы Паспалітай.

# ДРАМАТУРГІЯ

Вострая палітычная барацьба беларускага і украінскага народаў за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне супроць польска-шляхецкага засілля абумовіла шпаркае развіццё шырокай сеткі брацкіх школ у канцы XVI і пачатку XVII ст. ст. З развіццём дзейнасці брацкіх школ як культурных цэнтраў, закліканых даваць адпор езуіцкай прапагандзе, цесна і непарыўна звязана ўзнікненне новага віда літаратуры — драматургіі. Зараджэнне драматургіі пачалося ў брацкіх школах з тых першых інсцэніровак асобных біблейскіх сюжэтаў, якія рабіліся выкладчыкамі рыторыкі і піітыкі ў вучэбна-педагагічных мэтах для школьнага тэатра, дзе акцёрамі былі самі вучні. З цягам часу побач з інсцэніроўкамі біблейскіх сюжэтаў пачалі ўзнікаць і самастойныя драматычныя творы, тэкстаў якіх, на вялікі жаль, да нашага часу захавалася вельмі мала.

Паколькі школьныя драмы, усе без выключэння, насілі рэлігійна-павучальны характар, то яны сваім зместам хутка прытуплялі ўспрыйманне гледача. Тады для разрадкі напружанага стану гледача і ажыўлення яго ўспрыймальнасці паміж актамі школьных драм устаўляліся асобныя вясёлыя камічныя сцэнкі з жыцця і побыту простага люду. Зместам гэтых камічных сцэнак, атрымаўшых пазней назву інтэрмедый, або інтэрлюдый, у большасці выпадкаў служылі вясёлыя народныя анекдоты. Дзеючымі асобамі іх былі прадстаўнікі «ніжэйшых» слаёў грамадства — сяляне, салдаты, карчмары, царкоўныя вартаўнікі, студэнты, цыганы, рамеснікі і традыцыйны персанаж рэлігійнай літаратуры — чорт, які часам выводзіўся ў інтэрмедыі празмерна дурным. Аўтарамі гэтых інтэрмедый былі ў пераважнасці самі студэнты брацкіх школ.

Не звязаныя арганічна з сюжэтамі школьных драм, інтэрмедыі з цягам часу сталі выкарыстоўвацца вандроўнымі прадстаўнікамі бяднейшай часткі студэнтаў духоўных школ у якасці самастойнага рэпертуару для тэатра, які ў Беларусі атрымаў назву «батлейка», на Украіне — «вертеп», а ў Польшчы — «шопка».

У часы змрочнай каталіцкай рэакцыі, калі сеймавай пастановай 1697 г. беларуская мова была забаронена для пісьмовага ўжывання як у дзяржаўных, так і ў іншых справах, беларуская батлейка сумесна з фальклорам з'яўлялася адзіным магчымым сродкам для развіцця нацыянальнай літаратуры і папулярызацыі яе ў шырокіх масах народа. Узнікшы ў XVII ст., беларуская батлейка, па сведчанню Змітрака Бядулі, праіснавала да 1915 г., да сваёй апошняй пастаноўкі ў г. Мінску.

У выніку таго, што рэпертуар батлейкі ў свой час не падвяргаўся літаратурным запісам, да нас не дайшоў ні адзін з батлеечных тэкстаў, які быў бы датаваны XVII або XVIII ст. ст. Нават тыя тэксты інтэрмедый, якія знаходзіліся ў рукапісных зборніках школьных драм XVII і XVIII ст. ст. і захоўваліся ў Ленінградскай дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына (маюцца на ўвазе зборнікі школьных драм з рэпертуару езуіцкіх

калегій Q. XIV.10, Q. XIV.12, Q. XIV.18, Q. XIV.30), за выключэннем той невялікай часткі, якая ў свой час была апублікавана акадэмікам Е. Ф. Карскім і праф. А. Брукнерам, загінулі. З 1922 па 1927 гг. гэтыя зборнікі разам з іншымі пісьмовымі матэрыяламі, па ўмовах Рыжскага дагавору, былі перададзены Польшчы на той падставе, што яны былі напісаны польскай транскрыпцыяй. А між тым мова інтэрмедый з гэтых зборнікаў, як гэта відаць з урыўкаў, пададзеных акад. Е. Ф. Карскім у яго працы «Белорусы» (гл. т. III, вып. 2, Петраград, 1921, стар. 215—235), чыстая беларуская, толькі з невялікай прымессю паланізмаў.

Інтэрмедыі з езуіцкіх зборнікаў школьных драм насілі характар бытавых замалёвак з жыцця беларускага селяніна, які ў большасці выпадкаў паказваўся ў карыкатурным выглядзе. Гістарычная каштоўнасць інтэрмедый гэтага паходжання заключаецца толькі ў тым, што яны захавалі на сваіх старонках жывую гутарковую мову беларуса ў той час, калі яго мова была афіцыйна забаронена і выціснута з літаратуры польскаю моваю амаль на два стагоддзі.

Адрозніваліся ў гэтых адносінах інтэрмедыі, якія ўзнікалі ў асяроддзі праваслаўных духоўных школ Украіны. Яны нярэдка адлюстроўвалі класавую барацьбу таго часу і давалі рэалістычныя замалёўкі жыцця тых сацыяльных слаёў, прадстаўнікі якіх выступалі ў якасці дзеючых асоб інтэрмедый. Праўда, збоку мовы гэтыя інтэрмедыі прадстаўлялі яшчэ большую стракатасць, чым інтэрмедыі езуіцкіх калегій. Кожная дзеючая асоба тут размаўляе па-свойму, адпаведна сваёй нацыянальнай прыналежнасці і сацыяльнаму становішчу. Такая стракатасць мовы гэтых інтэрмедый дае падставу лічыць, што ў напісанні іх прымалі ўдзел як украінцы, так і беларусы, і разглядаць гэтыя творы трэба як частку беларускай літаратурнай спадчыны XVII—XVIII ст. ст.

Пададзеныя ніжэй тэксты інтэрмедый друкуюцца па першавыданнях. У тых тэкстах, якія ўпершыню былі надрукаваны лацініцай, мова дзеючых асоб, што размаўляюць па-беларуску, перакладзена намі на сучасны беларускі алфавіт, але з захаваннем арфаграфіі першавыдання.

## [ІВАН І ЦАРКОЎНЫ СТОРАЖ]

Гэта інтэрмедыя з'яўляецца самай старэйшай з усіх беларускіх інтэрмедый, якія дайшлі да нашага часу. Яна служыла ў якасці ўступу да школьнай драмы «Камедыя аб Якаву і Іосіфу патрыярху». Знаходзілася яна ў рукапісным спіску некага Е. Пылінскага з г. Гродна. Рукапіс гэты датаван 1651 г. Пададзены ніжэй тэкст інтэрмедыі друкуецца па выданню Е. Ф. Карскага «Белорусы», т. III вып. 2, Петраград, 1921, стар. 215—218.

Іван.

Панове, што то за дзело будуть тут дзелаці,
Чы не свадзьбу на мейсцу сём будуць скакаці?

Aulicus.

Ja wiem, lecz tobie darmo nie powiem, Iwanie [1].

Іван.

Прошу цебе, скажы мне, мілосцівый пане.

Aulicus.

Jeźli chcesz, żebyś co się tu dziac będzie wiedział,
Potrzeba, na pytanie byś mi odpowiedział.
Naprzód czemu żydowie kozy rodzi iedzą,

[1] Я ведаю, але табе задарма не скажу, Іване.

Bo taiemnice pewnie te ludzie nie wiedzą[1].

Іван.

Бацько так мой казывал, цівун вельмі зачны[2]
І з наукі хлубокей, ўсім мужом значны.
Быў ён вельмі ч(уж)эму, вельмі научоны,
І по ўсём нашым селе наукам уставёны.
Умеў ён ганбецадло, панове, цалое,
Як рускоє, так тэж мудрэйшэ ляцкое.
Тот бывало он о том гэтак людзём кажэць,
Хды спытаюць, чаму жыд кажыну вельмі ядаець.
Колі бог мілосьцівы тварыў сьвят з нічого,
А чоловека чыніў з хліны мізэрного,
На ўсе іннэй рэчы рок хвят[3] творячы,
А біес сен пшыпатровал[4] господу, стоячы.
Хцел біес собе удзялаты[5] подобного зхола[6],
Не знаючэ, што сова не родзіць сокола,
Хоцеў мовіць панского хвят насьлядуёнц[7],
Але вымовіў: хвік, хвік! ашно выскакуёнц[8]
Уйжал[9] казу з рогамі і з хвостом велікім.
Хоцечы се прыхледзіць пшымётом[10] усякім,
Унял[11] казу за еи хвост; каза, как шалёна,
А знаць его рогамі была пострашона,
З велькім пудэм[12] на плоты высокіе скочыла,
Але ему свой хвост ў руках зоставіла.
Ведаеш цепер, чом казы бес хвостоў свых[13] ходзюць,
А козлята чэму од ніх такіе родзюць.
І для тэго родзі еш казыне жыдове,
Бо так небосчык казаў бацько мой, панове.

Aulicus.

Nie pleć, chłopie, żadne nie może z niszczego
Utworzyć nic stworzenie procz Boga Samego.
Odpowiedź że na drugie, chłopie, me pytanie,
Jeżli chcesz wiedzieć na co ludzi to zebranie;
Co jest Bóg y co iest Ynia chwalebna
I wszytkim odszczepieńcom barzo iest potrzebna[14].

Іван.

Борiс ест сьветого Мікулы рожоны брат; і колiп бог не быў богом, то б сьветы Мікула быў богом, а унія ест Пречистой рожоная сестра. Так мой бацько небосчык староей веры казаў.

---

[1] Калі хочаш ты ведаць тое, што тут будзе дзеяцца, патрэбна, каб ты мне адказаў на пытанне. Перш за ўсё: чаму яўрэі ядуць рогі казы, бо таямніц, напэўна, тыя людзі не ведаюць. [2] высакародны. [3] Сказаў: «fiat». [4] А бес (г. зн. чорт) прыглядаўся. [5] зрабіці. [6] поўнасцю, зусім. [7] наследуючы. [8] выскачыўшы. [9] убачыў. [10] прыкметах. [11] схапіў. [12] спалохам. [13] сваіх. [14] Не пляці, хлопе, ніхто з нічога не зможа ўтварыць, ні адна істота, апрача самаго бога. Адкажы, хлопе, на другое маё пытанне, калі хочаш ведаць, для чаго сабраліся тыя людзі: Што ёсць бог і што ёсць унія хвалебная і ўсім адшчапенцам вельмі патрэбная.

Aulicus.

Nie mów takich słów, chłopie, bo Bóg nieskończony,
A święty zaś Mikołay był człowiek stworzony.
Uniia ziednoczenie iest wiary prawdziwey,
Lecz nie iest siostra Panny nad wszech dobrotliwey.
Na teś rzeczy nie trafił, cnłopie, adpowiedzieć.
Lecz iescze tego chcę ia od ciebie dowiedzieć:
Jako rozumiesz, chłopie, czyia lepsza wiara,
Powiedź mi, bo inaczey weźmie cię poczwara,
Jak cię... dym obłożę kiiem podle ucha,
Że nie przyidziesz do śmierci do dobrego słucha [1].

Іван.

Добра наша вера уніціцкая, да такі праўду мовячы лепша ляцкая, та і коняцкая. Бо счо лях або уніат, то панок, а счо усматык [2], то мужык лядасчо, да што ш такі добро по Сеньку шапка. Мужыком добрая мужыцкая вера, собака зьесьць і бес солі; старая вера наша — праўда то, — да і чорт жэ не молоды, да такі бесу сходзі се, моліўся доўхо богу, да і жыд моліцьсе, да такі бесу ходітся.

Aulicus.

Jużeś prawdę powiedział, wiedzieć będziesz zaraz,
Co się na tym theatru będzie działo teraz.
Będzie tu komiedia o swiętym Jakobie.
I o iego iedyney Jósephie ozdobie,
Jako od swoich braciey był w Aegypt przedany,
Jako potym w Aegypcie był od nycn poznany [3].

Іван.

А чы будзець жэ чорт з рогамі?

Aulicus.

Będzie y ten, bo bracia na Józepha wzbudzić.
Będzie się starał, oyca do smutku pobudzić [4].

Іван.

А тут хто?

Чорт.

А (во)сь я бес, сысмацікі сын.

---

[1] Не кажы такіх слоў, хлопе, бо бог несканчоны, а сьвяты Мікалай быў чалавек створаны. Унія ёсць з'яднанне веры праўдзівай, але не сястра панны за ўсіх дабратлівай. На гэтыя рэчы не ўдалося табе, хлопе, адказаць. Але яшчэ таго я хачу ад цябе даведацца: Як ты, хлопе, разумееш, чыя вера лепшая, скажы мне, бо інакш цябе возьме здань, як цябе . . . ды аблажу я кіем каля вуха, дык не будзеш мець аж да смерці добрага слыху. [2] а што схізматык. [3] Ужо ты праўду паведаміў. Зараз будзеш ведаць, што будзе рабіцца тут хутка на гэтым тэатру. Будзе тут камедыя аб святым Якаве і аб яго адзінай аздобе Іосіфу, які сваімі братамі быў у Егіпет прада790ны, а потым у Егіпце быў імі апазнаны. [4] Будзе і той, хто братоў на Іосіфа стараўся натравіць, а бацьку яго да смутку прымусіць.

Іван.

Ідзь жэ, чорце, од мене до беса.

Чорт.

Я цебе люблю.

Іван.

Да я цебе не люблю.

## [СЕЛЯНІН І СТУДЭНТ] [a]

Colonus. Ахце мне ж, людзей, людзей, як вады! Але там рабята-жэўжыкі, віхер іх носіць, круцятца. Гэта кажуць, што іх на пагулянку раз у год пушчаюць. Там жэ то ні ладу, ні парадку: адзін другога піхіць носэм на землю, у чубкі, на кулачкі як запалюць. Ах, дарога, дарога праклятая! Самые пекелішкі. Утаміўся, як сабака, пашанаваўшы ясного сонейка, красного месечка і вас паноў! Прысяду троху. Мась [1] панове, ат на пацеху вашую і сваю прызнаюся вам, што ёсць у мяне дома Баўтрук баструк [2], да жалься, боже, што мужыком урадзіўся. Такая прашкуда прамысльная [3] да бакіламара [4], як на пірагі з масліч-кам напіраецца! Калі б гэта розум на няго набыць, парушы(ў) бы я сваей машны [5]. А цяпер, як гэтые жэўжыкі разлезуцца, і за грошы го [6] мог бы дастаць.

Studiosus.. A ty, mużyk, co tu masz za spawę? [7]

Colonus. Не музык, мосць пане, а ні дудар, парою у кулак затрублю, калі дзеткі ў хаце зубамі звоняць.

Studiosus. Ale co ty masz za spawę [8].

Colonus. Нет, маспане, непісьменны чалавек, правовацса ні умею, а хаць бы пасварыўся з суседамі, то зараз урадпік разсудзіць справу пастронкам.

Studiosus. Czy masz iaką potrzebę? [9]

Colonus. Куды, мой ты саловейку, патрэбы, я і кунтыша не маю, дабро каб світка была на хрыбце.

Studiosus. Głupi chłop iak cielę [10].

Colonus. Было адно целятко і тое здохло.

Studiosus. Dyszkuruie iak grochu się obiadszy [11].

Colonus. У мене, панічку, дзецей як бобу, а гароху і асмінкі нету.

Studiosus. Darmo, iak widzę, groch na ścianę rzucam [12].

Colonus. І ты, масьпане, вельмі шуміш. Гарох у гаршчок, не на сцену кідай.

Studiosus. Chłop rozumu y za szeląg niema [13].

---

[a] Тэкст інтэрмеды пададзены па выданню А. Брукнера (гл. Archiv für slawische philologie, т. XIII, стар. 232—236). [1] скарочанае слова «міласцівыя». [2] пагардлівая назва юнака, які не слухаецца бацькоў. [3] пранырлівы, спрактыкаваны. [4] бакалаўра. [5] кішэні, кашалька. [6] яго. [7] А ты, мужык, што ў цябе тут за справа? [8] Але што ў цябе за справа? [9] Ці не маеш якой патрэбы? [10] Дурны мужык, як цялё. [11] Размаўляе як гароху аб'еўшыся. [12] Дарма, як бачу, кідаю гарохам па сцяне. [13] Мужык розуму і за шэляг не мае.

Colonus. Да такі у мене барада як лес, а розуму бы не было. А гэто знаеш, мой лебедзю, што кажуць: калі б на панскую мудросць не мужыцкая хітросць, даўно б мужыкі пагіблі. Да маю сынка жэўжыка, такі як парасятка свавольнае.

Studiosus. Teraz iak prosię zwyczaynie, a iak wyroście będzie z niego świnia[1].

Colonus. Да ну, масьпане, і паліцікі не ўмееш.

Studiosus. Mniemasz oto, coż z tego, że masz Syna? [2]

Colonus. Ей, хацеў бы для него розуму больш вытаргаваць, чы не будзець як даразыцьса?

Studiosus. Moy mużu, wy czasem za kwartę gorzałki rozum przedaiecie, a za co się my mamy drożyć; dostaniesz y u mnie za bity talar dostatkiem, tylko w coż weźmiesz? [3]

Colonus. Кажуць, масьпане, што розум да галавы ідзець; то гэто ты, вашэць, мне у ухо накладзі, а я сынку свайму у дома усё вытрасу.

Studiosus. Dobrze y tak, tylko czy pojmiesz ty sam? [4]

Colonus. І паймаю, масьпане, не уцячэць, не.

Studiosus. Słuchay że: Verbi caepi movi[s] [5].

Colonus. Што, што? З вербы цэпы новые? Не, мой галубчыку. З вербы лядашто цэпы. Учы чаго іншого. Паруш і розуму лацінского.

Studiosus. Czy nie choczesz być matematicus? [6]

Colonus. Гэто. Гэто матаць на ус; гавары больш.

Studiosus. Dobrze, są tam duo cardines coeli [7].

Colonus. Што, што? Дзве карбоны цэлые! Не маю, бачыш, не адной цэлэй, вытрасліураднікі.

Studiosus. Nie rozumiesz y tego [8].

Colonus. І розумею, масьпане, калі цэлые карбоны, а калі не цэлые.

Studiosus. Poydziemy do Loiki, tylko mowią że tam caligo Spinoza [9].

Colonus. Згінь! Прападзі з розумам! Нехай ідзець калом у землю. Не хачу, пане шпектар.

Studiosus. Ale nie rozumiesz. Ja mowię caligo Spinoza [10].

Colonus. Да знаю, што кажэш: калом па спіне шуплю. Я тое, куды ты, вашэць, круціш, не хачу.

Studiosus. Otoż doydzisz z nim sprawy. Ja mowię caligo Spinoza, a on mowi kołem po spinie [11].

Colonus. Годзе. Годзе таго. Вельмі пераўчуся.

---

[1] Цяпер як звычайнае парасё, а як вырасце, то будзе з яго свіння. [2] Ці думаеш ты аб тым, што з таго, што маеш сына? [3] Мой мужу! Вы часам за квартай гарэлкі прапіваеце розум, а за гэта мы маем даражыцца. Дастанеш ў мяне за біты талер яго з дастаткам, але толькі ў што ж ты возьмеш? [4] Добра і гэтак. Толькі ці зразумееш ты сам? [5] Слухай жа: (набор лацінскіх слоў). [6] Ці не хочаш ты быць матэматыкам; [7] Добра (набор лацінскіх слоў). [8] Не разумееш і таго. [9] Пойдзем да логікі, толька мовяць, што там незразумелы Спіноза. [10] Але, не разумееш. Я гавару незразумелы Спіноза. [11] Хіба ж дойдзеш з ім справы? Я гавару незразумелы Спіноза, а ён кажа: колам па спіне.

S t u d i o s u s. Poczekay, chłopie, trzeba ci wbić y to dobrze w głowę, żeby nie wypadło, trzeba ci dać po uchu [1].
C o l o n u s. Не важся. Зараз розумам назад аддам.
S t u d i o s u s. Oddayże talar bity, iakoś obiecał [2].
C o l o n u s. І не, масьпане. Я ад цебе ж научыўся, што карбоны не цэлые. А да таго ведаеш, панятко, што глупі даець, а мудры бярэць. А я цяпер розум маю з твае наукі. Не дам, не дам ні шэляга.
S t u d i o s u s. Jak chłopie? Bycie zabito, daway talar bity [3].
C o l o n u s. Пастой, мой спадару. Што таляра не маю, а бітого калі хочэш, вазьмі па хрыбце.
S t u d i o s u s. Zgiń, przepadni z taką zapłatą! [4]
C o l o n u s. Вярніся, панятко, не добре прыбіў! Пастой, паздры, не заплаціў саўсім.

## [СЕЛЯНІН І ВУЧАНЬ УЦЯКАЧ] [a]

С е л я н і н. Знову я на торг з мяхом, з кісцянём гэтым. Купіць не купіць, а патаргаваць вольно. Той шубравец скубент хацеў простаго чалавека ашвабіць, да і Мікіта — цвік — не дасца. Трэба бы троху па польскему ензык пшеламаць, каб не ушэнды, васпанство, пазналі, жэ хлоп прастак. Слугавал я кедысь і под харунгвіо драгарскон. Патрэба только собе прыпомнець.
S t u d i o s u s - F u g i t i v u s. Oy źle, źle, przyidzie się utopić z despe-racyi... dostałem inspectora iakiegoś niemiłosierdnego, chce żeby y w domu z Alwarem y zteką się nosił... trzeba się chować... [5]
С е л я н і н. Панятко, мой салавейко! Чы не ад бакіламара уцекаеш?
S t u d i o s u s. Prawdziwy Bokiłamar; pewnie że boki i grzbiet będzie w strachu, zmiłujsię, schoway mię, Panie mużu, gdzie możesz, kontusik ci ten oddam, a żeby zaraz: nie bawże, bo iak mię złapie, dogrzeie mi do żywego [6].
С е л я н і н. Сюды, панятко! Лезь у мех, лезь.
S t u d i o s u s. Ale y tu będzie gorąco [7].
С е л я н і н. Такі ж не так, як калі пан шпектар духу спытае... я скажу, што нясу з гуты шкло рознай масці: пляшкі, шклянкі, банкі, збанкі.
S t u d i o s u s. A kiedy się naprze, żeby pokazać? [8]
С е л я н і н. То я скажу, масьпане, шкло гэтае гутнік рыцэрскім узлом завязаў. Пан мае бакі на друзгі патаўчэ, калі адвяжу. Южэм не адвяжу, не бойся. Қалі б толькі не ўдарыў з кардыакі.

---

[1] Пачакай, хлопе! Трэба табе і тое добра ўбіць у галаву, каб не выпала, трэба табе даць па вуху. [2] Аддай жа біты талер, як абяцаў! [3] Як хлопе? Быццам забіта. Давай талер біты. [4] Згінь, прападзі з такою заплатай. [a] Тэкст пададзены па А. Брукнеру (гл. Archiv für slawische philolcgie. т. XIII). [5] Ой, бяда, бяда! Прыдзецца заліцца ад роспачы ... дастаўся мне якісьці неміласцівы інспектар. Хоча каб я і дома з Альварам не расставаўся ... трэба схавацца. [6] Праўдзівы бакіламар. Пэўна, што бакі і хрыбет пазнаюць страху. Змілуйся, пане, схавай мяне, дзе можаш! Куртку табе гэту аддам. Толькі схавай зараз, не марудзь, бо як злове мяне бакіламар, то дагрэе да жывога. [7] Але і тут будзе горача. [8] А калі патрабуе, каб паказаў?

Studiosus. A kiedyż uderzy, coż mnie czynić? [1]
Селянін. То ты панятко, звані так, як шкло: цінь, цінь...
Studiosus. Czy tak: tiń, tiń, tiń! [2].
Селянін. Добре, добре, але патрэба троху таўсцей: дзын, дзын дзын...
Studiosus. Potrafię y tak, zmiłuysię tylko nie wydaway [3].
Селянін. Южэ ж я дадзержу. Лезь, мышачко, у ямку, пасядзі ў гэтай клетцэ, мая перапёлочка.
Studiosus. Oy duszno [4].
Селянін, Будзе ешчо і душней паждаўшы. Да ты цярпі, панятко
Studiosus. Ale dusza ze mnie wylezie [5].
Селянін. Што гэто пляцеш? Я завязаў добре, а мех усюды цэлы, нігдзе дзіркі нет. Не вылезе душа, не вылезе! Сядзі гэтак. Утаі духа: ідзець хтось! *(Падымае мяшок.)* Ах, цяжанька шкло ў беса, не данясу я цэлого.
Studiosus. Tiń, tiń, tiń [6].
Селянін. Не крычы, не крычы! Яшчэ не б'е ніхто.

*(Тым часам селянін падрабляе свой голас пад інспектара, быццам бы патрабуючага паказаць, што селянін нясе ў мяшку, а сваім голасам адказвае)*

Ах, змілуйся, масьпане, то мне бокі пан патаўчэць... загубіш мене на векі. Да годзі. Бойся бога! З чым я прыду? Ахці мне ж... Южэ ш, масьпане, калі хочэш, то бі мене, а шкло няруш! *(Другім голасам.)* Kiedyś się naparł, oto raz po tobie, a drugi raź po szkle [7]. Ах, зубы мне выбіў! Ах, ліхенько... ах, ахці мне ліхо! *(Б'е па мяшку.)*
Studiosus. Dyn, dyn, dyn [8].
Селянін. Гэто масьпане, і не маё шкло перагуторыло, што дарма яго калечыш. *(Другім голасам:* Zgiń przepadzi, czy nie czary jakie [9]. *Трасе, адыходзіць.)* Ахці мне ж! I зубы павыбіяў і бокі паламаў, панёс яго бес ужэ.
Studiosus. Panie mużu, zmiłuysię odwiąż, strasznie gorące, dogrzał mi do żywego [10].
Селянін. Куды табе адвязаць! I рукі не парушу. От ні за сёё, ні за тое калекам застаю.
Studiosus. Zmiłuysię choć zęboma odgryż [11].
Селянін. Куды зубамі! I зубка нету. Усё той шубравец бакіламар павыбіяў. Пастой только, чы не адвяжу. От бяда! Якога ты мне ліха нарабіў? Лезь к бесу, калі б ты прапаў.
Studiosus. Wział że ia, wział za swoie [12].
Селянін. Аддай сюды сукнянку. Ужэ бачу нешто рабіць.
Studiosus. ... a co to się walą? [13]
Селянін. Гэто зубы мае, панятко, павыпадалі.
Studiosus. A czemuż tak gruba? [14]

---

[1] А калі ўдарыць, што ж мне тады рабіць? [2] Ці так: цінь, цінь, цінь! [3] Здолею і так, злітуйся толькі: не выдавай! [4] Ой душна! [5] Але з мяне душа вылезе. [6] Цінь, цінь, цінь. [7] Калі напароўся, то раз па табе, а другі раз па шклу. [8] Дзын, дзын, дзын. [9] Згінь, прападзі, ці не чары якія! [10] Пане мужу, злітуйся, адвяжы! Страшна горача. Дагрэў мяне да жывога. [11] Злітуйся, хоць зубамі адгрызі! [12] Атрымаў жа я, атрымаў за сваё. [13] ... а што гэта валяецца? [14] А чаму ж так груба?

Селянін. Папухлі ад балячкі, панічку мой, салавейко! Перабач, мой лебедзю.

От так трэба гэтых жэўжыкоў розуму паўчыць. Накідаў я яму добре. Нехай знае, што то ад бакіламара ўцекаць. А такі ж не дармо прыходзіць і гэтое да дому. Да ўжо ж я тут не вельмі буду прасушацса; калі б не было хвігель за хвігель с тым часам і камедзея скончыцса.

## [ЧОРТ АСМАЛЕЙКА][a]

*Чорт Асмалейка дужа захварэў і патрабаваў ад сваіх хлопчыкаў, каб яны як мага хутчэй прывялі да яго знахара, які зможа яго вылечыць. Хлопчык выконвае загад чорта: зазваў ведзьмаў, чараўнікоў і знахараў. Прыйшоў селянін-знахар, які знаёміць з сабою чорта такім чынам:*

Селянін.

Добрый я цырулік, умію лечыці;
Ведаю, як лекарства добраго зажыці.
Я его злечу зараз агародным зелям,
Выпару чорта ў лазні маладзенькім хмелям.
А калі не паможэ, то ж жыда з масьцямі
Зазваці, з рознымі его пархумамі.

Daemon.

Ratuy prętko, zmiłuy się. Lekarstwo mi gotuy[1].

Селянін.

Здыхай жэ борздо, чорце, не бойсь, бес не возьме
Цебе, калі маё око ясноё не засне.
Чы б'юць пульсы, надобе ў его пагледзеці.
Выцегніце тут борздо, вы чортавы дзеці.

Puer I.

Weźmę ia go za ręce a wyciągnę nogi[2].

Puer II.

A ia wiele szkodzące przycisnę mu rogi[3].

Селянін.

Ах, пульс як то б'ець моцно, як у пекле гарыць,
Гарачка так усего его цепер смаліць,
Ізыспаду і зверху агонь выбухаець,
Хоць чорт, а жадного бачэня не маець
Агонь пекельны. Трэба яко бачу сала
Дубоваго, каб мая рука шмаравала
Его косьці, павернеце на бок сюда лепей,
Азалей[4] ён пачуець лекарство то смачней.

---

[a] Тэкст пададзены па выданню Е. Ф. Карскага «Белорусы», т. III, вып. 2, Петраград, 1921, стар. 220—222. [1] Ратуй хутка, злітуйся. Лякарства мне гатуй... [2] Я яго вазьму за рукі і выцягну ногі. [3] А я, вельмі шкодзячы, прыцісну яму рогі. [4] напэўна, мабыць.

Ой, ужо шмароване пан д'ябел наш чуе,
Аж іскры сыплюцца, так добре шмарує.
От ужо гарачка гэто можэ выходзіць,
Не будзе ему агонь гэтой болей шкодзіць.

Daemon.

Ieszcze zle na żołądku y boli mi gardło,
Trzeba by przez ie przepuścić mi sadło[1].

*(Хлопчык раіць і іншыя лякарствы.)*

Селянін.

Будзе ўсё, ешчэ алей палункові,
От нагатаваў ему, ешчэ перцу падайце
Жменю добрую, а тута ў алей насыпайце.
Перайшло, як па масле, пераз горло ўсе.

*(Чорт яшчэ скардзіцца на боль.)*

Селянін.

Палкні толко гэтэй моцные пігулкі,
Выарэць твае всенкі з горла скулкі.

Daemon.

Iak mi na żołądku dobrze polepszało,
Ale przecie co to na nos moy muchi wpędziło,
Że moy nos kąsaią[2].

Селянін.

От гэто зелё тоё,
Што выстрашыць із носа ўсё табе ліхоё.

*(Чорт кажа, што мухі яшчэ непакояць яго нос.)*

Селянін.

Нос надабе з німі устрэліць, калі б борздо вышлі.

Daemon.

Coż czynić, choć bez nosa, tylko że much niemasz[3].

*(Скардзіцца на шум у галаве —пяюць цвыркуны,— на што патрабуецца аперацыя.)*

Селянін.

Гэтаго табе радзіць не падаймуюся,
Адно только на гэтом трошачка знаюся,
Свердлам лоб пракруціці, зараз паўцекаюць
Свершкі, недабрадзея свойго міне пазнаюць.

---

[1] Яшчэ горш у страўніку і баліць у мяне горла, трэба б прапусціць праз яго сала. [2] Як мне ў страўніку лепей стала, але замест таго чамусьці мухі на мой нос населі і нос мой кусаюць. [3] Што ж рабіць, хоць без носа, толькі ж мух няма.

Daemon.

Stoy, stoy, nie czyń dziury: dosi, że postrzelona,
Nie chcę mieć głowy, by była dziurawiona[1].

Селянін.

Я ўжо табе тут болей не хачу служыць,
Закліч сабе жыда, той табе парадзіць.

*(Прыходзіць яўрэй і знаходзіць у чорта меланхолію, якую раіць чорту лячыць іншым спосабам. Селянін ухваляе гэты план яўрэя і канчае сваю прамову заўвагамі маральнага характару.)*

От гэтак бес цешыцца, калі бога зневажаюць,
А людзі грэшные таго не ўважаюць,
А набарзей грэшнікі, каторые грэхамі,
Чыняць злоё ўсёгды рознымі часамі.
Хочэце ж, калі б із нас так чорт не смеяўся,
Ніколі на сьвет да нас і не паказаўся,
Пакідайце ж грэшыці, а бога малеце,
Нехай нас тут караець, а не на тым сьвеце.

# ІНТЭРМЕДЫІ З ДРАМЫ ГЕОРГІЯ КАНІСКАГА[2] «ВОСКРЕСЕНИЕ МЕРТВЫХ» (1746 г.)

«Воскресение мертвых» — алегарычная драма. Складаецца яна з пралога, эпілога і 5 актаў з кантамі. Пасля кожнага акта п'есы ёсць інтэрмедыя, якая сваім зместам нагадвае рэзюме дзеяння, што адбылося ў п'есе. У дзвюх апошніх інтэрмедыях, менавіта ў 4-й і 5-й, пададзен вобраз беларускага селяніна, змагара супроць сваіх прыгнятальнікаў — ганарлівай польскай шляхты, папіраўшай усё тое, што было дорага для беларускага народа. Аўтарства гэтых дзвюх інтэрмедый, напэўна, належыць камусьці з ліку беларускіх студэнтаў, якія навучаліся ў той час у Кіеўскай духоўнай акадэміі, дзе Г. Каніскі быў выкладчыкам рыторыкі і піітыкі.

Ніжэй пададзеныя тэксты 4-й і 5-й інтэрмедый з драмы Г. Каніскага друкуюцца па публікацыі Н. Пятрова ў часопісу «Древняя и новая Россия». Спб., 1878, нумар 11, стар. 254—256.

---

[1] Стой, стой! Не рабі дзюры: досыць таго, што паранена, не хачу мець прадзіраўленай галавы.

[2] Г. Каніскі (1718—1795) — выхаванец Кіеўскай духоўнай акадэміі, яе выкладчык і рэктар, а пазней беларускі архіепіскап — быў выдатным царкоўным аратарам і славутым змагаром супроць царкоўнай уніі 1596 г. Так, у 1765 г. на Варшаўскім сейме ён выступіў у абарону праваслаўя перад каралём Станіславам Аўгустам (Панятоўскім) з прамовай, якая пазней была перакладзена на ўсе еўрапейскія мовы як узор абароны верацярплівасці. З іншых твораў, якія характарызуюць Каніскага як грамадскага і палітычнага дзеяча свайго часу, вядома яго прамова перад імператрыцай Екацярынай II у 1787 г. і цікавыя запіскі аб Магілёўскай епархіі. Побач з гэтым Г. Каніскі напісаў рад вершаў, але ў гісторыю літаратуры ён увайшоў толькі як аўтар драмы «Воскресение мертвых», у якой трактуецца вострая сацыяльная тэма эксплуатацыі працоўных мас. Праўда, вырашэнне гэтай тэмы пададзена аўтарам з пазіцый артадаксальнай праваслаўнай царквы.

## INTERLUDIUM ЧЕТВЕРТОЕ

Литвин.

Слава цебе госпадзѣ, свяцѣцелю боже,
Што з ласки твоей святой паводзѣтся гоже
Високим властям панам и нам людзям грешним.
Всё харашенко твоим промислом паспешним!
Хвалю цебе, господзѣ, што ти спорядзѣлѣ
На хвалу тваю церкав як зъмаглѣ нам сѣли,
И званѣцу новую, и чатири звони:
Всѣ придались, звонять харашо в разгони.
Имеим папа себе честнаго старого,
Имеим панамара и дзяка молодого,
Але добрий и цѣхий, всѣх людей шануець
И церкви светой всёгды дзень и ночь пѣлнуиць;
Нѣ гарелки, нѣ бражки пяной а нѣ мёду,
Нѣчого хмелного не пець, апрочь воду;
А што салавей у церквѣ людзём спѣваець,
А дзѣцей харашенко в школѣ обучаець.
Дай же, боже, здарове и щасте всяму миру,
Што б неслѣ цебе в церков ладан на офѣру,
Свечи, красное вино, чистой столко муки,
Што б с праскур[1] осталось и папу на шулики.

*(Прыбягае шынкарка і паведамляе, што лях забій у шынку дзяка.)*

Шинкарка.

Ох, минѣ лихо! Що мнѣ теперь робити?
Принюс ляха недобрий в дом мой чесний пити;
Пяниця, ледащиця[2] всѣ вукна повибивав
И дячка молодаго шаблею порубав,
И втѣк конем, не знаю в сторону якую.

Литвин.

Ах, це мне! Што гето я от цебе чую,
Што б дзяка нашого лях прибив молодого?

Шинкарка.

Ед, не глух еси, от чи застанешь живого.
Будьто я на жарт кажу.

Литвин.

Ох, моя гадзѣна!
Што гето незвѣстная зделалась причина?

Шинкарка.

Як чуеш, вже я тобѣ давно товмачу,
Иди, коли не вѣришь.

---

[1] Спецыяльны хлеб, які ўжываўся і ўжываецца ў царкве набожнымі. [2] нягоднік.

Литвин.

Пайду я сам пабачу.

*(Насустрач ідуць мужыкі з мёртвым дзякам.)*

Литвин.

Ох! што гето несеце?

Мужик.

Ось, ходи, погледи!
Теперь нас привюв лях до втрати и беди,
Посѣк, порубав совсѣм дека молодого,
А вже нам не найти такого другого.

Литвин.

Ох, моей бедзѣ! Як ви гето допусцѣлѣ?

Мужик.

Ё, будьто ми на той час и з ним в шинку сидѣли!
Лешюга кат зна вутки, мов тобѣ вихром прилетѣв.
Нехай шинкарка скажет, як лях дяка вбив.

Литвин.

Як же хочице, дак ви еи призавѣце.

Мужик 1.

Ну лишь ти, Мосѣю!

Мужик 2.

Добре, Онопрѣю, дак я еи припру сюда на суд.

*(Прывёў шынкарку.)*

Ну, панѣ Федорова, от ми за тим громада
Тебе кликали.

Шинкарка.

За чим? Кажѣть, я слухати рада.

Мужик.

Ё, за чим! За тим, чи ти донесла старому,
Щё лях обтяв шаблею дека в твоюм дому?

Шинкарка.

Я донесла, а що? Чи вам тое плескати?
Николи минѣ: он, треба горѣлку давати.
Я и сама насилу вхватилась в комнату,
Як лях з шаблею за дяком вбѣг в хату;
З ляку[1] самого пришлось було чут не вмерти.
Прощайте! Мнѣ нѣколи и носа утерти.

---

[1] ад спалоху.

Литвин.

Правду ёна гавориць, что тут болш расправляць!
Засвѣжа як найскорѣе в погоню пасѣлаць.

Мужик.

Куди гнать? И тропи не взять, где опинився лях;
Тобѣ десять дорюг, а ёму один шлях.

Литвин.

Стойце-тка, ня бойцеся, ось я гето справлю:
Ён сам в руки нам впадзець, толко сець заставлю.

Мужик.

От так лучше, як за им посилати маем!
Шкода ж шкапѣ и хвоста мять, колись тут поймаем.

*(Літвін закідае сетку і варожа булавою.)*

Литвин.

Лесавие, баравие и балотние, ка мне прихадзѣце
И в гетой прозбе ви мне помажѣце!

*(Чорт гоне ляха ў сетку, ён жа гавора.)*

Лях.

Ах, ах, бяда! Кто мнѣ и коню спентал[1] ноги?
Яде, а невим доконд[2], так як слѣпый дроге.
Знаць, крев члека, ктурего-м забил, в свое краѣ
Заслонивши мнѣ дроге, уцѣкаць не дае.
Ах! Воле я в Чистцу сто лят церпѣць менки[3],
Нижели в хлопске тераз попадне сен ренки[4].
Кто мне, ах, пршечог? Кто мне пендзи до тей сѣчи?[5]

Мужик.

Ось, кровь дякова витаеть вашенцѣ[6];
Просим сюда ближше до нашого столу!
Ти то, ляшуго, справив дека до росолу?

Лях.

Так! мой есть грживх[7], хлопкове!

Мужик.

Э, твуй грѣх есть?
Дай бе нам добре здорове,
Що ти нам признався без стуку, без груку,
Ак кова в тенета, вскочив нам в руку.

Мужик 1.

А щё ж з ним будем чинить?

---

[1] спутаў. [2] Еду, а не ведаю куды. [3] Згодзен я ў пекле 100 год цярпець мукі. [4] чымся зараз папасці ў хлопскія рукі. [5] Хто мне, ах, перашкода? Хто мяне гоне ў тую сетку. [6] вашу міласць. [7] грех.

Мужик 2.

Те, щё старий скаже.

Литвин.

Ось так: нехай галава за голову ляже.
Нечого ж болш расправляць, годзѣ думаць, годзѣ!

Лях.

Чи шляхциця за дзяка трациць се негодзи:
Пенць[1] коп вам за хлопа уплаце гловщине[2].

Мужик.

Ов, негудний сине!
Як же ти дешево ставишь дека дорогого?
Двадцять вас не стоит за одного такого.

Мужик 1.

Чого з ним калентарить?[3]
Ну лишь ти, Мойсѣю,
Возми мерцвя, несить в церковь, я ляха за шию,
Вчепивши путом, поведу як хорта,
С конем, со всѣм втоплю в болото до чорта.

Литвин.

А я буду по шии дубцом затинаць,
Што б знав собака, як хрестян забиваць.

*(І гэтак гонюць ляха ў балота.)*

## [ІНТЭРЛЮДЫЯ ПЯТАЯ]

*(Лях шукае свайго брата, якога мужыкі затапілі ў балце.)*

Лях.

Егей, юж невим дали, в ктуре[4] вдацьсе строны,
Гдзѣ еще цебе шукаць, мой браце роджоны!
Шукалем в лѣсѣ, в полю, гдзѣсь мы полёвали
З хортами; тераз шукаць невѣм гдзѣ це[5] дали.
О, гды бы ми кто зналазл[6] наймильшего брата,
Певна бы оде мне была ему плата!

Ксенз.

Ave Maria![7]

Лях.

Кланям Мосци добродзѣю![8]

Ксенз.

Цебе цо ту занесло[9], мой милы Мацѣю?

---

[1] пяць. [2] Так называўся штраф за забойства. [3] цацкацца, размаўляць. [4] у якія. [5] зараз не ведаю, дзе цябе шукаць. [6] знайшоў. [7] Святая Марыя! [8] Віншую міласцівага дабрадзея! [9] Цябе што сюды занесла.

Лях.

Нещенсне, мой добродзѣю, fata[1].

Ксенз.

Яко то?[2]

Лях.

Ах! Полюёнць утрацилем брата.

Ксенз.

Знаць, бѣжонць[3] упадл з коня,
Негодзен быць в гробѣ.
Не еднему се трафи[4], дойдзе той же кары,
Кто колвек за охотон[5] шалице без мяры,
Идонць завше in contra свентего косцёла[6],
Ни свент, ни днёв хвалебных обсервуёнць згола[7].
Знаць, в таке дни полюёнць и вы браця минѣ,
Ты жив зосталесь, а он несвядомо гине.
И дармо юж, Мацѣю, шукашь свего брата!
Лежи, гдзѣ го пршецивне пршинаглоли fata[8].
Пянство то ваше чини и гултайска шабля.
Споведайсе, бы-сь также непошедл до дьябла!

Лях.

Проше за душе его о горонче модлы;
Проше, бы го щенсливе да Чистцу завёдли[9].

Ксенз.

Готув! Ты зась за гржѣхи све дашь порахунек[10].
Тылио выслухай, яки мнѣ стал се трафунек[11]:
Вчера идонць з офярон[12] ку свентей Дороце,
Слышалем кричончего глос чловѣка в блоцѣ.
Кий дьябол? — жегнам себѣ[13], звлаща идонць в ночи.
Кто таки, — обезвисе? Я додам помоци!
Стоиць злонкшисе[14], але ниц[15] не одповяда,
Тылио вола[16] плачливе: ах, бяда ми, бяда!
Домыслямсе по гласу, а невидзе лица;
Конечне, душа вола якегось шляхцица.
Я знов пытам, — кто таки? Чекам отповѣдзи,
А он на то: ах, згинолем гржѣшны без споведзи!
Я мове: споведайсе, — яке гржѣхи твое?

---

[1] Нешчаслівы лёс, мой дабрадзею. [2] Што такое? [3] бегучы. [4] здарыцца. [5] за паляваннем. [6] Ідучы заўсёды супроць святога касцёла. [7] ні свят, ні дзён урачыстых амаль не прытрымліваецеся. [8] Ляжыць там, куды прывёў яго нядобры лёс. [9] Прашу за яго душу набожнай малітвы, прашу, каб яго шчасліва прывялі да Чыстца. [10] Толькі ты зараз за свае грахі адкажаш. [11] выпадак. [12] ідучы з ахвярай. [13] перахрысціўся. [14] спалохаўшыся. [15] нічога. [16] галосіць.

Он кршичи[1]: пьянство, збродни, гултайске розбои,
Барзей, жем забил дьяка; хлопы осондзали[2],
Непусцивши до ксенза, в те блото вржучили[3].
Слышонць тѣ слова, мове: гды так, — не помоге
Венць[4] тобѣ; бо я мам дали поспѣшацьсе в droге.
Венць як слышишь, чи не твой брат в такей был пршичине?[5]

Лях.

Може таки. Пржеце[6] ратуй го, нех там венць не гине!
Выдзвигни го, проше, твеми горончеми,
Пошли го до Чистцу модлями свентеми![7]
Станьмы-сь ту на колянах и пршинесьмы модли[8],
Жебы го анёлове ту змтамтонд пршивёдли![9]

*(Ксёндз становіцца на калені і моліцца разам з ляхам.)*

Выслухай мне, выслухай, о свента Дорота!
Вырви шляхцица з тего смерджончего блота,
Змилуйсе над гинончим шляхцицем Ягниска,
Выдвигни з плюгавего шляхцица багниска!
Нех му дода помоци тва ренка[10], Ядвига,
Нех го с оней баюры[11] як може выдзвига!

*(Прыходзе тапелец.)*

Ксенз.

Дзенки ж вельке вам чине, жесь-це выслухали
Прозьбы моей и его з пршепасци вырвали!

Утоплений.

Дзенкуе и я тобѣ, жесь моей немоци
Модлями свентеми додал в нещенстью помоци!
Сольвуй же[12] мне од гржѣхов, сам провадзь до Чистцу!

Мужик.

Ось може з дзонзою на тум будеш знов мѣсцю.

Утоплений.

Чи ратуй, милы ойче, пршепаднеми[13] оба!

Ксенз.

Недбай[14], устрашиць их ма капланьска особа;
Пршимайсе тылио шне так, яко вешь кожуха!

Мужик.

Постуй лишь, куди ти ведеш сёго злого духа?

---

[1] крычыць. [2] асудзілі. [3] укінулі. [4] больш. [5] ці не твой брат быў у такой бядзе? [6] Таму ж. [7] Прашу, выратуй яго і пашлі да Чыстца сваімі набожнымі святымі малітвамі. [8] і памолімся. [9] Каб ангелы прывялі яго сюды адтуль. [10] Хай твая рука дасць яму дапамогу. [11] Хай яго з гэтай багны. [12] ачысць жа. [13] загінем. [14] не турбуйся.

Давно ми вже громада на ёго чатуем:
Яке лихо нучю robne, цѣлим селом чуем.

Мужик 2.

Ед се вун, коли хочь знат, щё всюгди в ночѣ ходить,
Не тулко нам, але и товаринѣ шкодить.

Ксенз.

Яко то може быць, — и мовиць се негодзи!
Мартвы без души, нигды бездушны не ходзи.

Лях.

Правде ксенз мови, вы зась хлопы на то лжеце,
Тылио еднои напасцион на нас ту идзеце.

Мужик.

Дак ти, ляше плешивче, за свого брата взявся.
И ти, бурлодинче, к ним же привязався?
О се ж ми вам развязку вчиним сёго ж часа:
Всѣм тром дотечется, дамо вам тут траса!

*(Тут мужыкі ляхаў і ксяндза б'юць і праганяюць.)*

## [СЕЛЯНІН У КАСЦЁЛЕ][a]

Мужик. Охъци мнѣ! Ци ведаеть то ета мая баба[1], што я в ета лиха попався, гѣтым бязделлим обчипався, кали б уже и на ссвѣцѣ не было? А всё яна, як вужа вилами, так мянѣ: ин идзи, дак идзи у Любавичи, ци ни пападзѣтца чаго, гуляючи, и богу помолисся и з (с)ваими павидзися. А вось така и ци ни (па)падзѣтца чаго купиць, — а всё кали б мужика з двора збыць. Правды, я стар, а яна, бабёнка, — в силѣ. Ох, кали б яѣ колом у зѣмлю! Ну вот, правды яѣ и паслухайся, да и падзись! Вот на тую пару и пападзися мнѣ кум Анцип, кыли знаиця вы его. Кажытца вот и понѣмногу, па единам, правды, випили карячку[2]. Ажну там и стали брязгаць, по нашему то к абѣдни, а па их к замши. Вот я и паидзись у их хасцёлу. Ажну там як заиграюць хто в дудачки, хто в свисцѣлачки, а хто в тарарычки[3]. Вот я, правды, ня бывши лих, да и падзись скакаць. А тут пат тую пару и придзись по нашему поп, а по их хазан[4] да падшутя; то я ахци мнѣ ета нѣхта ж з маскалёв[5]. Як застукаюць, заскоглюць[6], залюкаюць[7], затопаюць! Анципа я, правды, туды глядзь, сюды глюць[8], — мевица[9] маего кума Анципа! Ажну маю

---

[a] Тэкст інтэрмеды друкуецца па рукапісу Ленінградскай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына (Q. XVII. 168), які датуецца ў тэксце 1760 г. і мае такі загаловак: «Выписано из бывших в Смоленской семинарии комедий». [1] жонка. [2] коўшык, чарпачок. [3] бубен, бразготка. [4] абыграна лацінскае напісанне слова «ксёндз». [5] незразумелы сэнс сказа па тэксту. [6] завішчаць. [7] закрычаць. [8] туды, сюды паглядзеў. [9] няма нідзе.

меру за торбу[1] — да и ципп. Троху не павалився. Да и павалакись я..
—Бацька! Я нянцип[2].
— ... ажну мянѣ, да и спутайся. Ох, кали б их пуста! Вот и памали, як зайца в мот[3]! Я таки, правды, из маладых дзён богамолин[4] быв. Бывала ниводный и суспицы[5] не пропущу! Кали б толка зачуць, игдзѣ забрязгаюць[6], то взявшы в руки свѣчку, а торбу перапѣчку[7], и к да к падзі. А так, правды, и в своём дворѣ заставляю: Жонка, бий поклоны земляныя — граза идѣць; нашу мѣру нѣшта изба цѣкѣць. Нѣяк вякнув и свящѣнник на мянѣ: «А Цѣрих! Вить, ты нѣяки нѣхрисцянин!» А я: «А, а, бацька. Мяня вся дзяревня знаиць, што я к церкви прилѣжин!» Што и папу много вякаць[8]. Я бывала и к сабѣ так и позаву, да и укладу ѣго блинами, сачнями[9], як гонтом, ажну и папа нявидна ѣвши.
— Да и пуза развяжиць.
— Охъци мнѣ, Цѣрих, я и у пана так ни гуляв, як у цябѣ цяпѣр! А кали таки и бѣз мянѣ, дык я таки приказаваю: Жонка, глядзи, кали поп приедзиць, приумѣй яго харашенка чим-нибуць, хуць каровъяго наверни, што б поп у вочи ня лѣз и вопосли людзём нѣ жалився! А цѣперь вот, пановѣ, попався у ѣты кросны, што вот под старость! Сувавшись як рынисся, дык нѣгдзи и згиниш! А пяць у мянѣ и сыновых сынов, як дубов. Што па их! Вот цяпѣрь и нихто ни давѣдаитца. Яны рады, што старого з двора збыли! Ху-х! Аж встамився, вжо ж таки адыхну. А вось таки каторый ци ня прыдзиць.

Сын. Бацка! Гу, агу! Бацка, идзѣ ты ета забрёв? Куды ѣта цябѣ хварыши[10] занясли?

Мужик. Охъци мнѣ! Ета маяго сына голас! Во нѣгдзѣ нидалёка у Навинах.

Сын. А, во ён! Бацка, бацка! Ци ты ужо? Мы цябѣ давно праждалися. Хто цябѣ сюды занёс, ци ни фарыши?

Мужик. Ци фарыши, ци ни фарышы, а был. Ци вы з маткою харашы? Усё, як идзи, дак идзи у Любавичи, ци ни пападзѣтца чаго, гуляючи. Пашов. Ажну вот цяпѣрь и сам попався, виць, там ни па нашему. Ни так, як у нас! Наши папы ни глядзяць ничого. А там усё хазаны, да ляхи, и гаворки их нѣ познаиш.

Сын. А што ты, бацка, вѣдаешь?

Мужик. А што?

Сын. Ци ни разабю я табѣ етых манистов?[11]

Мужик. Охъци мнѣ! Да кали ж ба тыя не видзили паганыя?!

*(И разбивае сын отцу железы.)*

Polak. Co to takiego, że po naszemu chłopek zaszedszy na nasz kray y w kościele naszym rozny nieprzystoynych naczynył

---

[1] маленькі мяшок. [2] Я не Анціп. [3] сетка, пастка. [4] набожны. [5] малітвы. [6] завоняць. [7] пшанічная здобная булка. [8] гаварыць. [9] праснакамі. [10] нячысцікі. [11] кайданаў.

furiy, za co księć starzy roskazał go w nierozorwanie zabić kaydany y niewiem gdy teraz mieszkaią[1].

*(Потым пытае селяніна)*

Chłope, co ci takiego?[2]

Мужик. Ета мой, панѣ, сын.

Polak. Alie kto cy razbił kaydany?[3]

Сын. Да вот матка паслала па яго. Насилу знашов.

Polak. Alie wiem, chłopcze, że ci posłała matka; dlia czegością razbił kaydany? Chodzie do kariusza![4]

Мужик. А што ж ты — гаспадзин? Вить, ты тута адзин. Нѣшта ты привизався, як гавённым лыкам. Харпостник ты, с курва сын, саланинник, гарѣлый ты кутак! Ну-тка, сын, укий!

## [СЕЛЯНІН НА СПОВЕДЗІ][a]

Змитрок. Челом, пане, Свиридзѣ!

Свирид. Здаров, кажу, Змитруче.

Змитрок. Як цѣбѣ ета лиха даспѣлася?

Свирид. Охъци мнѣ, Змитруче! Усѣ то от дѣтак! Ой. дзѣци! Як з баткавага кашелка, дзетки. Ну, ну, ну, бацка! Заглян жа бацка у дзицячи кашелки.— И нѣ сармися,— кажуць,— не, не, не, бацка! Усѣ к сѣбѣ мазаным горнуць. Дай яйцо, дай яйцо и облупивши. А нам на старасци и на ногаць не облупяць, каб их кат лупив! Толка кажуць — Идзи, бацка, ку споведзи! Ты нѣ разу в цѣркви не быв.

Да и упихнули бацку, як дурня, в цѣркву.

— Кажи (и)дзи, бацка, тоя, што поп будзиць казаць.

Вот поп кажить: «Ци быв ты хуть раз ву споведзи?» И я папу кажу: «Ци быв ты хуть раз ву сповѣдзи?»

— Што ты, знать, нѣхрищоник? И я папу кажу: «Знаць, ты нехрищоник?» Поп кажить: «Хрясцися!» И я папу кажу: «Хрясцися»- Вот за тое поп на мѣнѣ и манисты наложив. А я их от роду не насив. А цяпер мнѣ их чорт нагадзив.

Змитрок. Ах, Свиридухна, маю цябѣ вѣры! Што так гавариць и дзетак браниць. Тяпѣра стала нѣ по-старому, стала всѣ по-писмянному. Чи наши настали? Всѣ с хитращами, да з мудращами. Всѣ стала навыварат. Учуць, голубя, не учяць,— голаву турбуять; языком не ввѣрниш, ища як нашѣму брату галавы не высушиць? У мянѣ то дзиця, Свиридухна, к усячинѣ смыслиць. Уси каляды, масляницу и радуницу, товстую суботу,— усѣ напамяць. А кавярзень[5] спляцѣть,— як души не влепить! А други — сабака. Вѣсь у матку

---

[1] Што гэта такое, што па нашаму мужык, зайшоўшы на наш край і ў нашым касцёле нарабіў розных непрыстойных вар'яцтваў, за што ксёндз стары загадаў яго закаваць у спраўныя кайданы, і не ведаю, ці жывы ён цяпер? [2] Мужык, што гэта такое? [3] Але хто табе разбіў кайданы? [4] Ведаю, хлопча, што цябе паслала матка. Але для чаго разбіў кайданы? Пойдзем да карыуша! [a] Тэкст гэтай інтэрмедыі падаецца па таму ж рукапісу Смаленскай семінарыі, па якому пададзена і папярэдняя інтэрмедыя. [5] Так на Смаленшчыне называюць лапці.

удався. Людзи да зари блинов наядуца, а яна спиць патуль, пакуль сонца бок припячѣць. Тагды ужа якого хварыша прискварыць, паскудница! Қагды б прапала. А цяпѣрь мой сынок унѣгався, сапачиць лягло. Аднаго толка лиха. Нѣ дамыслить, што па беламу чорна. Ещь, хвала богу, берясцень мязги. Хуць тот людзём узычю, а яго таки вывучу.

Свирид. Што наши бацки и прѣдки! Живали, хлѣб рабляли, зѣмлю пахали, а ѣтай у споведзи павѣк яны не знавали, а таки ж благадарны бывали.

Змитрок. Так, Свиридухна, так! Так, голубя, так! Яны малива.лися по-прастацкому, а нѣ по-письмянному. Бѣс чанашов. Што падняв, то знашов; як устав, так и зачав.

— Слава цябѣ, господзи, сущую часнѣйшую, избранны ваявода! Радуйся нявѣста, уси чины манашѣския, святая трапѣза, и скрясѣнья побядзителю, Михаилы прарока, и Миколы мученика, трех свяцицѣлѣй, Кузму и Дзямида! Заступи на царства мянѣ, Змитрака, и падружницу, Пеклу Несцѣравну, и кала, и двара, и скацинки и шарсцинки. Алилуй нас до канца вѣка. Аминь. И шарпни, господзи, па души и па цѣлу, па жонки и па дзеткам. Святое сягодни, святое и завтрѣ.

Свирид. Ах, Змитруче, не патрапиш. Аж мароз па касцям, аж да слёз праимаить бацков наших богамолья.

Змитрок. Ну, Свиридухна, ваставайсѣ здаров! Слабани цѣбя гос подзи! Як ты папався, дак и выдзирайсѣ!

Свирид. Ах, Змитруче! Қали бог тваю галовку назад завернить, навѣдайсѣ мянѣ!

## [МАЦЕЙ І ДОКТАР-ШАРЛАТАН][a]

Мацей. А вей, а вей! Вох, вох, вох!

Вот, мае паночки, быв я у пана Барановскаго на куцьи. Да як падъѣв куцьи, дак не могу сопци. Што мая Ульяна ни робила! И горщок на пупѣ становила. Да и тое не памагло, да яще горш прилягло. Порадзили мнѣ галасу, купервасу, да бурачнага квасу, моху, чортапалоху и яшчэ нечага, забывся, троху,—усё гэто зелья скалацидь да выпиць. Зробив я и гэся. Не памагло. Еще горш прилягло. Вот каб нашовся дактарочэк да палячив мой животочэк,— отдав бы яму и торбачку и мяшочэк.

Доктар-шарлатан *(выходзе)*. Што тобѣ, мужик?

Мацей. А вот, паночэк, несправность, бурченья, резачка, обенбенило, як Антонову козу!

Доктар. Кладзися, мужик! Як цябе завуць?

Мацей. Мацей.

Доктар *(б'е яго палкаю, прыгаварвае)*. Поцей, пане Мацей!

Мацей *(устае, а доктар уцякае)*. Ах, лихо тваей мацяри! Напацев, намацев, да и сам к чорту паляцев! Вот каб дагнав, вот бы у плечки нагрукотав!

---

[a] Тэкст пададзен па выданню В. Н. Перетца «К истории польского и русского народного театра». (Гл. Известия отд. русского языка и словесности Императорской Академии Наук, I, 1905, стр. 67—68.)

# КАЭТАН МАРАШЭЎСКІ

Каэтан Марашэўскі — каталіцкі ксёндз, прафесар рыторыкі і паэзіі ў Зябельскай гімназіі, якая знаходзілася пры дамініканскім манастыры ў Дрысенскім раёне. Іншых біяграфічных звестак аб гэтым пісьменніку не захавалася.

Як пісьменнік Марашэўскі вядомы сваёй «Камедыяй», якую ён напісаў для школьнага тэатра ў 1787 г. Яго «Камедыя» — гэта тыповая школьная бытавая драма-маралітэ. Тут аўтар вуснамі аднаго з галоўных герояў п'есы (Чорта) вучыць правілам «разумнага» жыцця тых, хто ў сваёй жыццёвай практыцы забывае аб іх і за гэта трапляе, паводле вучэння царквы, у пекла на вечныя душэўныя мукі. Тым не менш, «Камедыя» Марашэўскага, нягледзячы на свой рэакцыйны дыдактызм царкоўнага парадку, як літаратурны помнік не пазбаўлена і сваёй вартасці. Яна ў самыя змрочныя часы каталіцкай рэакцыі, насуперак асабістым жаданням аўтара, аб'ектыўна прапагандавала жывую гутарковую беларускую мову, якую забаранялі і праследавалі шляхецкія законы Рэчы Паспалітай. «Камедыя» праўдзіва адлюстроўвала цяжкае паднявольнае жыццё беларускага селяніна, з якога кпілі на кожным кроку. «Камедыя» Марашэўскага — гэта жывая бытавая замалёўка з жыцця беларускага селяніна XVIII ст., пададзеная ў рэалістычным плане.

Дзеючымі асобамі «Камедыі» з'яўляюцца прадстаўнікі ніжэйшага стану (селянін і яўрэй) і традыцыйны персанаж школьных драм і інтэрмедый — д'ябал, або чорт, які разам з іншымі другараднымі асобамі п'есы ўвесь час размаўляе на польскай мове і тым самым выдае сябе за прадстаўніка іншага класа і «вышэйшай» культуры. Селянін жа і яўрэй размаўляюць па-беларуску, толькі мова яўрэя стылізавана пад яўрэйскі акцэнт, з мэтай узмацніць камедыйнасць дзеяння ў п'есе.

Упершыню поўны тэкст «Камедыі» Марашэўскага быў надрукаваны акадэмікам В. Н. Перацам у 1911 г. (гл. Известия отд. русского языка і словесности императорской АН, т. XVI, кн. 3, стр. 274—319) лацініцай, якой напісан і арыгінал. У 1920 г. акадэмік Е. Ф. Карскі падаў кірыліцай скарочаны тэкст «Камедыі» (гл. газету «Беларусь», 1920, №№ 106 і 107). Пададзены ў хрэстаматыі скарочаны тэкст «Камедыі» Марашэўскага друкуецца па фотакопіі рукапісу п'есы, які зараз захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР (гл. фонд Б4, адз. захав. 201), з той толькі розніцай ад папярэдніх выданняў, што мова селяніна і яўрэя тут пераведзены з лацініцы на кірыліцу з захаваннем тагачаснай арфаграфіі; дыялагі ж персанажаў, якія ў п'есе размаўляюць на польскай мове, друкуюцца лацініцай, як і ў арыгінале. Аўтарскія рэмаркі ў тэксце п'есы перакладзены на беларускую мову.

---

# КАМЕДЫЯ

## КАРОТКІ ЗМЕСТ

Селянін, калі яму надакучыла праца, пачаў наракаць на свой лёс і на першага чалавека Адама за яго грахі. У гэты час да яго, як наракаючага, з'явіўся д'ябал, кажучы: «Не наракай на Адама, бо ты сам не ўстрымаўся б ад таго, каб не пакаштаваць забароненага яблыка, калі ж ты і зараз не зможаш стрымаць сябе ў маўчанні, але наракаеш». Селянін заракаецца на нейкі час захаваць маўчанне. Д'ябал ідзе з ім у заклад. Селянін не захаваў маўчання і прайграў чорту сваю душу.

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Селянін, Жыд, Д'ябал, Дзеці, Тры браты, Пакутнік.

*(Сцэна прадстаўляецца ў полі каля лесу.)*

## АКТ I

### СЦЭНА 1-я

Селянін. Ох, як нешчасливоё жыцё маё! Хаджу я хаджу пераз цалюхенькі дзень, аж ногі анемелі, рук не чуваць ад працы і тапара, а горш ешчо ад цапа[1]; малачу ад самых курэй, аж мало што не да паўдня, як бы сам адзін. Праўда, што і жонка памагала, да што ж ее за работа? Ведама,— жаноцкая справа; цюкнець колька разы цапом, аж зараз ее ліхо і берэць — то сядзець, то ляжэць, то кол(і)кі падапруць, толькі чорт лоньскі ее дусіць, а потым ешчэ з гоманом і клецьбою пойдзець. Папытаюся я тылькі ее: «Куды пойдзеш?» Аж зараз скажэць: «Дзецей карміць, страву варыць». А я як пачую,— аж ена упівшысе ў карчме пад лаўкаю, як свіня, качаетца... А я сам адзін, як цюк, так цюк; малачу аж да поту. А як сьвет, аж жонка і тут, ужо кажэць, што і дроў нада насеч. Хоць ты трэсні і прападзі з тапаром! Ад цэпа ешчо не адайдуць (рукі)[2], аж тут ад тапара мало што не адсохнуць. Гэта жарт — нарубай у печ, у асець[3], у бровар[4], а ўсё як адзін, так адзін. Сына пераломам удавіў[5], не расьцець, а парабка не за што наняць. Вот і цепер, у лес трэба ехаць, а не с кім. Гэта жарт,— аднаму сосну спусціць, пашчапаць, і на воз. Хоць ты трэсьні. зваліць трэба, а прывёжшы да хаты і парубіць. А ўсё як я, так я. Памахчы некаму. Прападзі ено нешчасьлівоё жыцё нашоё, бо ўсё як гараваць, так гараваць мусім.

Кап то Адам, першы наш ацець, не заграшыў, так бы і мы гэтак не працавалі б. Ох! Дурак ты, дурак! На што табе было ірваць яблык з дзерава праклятаго? Прападзі ено! Каб мне не велено было, то бы я а ні парухаў бы, а што горшае, а ні парухаў бы. А мы б у раю, як паны б на землі, жылі б, клопату жаднаго[6] не мелі б, аб

---

[1] прылада, якой раней малацілі збожжа. [2] гэтае слова ў рукапісу адсутнічае. [3] будынак, у якім сушылася неабмалочанае збожжа. [4] спіртавая ўстаноўка. [5] гэта значыць стаў гарбатым. [6] ніякага.

сермягу тагды бы не клапацілі бы се і голые б у раю перахадзілі бы. А цепер як сермяшка здзерэтца, хоць ты з голавы выйдзі, не адкуль узяць, а горш, што не за што купіць. А тут і зіма надходзіць, і ўстыдно. А я і шэлега[1] пры душы не маю, да душы ш не маю! А пан аднак на тое не гледзіць, да ўсё крычыць: «Заплаці, с курвы сын! Заплаці, вужава кроў, мужык!» Ага ту! Ага ту, на цебе, Адам, Адам, як ты нас пагубіў! Ох, кап то я, я, я,...

## СЦЭНА 2-я

### Селянін і Жыд

Жыд. Ню на цебе цёрны год! Хадзіль я, хадзіль за табою, буль я двойцы ў тваёй хаце, аз ледво тут я цебе знасоў. Калі ты мне аддасі за гарэлку?

Селянін. Прападзі ты! Не маю гдзе ад цебе падзетцца. Аддам, ліхо не возмець!

Жыд. Усё казэс, сто ад'ям, ад'ям, а я даздатца не магу твайго ад'ям. Арэнду мне трэба цепер плаціць. Каньцо, аддай!

Селянін *(бярэ жыда за руку)*. Ну, пане арэндару, ужо я табе шчыро кажу, што аддам. Відзь же ты ведаеш добра, што я іглаць не умею.

Жыд *(смяецца)*. Ню і сто ты казэсь! І калі ты тагды адаў, калі абецаў? Аддай, канецна, цепер. Узо табе болей верыць не буду.

Селянін. Прападзі ты з тваею гарэлкаю! Не, не, не буду ніколі на павер браці.

Жыд. Беры, не беры. І хто цебе просіць? Толькі маё мне цепер аддай.

Селянін. Ідзі ты проч ад мене! Вот мне дроў трэба рубаць, не з табою балакаць.

Жыд. Аддай ты маё мне, так я і пайду.

Селянін. Ня лезь жа ты мне ў очы, я табе кажу! Бо я табе тут як задам, то ты а ні пантофляў[2], а ні ярмулак[3] сваіх не пазбераеш!

Жыд. Ню і сто ты, свіня, не аддаес таго, сто вінен? *(Жыд смакуе, а потым мовіць.)* Ой, ой! Wey mir gwalt![4] І есцо лаессе.

Селянін. Ідзі ш ты ад мене, ідзі хоць у хату маю, а я, дроў насекшы, прыйду.

Жыд. Ню і гдзе я цебе буду сукаць, узо я і так много за табою нахадзіўсе?! Лепс ты мене сукай! *(Здзірае ў селяніна з галавы шапку.)*

Селянін. Ах ты нехрэснік, паганьскі сын! Што ты мяне, чы злодзея знашоў? *(І схапіўшы жыда, тармосіць яго, адбірае сваю шапку, нават здзірае з жыда плашч.)*

Жыд. Гвалту, гвалту! Ратуйце, ратуйце сыногогі, мае Сорэнкі, Ецкеле, Мацкеле!

Селянін. Крычы. Каб табе ражон у горла ўлез, каб табе скула горла разтачыла!

---

[1] фальшывая манета, бляшка. [2] чаравікаў. [3] шапак. [4] Гора мне, гвалт!

Жыд. Ню і за сто, ты, разбойнік, цорны год на цебе, мене кленес і б'есьсе і сто вінен не аддаес? Аддай прынаймней хоць плашч!
Селянін. Аддам табе тагды плашч, калі ты мне прыабецаеш той доўх дараваць, што я ў цебе напіў.
Жыд. Але, пане Дземідзе, па сумленю толька сам падумай, ці магу ж я тое сказаць, сто ты мне невінен, калі аб гэтым даўгу мае Сорэнкі, Ецкеле, Мацкеле даўно узо ведаюць? Я дарую, сто узо не пайду да пана на скаргу за тоё, сто ты мене акрвавіў, забіў, абдзёр, як разбойнік у лесе. *(Смакуе тут і мовіць.)* А за тоё б усё у сраку[1] узяў бы!
Селянін. На табе апаньчу, прападзі ты ад мене.
Жыд. Ці мне ў хату тваю ісці?
Селянін. А цебе чы чорт там пагоніць?
Жыд. Відзь же ты казаў мне пероз, кэб я ў хату тваю пасоў і цебе цакаў.
Селянін. Добра, добра. Круціся хоць к чорту!
Жыд. Будзь здароў! Дзякую, сто з дусою мене пусціў.

## СЦЭНА 3-я

Селянін. Бедны я, бедны чалавек! Вот і жыда чорт на маю галаву нагадзіў. Усему гэтаму бацька наш першы Адам вінават. Кап то ён не заграшыў, то бы жыд пракляты, сьмердзюх астатні, мне ў вочы за гарэлку не лез бы. А я б у раю што дзень па паўтара б гарца[2] з квартаю і палавінкаю выпіваў бы і ўсё б сабе співаў: ай, ай, аю, гога, гога, годзгі, дзга. А цепер больш клопату, ніж піця. Ага, ту на цебе, Адам, Адам! На ліхо табе было слухаць жэншчыны? Было табе ее вероўкаю. От так, як я сваю часто свенчу, каб да ее ліхо не прыступіло. Так бы і ена б табе ў очы б не лезла. *(Тут селянін смакуе і мовіць далей.)* Эге, каб то я быў табою! Ужо б я і Еве задаў бы вероўкаю. Ох даў бы, даў бы! А сам у карчму, дай пагуляў бы. А цепер хоць ты, пане, трэсьні гаруючы, працуючы. Ох, Адаме, Адаме!

## СЦЭНА 4-я

Д'ябал, Селянін, Жыд

Д'ябал. Za co ty tak srodze na Adama narzekasz?[3]
Селянін. Неўжо ш ты, пане, не ведаеш, што з его ўсё на нас ліхо ўзышло?
Д'ябал. Iakie licho?[4]
Селянін. Вот і цепер мазоліцца трэба, аддыхнуць некалі. Мала што кроўую не пацею, аж пакуль не пакуль кавалак хлеба зараблю. Земля ўжо неўраджайная стала. Дужо много наклапацішсе і нагаруешсе, пакуль не ўродзіць. Усё нам напроціў ідзець. Усё на нешчасьце.

---

[1] у сорак разоў больш. [2] трохлітровая бутэлька. [3] За што ты так строга наракаеш на Адама? [4] Якое ліха?

Не спадзяватца дабра. Нішто так не ўдаецца, як мы хочэм. Чы пазнаў ты, вашэць[1], цепер нашую беду? А як жа нам на его не наракаць і плакаць. Хэ, хэ, хэ (*плача*). Ох Адам, Адам, кап цебе ніколі больш не ўспамінаў!

Д'ябал. Ale co temu Adam winien, że go tak często i z użaleniem wspominasz?[2]

Селянін. Эге! Калі ты, вашэць, не ведаеш і не спытваў ешчо таго прабаваць, так і не пытайсе!

Д'ябал. Ale a, a, a,...

Селянін. Ідзі проч кажу! (*Замахваецца.*) Кап ты скрозь землі пашоў!

Д'ябал. Ale a, a, a,...

Селянін. Ага, ту на цебе! Усё толькі кажэш: а. а... Кап ты сам пашоў да папрацаваў так, як мы, не бойсе, і цебе б ліхо ўзело б!

Д'ябал. Ale, panie Dziomka, nie bądź że tak srogim[3].

Селянін. Адкуль ты, вашэць, ведаеш а маім іменю?

Д'ябал. Przedemną niemasz nic taynego, i dla tego wiem co to iest praca, ale tego się tylko pytam, dla czego na Adama narzekasz?[4]

Селянін. Скажы ш ты, вашэсць, мне, за што ты так чорны, як чорт?

Д'ябал. Krotkom prawda pracował, ale ednak aż szczerniałem[5].

Селянін. Не пазнаў я, што ты казаў. Для чаго, для чаго?

Д'ябал. Dla tego, żem nie tak czynił, iak mi należało[6].

Селянін. Да што да таго належыць? Я і часто так не раблю, як мне паны кажуць, аднак я не чорны.

Д'ябал. Często byłeś czarny, tylko żeś siebie nie widział[7].

Селянін. Што ты кажэш, я себе не відзеў? Ілжэш, ілжэш! Вот я табе кажу, што ты ілжэш.

Д'ябал. Ty i teraz czarny, obacz się[8]. (*Паказвае люстра.*)

Селянін. Прападзі ты! На што мне гэтаё зеркало? Я сегодне, ідучы касіць, у чыстым ручаю, калі піць захацелосе, гледзеўсе, аднак не чорны.

Д'ябал. Nie tak, iak należy, na siebieś się patrzał[9].

Селянін. А як жэ там у чорта?

Д'ябал. Oto tak, oto tak[10].

(*Скачучы каля яго, зноў паказвае люстра.*)

Селянін Не хачу, не хачу.

Д'ябал. Trzeba z grunty siebie poznać[11].

Селянін. Як жэ там належыць себе пазнаць? Скажы ты мне.

Д'ябал. Niedość jest na siebie patrzeć oczema cielesnymi, lecz trzeba i dusznymi[12].

---

[1] Ваша міласць. [2] Але прычым тут Адам, што так часта і з крыўдаю яго ўспамінаеш? [3] Але, пане Дзёмка, не будзь жа такім строгім. [4] Для мяне няма нічога тайнага, і таму ведаю, што то за праца. Але таго толькі пытаюся, за што ты на Адама наракаеш? [5] Нямнога, праўда, працаваў, але, аднак, аж счарнеў. [6] Для таго, што я не так рабіў, як мне належала. [7] Часта ты быў чорны, толькі што сам сябе ты не бачыў. [8] Ты і зараз чорны. Паглядзіся! [9] Не так, як належыць, на сябе глядзеў. [10] Вось так, вось так. [11] Трэба грунтоўна пазнаць сябе. [12] Не дастаткова ядчэ глядзець на сябе знешнім зрокам, але трэба яшчэ паглядзець і ўнутраным зрокам.

Селянін. Мой дабрадзею! Скажы ты, вашэць, мне, чы душа маець очы? Я ведаю, што маю душу і цело і ў галаве ёсць дзве очы; так у душы мусіць быць болей, бо мне казалі папы, што душа ёсць большая, як цело.

Д'ябал. Prawda, bo więcey poznajesz, aniżeli widzisz: widzisz tylko jedną rzecz, a z niey i dziesięć wnioskow uczynisz[1].

Селянін. Ты, вашэць, мусіш быць дужо мудрым, бо калі што кажэш, так я і пазнаць не магу. Скажы ты, вашэць, мне, што гэто за падвёнзкі? Ох не! — за звёнскі, за звёнскі?

Д'ябал. Ja nie mówię związki dziewochie, ale to jest, kiedy ci z jedney rzeczy poznaney druga wypływa[2].

Селянін. Да душы ш гэто праўда мусіць быць, бо мне часто кроў з носа плывець.

Д'ябал. Och! Nie to ja ci mówię, ale gdy ty widzisz, że, żona twoja, rozłożywszy ogień na zgotowanie wieczerzy, idzie do ogrodu pomyslisz sobie, że jej jakiej rzeczy niestaje do przysmaku[3].

Селянін. Да душы ш, гэто зусім шчэрая праўда. Я ёй часто прыпамінаю, кап ена мне хрэну, чосныку, рэцькі, цыбулі, пастэрнаку, петрушкі да агурцоў прынесла.

Д'ябал. Ołoż znay dopioro, co to jest wniosek[4].

Селянін. Знаю. Але ты, вашэць, мой дабрадзею, калі ты, вашэць, гэтак мудры, парадзь мне, якім спосабам я магу быць багатым, бо здаетца, што я досьць дужо цяшко працую, аднакова як не маю нічого, так не маю. Ох Адам, Адам! У екіе ты нас горы ўвёў!

Д'ябал. Co tobie winien Adam? Za co ty na niego narzekasz?[5]

Селянін. А як жэ не наракаць, кап его чорт узяў! *(Б'е сябе па губах.)* Адпусьці, божэ, грэха, відзь жэ ты відзіш як я працую, а гэто ўсё з его ласкі.

Д'ябал. Citże! Cit! Nie składay na niego winy: ty sam często winnieyszym jesteś[6].

Селянін. Адкуль ты знашоўсе ў ліха гэтакі патрон? Ведама нет. Я знаю, што ён мене ў гэтаё ліхо ўправіў і ўсех нас мужычкоў паеў.

Д'ябал. Jakim sposobem?[7]

Селянін. Ох, які ж ты велікі дурак! *(Смяецца і гаворыць.)* А завёнзках мне гаварыў, а гэтаго не знаеш?

Д'ябал. Ja znam wszystko, jednak chcę wiedzieć, jakim ciebie sposobem Adam zgubił?[8]

Селянін. Вот як зарваў яблычак з дзерава праклятого, так і саг праклятым застаў і нас праклятымі пачыніў. Ох, кап я тагды на емо мейсцы быў, так бы я ніколі таго не ўчыніў; прападзі ено!

---

[1] Праўда, бо больш пазнаеш, чым бачыш. Бачыш толькі адну рэч, а з яе і дзесяць вывадаў зробіш. [2] Я не гавару саюз, дзівака. Але то ёсць, калі табе з адной пазнанай рэчы выплывае другая. [3] Ох! Не то я табе мовлю. Але калі ты бачыш, што твая жонка, разлажыўшы агонь для прыгатавання вячэры, ідзе на агарод, то падумаеш сабе, што ёй якойсьці рэчы не дастае да прысмаку. [4] Вось так і ведай, што то ёсць вывад. [5] Што табе павінен Адам? За што ты на яго наракаеш? [6] Цыц жа, цыц! Не ўскладай на чго віну. Ты сам часта горшым бываеш. [7] Якім чынам? [8] Я ўсё ведаю, аднак хачу ведаць, якім чынам цябе загубіў Адам?

Жыд (*выходзячы крычыць*). Дзёмка, Дзёмка! Гдзе ты ў ліха згінуў, а я... (*Хоча далей мовіць, але, убачыўшы чорта, просіць прабачэння.*) Wybacz WMPan, że ja WPa. niewidziawszy na Dziomkę krzyczałem, bo on mnie winien[1].

Д'ябал (*да жыда*). Żadney mnie przez to krzywdy nieuczyniłeś[2]. (*Жыд кланяецца, а чорт, махаючы на яго рукой, кажа тым часам селяніну.*) Nie znasz, co gadasz: ot ty mnieyszey rzeczy nie zachowasz[3].

Жыд. Дзёмка. Пытайсе, — екое!

Селянін. Смердзюх! Пашоў ты вон! Я без цебе з гэтым панічком разгаварусе.

Жыд. Да ну ты, дурак! Пытайсе, — екое! (*Чорт прыглядаецца да яго.*)

Селянін. Да ўжо ш папытаюсе... Ох, ох, забыўсе, прападзі ты! Эге, эге! Екое ты панічок, казаў рэчы?

Д'ябал. Oto nie wytrzymasz, gdybyś nic nie mówił, ani pisnoł przez godzinę[4].

Жыд. To prawda, co WPan dobrodzey mówis[5].

Селянін. Ідзі проч, смердзюх! Я не выцерплю, калі табе ў морду дам, а што маўчаць без цебе патрафлю[6].

Д'ябал. Nie potrafisz[7]

Селянін. А заклад хадзі за мною.

Д'ябал. Dobrze! O jaki zakład?[8]

Жыд (*мовіць сам сабе*). Дай бог Дзёмку выграць: то бы мне зараз за гарэлку заплаціў!

Селянін. Ты, вашэць, мне дасі сто рублей, калі я дацерплю.

Д'ябал. Dobrze, dobrze! Dam i dzwieście i trzysta[9].

Жыд (*зноў сам сабе*). Ох, ох! Екі ён велікі будзець пан, калі губу засыець!

Селянін. Под сумленем толькі кажыш, вашэць, што аддасі!?

Д'ябал. Tak jest! Ale kiedy ty niedotrzymasz to co będzie?[10]

Селянін. Тагды я тваім буду падданым.

Д'ябал. Dobrze, dobrze![11]

Жыд. Дзёмка, скарэй перэбівайце рукі!

Селянін. Дай жэ ты, вашэць, на тым мне руку, што калі я дацерплю, грошы мне аддасі.

Д'ябал. Pamiętay że, że moim będziesz poddanym![12] (*Дае селяніну руку.*)

Селянін. Пане арэндару, перэбій, вашэць, нам рукі!

Жыд. Дай бог Дзёмку выграць! (*Перабівае тут жа ім рукі.*)

Д'ябал. A czy wiesz, kto ja jestem?[13]

Селянін. Не ведаю.

---

[1] Выбач, вашмосць пан, што я вашпана не заўважыўшы, гукаў Дзёмку, бо ён мне вінен. [2] Ніякай ты мне крыўды тым не зрабіў. [3] Не ведаеш, што пляцеш. Вось ты меншай рэчы не захаваеш! [4] Не вытрываеш вось, каб не загаварыць і не піснуць на працягу адной гадзіны. [5] То — праўда, што вашпан дабрадзей мовіш. [6] здолею. [7] Не здолееш! [8] Добра, добра. Аб які заклад? [9] Добра, добра. Дам і дзвесце і трыста. [10] Безумоўна. Але, калі ты не вытрымаеш, то што будзе? [11] Добра, добра! [12] Памятай жа, што будзеш маім падданым! [13] А ці ведаеш, хто я ёсць?

Жыд (*прыглядаецца*).
Д'ябал. Jestem djabeł![1] (*Зрывае з сябе плашч.*)
Жыд (*уцякае ад яго, спалохаўшыся, крычыць*). Гвалту! Гвалту!
Селянін (*хоча уцякаць. Д'ябал трымае яго за руку. Селянін трасецца*).
Д'ябал. Jeżeli nie dotrzymasz zakładu, duszę twoją wezme do piekła, ato bez żadnego pardonu. Pamiętay że na to![2]
Селянін. Ах, ах! Да што тут мне рабіць? Да ўжо ш, пане д'ябле, датрымаю, датрымаю.
Д'ябал (*адыхсдзячы кажа*). Patrzay że![3]
Жыд (*з парывам да селяніна*). Дзёмка! На табе іголку, засый губу сабе.

### СЦЭНА 5-я

Селянін. Ну ж, папаў жэ я залажытца!.. Ох, кап я ведаў, кто ён ёсць, не ашукаў бы тагды ён мене! А цепер і рады сабе даць не магу, што маю рабіць. Аднак заклад датрымаць трэба, бо з д'яблэм жартаваць не патрафлю. Ашукаў жэ ён мене?! Каб то можно было, адрок бы се і закладу, да ён не адступіць. Вот беда! Не а цяшкую то, праўда, рэч тут ідзець. Маўчаць, здаетца, патрафлю. Гэта ж невелікая рэч — пераз гадзіну маўчаць. Я на пару[4] пераз цалюхэнкі дзень маўчу, калі ў полю раблю; так мне не цяшко будзець закладу дадзержаць. Да як жэ ўжо дадзержу, так буду мець сто рублей, а можа і болей, як ён сам казаў. Тагды ж я сабе статку накупляю, пану, што вінен, аддам і ешчо на гарэлку, з маладзьбы ідзя напітца, застанетца. Арэндар тагды не скажэць, што не дам. Ох, кап ён тагды сказаў, што не дам, то бы я его ў морду, у морду, або адною рукою за пэйсахі[5], а другою паказваў бы грошы. Тагды бы ён быў для мене лепшы! (*Размахваючы, паказвае, як ён біў бы жыда.*) І суседзі тагды будуць мне кланетца, калі абачуць, што я багаты. А Гарасім, хоць мой велікі непрыяцель, аднак, спадзеюсе, што будзець кланетца, кап я толькі ему на чынш[6] грошы пазычыў. Да нет! Не вырвець. З'есць чорта — не дам... не дам, хоць бы і з'еў. Нехай розуму научыцца. І д'ябла ўжэ чорт несець: трэба губу затыкаць. Ужо мусіць быць тая гадзіна?

### СЦЭНА 6-я

Д'ябал і Селянін

Д'ябал. Już się zbliża czas, byś twoje wykonywał przyrzeczenie, godzina wraz uderzy, od tey zaczniesz twoje milczenie[7].
Селянін. А чы скоро?
Д'ябал. Oto wraz, pamiętay że, żebyś się dobrze zachował w przy-

---

[1] Я д'ябал. [2] Калі не вытрымаеш умовы, душу тваю забяру да пекла без прабачэння. Памятай жа аб тым! [3] Глядзі ж! [4] Поле, адведзенае для пасеву жыта. [5] валасы. [6] падатак. [7] Ужо набліжаецца час, калі ты павінен будзеш выконваць умову. Зараз часы праб'юць гадзіну. Ад яе пачнеш маўчаць.

rzeczeniu swoim; ja ci sto rublow i więcey bez wątpienia oddam, nadto jeszcze przyrzekam tobie, iż corocznie będę ci dawał, kiedy dotrzymasz[1].
С е л я н і н. Дацерплю, бо губу пакулем у дзёхцэ памачыўшы заткаю.
Д ' я б а л. Nie potrzeba, ty tak przez godzinę wytrzymay w milczeniu[2].
С е л я н і н. Вытрымаю. Да душы ш, вытрымаю. Што гэто!
Д ' я б а л. A kiedy nie?[3]
С е л я н і н. Так душа твая будзець.
Д ' я б а л. Patrzay że, ja ciebie ostrzegam, żebyś potym na mnie nie narzekał, bo jak nie dotrzymasz zakładu, ja ci pardonować nie myslę[4].
С е л я н і н. Я табе кажу, што дацерплю! Дацерплю. Чаго ты хочэш ад мене.
Д ' я б а л. Słuchay że jak godzina uderzy, żebyś zaraz umilkł[5].
С е л я н і н. Без твае казкі я гэто ведаю. Ідзі сабе проч.
Д ' я б а л. Patrzay że![6] *(Адыходзе.)*
С е л я н і н. Добра, добра.

## СЦЭНА 7-я

С е л я н і н. Вот цепер абачым, хто каго перэможэць. Ён кажэць, што мене возьмець да пекла, калі маўчаць не буду. А я кажу, што ён і з родэм сваім не даждзець, бо я гатоў сабе губу на калутку замкнуць. Але, праўда, прыпамінаю сабе, на што мне тые калоткі, на што тые пакуле з дзёхцем. Вот калі захочацца гаварыць, так я рукою губу заткаю. Вот гэтак *(паказвае)*. Абачым, што ён мне тагды зробіць! А коньчо выграю сто рублёў. Вот тагды мне будзець добра! *(Садзіцца. Гадзіннік б'е. Цыц, цыц! Паказвае мімікай.)*

## СЦЭНА 8-я

Непадалёк ад селяніна трое дзяцей. Яны хочуць падняцца на неба па спушчанай ім драбіне, але не ўмеюць гэтага зрабіць. Сялянін спачатку жэстамі паказвае ім, як трэба лезці, а потым не вытрымаў і загаварыў, а калі паспрабаваў лезці па драбіне сам, драбіна паднялася. Селянін падае, дзеці з крыкам знікаюць.

## СЦЭНА 9-я

Д'ябал і Селянін

Д ' я б а л *(выскачыўшы хапае селяніна і цягне)*. A przysięga gdzie? Przyrzekłeś, że będziesz milczał; poszedłeś w zakład, a oto niedotrzymałeś: ja ciebie teraz do piekła poprowadzę[7]. *(Цягне, селянін устае.)*
С е л я н і н. Мой ты наймілейшы дабрадзею! Прапрашаю, выбачай мне,

---

[1] Вось зараз. Памятай жа, што павінен добра трымацца сваёй умовы. Я табе без сумнення аддам 100 рублёў і болей. Звыш таго яшчэ абяцаю, што буду даваць табе іх кожны год, калі стрымаеш нашу ўмову. [2] Не трэба. Ты так вытрымай маўчанне на працягу гадзіны. [3] А калі не вытрымаеш? [4] Глядзі, я цябе папярэджваю, каб потым на мяне не наракаў, бо як не стрымаеш умовы, я табе не дарую. [5] Слухай жа. Як толькі гадзіна ўдарыць, каб зараз жа замоўк. [6] Глядзі ж! [7] А прысяга дзе? Заракаўся, што будзеш маўчаць, пайшоў у заклад, а ўмовы не вытрымаў! Я цябе зараз адпраўлю да пекла.

бо гэтыя блазны да астатнее злосці мене увелі. Чы ім бог розум ада-браў, чы што ў чорта, як ім не пазнаць таго, як лезць трэба па драбіне? *(Трасецца і кланяецца.)*

**Д'ябал.** A co to do ciebie należało, wszak ty tylko milczeć powinieneś był, bo taka nasz jest zakład[1].

**Селянін.** Да як жэ было сцерпець, калі аж у злосць уступіў *(кланеецца д'яблу)*.

**Д'ябал.** Co mi do tego, ja mam prawo do ciebie tyś moy[2].

**Селянін.** *(становіцца на калені і складае рукі)*. А дабрадзею! Да даруй жэ ты, вашэць, мне ўжо, — папраўлюсе!

**Д'ябал.** Niemożna, taka była nasza umowa[3].

**Селянін.** А панічэнку, а будзь жэ ласкаў!

**Д'ябал.** Widzisz, jak niesłusznie narzekałeś na Adama, kiedy ty dopioro jeszcze gorzey zrobiłeś?[4]

**Селянін.** Да знаю тоё; толькі позволь ешчэ хоць трошачкі, ■ ўжо ш буду маўчаць.

**Д'ябал.** Mam wzgląd na twoją ułomność, pozwolam ci na czas jaki frysztu, ale patrzay, żebyś znowu jak ci przykaże milczenie, ścisle zachował, bo ci drugi raz już nie daruję[5].

*(Селянін кланяецца, д'ябал адыходзе.)*

### СЦЭНА 10-я

**Селянін.** Вот у якую я беду улез! Хвароба тых блазноў на маю голаву прынесло. Вох! Якіе ены дуракі? На драбіну хацелі ўлезьць то аднымі нагамі, то аднымі рукамі, то вешалісе. Ліхо ведаець, што ены рабілі; а я бачыў, што дужо прыгожо з гары нехто іх прасіў. Да як жэ было маўчаць, хоць трэба было, бо я пашоў у заклад, але я тагды і забыўся, як мене у злосьць увелі. Нехай жэ буду на другі раз астаражнейшым! З'есі ты ліха, пане д'ябле, калі мене болей ашукаеш! Кап ты цепер і недзведзёў на мяне спусціў, то ўжо буду маўчаць. Цепер ешчо схаджу да дому, пакуль тая пара не прыідзець. Трэба абачыць, што там дзеетца, работу екую сабе загадаць, а ўзад потым сюды прысьці. Гэтые сто рублей мушуць такі мае быць, — коньчо. *(Адыходзе.)*

## АКТ ДРУГІ

### СЦЭНА 1-я

**Селянін.** Што гэта ёсць такоё? *(Аглядаецца.)* Здаетца, што тоё ж самоё мейсце, а цепер ужо адменілосе. Так борздо. Да чаго я дзіўлюсе! Шак гэтаму пану д'яблу нічога не трудно. Мусеў я трохі доўго

---

[1] А якое то да цябе мела дачыненне? Ты толькі павінен быў маўчаць, бо такая наша ўмова. [2] Што мне да таго? Я маю права на цябе, ты мой. [3] Немагчыма. Такая была наша ўмова. [4] Бачыш, як няслушна наракаў на Адама, калі ты сам вось яшчэ горш зрабіў? [5] Жжалюся над тваім недахопам, дазволю табе ўжо на нейкі час фору, але глядзі, каб зноў, як я табе загадаю маўчаць, маўчаў упарта, бо ў другі раз я табе ўжо не дарую.

забавітца. Чы не быў ён ужо тут? Чы не біла ўжо гадзіна? Праўда, кап была ўжо пара, знашоў бы ён мене. Мусіць быць, што нет ешчо тае пары, пачакаю я тут троха, гдзе маю хадзіць; калі прыідзець, так добра. Але ведаю, што прыідзець, бо ему дужо душы мае хочецца. Не, не! Хоць сабе ілбы і голавы паукручваюць, лезучы на драбіну, ужо я ім не пакажу, як лезці. Не, другі раз мене не ашукаюць. Я цепер, як пара прыідзець, вазьмусе за лупы, а дзержаць моцно буду, хоць і хацець буду гаварыць што, то не буду махчы. Раз удалася штука, другі раз не заўтра мене падмануць. Дзержысе, Дземідзе, дзержысе, небожэ. Ой буду, буду. Не ухопіць ужо цепер. З'есць чорта! Ну што ж дзелаць? Ужо сталосе. На другі раз буду астаражнейшым; цепер усе абачуць, як я буду маўчаць. Вот гэтак, напрымер *(бярэцца за губы і трымае іх)*. Хоць хацеласе б што гаварыць, тагды б гэтак *(зноў стрымлівае сябе)*.

## СЦЭНА 2-я

### Жыд і Селянін

Жыд. Дзёмка, сказы ты мне, як ты ад цорта адкаснуўсе.
Селянін. Ох, кап ты і з чартом разэм прапаў, тагды б я смеяўсе.
Жыд. Да ню, Дзёмка, сказы ты мне, ці выграў ты?
Селянін. А табе што да таго, чы я выграў, чы не?
Жыд. Я для таго пытаюсе, калі ты выграў, так ты мне за гарэлку заплаці.
Селянін. Не бойсе! Чорт не вазьмець — заплачу. Але абачым, чы вазмеш і чы захочэш мае заплаты.
Жыд. Чаму не! Аддай толькі
Селянін. Чорт за мене табе меў заплаціць.
Жыд. Я не хацу, кап мне цорт плаціў, ты сам мне заплаці.
Селянін. Да не будзь же ты дураком, ён зараз заплаціць.
Жыд. Не хацу я. Не хацу, кап ён мне плаціў, ты сам мне заплаці.
Селянін. Ужо я его прасіў і ён мне прыабецаў табе заплаціць. А вот і ён з грошмі ідзець.
Жыд. Гдзе? Гдзе? *(Трасецца.)*
Селянін. Восека, восека *(паказвае у той бок, адкуль выходзіць д'ябал, і сам спалохаўся)*.
Жыд *(крычыць)*. Гвалту, гвалту! *(і уцякае ракам)*.
Селянін. Арэндар, арэндар! Вазмі грошы!

## СЦЭНА 3-я

Д'ябал папярэджвае селяніна аб тым, што набліжаецца ўмоўленая гадзіна, на працягу якой селянін павінен маўчаць, бо другі раз парушэнне ўмовы яму не будзе даравана. Папракае селяніна за тое, што ён дарэмна наракае на Адама, а сам не паважае бога, якога нават ён, адвержаны богам д'ябал, паважае за бога. Селянін апраўдваецца тым, што яго зводзіць чорт сваёю хітрасцю. Д'ябал пярэчыць гэтаму і ў якасці прыкладу прыводзіць сябе. Селянін на гэты раз заракаецца маўчаць.

## СЦЭНА 4-я

Селянін. Вот другі раз безезыкім трэба зрабітца для закладу. Ох, кап я его ніколі не знаў! Вот заграшыў! Захацелосе сто рублей мне. Здалосе, што малая рэч маўчаць. А цепер, як я пазнаў, з кім я ў заклад пашоў, і ўсе яго фігле як ужо абачыў, і пазнаў чаго ён ад мене хочэць, так дужо душа мая трасетца маркотная, хоць и не баюсе: ведаю, што дацерплю маўчаць, хоць бы цепер тые блазны і голавы сабе паукручвалі.

## СЦЭНА 5-я

Селянін і Жыд

Жыд. Дзёмка, а Дзёмка! Я знаю, што ты дужо маркотны. Сказы ты мне, як ты ад д'ябла адкаснуўсе?
Селянін. Не лезь жэ ты мне ў очы. Мне і так ужо на душы усяко.
Жыд. Да ню, Дзёмачка! Сказы, а сто табе.
Селянін. Да не сто. Адна да ліхая. Вот і жывот баліць і ўсему ледаяк, і гаварыць не хочэцца. Ідзі ты сабе проч.
Жыд. Чы не нап'ессе ты гарэлкі?
Селянін. А чы маеш жа ты тут?
Жыд. Я цепер па сеўбаваным ездзу, есцо засталосе тросацка, вот тут і конь мой за леском стаіць.
Селянін. Ах, змілуйсе, пане арэндару! Пакрапі ты мене.
Жыд. Заплаці ты за тую гарэлку, так я табе дам.
Селянін. Пане арэндару, павер жэ ты мне, змілуйсе! *(Кланяецца.)* Хоць гэтак разок, а я прысегаю, што за пуўдня з гасцічыкам табе аддам, толькі з д'яблам законьчу.
Жыд. Дай жэ руку на тым, што ты сам мне аддасі, а пана д'ябла не будзеш прасіць.
Селянін *(падае руку і гавора)*. Верно і шчыро табе як казаў, так і кажу.
Жыд. Ці гнаўсе тагды за мною д'ябел, як я уцекаў?
Селянін. Хацеў гнатца, да я не пусціў. Да дай жэ мне гарэлкі, дай!
Жыд. Ой, як я напузаўсе, і дусы ў мене не было.
Селянін. Арэндар, да ідзі ш ты па гарэлку!
Жыд. Да сказыс ты мне, як ты его удзерзаў?
Селянін. Не ўжо! Досыць мне с табою балакаць. Не дасі ты мне гарэлкі? Зараз сьвісну ж я на чарта, а ён прыбежыць зараз, да дасць жэ табе, дасць. *(Хоча свіснуць.)*
Жыд. Не заві, не заві! Я зараз прынесу. *(Адыходзе.)*
Селянін. Не бойсе ж. Ох, як ён баітца д'ябла. Зараз ён тут гарэлкі мне прынесець, ужо ш тагды напіўшысе ашукаю і чарта. Чы не казаў я, што ён будзець бавітца. *(Жыд нясе бутэльку.)*
Жыд. На, на, на. Толькі цорта не заві.
Селянін. Не буду, не буду. *(П'е.)*
Жыд. Змілуйсе, змілуйсе.

Селянін. Чаго ты так чарта баісся? Я табе кажу, што не бойся, а так у заклад з нім ідзі, як я.
Жыд. Не хацу, не хацу.
Селянін (*п'е і аддае бутэльку*). Дзякую.
Жыд. Хто гэто стукаець, ці не д'ябал ідзець?
Селянін. Можэ і ён.
Жыд (*трасецца і азіраецца*). Ой, ой, ой.
Селянін. Не трапечысе! (*Бярэ жыда за плашч.*)
Жыд. Пусці, пусці! Пайду, пайду!
Селянін. Пане д'ябле, да ідзі сюды! (*За занавесам гручаць.*)
Жыд (*вырываецца і, уцякаючы, крычыць*). Ой, ой, ой. Wey mir! Цорны год на табе!
Селянін (*смяецца*). Ох, які жыд дурак! Чаму я д'ябла не баюсе? А ён, аж трасетца, мало што не уробітца. А вот і чорт ідзець.

## СЦЭНА 6-я

Д'ябал папярэджвае селяніна, што хутка наступіць гадзіна, на працягу якой ён павінен маўчаць, а калі не вытрымае, каб потым не наракаў на д'ябла, што ён звёў яго, бо быў папярэджаны.

## СЦЭНА 7-я

Селянін дзівуецца, чаго чорт такі добры, што напамінае яму пра яго абавязкі з такім стараннем, якога не хапае папам. Лічыць, што і чэрці бываюць добрыя і злыя. Пачуўся звон гадзінніка, селянін змоўк.

## СЦЭНА 8-я

Тры браты (Аляксандр, Клеафас і Зосімас) вядуць размову аб сваім памёршым бацьку. З іх самы малодшы (Зосімас) нядобра ўспамінае нябожчыка. За гэта яго папракаюць браты. Пасля такой размовы яны збіраюцца ісці адкапваць для падзелу бацькаў скарб. Непадалёк ад сябе яны заўважылі селяніна.

## СЦЭНА 9-я

Браты пытаюць селяніна, хто ён такі і што тут робіць. Селянін упарта маўчыць, а потым жэстам паказвае, што не можа гаварыць. Браты палічылі, што ён нямы, і прыступілі да раскопкі скарбу. Яны спяшаюцца адкапаць скарб да прыходу бацькавых крэдытораў. Але, адкапаўшы яго, яны не могуць выняць скрыню, бо зрабілі вузкі праход. Кожны з іх спрабуе ўвайсці ў праход і не можа, а бокам залезці не здагадаюцца. Селянін паказвае ім жэстамі як залезці. Яны не разумеюць. А ён ад іх спроб залезці ў праход ледзь стрымлівае сябе ад смеху.

## СЦЭНА 10-я

Селянін не вытрымаў маўчання і пачаў тлумачыць ім, як трэба залезці ў такім выпадку. Ён палез сам бокам у праход, а калі вылез адтуль, браты зніклі. Селянін падбухторвае хутчэй забіраць скарб, браты за гэта яго дзякуюць. І тут ён успомніў, што парушыў умову, але спадзяецца, што ніхто чорту аб гэтым не скажа. Надзяе шапку і садзіцца на сваё месца.

## СЦЭНА 11-я

З'яўляецца сам д'ябал і папракае селяніна, што той зноў парушыў умову маўчання, і патрабуе, каб селянін пайшоў за ім у пекла. Селянін паказвае жэстам, што не павінен яшчэ размаўляць, бо не прайшоў умоўлены час. Д'ябал патрабуе ад яго тлумачэння, чаму ён не вытрымаў умовы закладу, нават пагражае селяніну адкруціць галаву за тое, што зараз маўчыць і не адказвае на яго пытанне. Селянін

штурхае д'ябла і зноў жэстам тлумачыць, што яму яшчэ не час размаўляць. Тады д'ябал пачынае яго цягнуць у пекла.

### СЦЭНА 12-я

Селянін загаварыў, але пачаў адракацца таго, што ён размаўляў з трыма братамі і што нават не бачыў іх. А за тое, што д'ябал пачаў даводзіць яму, ён назваў яго першым ілгуном і махляром, які хоча скруціць выйграныя ім грошы. Тады д'ябал рашыў зрабіць яму вочную стаўку з братамі і пайшоў шукаць іх.

### СЦЭНА 13-я

Сел'янін. Да! Гэто не жарты, калі ён іх воко на воко паставіць. Не ведаю, як я выкручусе. Да можа ены з чартом не будуць гаварыць: я ж ім добра зрабіў, бо ены хоць покрылі б, так бы ў гэтыя дзверы не ўлезлі б. Ены ему не скажуць, спадзеваюсе, што я з німі гаварыў, толькі трэба будзець, як толькі ены прыдуць, на іх кіўнуць, каб не сьведчылі. А вот ліхо ужо іх несець. Дай бог, кап ены не выказалісе!

### СЦЭНА 14-я

Д'ябал тлумачыць братам, зачым ён іх прывёў. Селянін кланяецца ім і неўзаметку просіць іх, каб яны не сведчылі д'яблу. Браты заяўляюць, што ім, як панам, не да твару даваць хлуслівае сведчанне, і пацвярджаюць, што селянін сапраўды размаўляў з імі. Селянін раззлаваўся на братоў за гэта і пачаў іх клясці. Браты пайшлі.

### СЦЭНА 15-я

Селянін просіць д'ябла дараваць яму і на гэты раз. Д'ябал яго папракае і не згаджаецца на просьбу. Але чуллівыя просьбы селяніна парушылі ўпартасць д'ябла, і ён згаджаецца дараваць яму яшчэ адзін раз яго нястрыманасць.

### СЦЭНА 16-я

Селянін. Ах, як я нешчаслівы! Ублутаўся у заклад, чы яго ліха на мене нагадзіла б. То хлопцы звялі, а цепер панічы, а чорт сам хіба ведаіць, што гэтай гадзіны будзіць. Запраўды не ўведаю, што я цепер рабіць буду. Закладу адрачыся ня можна, прасіць яго большы не патраплю. Вот як худа, так худа. Бяда, мая бяда. Чы мяне чорт у гэто уплутаў? Ах, праўда, што чорт; да я яго не знаў і нядужо тагды чорным быў, хоць кажуць людзі, што чорт чорны, а вот ён ня чорны быў. Чорт яго дзяры. Пайду толька я ў хату, пакуль тая гадзіна ударыць. Нядужа мне там доўга можна бавітца, аднак пайду, хоць кароцінькі час. Ведаю, што незадоўга тая гадзіна ударыць, аднак хоць трошэчку з жонкай пацешуся, гаворачы.

## АКТ ТРЭЦІ

### СЦЭНА 1-я

Селянін. Аж змарыўся бегучы. Аддыхацца яшчо не магу, а ліхо знае, можа ўжо і запазніўся... Запраўды, здаетца, што ўжо спазніўся. Чы ня быў ужо тут д'ябел? Да яшчо здаетца, што яшчо рана; ня мусіў яшчо ён прыхадзіць. Бо мне здаетца, што ён аба мне лепей

мусіць помніць цяпер, бо і яму а рэч ідзець. А толькі кажуць людзі, калі удаетца раз і другі, так трэцяга ужо не спадзеватца. І ён казаў трэці і астатні раз пазволіў мне маўчаць. Вот тут мне альбо выграць, альбо праграць прыдзітца. Аднак праграць не спадзеваюся, бо як два разы я праіграў, так і уму набраўся. Не, не, ня выграіш! Трэці раз за мной, пане д'ябле! Ужо цяпер а ні на хлопцаў, а ні на панічоў уважаць ня буду. Нехай яны сабе, што хочуць, так робюць. Хоць бы сабе і на галаве ходзілі б, то я а ні паўслоўца не скажу; а яны сабе хоць головы нехай круцюць, а я маўчаць буду, а ў духу смеятца: ха, ха, ха..., калі смешнага рабіць будуць. А гаварыць, да душы ш, ня буду, а ні слоўца. Хоць бы што захацелася, так я і губу заткаю і вочы завяжу, калі б толька нічога не гаварыць, а ні абачыць. Але ж, калі дацярплю, — сто рублей маіх будзіць!

## СЦЭНА 2-я

Жыд і Селянін

Селянін. Ах, беда мая, беда! Не ў кага мне і парадзітца: жоне ня хочытца сказаць, што я з д'яблам пазнаўся, а больш некаму і зверытца. Вот калі ліха на мяне прыходзіць. Калі я праграю, ніхто ня будзіць ведаць, гдзе падзенуся, і помінкі па мне ніхто не справіць. Пайду толька я да арандара. Аднак ужо ён ведаіць. Нап'юсё гарэлкі, буду яго прасіць, кап ён пры мне быў. Да ён чарта баітца, не захочыць. Падарую яму палавіну грошы, што выграю, тагды можа намыслітца. *(Кліча.)* Арандар! Арандар! Хадзі толька ты сюды.

Жыд. Ню чаго ты у чорта гамоніш?

Селянін. Да хадзі ш сюды, нешта табе скажу.

Жыд. Не. Не ашукаес болі; досіць тобе, — раз удалося, што я за табой наха...

Селянін. Да хадзі сюды, будзім грошы тыя дзяліць, што я ў д'ябла выграў.

Жыд. Ці узё ты выграў?

Селянін. А ўжо ш, на што я буду ілгаць?

Жыд. Сора, Сора! Падай мне бутэльку гарэлкі, пайду я пана Дзёмку пацёстую!

Селянін. Да не баўся ш.

Жыд. Зараз. Зараз.

Селянін. Ашукаетца ён.

## СЦЭНА 3-я

Яўрэй выносіць селяніну гарэлкі і дапытваецца ў яго, як яму пашанцавала выйграць у чорта грошы. Селянін не адказаў на гэта пытанне, а паведаміў толькі, што хоча даць яму 50 рублёў пры ўмове, што яўрэй заўсёды будзе яго слухаць. Яўрэй згаджаецца. Селянін просіць яго быць з ім у той час, калі прыдзе д'ябал, таму што д'ябал быццам бы адракаецца ад свайго абяцання выдаць селяніну 100 рублёў за свой пройгрыш. Пасля некаторых хістанняў яўрэй згаджаецца быць сведкам селяніна.

## СЦЭНА 4-я

Селянін выказвае надзею не спакусіцца на размову ў апошні раз, бо з д'яблам кепскія жарты. Д'ябал дакарае селяніна за яго папрокі ў адрас Адама і папярэджвае селяніна, што дарує яму апошні раз яго нястрыманасць. У селяніна застаецца апошняя мажлівасць для выйгрышу свайго закладу.

## СЦЭНА 5-я

Селянін кліча яўрэя ісці да д'ябла і тут жа патрабуе ад яго абсалютнага паслушэнства. Яўрэй згаджаецца быць яго сведкам.

## СЦЭНА 6-я

**Селянін.** Прападзі жыд, а мне цепер як з д'яблам закончыць. Гэта не жарт! Ні разу д'ябл так сярдзіта са мной не гаварыў. Тагды мог яшчо пазнаць, што падаруіць, але што цепер — не спадзяваюся. Бедны я цепер! Ці ня добрая мяне ў гэта уплутала ліха? Адрок бы ся ўжо і сто рублей і другія б сто адрабіў бы, але то не з чалавекам справа. Не патрэба яму грошы. Ён і сам каму можыць даць, ён толька душы хочыць. Гэта праўда, што душа найдаражэйшая за ўсё, бо калі яе раз пацераеш, болі яе ня зышчыш... Вот як у бяду я улез. Вот як, наракаючы на Адама, з'еўся. Аднак яшчо спадзеваюся, што гэтат трэці раз вымаўчу. Здаетца, што хоць бы і самоя ліха хацела са мною гаварыць, прышоўшы ка мне, не адкажу а ні паўслоўка... Што гэта ў чорта, ці не б'ець... не... праўда жэ б'е гадзіна. *(Селянін на жэстах паказвае розныя знакі.)*

## СЦЭНА 7-я

З'яўляецца Пакутнік. Ён накіроўваецца ў пустыню, каб там прысвяціць сваё жыццё богу, бо свецкае жыццё яго не задавальняе сваёй грахоўнасцю. У час малітвы ён незнарок наступіў на дудку і палічыў, што стаў на гадзюку, назвы якой ён яшчэ не ведае. Такую нечаканую з'яву Пакутнік разглядае як кепскую прыкмету і палохаецца дудкі. Ён штурхае дудку палкаю, а яна пішчыць. Пакутнік вырашае забіць сваёю палкаю гэтае «агіднае стварэнне», але дудка пад ударамі палкі толькі пішчыць на ўсе лады. Пакутнік трасецца ад страху, а селянін ад смеху.

## СЦЭНА 8-я

Селянін не вытрымлівае і пачынае размаўляць з Пакутнікам. Ён тлумачыць яму, што гэта не гадзюка, а звычайная руская дудка, на якой граюць, і пачынае граць. Пакутнік паказвае ў бок і пытае: «Што там за страшыдла?» З'явіўся д'ябал.

## СЦЭНА 9-я

Д'ябал пытае ў селяніна, чаму ён і на гэты раз не стрымаў умоў закладу. Селянін тлумачыць, што вінаваты ў гэтым Пакутнік, які не разумее звычайных рэчаў жыцця. Д'ябал не згаджаецца з селянінам і заяўляе яму, што Адам, на якога ён наракаў, быў ахвярай чорта без папярэджання, а селянін, маючы папярэджанне, умудроны практыкай жыцця, аказаўся ў сваіх учынках горшым за Адама. Пакутнік спрабуе абараніць селяніна і просіць д'ябла даравать селяніну. Д'ябал згаджаецца пры ўмове, што Пакутнік аддасць яму сваю душу за селяніна. Пакутнік спужаўся і пайшоў прэч. Селянін просіць д'ябла дараваць памылку. Д'ябал не згадзіўся, але даў яму некалькі часу для развітання з свецкім жыццём перад адпраўкаю ў пекла.

## СЦЭНА 10-я

Селянін. Ой беда, мая беда! Гора ш маё, нешчаслівы на векі цяпер! Вот што я сабе зрабіў! Лепей, каб я того глядзеў, што да мяне належыць, каб ня жаліўся на пана і на страву для сябе, жонкі і дзяцей, як дагэтуль я рабіў, ніколі б я так нешчаслівы ня быў бы. Вот што гультайства мне зробіла! Да які ж я вялікі дурак! Як мне не зважуць! Толька ён раз мяне перасцерагаў, каб заклад дадзержаваў, каторы б каб дадзержаў, меў ба вялікую суму грошы. Аднак я не выцерпеў, як ён мне казаў, і для таго стаў я нешчаслівы. Ах... ах... мне беднаму... Што б я даў, каб тут цяпер мае суседзі былі, мае таварышы, каторые клясці Адама памагалі, каторые казалі каб я быў няверным пану, каторые самі так рабілі, каторые акрасць пана за грэх ня мелі, каторые ашукваць пана і другіх па злосці уядаць перад панамі радзілі, каторые пры маладзьбе колька разы паколька чвёртак у карчму насілі са мной разам на гарэлку, каторые замкі адмыкаць, ціха падходзіць, пад свірны падкападца, сцены і памосты круціць і збожа точыць учылі, каторые як паном адказаць, як з віны выкруцітца учылі! Праклятая тоя таварыства! Праклятая з шэльмамі жыццё! Ніколі б я гэтак ня згінуў бы, ніколі б я гэтак нешчаслівы ня быў ба, каб з тымі не таварышыў, каторые з д'яблямі жывуць, каб у таварыстве з імі ня быў і іх ня слухаў. Але што ш, віць і я мужык! З панам мне было... а за се з шляхціцам дастаў ба пазаушку. Што ш я бедны меў рабіць? Трэба, коньча, было з мужыком жыць. Збытнаё маё п'янства, частые байрамы,— гэтые мяне нешчаслівым учынілі. Ах беда ш, мая беда!

Беражыціся мужычкі, беражыціся, я вас асцерагаю! Не ругайце ні на бога, а ні на Адама, але на сябе. Мы горшы яшчо, як Адам. І ён, праўда, саграшыў, але раз тслька і за раз пакутуваў. А мы дзень на дзень грашым і пакутуваць ня хочым. Гэта то прычына нашай згубы, гэта у пекла нас вядзець! Ах, як на тое цяжка ўздумаць, што цярпець зараз буду! А яшчо цяжэлей на тоя, што вялікая моц у пекла дастаетца для таго, што ня помнілі на перасцерагання папоў. Ох многу, многу рабят, што бацькоў, падданыя паноў ня слухаюць у тым, што да збавення вядзець. Многа бацькі дзяцём, паны падданым напрыкраютца ў тым, каб добрамі былі. Жалаваць таго будуць некалі, да позне, так як я цяпер. Помніў, што мне бацька казаў, каб я не хацеў багацтва, а дзякуваў богу за тое, што бог даў, каб пацераў не апушчаў. А я нічога гэтага не рабіў. Не прышлося часам і пераксітца устаўшы, за клядзьбу, як за малітву, хватаўся. Гэта то мяне згубіла, гэта то мяне цяпер у рукі чорту упхнуло, гэта то мяне на векі нешчаслівым учыніла. Ах, беда мне, беда... Да чаго я тужу аднак? Мяне чорт возміць. Трэба, коньча, жыда прызваць, каб ён быў, як чорт прыдзіць. А можэ яго за мяне возміць? *(Стукае і крычыць.)* Арандар, арандар!

## СЦЭНА 11-я

Яўрэй пытае, што яму скажа селянін. Селянін просіць яўрэя не ўцякаць ад чорта, калі той прыдзе, бо чорт мае намер ухіліцца ад платы свайго пройгрышу, палавіна якога дастанецца яўрэю як сведку закладу. У гэты час паяўляецца д'ябал.

## СЦЭНА 12-я

Д'ябал патрабуе ад селяніна, каб той пайшоў у пекла. Тым часам яўрэй падказвае Дзёмку напомніць д'яблу пра грошы. Селянін спрабуе яшчэ адгаварыцца ад д'ябла, але д'ябал патрабуе свайго. Яўрэй тады напамінае д'яблу, што той абяцаў Дзёмку грошы. Д'ябал не адмаўляецца, але тлумачыць, што Дзёмка іх у яго не выйграў. Яўрэй пярэчыць. Д'ябал у адказ на гэта заяўляе, што ў такім выпадку прайграў яўрэй. Абрадаваны Дзёмка гаворыць д'яблу, што яўрэй сам згадзіўся аддаць д'яблу сваю душу нехрысця замест яго душы. Яўрэй спалохаўся, закрычаў: «Гвалту!» і пабег. Селянін просіць д'ябла не цягнуць яго ў пекла і абяцае выправіць свае памылкі.

Д'ябал. Nic z tego nie będzie, miałeś przestrogi, wszak ja ci na samym początku mówiłem i przestrzegałem, a żebyś na mnie nie narzekał, nauczałem cię jak się masz zachować, ty iednak przestąpiłeś to wszystko, nie byłeś pamiętny na siebie, teraz już poydziesz ze mną. Poznają z ciebie wszyscy, ktorzy nie pilnują obowiązkow stanu swego, czego się spodziewać mają; nie do was chłopkow iednych to się sięga, może, a więcey powiem, że łatwiey popaść w też same nieszczęście y Pan, kiedy się sprawować nie będzie za przewodnictwem rozumu, ktory się na prawach boskich y koscielnych zasadza... To ja dobiero wszystkim powiadam y przestrzegam... nie narzekajcie odtąd na Djabła, mówiąc że Djabł nas zwiodł. Prawda, my chcemy zwieść, ale kogo znaydziemy powolnego; kto zaś ma na pamięci y sercu wyryte przykazanie boskie, y starasię one pełnić, do tego my żadnego prawa nie mamy. Bo Bóg z nim przemieszkiwa *(do chłopa)*. Ty nie możesz się na Boga uskarzać, bo Bóg mi nawet ciebie ostrzegać dozwolił. Tyś jednak moie ostrzeganie zalekceważył, małes wykroczenie zalekceważył, a zatym przyszedłeś do tego nieszczęsliwości kresu; idź że za mną, będziesz już ze mną nawieki nieszczęśliwy[1].

*(Д'ябал цягне селяніна ў пекла, а той крычыць: «Квасу! дайце квасу!»)*

---

[1] Нічога з таго не будзе. Усяк я табе з самага пачатку казаў і папярэджваў, каб ты на мяне не наракаў, навучаў цябе, як павінен быў сябе захаваць. Аднак ты пераступіў усё тое, не помніў аб сабе. Цяпер жа пойдзеш за мною. Пазнаюць з цябе ўсе тыя, хто не пільнуе абавязкаў свайго стану, на што яны маюць спадзявацца. Не на вас адзіных сялян такая спакуса, магчыма, скажу больш, што лёгка ў тое няшчасце можа трапіць і пан, калі ён не будзе весці справы паводле розуму, які абгрунтоўвае свае кепскія ўчынкі касцёльнымі і боскімі справамі. Аб гэтым я толькі папярэджваю. Не наракайце таму на д'ябла, кажучы што ён нас спакусіў. Праўда, мы хочам звесці з правільнага шляху, але таго, каго знойдзем паслухмянага для сябе. Але таму, хто трымае ў памяці і замацаваў у сваім сэрцы боскія наказы і стараецца выконваць іх, мы кепскага нічога не чынім, бо з ім жыве сам бог. Ты ж не можаш дакараць бога таму, што ён сам мне загадаў цябе асцерагаць. Аднак, да маіх перасцярог ты аднёсся зняважліва і лёгкадумна зрабіў учынак, а за гэта прыйшоў да таго нешчаслівага канца. Ідзі ж цяпер за мною, будзеш са мною нешчаслівым на ўвесь век!

# Беларуская перакладная літаратура XVI–XVII стагоддзяў

# ПЕРАКЛАДЫ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Культурнае жыццё беларускага народа не было ізалявана ад жыцця іншых народаў. Аб гэтым сведчыць рад твораў, якія былі перакладзены на тагачасную беларускую мову з візантыйска-славянскіх і заходнееўрапейскіх крыніц. Пераклады літаратуры былі абумоўлены практычнымі мэтамі культурнага жыцця таго часу. Апрача таго, што перакладная літаратура знаёміла чытача з культурай іншых народаў, яна адыгрывала значную ролю ў развіцці і фарміраванні яго эстэтычных густаў і светапогляду, адпаведнага дадзенай эпосе.

Сярод помнікаў перакладной літаратуры візантыйска-славянскага паходжання значнае месца належала жыціям і апокрыфам, гэта значыць легендарным апавяданням з казачна-фантастычным зместам на біблейскія сюжэты Старага і Новага заветаў. Яны былі для нашых продкаў цікавым чытаннем таму, што давалі ім адказы на розныя незразумелыя пытанні. Асабліва папулярнымі былі апокрыфы: «Слово о древѣ крестном», «Страдание и подвизи святого Филипа», «Чудо святого Егорьгия о змии», «Сон богородици», «Лист Исуса Христа», «О двѣнадцати муках» і іншыя.

Побач з апокрыфамі ў Беларусі шырокай папулярнасцю карысталіся і дыдактычныя аповесці рэлігійнага зместу («Страсти Христовы», «Повѣсть о трех королях-волхвах» і інш.), якія былі перакладзены на беларускую мову ў канцы XV або ў пачатку XVI ст. ст. часткаю з лацінскіх, а часткаю з польскіх крыніц.

Сярод аповесцей свецкага характару на тэрыторыі Беларусі былі папулярнымі: «Аповесць аб Троі», «Аляксандрыя», «История о Атыли, короли угорѣском», «Аповесць аб Трысчане», «Аповесць пра Баву», «Аповесць пра Тундала-рыцара», «Сказание о Сивилле пророчици», «Аповесць аб Скандербегу».

З іншых жанраў перакладной літаратуры ў Беларусі трэба адзначыць хронікі і хранографы, якія з'яўляліся ў той час крыніцамі ведаў па свяшчэннай і сусветнай гісторыі. Такімі былі два хранографы пачатку XVII ст., якія зараз захоўваюцца ў Віленскай публічнай бібліятэцы (гл. №№ 109 і 110), хранограф XVII ст. Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве (№ 2405), «Хроника всего свѣта» Мартына Бельскага, «Хроника» Мацея Стрыйкоўскага і іншыя хронікі.

# [ЖЫЦІЕ АЛЯКСЕЯ, ЧАЛАВЕКА БОЖАГА]

**Жыціе Аляксея, чалавека божага** ўзнікла на Захадзе на самай зары развіцця хрысціянства. На Русі гэта жыціе было ўжо шырока вядома ў часы Кіеўскай дзяржавы. Беларуская рэдакцыя гэтага жыція ўзнікла на аснове лацінскага арыгінала «Legenda Aurea Jacobi de Voragine», але перакладчык, як высветліў у свой час праф. Уладзіміраў, адначасова выкарыстаў і чэшскія рукапісныя крыніцы XIV—XV ст. ст. Папулярнасць жыція Аляксея ў свой час была такая вялікая, што яно трапіла ў народнае асяроддзе і там амаль да канца XIX ст. распаўсюджвалася духоўным вершам.

Ніжэй пададзены тэкст беларускай рэдакцыі гэтага жыція друкуецца поўнасцю па рукапіснаму спіску XV—XVI ст. ст. Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына. (Гл. Q 1, № 391, лл. 97—99 адв.).

---

Святый Олексѣй был сын Евфимияном, мужа прешляхетного римлянина у дому цесарском первый, пред которым три тисячи детей стояло, которыи снурами золотыми препоясовалися а в рубе [1] шолкове облочилися [2]. А тот Евфимиян был велми милосердный. А на кажную днину у его дому три столы убогим, сиротам, перькгримом [3] и вдовам поставливаны, которым же мужне служил.

Его ж жона именем Акгълаёс того же закону и того ж умыслу была. А и девятую годину сам и с мужми законными [4] приимивали покорм телу своему. Да коли ж сына не держали [5], але на молитвы их пан бог их сыном обдарил. А оны потом у чистоте жити собе укрепили.

Тогды оное детятко дано на науку. А коли жь во всих науках уже процвитал, а уже малодых лѣт а мудрых досягал, некоторая панна, у дому цесарьском выбрана, ему за жону отдана.

И пришла ноч, у которую и с облюбеницею принял молчачие таёмнице. Тогды тот святый молодець обьлюбеницю свою божье боязни научати почал, а её теж ку паненскому сорому почал приводити. Потом перстенець свой золотый и занькел поисовый [6], которым ся опоясовал, ёй ховати подал, рекучи: «Приими то, а ховай докул богу любо будеть. А бог буди свѣдок межи нас».

Потом узявши, на море поступил, а уступивши у суд [7], пришол до Лаодацие. А оттола пришодши до Едисы, мѣста сырийского, пришол кде образ пана нашого Езу Криста [8] не человѣчьим делом уделаный на простири держал ёсть. Там, пришодши, усе, што ис собою был принесл, убогим роздал, а рубиё калѣчие оболокши

---

[1] адзенне. [2] апраналіся. [3] пілігрымам. [4] богаўгоднымі. [5] не было. [6] тасёмка з дарагой тканіны. [7] судно. [8] Ісуса Хрыста.

и с иными убогими у присѣнку [1] матки божье сѣдети почал. А милостыню, што ему се видело собе з достатком, то у себе держал, а иную иным убогим роздавал.

Тогды отець, отоитью [2] сына своего уздыхаючи, по сторонам усего свѣта слуги свое послал, которые бы его пилне искали; с которых же, коли некоторые до мѣста Едисы приходили, от него были познаны. Але оны его никакь не познали. Ему ис ыными убоги(ми) милостыню подавали, которую он, узявши, дяковал богу, рекучи: «Декую тобѣ, пане Езу Кристе, который ми от слуг моих милостыню узяти изрядил еси».

Вернулисе слуги поведали, иже никде не можеть знайден быти. А матка ёго од дня ёго отъитиа мех на помосте умѣсто постели собе слала, да прочутившися [3] жалобливе голосы давала, рекучи: «Тут усегды у плачу мяшкати [4] буду опят, оли ж сына своего мети буду». А невѣстка до свекра рекла: «Учую ли я што о моём облюбенцю насласнейшом? Как синогордлица [5] одиная с тобою тут мешкати буду?»

А коли жь Олексѣй у присенку матки божье за семънадцать лѣт на божей службе мешкал уставичне [6], тогды образ панны Марии, который тамо был, сторожу церковному рекл: «Упусти человѣка божьёго, бо достоён есть королевства небесного, а дух божий одпочиваеть над ним, бо молитва его, как закурение кадилное, пред обличьё божьё уступуеть». Да коли сторож не вѣдал, о каком бы человѣце образ говорил, опят ему рекл: «Тот, который вонках [7] седить у присѣнку церковном. Тот есть». Тогды сторож борздей [8] вышол и увел и [9] у церковь.

А коли ж тая речь усим явна была, а уже люди ёго чтити и велми жаловати почали. Свѣтское хвалы бегаючи, одтоле проч пошол. А пришол до Лаодоциё. А тамо, у судину усѣдши, хотя до Цилицеи се перевезти. А божьим рядом [10] от ветру припуженый, на римский брег пришол.

То узнавши, Олѣксѣюс рекл сам у собе: «У дому отца моего незнакомит [11] буду мешкати, а иному тяжок буду». А тогды отца ис терема идучого, от великости людей огарненого, против [12] себе идучого, увидел и почал кликати за ним: «Слуго божий! Мене (перь)кгрима у дом свой приняти вели, а от круп стола твоёго кормити прикажи, абы теж над твоим перкгримом Олексѣём богом рачил [13] се миловати».

То услышавши отець, для милости сына своего, его приняти велѣл и мѣстце ему опришное [14] у дому своем дал, а покормь его ис стола своего ему уставил и слугу питомого приставил.

Да он у молитвах уставичон был, а тело своё посты сушил и дручил. А слуги дому оного его частократь посмехали, а помые горячие на голову его часто проливали. Але он ко всему терпѣливый велми был. А семнадцать лѣт у дому отца своего незнокомит пере-

---

[1] прыбудова каля сцяны. [2] знікненню, адыходу. [3] прачнуўшыся. [4] жыці. [5] сіняя галубка. [6] стала, пастаянна. [7] знадворку. [8] хутчэй. [9] яго. [10] воляю, жаданнем. [11] непазнаным. [12] насустрач. [13] меў ласку, пажадаў. [14] асобнае.

мешкал. А узнавши духом святым, иже конець живота[1] его приближил, листа и с чернилом просил, а на нем весь ряд живота своёго пописал.

А у неделю во мше[2] у церкви голос з неба зазвинял, рекучи: «Пойдете до мене уси, которыи роботуете а утешоны есте, а я охоложу вас». То услышавше, уси зляклисе и на лица своя попадали. Да ова[3] голос другим разом рекл: «Ищите человѣка божьего, абы се молил за Рим!» А коли оны искали, а не нашли, опять голос рекл: «У дому Еуфимьяновом смотрите!» И пытали Еуфимьяна, и он казал, се о том ничого не вѣдати.

Тогды цесареве Архадиус да Гнориюс[4] и с папою Имоценцеюсом[5] до дому Еуфимьянова пошли. А ова слуга Олексѣев до пана своего пришол, рекучи: «Пане, смотри не тот ли есть перкгрим наш, бо твердого живота и терпливости человѣк ёсть!» А пошодши, Еуфимьянус ёго умерши нашол. Да обличье ёго как бы анёльское освѣчоное нашол. А хотел лист, который у руце держал, от него узяти, але не могл. А коли жь вышол, а цесарем и папе то сказал. А оны до него вошли, рекли: «Хотя грешны есмы, а вежды[6] ряды королевства полнимы а держамы, а тут посполную[7] пастушскую печаль рядимы, прото дай нам лист тот, абы есмо ведали, што на нем ёсть писано». А ова папа лист из руки ёго узял, а он ему на тых мѣст пустил и велѣл и[8] росчести пред усим людом и пред отцем его.

Евфимьянус, то услышавши, велми боязнию се замутил и зляклъся и ссталея без розума, и как бы без душе на землю пал. Да коли жь маленко полежал, а к собе ся приворотил, рухо[9] своё содрал и издрал, и почал седые волосы из головы свое ръвати, и за бороду се тягнути, и сам себе драти почал, а на тело сына своёго падши, кликал: «Беда мне, сыну мой! Чему еси мене так замутил[10], черес такиё лѣта мене жалости придал еси? Беда мне бедному, иже вижу тебе сторожа старости моёё, на марах[11] лежачого, неговорячого со мною! Беда мне! Какое потешение потом буду могл имѣти?»

Да матка теж тоё услышавши, как бы лвица деручи себе, также здрапавши[12] на собе рубиё альбо хусты, волосы роспустивши, у небо очи подносила. А коли перед великим людом святого тела дойти не могла и она закликала, рекучи: «Дайти ми[13] приступити, абых увидела сына моего, абых увидѣла потешение душе моее, который ссал груди мое!» А коли пришла до тела, на ложи на него кликала, рекучи: «Беда мне сыну мой, свѣчо очью моих! Чому еси так учинил, а так укрутне[14] с нами еси починал? Видел еси отца твоего и мене бедную плачуче, а не указал еси себе нам? Слу-

---

[1] жыцця. [2] у час абедні. [3] тым часам. [4] Сыны рымскага імператара Феадосія I царавалі з 395 г. Аркадзій быў імператарам Усходняй часткі Рымскай імперыі (395—408 гг.), Ганорый — імператарам зямель ад Адрыятычнага мора да р. Тыгр і ад р. Дуная — да р. Ніла (395—423). [5] перапісчыкам пераблытана імя папы Інакенція I (402—417). [6] усё-такі. [7] агульную, народную. [8] яго. [9] шапку. [10] занепакоіў. [11] смяротны ложак. [12] сарваўшы. [13] мне. [14] бязлітасна.

ги твои кривдили тебе, а ты терпел еси!» Да опять и опять, и сяк и так на теле узлегивала и нине плечима протягнетсе на него, нине руками обличьё аньёльскоё обрачаёть целовати, и закликала [1], рекучи: «Плачте со мною уси, которыи тут есте, иже черес семьнадцать лет у дому моём мѣла есми ёго, а не познала есми, иже мой единый сын был! А слуги мои посмехали ёго и за шию били ёго. Беда мне! Кто дасть очима моима колодязь слез, абых плакала во дне и у ночи, жалости души моеё?»

А жона его, у скаредное [2] платье оболокшисе, текла плачучи и рекучи: «Беда мне, иже нинека опустѣла ёсми и стала ёсми удовою! Уже не держу на кого быx погледела, на кого быx очи подносила. Теперь росселося зеркало моё и згинула надея моя; теперь почаласе жалость, которая конца не держит!»

Да люди, то услышавше, велми жалобно плакали. Тогды папа ис церьми уложил тело на тяжке мары и привели посеред мѣста [3]. И сказано людем, иже знайден человѣк божий, которого усе мѣсто искало. Тогды уси пошли против [4] святому. А дотъкнулисе который немоцный [5] пресвятого тела, на тых мѣст здоров стал: слепые узрок приимовали и вси немоцные, которою коли немоцию уняты [6] были, доткнувшеся тела святого, уздоровлены были.

То увидевше цесареве такие дивы, почали сами и с папою нести мары, абы теж были посвящены от того тѣла святого. Тогды цесареве велѣли оплавитости [7] золота и серебра по улицам кидати, штобы люди около пѣнязей [8], иж бы препустили святого тело до церкви допровадити. Але люди, милости пѣнязий откинувши, болше и болше ку доткнению святого тела рвалися. А тако з великою роботою до церкви святого Бонифациуса-мученика его превели. А тамо черес днии ухвалению божьем поставивше удѣлали гроб ис золота, ис жемчуга, и з дорогого камениа, у котором пресвятого тело с великою честию положили. А с того гробу пресласный запах запахнул, ажь усим виделосе иж бы был дорогих кастей полон.

А умерл у лѣт божьего нарожениа во сту и в девятьдесять и восми лѣт...

---

[1] галасіла, прычытала. [2] жалобнае. [3] горада. [4] насустрач. [5] хворы. [6] захварэўшы. [7] зліткі. [8] грошай.

# ПОЧИНАЕТСЯ КНИГА О ЖЕНЕ ИУДИФ, ЕЖЕ ОТСЕЧЕ ГЛАВУ ОЛОФЕРНОВИ, ВОЕВОДЕ НАВХОДНАСОРА ЦАРЯ АСИРЪСКАГО, И ЗБАВИ ЛЮДЕЙ ИЗРАИЛЕВЫХ, А ИМАТЬ ГЛАВ 16

Аповесць «Иудиф» з'яўляецца адным з першых друкаваных твораў беларускай перакладной літаратуры пачатку XVI стагоддзя. Кіруючыся імкненнем павысіць культурны ўзровень свайго народа і жаданнем задаволіць жывы інтарэс чытачоў да мастацкіх твораў на гістарычную тэму, Георгій Скарына пераклаў і надрукаваў гэтую аповесць на самай зары развіцця друкаванай кнігі. Пераклад яе на беларускую мову з чэшскіх, царкоўнаславянскіх і лацінскіх крыніц і надрукаванне было зроблена ім у лютым 1519 года ў чэшскім горадзе Празе. Аднак трэба зазначыць, што пераклад Скарыны значна адрозніваецца ад сучаснага кананічнага тэксту гэтай кнігі ў «Бібліі», дзе яна чытаецца ў раздзеле «Ветхого Завета».

Аповесць «Иудиф» прысвечана паказу ваенных дзеянняў канкрэтнай гістарычнай эпохі асірыйскага цара Навуханосара і праслаўленню патрыятызму вефулійскай удавы Юдзіфі, якая сваім гераічным учынкам выратавала г. Вефулію ад асірыйскага заваявання. Гэтая празмерная свецкасць аповесці «Иудиф» і яе ваенная тэматыка даюць поўную падставу паставіць яе побач з такімі чыста свецкімі творамі таго часу на гістарычную тэму, як ««Александрыя», «Троянская история», «История об Атиле» і інш., якія ў XVI—XVII ст. ст. карысталіся выключнай папулярнасцю сярод чытачоў.

Скарочаны тэкст аповесці ў перакладзе Скарыны пададзены ў хрэстаматыі па экземпляру скарынінскай «Бібліі», які зараз захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына.

## ГЛАВА 1

*Моцного царя Арфаксата поразил ест Навходносор, царь асирский, и потом послал послы ко иным народом, абы служили ему, и не хотяху учинити того*

Арфаксат, царь медийский, подбил был многия языки[1] под свою власть. И той поставил град вельми крепкий и назвал и[2] Егвафанис. От каменя грановитого и тесаного поделал муры града того. Их же вышиня была седмъдесят локтей, а ширина тридцеть локтей. Столпы пак[3] около его поделал на вышиню ста локтев, и кажная страна столпов тых четверограноватых

[1] народы. [2] яго. [3] усё-такі, у сваю чаргу.

была ест двадцети ступенев ножных. И сделал врата градова межи столпами высокими, и хвалился, яко моцный в силе войска своего и о возех своих.

И бысть лѣта двадцатого царства своего Навходносор, царь асирский—он же царствовал ест в Ниниве, граде великом—воевася со Арфаксатом, царем медийским, и подбил[1] его под ся на поли великом, иже словеть Рагав, при реце Евфрате и Тигри и Язоне, и на поли Ериоф — царя еликорскаго. Тогда вознесеся царство Навходносорово, и сердце его поздвигнеся. И послал ест послы ко всем живущим в Килики, и в Дамаску, и в Ливане, и ко всим народом, иже суть в Кармелю, и в Кедаре, и к живущим в Галилеи на поли великом Ездрелон, и ко всем, еже были в Самарии и за рекою Иорданскою, даже до Ерусалима и до всея земли Есемли, дондеже[2] не приидe к горам Муринским. К тым ко всем послал ест Навходносор, царь асирский. Они пак вси единою мыслию не хотеша послушати его и послы отпустиша празны и без всякое чти выгнаша их от себе. Тогда розгневался ест Навходносор царь на вси земли ты и клялся царством и престолом своим, иже помстити се хощеть за то надо всеми странами тыми.

## ГЛАВА 2

*Навходносор, царь асирский, совещав совѣт, послал ест Олоферна, воеводу своего, на западние страны. Той же, идя з войском казил вси речи*

Лета тринадесятого царства Навходносорова, двадцеть втораго дня месеца перваго, сталося ест слово на дворе Навходносора, царя асирскаго, абы ся помстил. Тогда созвал ест всих князей своих и воевод и всех воевников, и уделал ест с ними совѣт свой тайный. И поведил им мысль свою, еже имеаше, абы подбил под ся вси земли. Сия же речь, егда полюбилася ест всем, позвал Навходносор царь Олоферна, воеводу войска своего. И рече ему: «Изыйди з войском моим на вся царства, еже живуть к западу солнца, а наболей на тых, они же погордели суть приказанием моим. Да не отпустить око твое не единому царству, и кажного града огражeнного добудь ми!»

Тогда Олоферн созвал всех тысещников и врядников войска асирскаго и зочте мужей годных к бою, яко же был ему приказал царь. И знайде их сто тысещей и двадцеть тысещей пеших бойцев, конных же и стрельцев дванадесеть тысещей. И повелел ест напред ити всему войску своему с множеством бѣз числа вельвлюдов и с стравою, иже бы войско имело пищи досыть, волов теже гнаша стада и овець, им же не было числа, муки также со всее земли Асирское наготовити приказал; злата пак и сребра и с скарбу царева взял с собою велми много.

---

[1] перамог. [2] пакуль.

И иде Олоферн и все войско с возы и с конники и с стрельци, и прикрили суть лице земли, яко усеница. И егда выйде с пределов земли Асирское, прииде к горам великим Анъги, иже суть на левой стране земли Киликийское, и вниide до всех градов их и добыл е. Вывоевал теже град вельми богатый Мелоф, и пленил всих сынов Тарсииных и сынов Израгелевых, иже быша против пустыни и на полудне от земли Целеон. И переплавившися черес реку Ефрат, вниide до Мезопотамии, и вывоевал вси грады великие, иже быша в земли той от потока Мамврия, даже до моря. И взял ест землю их от Киликии даже до пределов Яфетских, иже суть к полудню. И поимал ест всих сынов Мадиамских, и побрал вся имения их. И всих людей, еже противишеся ему, погубил оружием. Потом же иде на полѣ Дамаска, во время жатвы, и попалил вси жита их, и вся древа плодавитая, и винограды велел посекати. И паде страх его на всех людей, живущих на земли.

## ГЛАВА 3

*Грады многы доброволне поддаются Олофернови. В них же он собѣ брал помощники, а боги их и грады казил по повелению Навходносора царя*

Тогда послали суть послы своя со всих градов из стран цари и князи сирстии и мезопотамстии, и Сирии Соваль, и Ливии, и Киликии. Они же, пришедши ко Олоферну, глаголаше: «Да утишится гнев твой над нами! Лепей воистинну ест нам живыми быти, а служити Навходносореви, царю великому, и послухати тебе, нежели быхом сами со имениами нашими вечне загинули. Сѣ вся земля наша, и все грады наше, вси горы и холмы, стада волов, овець и козлов, коне и велблюды, и все имение наше и челядей наших пред лицем твоим суть. Да будуть вси речи наше под властью твоею! Мы теже и сыновѣ наши раби твои есмо. Прииди ж к нам, яко господин наш мирный, и поживай службы нашее, яко же любо ест тобѣ».

Тогда Олоферн сниде з гор с комонъством и с силою великою и взял кажный град крепкий и вся места, еже быша в земли той. И с кажного пак града взял с собою на помощ мужей силных и годных к вою [1]. А так великий страх напал ест на страны тые, иже со всих градов князи и старейшины с людми посполитыми вкупе выходили суть востретение ему и приимали его с прапорами [2] и с свещами, выходяще к нему с трубами, и с гудбами [3] со вѣселием.

И егда таковую почливость ему чиняху, прото не можаху укротити злости серца его, понеже [4] грады их казил и храмы богов их роскопал, яко же был приказал ему Навходносор царь, абы вси богы земные выгубил, а то для того, иж бы толико самого Навходнасора имели за бога вси тые народовѣ, их же Олоферн подбил под царство его.

---

[1] ваяваць. [2] сцягамі. [3] гуслямі. [4] таму што.

Прошол пак ест Олоферн всю Сирию совалю и повоевал всю Аппимию и Мезопотамию. Прииде ко Идумеаном до земли Гаваони и добыл всех градов их. И пребыл ту до тридцети дней, и в тых днех велел созвати все войско силы своея.

## ГЛАВА 4

*Тогда сынове Израилевы осаживали горы у тесных местах пред Олоферном, и Елиахим жрець повѣлел всем людем поститися и молитися господу богу*

Услышавши же сѣе сынове Израилевы, живущие и земли Июдине, бояшеся вельми пред лицем Олоферновым, страх убо и трепет нападе на них, абы не учинил Ерусалиму граду и храму господьню по тому, яко же чинил ест иным градом и храмом их. Сего ради послали суть ко всей Самарии вооколо даже до Ерихона и осадили вси верхи и тесныи места гор, и оградили села своя и навозили жит, готующеся к бою. Жрець теже Елиахим писал ест лист ко всем людем, живущим против Ездрелона, иже ест против великому полю близко до Тайма, и ко всим иным мужем, скрозе их же можеть быти проезд, абы осадили горы, межи ими же можеть быти проход ко Ерусалиму, и ту дабы стерегли, игде же ест узкий путь межи скалами. И учинили суть сыновѣ Израилевы по всему, яко же заповедал им жрець божий Елиахим.

И возопили суть вси людие к господу богу воплем великим и смирили суть серца своя постом и молитвою мужи и жены их. И облеклися жерци их во вретища, и дети своя поклали пред храмом господьним, и олтарь божий прикрили гунею [1]. И кричаху вси к господу богу Израилеву, единомыслено глаголюще: «Не предавай, господи, отрочат наших у пленение, и жен наших у розделение, и градов наших у скажение, и храму святого твоего у посквернение, и нас у посрамочение языком!»

В той час Елиахим, жрець божий великий, обыходил ест всех людей Израилевых и напоминал им, глаголя: «Ведите сее, иже услышить господь бог молитву вашу, естъли же до конца пребудете постяще и молящеся пред лицем божиим! Воспомяните Моисея, раба божия! Он же Амалеха, надеющегося на силу свою, и на полки своя, и на люди своя, и на щиты своя, и на колесница своя, и на кони своя, не оружием, но молитвою воюя, поразил его. Тако будуть вси врази людей Израилевых, естъли же пребудете в деле том добром, еже почали есте». И тако для напомянутия Елиахимова, молящеся богу пребыша даже до вечера пред лицем господьним. Но и тии, они же приносили вся сожжения и жертвы господу, припоясавшися во вретища и посыпавши попѣлом главу свою, приносили суть. И все множество целым сердцем молишеся господу богу, абы посетил людей своих Израилян.

---

[1] старая падраная вопратка, лахманы.

## ГЛАВА 5

Калі Алаферн даведаўся, што ізраільцяне падрыхтаваліся да абароны, ён прызваў да сябе мааўскіх князёў і аманіцкіх ваявод, каб даведацца, што гэта за народы, якія не жадаюць пакарыцца яму, ці многа ў іх гарадоў і як вяліка войска іх. Аманіцкі ваявода Ахіор расказаў Алаферну, што жывуць там людзі халдзейскага племя, якія раней жылі ў Месапатаміі, а потым у Егіпце, паведаміў яму гісторыю іх жыцця ў Егіпце і пасля Егіпта, адзначыў іх ваяўнічыя здольнасці і набожнасць, дзякуючы якой народ гэты непераможан, бо бог заўсёды абараняе яго.

За гэтае паведамленне ваяводы Алаферна абвінавацілі Ахіора ў хлусні і патрабавалі пакараць яго смерцю.

## ГЛАВА 6

Алаферн раззлаваўся і загадаў звязанага Ахіора весці да горада Вефуліі і там прывязаць яго да дрэва, каб ён уласнымі вачыма змог убачыць непераможнасць войск Навухаданосара. Калі ж яўрэі будуць заваяваны, тады Ахіор будзе засечаны разам з людзьмі Ізраіля за сваю хлусню. Загад Алаферна быў выкананы: Ахіора прывязалі. Але яўрэі вызвалілі яго і даведаліся ад яго аб планах Алаферна знішчыць яўрэяў. Яго расказ вымусіў яўрэяў справіць малебен богу з просьбаю аб абароне. На працягу сутак яўрэі разам з князем сваім Озіяй маліліся богу.

## ГЛАВА 7

Алаферн тым часам загадаў свайму войску, у якім было 120 000 пяхоты, 22 000 конніцы і мноства ўзброенага люду ад заваяваных гарадоў, зрабіць аблогу Вефуліі і падрыхтавацца да штурму.

... Сыновѣ пак Израилевы, егда узрели множество их, падоша на землю и, посыпавши прах на главы своя, единогласно молишеся, абы господь бог показал милосердие свое над людми своими, и, вземши на ся зброе, осадили суть узкая места, игде же быша пути межи горами. И ту стерегли их целый день и нощь.

В ты часы Олоферн, внегда облегаше град Вефулию, знайде, ано [1] из криници течаше вода трубами во град от страны полуденное пред градом, и приказал ест сказити [2] трубы ты, ими же течаше вода во град. Гражане пак имели суть иные кладези недалеко от стены градовы, их же видаша, а они крадмо бираху собѣ воду ко охлажению более, нежели к питию.

Сынове пак Амоневы и Моавовы приступили суть ко Олоферну, глаголюще: «Людие Израилевы не уповают на копия своя, ни на стрелы своя, но горы боронять их и скалы прикрие огражають их. Прото ж без битвы сполечное хощеши ли одолети им, осади сторожами кладези их, да не черпають воды, и так без меча поразиши е. И тако конечне сомглены суще предадут тобѣ град свой, его же мнять, яко немощно ти ест добыти, понеже лежить на горе».

И полюбилися суть слова ты пред Олоферном и предо всеми князми его. И поставил ест у кажного кладезя около града по сту воин. И егда так стерегли, — были двадцеть дней полных, — высохли суть кладези дождевые и лужи всем живущим у Вефулии так, иже вже не было во граде воды, абы ся напили до сытости а ни с един день, яко в меру давана была вода на кажный день.

---

[1] што. [2] сапсаваць.

Тогда собравшися ко Озии вси мужи и жены, старыи и младыи, рекоша вкупѣ: «Да судить господь бог межи тобою и нами, яко учинил еси нам велми зле, не хотяй о мире глаголати со асиряны. И се нынѣ предал нас бог в руце их. И кто возможет помощи нам, егда загинем вси пред очима их безводием в бедах великих? Прото ж нынѣ съзови всех живущих во граде, да доброволне дадимся вси людем Олоферновым, понеже лепей ест нам быти живым в неволи а хвалити господа бога, нежели быхом сами так померли и были в срамоту всем людем, егда узримо, ано жены наши и дети наши мруть пред очима нашима. Сѣ приимуемы нынѣ на сведение небо и землю и господа бога отцев наших, он же мстить над нами по множеству грехов наших. Да предастсе нынѣ град в руце войска Олофернова, и да укратится конець беды нашее мечем их, он же продолживается великою жаждею и безводием!»

И егда глаголаша слова сия, стался ест плачь великий и вопль во всех людех Израилевых. И за долгый час единостайным гласом кричали к господу богу, глаголюще: «Съгрешихом со отци нашими и беззаконне чинихом и неправду деахом. Ты же, господи, боже нашь, по премножеству милосердия твоего смилуйся над нами и по великости грехов наших ты сам казни нас! И не предавай людей надеющихся на тя народу незнающему тя, да не рекуть в языцех: игде ест нынѣ бог их!»

И егда от великого плачу и воплю утомишесе и умолкоша, востал ест Озия, князь людей, з заплаканыма очима и рече ко всему собору: «Имейте добрую мысль, братия, еще и сих пять дней пождимо от господа бога нашего слютования, егда како гнев свой отиметь от нас и дасть славу имени своему! Естъли же пак по пяти днех не будеть помощи от господа бога нашего, тогда учинимо подле всех слов ваших, яко же глаголали есте».

## ГЛАВА 8

Спачатку пададзены звесткі аб Юдзіфі, а потым звесткі аб яе жыцці, багацці і набожнасці, пасля гэтага ідзе апавяданне аб яе мерапрыемствах па падняццю духа сваіх суайчыннікаў.

...И сия Иудиф, егда услышала ест тые речи, иже Озия князь по пяти днех слюбил[1] людем предати град в руце асиряном, послала ест по жерцев Хаврия и Хармия. И егда пришли к ней, рече им: «Яковое то ест слово, иже слюбил Озия людем, глаголя: Не будеть ли нам в пяти днех от бога помощи, то предам град асиряном? И кто есте вы, иже искушаете господа бога? Не ест воистинну сия речь, иже бы к милосердию наклонила господа, но более иже ко гневу приводить и ярость божию росъпаляеть. Положиль есте час господу богу, егда ся имать смиловати над нами. И подлуг ли воли вашее поставили есте ему день? Но иже долготерпелив ест господь бог наш, прото ж и каимыся того и отпущения грехов своим с плачем жадаимы от него. Несть убо господь бог таков грозяй, яко

[1] паабяцаў.

человек, а ни запальчив в гневе, яко сын человечий. Сего ради покоримо пред ним душе наши и съкрушенным и смиреным духом служаще рцимо со плачем господу богу, абы подле воли своее учинил с нами милосердие, дабы яко же гордости ради их засмутися серце наше, тако покоры для нашее потешил бы нас, яко не последовахом грехом отцев наших. Они же отпустили были господа бога своего и кланялися богом чужим, и того для греха даны суть на погибель оружию и во разъграбление и посрамочение врагом своим. Мы же иного бога не знаем кроме господа, прото ж подождимо терпеливе слютования от него. Той помстить крови нашее от руку врагов наших и покорить вся народы воставающая на нас и учинить их безо чти господь бог наш. Нынѣ пак, братия, вы понѣже жерци есте в людех божиих, и вы попечитеся о душах их, и вашими словесы воздвигните серца их, да воспомянуть на то, яко быша искушены отцеве наши, абы познаны были, со всего ли серца работають господу богу своему, да помнять тое, яко отець наш Абраам покушен ест и многие печали претерпев друг божий наречеся. Тако ж и Исаак, тако ж и Яков, потому же и Моисей и вси иные предковѣ наши. Они же любилися суть господу богу многими печальми и смутки покушены быша и верни знайдены суть. Тыи пак, иже покус не терпеша с боязниею божиею, своим нетерпением и нестыдатостию роптание на господа бога своего глаголаша, прото ж скажены суть от загубителя и от змиев погибоша. Сѣго для и мы не мстимося за тыи речи, еже терпимы, но покладаймы то быти нам за грехи наше. Верьмы, иже сия казни божия меншия суть, нежели наша безакония. Яко раби, карани бываем от господа своего к нашему полепшению, а не к загинутию!»

Тогда отвещаша к ней Озия и жерци вси: «Слова ты, еже молвила еси, правы суть и несть в речех твоих ни единое приганы. Сего ради молися за нас господу богу, яко жена свята еси и боишися господа».

И рече опять к ним Иудиф: «Яко же знаете тое, иже от бога ест, еже могла есми к вам глаголати, тако и познаете, естли же от господа будеть то, что умыслила есми учинити, толико молитеся, да утвердить господь бог мысль мою. Станьте же вы у врат градовых сея нощи, а я выниду из града со Аброю, служебницею своею. И молитеся прилежно, абы, яко же рекли есте, у пяти днех возрел господь бог на людей своих Израиля. Вы пак да не пытаетеся о деле моем, дондеже сама явлю вам. Ничто же иного да не будет за мя, толоко молитва к господу богу нашему».

И рече к ней Озия, князь Июдин: «Иди с миром, и господь бог да будеть с тобою к помсте врагов наших!»

Потом навротившися розошлися суть.

## ГЛАВА 9

**Пасля размовы з князем, Юдзіф на працягу дня малілася богу ў патаемным месцы, дамагаючыся ад бога дапамогі ў здзяйсненні сваіх задум адносна варожага войска і неабходнай сілы і смеласці для гэтага.**

*Воста по молитве Иудиф и нарядися в ризы красныи и вышла из града с служебницею своею. А там иняли ю и привели ко Олоферну и дивишеся красоте ея*

И бысть, егда преста вопиати к господу, Иудиф въстала от места своего, на нем же лежаше ниць пред господем. И позвала Абру, служебницу свою, и, вшедши, во храмину свою, сволокла с себе власяницу, и ризы теже вдовские сложила с себе. И умыла тело свое, и помазалася мастию мирры избранное, и росчесала власы свое, и возложила чепець на главу свою, и оболоклася в ризы утешения своего, и обулася в боты украшенные, и возложи обручь златый на правую руку свою, и серязи драгыи во уши своя, и перстени на персты своя, и всеми украсама своими украсила себе. И господь бог придал красы ей, понеже все украшение ея не было ест для похоти телесное, но для речи доброе, прото ж и господь тое красы ее приспорил, абы неприровнаною красою предо всех очима поставилася. И возложила на служебницу свою Абру фляжку вина, и баню олея, и мешець круп, и мало смоквей, к тому хлеба и сыра, и иде с нею.

И егда пришла ест ко вратом градовым, знашла ту, ано ожидають ее Озия и жерци града. Они же, егда же узрели суть ю, ужаслися и здивилися превеликой красе ея. И ничего ж не пытали от нее, но пустили ю ити в путь свой, глаголюще: «Бог отець наших, дай же тобе ласку и всю мысль серца твоего силою своею да укрепить! И да имать славу от тебе град Ерусалим, и да будеть имя твое в числе святых и праведных!» И рекоша вси людие, стоящие с ними, «буди и буди!»

Тогда Иудиф, моляшися господу богу, шла из врат сама и с служебницею своею. И бысть, егда сходила з горы, а солнце вже восходило, стретишеся с нею сторожи войска асирскаго, и няша ю, глаголюще: «Откуду идеши и камо хощеши ити?»

Она же отвеща им: «Дщера есм еврейская. И прото утекла есми от них, яко познала есм, иже преданы будуть вам во пленение, понеже погордели суть вами и не хотели доброволне поддатися вам, дабы знашли ласку пред очима вашима. И сего ради умыслила есми сама в серци своем, глаголющи: пойду пред лице князя Олоферна, да бых поведила ему тайные речи их и явила ему, которым обычаем можеть достати их тако, иж бы ни единый муж не пал от войска его».

И егда слышали суть стражове тии слова ея и глядели на лице ее, и была ест пред очима их, яко страх, понеже дивилися суть вельми красе ея. И рекоша к ней: «Соблюла еси живот свой, яко домыслилася еси того и шла к господину нашему. И сие ведай от нас, егда станеш пред лицем его, добро тобѣ будеть и будеши наймилейшая в серци его». И ведоша ю до шатру Олофернова, повѣдевши ему первей о ней. И егда вошла пред лице его, и скоро инят ест Олоферн,

силом очию своих поглядев на ню. Тогда рекоша к нему слузи его: «И кто бы хотел поганити людей еврейских, или не битися с ними, а они так прекрасны жены имають!»

И узрела ест Иудиф Олоферна, седящего под опоною [1], иже была уделана от шолку и злата тягненаго и смарагдов [2] со иным камением драгим. И погледевши нань, поклонися и паде на землю. И воздвигоша [3] ю слузи Олоферновы на повѣление господина своего.

## ГЛАВА 11

*Тешить Олоферн словы своими Иудифа и пытаеть от нее, для чего вышла ест из града и пришла до войска его. Она же отвеща ему слова похвалная [4]*

Тогда рече Олоферн ко Иудифу: «Имей добрую мысль а не бойся в серци своем, понѣже аз николи не зазлих [5], мужу тому, он же доброволнѣ хотел служити Навходносору царю. Людие же твои бы были не погоръдели мною, не воздвиг бых был копия своего на них. Прото ж нынѣ сповѣдай мнѣ, для чего шла еси от них и полюбилося ти приити до войска моего?»

Рече к нему Иудиф: «Приими слова рабы твоея, господине мой! Понеже будеши ли чинити водле слов рабы твоея, то учинить господь бог совершеное дело с тобою. Жив ест воистинну Навходносор царь земли и жива ест сила его, еже в тобѣ ест на отомщение всем злым людем. Не толико бо человеци послужать ему для тебе, но и звери дивии послушни будуть ему, яко прославилася ест справа твоя во всех народех и рознеслося ест по всем свете, иже ты сам добрый еси и силный во всех царствах его, и мудрость твоя во всех странах земли исповедуется. А ни же то тайно ест, еже глаголал пред тобою Ахиор, и то таки вемы, что еси велел ему учинити. Весть убо господь бог наш, иже есмо его так вельми розгневали, и прото ж поведил ест пророки своими людем, иже предаст е врагом, грех ради их. Ведят теже сынове Израилевы, яко розгневили суть господа бога своего, прото ж страх твой ест над ними, и к тому таки глад терпять. И для недостатку воды, якобы заумерлыи положены суть, еще и то мыслят, абы побили скот свой и пили кровь их. И посвященыи речи, о них же заповеда бог, абы ся не дотыкали их, яко суть жито, вино и олей, тое все здумали выналожити и хотять утратити их, жебы не имели ни руками ся доткнути. И понеже таковая дела чинять, воистинну даны будуть в загинутие. Сие знаючи, аз, раба твоя, утекла есми от них. И послал мя ест господь бог, да бых возвестила тобѣ слова сия. Аз убо раба твоя молюся господу богу и ныне сущи у тебе, и буду выходити, раба твоя, и кланятися господу богу и тои повесть мнѣ, егда воздасть им за грехи их, и пришедши возвещу тобѣ. И аз поведу тебе посрѣди Еру-

[1] занавескаю. [2] ізумруду. [3] паднялі. [4] ліслівыя. [5] помшчу.

салима и будеши имети вси люди Израилевы, яко овце, не имеющие пастыря. А не забрешеть ни пес на тебе, понеже сии речи явлены суть мнѣ опатрением [1] божиим, яко розгневался ест на них господь бог их. Прото ж послана есми от него, абых поведела вам сия».

И полюбилися суть вся слова та пред Олоферном и пред всими отроки его, и дивилися мудрости ее, друг ко другу глаголюще: «Несть таковое жены на земли в позрении, в красе и в розумной вымолве». И рече к ней Олоферн: «Добрѣ уделал ест бог твой, он же послал тебе пред людьми тыми, абы предала еси их в руце наше, и добро ест обецанье твое. Сполнит ли то мнѣ бог твой, то будеть теже и бог мой, а ты в доме царя Навходносора будеш во великих, а имя твое славно по всей земли».

## ГЛАВА 12

Пасля гэтай размовы Алаферн загадаў сваім ваяводам падрыхтаваць жыллё Юдзіфі ў тым шатры, дзе знаходзіўся яго скарб, і даваць ёй тую ж ежу, якой кормяць яго. Юдзіф адмовілася ад ежы, але папрасіла дазволу Алаферна выходзіць ноччу і на світанні на малітву богу без перашкод. Алаферн задаволіў яе просьбу. На чацвёрты дзень Алаферн наладзіў баль. На гэты баль ён загадаў прывесці Юдзіф. Юдзіф прыйшла. Ад такой радасці Алаферн піў віно без усялякай меры.

## ГЛАВА 13

*Олоферн упившися вина, усне твердо. Иудиф повелела служебници своей стояти пред дверми шатровыми, и сама главу Олофернову отреже и, вложивши ю в мешець, во град Вефулию людем своим принесе. И тако благословиша гражане бога*

Негда приближашеся вечер, поспѣшиша слузи Олоферновы до станов своих. И завре [2] Вагай двери шатру Олофернова и отиде сам, были бо воистинну вси упилися велми вином. И была ест Иудиф едина в шатре; Олоферн пак лежаше на ложи своем: от великого пиянства спаше твердо. Тогда рече Иудиф ко служебници своей, дабы стояла въне, пред шатром, и остерегала.

И стала ест сама Иудиф пред ложем, молящися с плачем, движзая устами и молъчком глаголя: «Укрепи мя нынѣ, господи боже Израилев, и возри в час сей на дела рук моих, дабы, яко же обещал еси, град твой Ерусалим возвѣличил, абых доконала тое, что есми умыслила, верячи, иже тобою может ся все стати!» И егда сия рече, приступи ко столпу, иже бѣ у главах постели, и выняла мечь его, иже висял при столпе том привязан. И внегда имела и [3] в руце своей, иняла за верх влас его. И рече: «Укрепи мя, господи боже мой, в сей час!» И ударила двожды в шию его, и срезала главу ему. И сняла опону ис столпов и обвинула ест в ню тело его без главы, и по малом часе вышла ест вон. И дала ест главу Олофер-

[1] апекай. [2] закрыў. [3] яго.

нову служебници своей, и казала ей вложити в мешець свой. И выидосте обе якобы на молитву по обычаю своему.

И егда минуша войско, идуще около долины, пришли суть ко вратом градовым. И возпи здалека Иудиф ко стражем, иже быша на стене градовой, глаголя: «Отоврите врата, яко с нами ест господь бог, иже учинил силу во Израили!» И бысть, егда услышали суть стражеве глас ее, позвали старейшин града. И збегошеся к ней вси от мала и до велика, понеже надеяхуся, иже не навратится к ним. И, зажегши свещи, оступиша вси около ее.

Тогда Иудиф, воступивши на высокое место, казала помолчати им. И егда умолкоша вси, рече Иудиф: «Хвалите господа бога нашего, понеже не оставил нас, надеющихся нань, и на мне, рабе своей, наполнил милость свою, юже обещал людем Израилевым, и забил рукою моею врага людей своих в сию нощ!»



Гравюра Скарыны да кнігі «Иудиф».

И, вытягнувши з з мешца главу Олофернову, указала им, глаголя: «Сѣ глава Олофернова, воеводы силы асиръское! И сѣ одевало его, под ним же лежаще в пиянъстве своем, игде же рукою женскою убил его господь бог наш. Но воистинну жив ест господь бог, и анъгел его сохранил мене, егда там шла есми, и егда с ними пребыла есми, и егда к вам навратилася есми. И не допустил господь бог на мя, рабу свою, абых поскврнена была, но без посквернения греховнаго навратил ест мене к вам. Прото ж нынѣ радуйтеся для вытяжъства[1] его, для навращения моего и для избавления вашего. Исповедайте ж господа вси, яко добр ест и яко во вѣки милость его!»...

Потом пак Озия, князь людей израилевых, рече к ней: «Благославена буди, дщеро моя, от господа бога нашего надо вси жены, иже суть на земли! И благославлен ест господь бог, сотворивый небо и землю! Он же направил тя срезати главу князю врагов наших, понеже имя твое днесь тако возвеличил, дабы не престала

[1] перамогі.

хвала твоя во устах людьских. Они же воспоминати будут силу господьню во вѣки: ты бо не пощадела еси живота своего для смутъку и погибели людей своих, но помогла еси упаду их пред лицем господа бога твоего». И рекоша вси людие: «Буди так и буди!»

Тогда позвали суть Ахиора, воеводу сынов Амоних, на него же разгневался был Олоферн. И егде прииде к ним, рече к нему Иудиф: «Господь бог Израилев, ему же ты сведение выдал, иже помстится над враги своими, той отсече главу всех невѣрных рукою моею в сию нощ. И дабы познал еси, иже так ест, яко ж повѣдаю тобѣ, — сѣ глава Олофернова. Он же для великое гордости своея понижил бога Израилева и тобѣ смертию грозил, глаголя: егда поражу людей израилевых, тогда повѣлю пробости оружием боки твоя».

И внегда узрел Ахиор главу Олфернову, здивился вельми и паде за мертваго на землю. Потом пак, егда окреял ест, поклонися лицем своим пред Иудифом до земли и рече: «Благославена ты от господа бога межи всеми людми Ияковлевыми, понеже во всяком народе, игде же, аще услышать имя твое, похвален будеть господь бог Израилев о тобѣ».

## ГЛАВА 14

*Главу Олофернову на стене из града высторчили[1] людие Израилевы на врагы своя, з Вефулии града выскочиша. Асиряне приидоша до шатра Олофернова, хотечи убудити его, и знайдоша и без главы*

Тогда рече Иудиф ко всем людем, глаголя: «Послухайте мя, братия, повесте главу сию на стене градове! И егда узыйдеть солнце, да возметь единый кажды оружие свое и выйдете на них нагле. Не сходите с горы, но поставътеся якобы есте хотели на них ударити. Тогда сторожи их мусять бежати к воеводе своему, абы обудили его к бою. И егда князи их зберуться к шатру Олофернову и знайдуть его без главы, валяющегося во крови своей, падеть на них страх. А егда узрите, а они утекають, гоните ж их смеле, понеже сотреть е господь бог под ногама вашима».

В то врѣмя Ахиор, видяй силу, юже учинил ест бог Израилев, опустил поклоны поганские и увери в господа бога и обрезался и причтен ест к людем Израилевым сам и вся родина его напотом даже до днешнего дня.

Внегда пак узышло солнце, повесиша на стене градове главу Олофернову. И взял ест единый кажъдый муж оружие свое и выидоша з великим гуком и криком. Сия узревше, сторожа асирстии бежаху скоро к шатру Олофернову. Тии пак, иже подле шатру его беша, пришедши пред двери шатровы ногами стукаху, будечи его, абы ся прочутил, — никто бо не смеаше сам отворити дверей ко княжати асирскому и внийти до покоя его. Но егда приидоша вси

---

[1] вывесілі.

князи и тысещници и вси старейшины войска асирскаго, рекоша к постелником: «Вниидите к нему и возбудите его, понеже мыши вылезли суть з дупла и смеют нас позывати к бою!» Тогда Вагаон, постелник его, вшед до шатра, стоя пред пологом и плескал рукама, надеялся бо его лежати со Иудифом. И внегда никого чуяше, приступил ближей к пологу и водвиг и узрел ест тело Олоферново без главы, лежащее увалено в крови на земли. И возпи гласом великим с плачем и раздра на собѣ ризы своя и вниide, где же бѣ Иудиф, и не знайде ея. И выбежав к людем рече: «Едина жена еврейская посрамотила ныне двор Навходносора царя: сѣ бо Олоферн лежит без главы на земли».

Сее егда услышали князи войска асирскаго, раздраша на собе ризы своя. И страх превеликий нападе на них. И улякнеся серце их, и бысть крик неслыханый посреди станов их.

## ГЛАВА 15

*Побежа войско асирское. Сынове Израилевы гониша их и браша користи их за тридесеть дней*

Внегда пак все войско асирское услышало, иже Олоферн убит ест, отступила смелость Ирада от них и самим страхом суще поражены начаша утекати вместо обороны. Так, иже ни един не промолвяше ко ближнему своему, но, склонивши глову и все оставивши, бежати мысляше пред евреами, понѣже слышаху их во зброи ити на ся. И тако утекаху по полех стежками и по узгорках.

Видячи же сее, сынове Израилевы, яко побежа войско асирское, идоша к ним и, зъшедши з горы, бежаху за ними, трубяще у трубы и кричаще. Асиряне пак великого для страху бежаху порозну, а сынове Израилевы в едином полку женущеся [1] за ними. Кого угониша, всих поразиша.

Тогда Озия князь розослал послы по всех градех и странах сынов Израилевых. И кажный град и страна людей Израилевых выбрали суть межи собою молодцев удатных и, приправивши их во зброю, послали за ними. И гонили суть людей асирских, побияющи оружием, даже и пришли ко останочным пределом земли своея.

Тии пак, иже были остали во Вѣфулии граде, вниидоша до шатров асирских и користь, ея же были отбегли людие асиръстии, побрали суть и скористовалися вельми. Людие же, ходившии в погоню за асиряны, победивши их, навратишеся до Вефулии и вси речи, иже побрали были врази их, привезли суть с собою тако, иже не было ест числа волов и овець и иного размаитого добра и скарбов. А тою користию розбогатели суть от мала и до велика вси сынове Израилевы.

Тогда Иоахим, найвышший ерей, прииде от Ерусалима до Вефулии града со всеми жерци своими видети жену Иудифа. Она

[1] сцясніўшыся.

же, егда вышла ест к ним, благословили суть ю вси единым гласом, глаголюще: «Ты еси похвала Ерусалимова, ты еси потеха Израилева, ты еси честь людей наших! Ты учинила вельми мужне, и утвержено ест сердце твое. Яко чистоту возлюбила есь и по первом мужи своем иного не познала есь, сего для рука господа бога укрепила ест тебе и будеши благословена во вѣки». И рекоша вси людие, стоящие ту: «Буди так и буди!»

Во тридесяти пак днех ледва собрана ест користи войска асирскаго от людей Израилевых. Тые пак речи особне, еже познаны были о них, яко беша Олоферновы, дали суть Иудифу. От злата, и от сребра, и ризы красные, и камение драгое и вся сосуды, — сия вся отдали людие Иудифови. И тако вси сынове Израилевы радовахуся с женами и з детьми, играюще у в органы и в гусле.

## ГЛАВА 16

Юдзіф спявае песню богу. Людзі з усіх канцоў зямлі прыносяць ахвяры ў Іерусалім і моляцца богу за сваё вырАтаванне ад варожай навалы.

Тогда сталося ест по поразце той, снийдошеся вси людие до Ерусалима, абы помолилися господу богу. И скоро очистившеся, приносили суть вся сожжения и жертвы, слюбныя господу. Иудиф пак всю зброю Олофернову, юже дали были ей людие, и одевало, еже была сама взяла, дала ест у проклятие вечного запомянутия. И быша людие весели по обычаю святых. А так за три месеци радость тое победы празновали суть со Иудифом. И потом навратишеся единый каждый в домы своя.

Иудиф пак велика была ест во Вефулии граде. И прославися имя ея по всей земли Израилеве, понеже приданы бысть чистота ко красе ея и не позна мужа по вся дни живота своего по смерти Манасия, мужа ее. И во дни святочныи хождяше с великою славою. И живяше в доме мужа своего лѣт сто и пять. И отпусти Абру, служебницу свою, свободну. Потом умре Иудиф. И погребена ест с мужем своим во Вефулии. И плакаше ея вси людие седм дней. Во всех же часех живота ее не было ест обижающего людей Израилевых, но и по смерти ея за много лѣта. День же тое поражки [1] уставили суть за свято, и празнують и евреи даже до днешнего врѣмени.

## [Пасляслоўе Скарыны]

Доконана ест книга, рекомая Иудиф, с помощию бога в троици единого и матери его, пречистое девици Марии, людем посполитым руского языка к пожитку, повѣлением, працею и выкладом ученаго мужа в лекарских науках доктора Франциска Скорины, из славнаго града Полоцька, у великом месте празском, лѣта по нарожении нашего спаситея тысеща пятсот и девятого на десеть, месеца февраля, дня 9.

[1] паражэнне ворага, перамогі.

# АЛЕКСАНДРЫЯ

Казачны жыццёпіс непераможнага праслаўленага героя старажытнасці Аляксандра Македонскага, вядомы ў гісторыі літаратуры пад назвай «Александрыя», як ні адзін з твораў таго часу карыстаўся вялікай папулярнасцю на Усходзе і на Захадзе. Такі выключны поспех гэтай перакладной аповесці быў абумоўлены апавяданнем пра незвычайнае нараджэнне героя і тыя неверагодныя здарэнні, цуды і непраўдападобныя гісторыі, якімі быццам бы суправаджалася кароткае, але бурнае жыццё гэтага заваёўніка народаў старажытнасці. Герой аповесці ў абмалёўцы аўтара выступае чалавекам мудрым, надзеленым ад прыроды вялікім розумам, прагай да ведаў, талентам палкаводца і незвычайнымі душэўнымі і фізічнымі якасцямі.

Паданні аб жыцці і дзейнасці Аляксандра Македонскага ўзніклі ў хуткім часе пасля яго смерці (памёр ён у 323 г. да н. э.), але ў пісьмовы твор аформіліся толькі ў пачатку н. э. (II—III ст. ст.) у Александрыі. Аўтарства гэтага твора ў свой час няправільна прыпісвалася пляменніку Арыстоцеля Калісфену.

Вызначыць час з'яўлення «Александрыі» на рускай зямлі дакладна немагчыма. Тым не менш ёсць падставы меркаваць, што ўжо ў XI—XII ст. ст. яна была вядома ў Кіеўскай Русі.

У XV ст. на Русі пашыраецца новая рэдакцыя аповесці, якая пранікла сюды з Сербіі. Гэтая рэдакцыя з'яўлялася перакладам грэчаскай рэдакцыі «Александрыі», якая перажыла ў свой час уплыў якойсьці заходнееўрапейскай, магчыма раманскай, крыніцы. Уплыў гэты адбіўся як на мове, так і на сюжэце аповесці, які адрозніваўся большай цікавасцю, жывасцю расказа і лірычнай афарбоўкай у параўнанні з псеўдакалісфенавай рэдакцыяй. Гэтая «Александрыя» вельмі хутка выціснула старую хранаграфічную рэдакцыю аповесці і на працягу ад XV да XVII ст. ст. распаўсюджвалася сотнямі асобных спіскаў.

Шырокае распаўсюджанне «Александрыя» атрымала і на тэрыторыі Беларусі. Аб гэтым сведчаць шматлікія спіскі яе беларускай перапрацоўкі, якія адрозніваюцца толькі рэдакцыямі тэксту.

Ніжэй пададзеныя ўрыўкі аповесці друкуюцца ў хрэстаматыі ўпершыню з поўнага тэксту беларускай рэдакцыі «Александрыі» па рукапісу XVII ст. Ленінградскай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына. (Гл. рукапіс F. XVII № 5, лл. 1—22.) Гэты тэкст «Александрыі» — творчы пераклад аднаго з польскіх выданняў аповесці, якія ў сваю чаргу з'яўляўся перакладам поўнай лацінскай рэдакцыі «Historia de proeliis». Беларускі рэдактар-перакладчык «Александрыі» апрача польскага тэксту аповесці, відаць, карыстаўся і іншымі крыніцамі, з якіх уносіў свае дапаўненні ў польскі тэкст, а ў некаторых месцах рабіў скарачэнні польскага тэксту.

## ПОХОЖДЕНИЕ ЦАРЯ АЛЕКСАНДРА МАКЕДОНСКОГО

Єгиптяне мудрии, розумѣючи мѣру земли, розность морских вод и ряд небеский знаючи, то есть бѣг звѣздный, и теж рушане округу небесного, котории теж на весь свѣт выдали велми широко узнане наук чернокнижских, иж повѣдают о царю их, же был добре розумѣючий в науцѣ звѣздной и в практыцѣ цвичоный [1].

[1] навучаны, дасканалы.

Одного часу, дня нѣкоторого, коли ему повѣдано, иж Хус, цар перский, з моцною рукою неприятелскою против ему притягнул [1], он для того не порушал рицерства своего, а ни готовал сил своих. Але потаемне вшол до особной ковнаты, полаты своей, а взявши мѣдницу мосязовую [2], наполненую воды дожчовой, а держачи в руцѣ посох мосязовый, там през чернокнижскии чари дияволов взывал. А розумѣл то добре през чернокнижство во оной мѣдницы, яко шикованыи [3] люди против ему моцно приходили. Было теж рицерство царя Анектанава уставичне [4] на сторожи границ перских. Прибѣгл к нему нѣкоторий з рицерев его, боязливе ему мовечи: «Великий пане наш, Анектанаве, тягне войско на тебе Хус, цар перский, з великостю неприятел и з поганством незличоным. Суть з ним парты, меды, персове, сири, месопотани, драпес, фарес, аргири, халдеи, бахири, консирес, гиркани, егиопи [5] и иншого люду велми много зо всходу солнца тягнучого».

Коли то услышал, Анектанав воздхнул и рекл: «Сторожу, которую есм тобѣ поручил, добре заховай. А всяко ж не яко княжа рицерское учинил, але яко боязный человек, абовѣм сила и мужность не належит толко в великости люду, але и в сталости умыслу люду. Або не вѣдаеш, иж один лев много еленей угоняет?»

А рекши то, вшол зась [6] до ковнаты и справил чернокнижством лодки и люд з воску в медницы, наполненой воды дожчовой. А держачи в руках рузку палмовую [7], гледячи на ню [8], начал всими силами чаровать. И видѣл там, яко египчикове были потлумлены навалностю людий поганских.

Цар Анектанав, бачечи то, зараз шаты [9] отменил [10], оголивши [11] голову и бороду, а взявши з собою золота, иле [12] могл набрать, и иных речий, котории ему были потребны ку науцѣ звѣздной и ку чернокнижству, збѣгл проч з Египту аж близко Пелузиум. Потом, пришедши да Муринской земли, оболоклъсе [13] и шаты тонкии. Египчик, яко пророк до Македонѣи вшол. Седячи там в посеред мѣста, пред обличностью [14] греков, на нь смотрячих, явне пророковал.

Египчикове зась, побачивши, иж Анектанав, цар их, уже не был найден в земли египетской, пошли до Серапим, бога их великого, и просили его, абы им правдивыи отповѣди дал о Анектанавѣ, царю их. Сирапис отповѣдал: «Анектанав, цар ваш, пошол з Египту для Хуса, царя перского, который вас к своему панству подбие, але по малом часѣ воротитсе до вас, зкинувши з себе неволство, а помстится над неприятелми вашими, подбиваючи их вам». Сии отповѣди взявши, египчикове заразом справили царский столп з каменя чорного на честь Анектанавови. А у ног его написали отповѣди, абы так долга паметка была. А Анектанав мешкал [15] в Македонѣи никому незнаемый.

В той час Филип, цар македонский, на войну выехал. А Анекта-

---

[1] выступіў. [2] латунную, з латуні. [3] падрыхтаваныя, адмабілізаваныя. [4] пастаянна, стала, бесперапынна. [5] плямёны і народнасці Блізкага і Сярэдняга Усходу. [6] тады, зноў, яшчэ. [7] кветку фінікавай пальмы. [8] на яе. [9] адзенне. [10] пераапрануў. [11] пабрыўшы. [12] колькі. [13] адзеўся. [14] на вачах. [15] жыў.

нав вшол на полату царскую, абы там царицу Алимпияду огледал а еи цудность видѣл. Коли там входил, яко скоро ю [1] узрѣл, на тых мѣст его сердъце еи цудностю было зранено, а ку еи милости се все роспалило. Стягнувши [2] руку свою поздоровил [3] ю, мовечи: «Будь поздоровлена царевая македонская!» Не смѣл ей речи: «пани». На то ему отповѣдала Алимпияда: «Здоров будь, научителю! [4] Приступи ближей а сядь».

Коли сѣл Анектанав, спытала его Алимпияда: «Здает ми ся, жесь есть египчик?» Отповѣдал ей Анектанав: «Царскоесь слово рекла, коли есь египтяны поменила, абовѣм египтяне суть розумны, котории иж сны розводят [5], знамена [6] указуют, птаству розумѣют, таемности объявляют и знают речи пришлыи [7]. Я теж о том всем, яко пророк, розумѣю». А то мовечи, пойзрѣл [8] на ню смыслом пожадливым. Бачечи то Алимпияда, иж так на ню пойзрѣл, рекла: «Учителю, штось помыслил, на мене так пойзрѣвши?» Отповѣдал Анектанав: «Вспомнѣл есми на многии отповѣди богов, абовѣм взял есм отповѣдь от бога, ижем мѣл гледѣть на цудную царевую». А рекши то, на тых мѣст вынял з пазухи своей велми дивную таблицу, учиненую з мосязу и з кости слоновой, мѣстцы передѣленую золотом и сребром, три кола в собѣ маючая. В одном колѣ было 12 знамен небесных, в другом — солнце и месяц. Потом указал ланцух, з кости слоновой справленый, з которого походили сем звѣзд велми ясных, годины розмѣряючи и рожене людское. Потом сем камений мистерне [9] ритых [10], и два камени на сторожу людскую уставлены.

Видячи то, Алимпияда рекла ему: «Философе, хочешь абым тобѣ увѣрила? Повѣдай мнѣ рок, день и годину нароженя царя моего». Анектанав рекл царевой: «Жадаеш ли от мене што иншого слышать?» Царица рекла: «Хочу абы мне повѣдал, што се межи мною а царем Филипом мае пригодит [11]. Бо люди повѣдают, иж коли цар прийде з войны, мене выженет [12], а иншую жену пойме» [13]. Которой Анектанав рекл: «Много речий фалшивых повѣдают. А всяко ж, по долгом часѣ тое се выполнит, штось рекла. Але потом тебе Филип прийме за жону». На то царевая рекла: «Прошу тебе, милый философе, абы мнѣ всю правду ознаймил». Которой Анектанав рекл: «Один з намоцнѣйших богов буде з тобою спал, а тебе во всѣх пригодах, счасливых и противных, буде вспомогал». Алимпияда отповѣдала: «Прошу, философе, абы мнѣ объявил, которую особу мае он бог». Отповѣдал Анектанав: «А ни молодый, а ни старий, але сивизну маючи и бороду приоздобленную. Для того, если се тобѣ подобает, будь ему готова, абовѣм его в ночи огледаеш, а през сон от него почнеш». Царица рекла: «Если то узру не яко пророка, але яко бога, оного буду хвалила».

Повставши, Анектанав поздоровил ю и вышол проч з полаты.

---

[1] яе. [2] падаўшы, працягнуўшы. [3] прывітаў. [4] настаўнік. [5] разгадваюць. [6] прыкметы. [7] справы будучыя. [8] паглядзеў. [9] па-майстэрску. [10] апрацаваных. [11] здарыцца. [12] прагоніць. [13] возьме.

Вышедши з мѣста[1] на пустое мѣстце, рвал зелья, котории он вѣдал, а стерши их брал сок от них, а начал чаровать през диявол-скии знаки, абы тои ж ночи царица Алимпияда бога Амона з собою лежачого видѣла, котоғий бы ей мовил: «Невѣсто, почалась обороннтеля твоего».

Коли была назавтрее Алимпияда зо сну повстала, и возвала собѣ Анектанава, а ему сон, который видѣла повѣдала. Теды Анектанав рекл: «Если мнѣ даси мѣстце на полатѣ, бога оного обличне[2] огледаеш, абовѣм он бог в особѣ смоковой до тебе прийде, а потом прийме особу людскую, а на мое подобенство се укаже». На то Алимпияда отповѣдала: «Обери собѣ мѣстце в полатѣ. А если тои правды досвѣдчиш, тебе яко за отца буду мѣла». А рекши то, приказала ему гмах[3] в полатѣ дати.

Коли было о вторей, або о третей годинѣ в ноч, Анектанав през чернокнижство почал се переменять во особу смоковую, а, шикаючи[4], против ковнатѣ Алимпияды почал лѣтать. Потом вшол до ковнаты на ложе[5] еи и выполнил свою волю. Коли от неи вставал, ударил ю легко в живот, мовечи: «Тое почате буде мстителем. А нехай не буде жадным[6] обычаем звитяжоно[7] от человека». Так здраджона[8] Алимпияда з человека (мнимаючи[9] быть бога) почала.

Потом рано вышол Анектанав з полаты, а царица уже была бременна. А коли ей уже почал живот наростать, возвала до себе Анектанава и рекла ему: «Философе, хочу абы мнѣ повѣдал, што зо мною цар Филип буде чинил, если се воротит». Рекл ей Анектанав: «Не лекайсе, абовѣм бог Амон вспоможителем твоим буде».

Рекши то, вышол з полаты перед мѣсто[10] на пустое мѣстце[11]. А рвучи там зелья, терл их и брал сок от них. Ухвативши теды птаха морского, почал над ним чаровать и мазать его соком з оных зелий. А то все чинил през дияволскии знамена, абы так здрадил царя Филипа през сон.

Сталосе тои ж ночи. Указалсе Филипови бог Амон, лежачий з женою его Алимпиядою. А потом видѣл, якобы он бог ей реч затулял и золотым перстенем запечатовал, в котором перстеню был камень дорогий, и в котором было вырито голову лвовую, воз солнечный и меч з обу сторон острий. И рекл ей: «Невѣсто почала есь оборонителя твоего».

Повставши цар Филип зо сну, возвал к собѣ своего вѣщка[12] а той сон, которий видѣл, ему объявил. А он вѣщок так рекл: «Царю Филипе, не от человека, але от бога жона твоя почала, абовѣм голова лвиная, воз солнечный и меч острий, — тыи речи знаменуют, иж той, которий се з неи мае народит, перестане аж до всходу солнца, отколе солнце походит. А през меч острий тое се розумѣе, иж вси рожаи[13] ему мают быть поддани».

---

[1] з горада. [2] асабіста. [3] будоўля. Тут ужыта ў сэнсе «месца». [4] размясціўшыся. [5] пасцель. [6] ніякім. [7] перапможана. [8] абманутая. [9] мяркуючы, лічачы. [10] за горад. [11] у поле. [12] вяшчуна, чараўніка. [13] народы.

В той час, коли се цар Филип з неприятелем своим потыкал и оного звитяжил, видѣл смока в битвѣ, который его упережал, а его неприятели потлумлял. А коли се уже з звитяжством ворочал до Македонѣи, забѣжала ему Алимпияда, а он ю поцеловал. Смотрячи так на ню, цар Филип рекл ей: «Комусь се, Алимпиядо, поддала? Згрѣшилась и не згрѣшила, абовѣм кгвалт есь от бога принела. Я-м то все, што се в тобѣ стало от бога, през сон видѣл. А всяко ж и от мене и от людий не естесь подойзряною».

Дня нѣкоторого цар Филип годовал[1] з княжаты и з преложоными[2] в Македонѣи весполок[3] з жоною своею Алимпиядою. Анектанав теды през чорнокнижскую науку пременил се в смока, а през посередок сѣдячих, идучи, окрутне[4] шикал, так иж вси годуючии великим страхом порушил, а приближившисе ку Алимпиядѣ, положил на еи лонѣ голову и поцеловал ю. Видечи то, Филип рекл Алимпияде: «Тобѣ повѣдаю, и всѣм, ижем того смока видѣл, коли есм свои неприятели поражал».

Поколку дний, седячи Филип цар в палацу своем, указалсе ему малый а велми тихий пташек, который прилетѣл на его лоно и знесл яйце, которое упало на землю и збилосе. А на тых мѣст з него вышол маленький уж, который полозячи около яйца, коли потом хотѣл во оное яйце влѣзти, яко скоро голову свою во яйце вложил, на тых мѣст здохл. Видечи то, цар Филип засмутилсе велми и возвал вѣщка своего, а ему чуд, который видѣл, повѣдал. Которому вѣщок рекл: «Филипе, народилсе тобѣ сын, который буде царствовал по смерти твоей, а окружит весь свѣт, одержавши панство[5] над всѣми людми. Але первѣй, ниж се воротит до своей земли, смертью наглою умрет».

Коли се уже приближал час нароженя, Алимпияда в великой се болести мучила. Казала до себе возвать вѣщка и рекла ему: «Мудрѣче, живот мой великими болестьми есть дручон». Анектанав почал мовить: «Поднесисе маленко з столца твоего, абовѣм той годины живюлы от солнца пренагабаны». И сталосе, иж заразом болесть от неи отшла. А по малой хвили рекл до неи Анектанав: «Сядь царице». А так седячи породила.

Заразом, коли оное дѣтя упало на землю, сталосе окрутное грimене и з громы знамена розмаитыи, и блискалосе по всем свѣте. Тогды се стала темность, праве, аж до остаточной годины дня.

Видечи теды Филип цар тыи знамена, дрижачий а боязливый вшол до Алимпияды и рекл ей: «Умыслилом был, абы тое дѣтя жадным обычаем не было ховано, абовѣм не з мене почато. Але розумѣю, же от бога створено. А ижем при нароженю его видѣл живюлы пременены, теды нехай буде ховано в доброй памети, якобы был мой сын, але нехай буде поличон на мѣстцы сына, которогом з иншой жоны мѣл». Мовечи то зо всякою пилностью дѣтя рядил.

---

[1] баляваў. [2] начальнікамі, духоўнымі асобамі. [3] сумесна. [4] люта. [5] уладу.

Способ оного дѣтяти а ни отца, а ни матки выображене[1] мѣло: волосы на головѣ его, якобы лвиныи, розмаите накроплены, очи его, яко звѣзды, ясны, але барвы[2] розной — одно чорно, другое желто се указовало, — зубы его были остри, попудливость[3] его хотлива а горячая, яко лвиная, але згола[4] его постать, моц и мудрость, которих напотом мѣл, указовала. Мянован есть от родичов Александер. Потом, коли ходил до школы, перевитежал всих в науках и каждого мудре прегадал так, иж вскоре над всѣ одержал першое мѣстце в науках.




Аляксандр Македонскі.

Коли был во 12 лѣт, был цвичон[5] ку воеваню и упережал каждого в хутком ширмованю[6]. На которого хитрость, Филип цар, поглядаючи, залецал[7] его и мовил ему: «Сыну Александре, хуткость твою и довтипность[8] умыслу твоего милую скутечне[9], але се з того смучу, иж твоя особа видит ми се быть неподобна и негодна».

Слышачи то, Алимпияда, великим страхом порушона, возвала до себе Анектанава и рекла ему: «Мудрьче, повѣдай мнѣ, што о мнѣ Филип мыслит, абовѣм мовил Александрови, прудкость твою милую и довтѣп розуму твоего хвалю, алем з того смутен, иж особа твоя ни в чом мнѣ не есть подобна».

Анектанав почал мыслить, потом рекл: «Мышлене его жадным обычаем не есть шкодливо». А яко звыкл Анектанав смотрѣть на звѣзды, взгледал в небо а розознавал звѣзду нѣкоторую, а скланял от того жажду свою.

Слышачи то, Александер рекл ему: «Звѣзду, которую видиш, видитсе велми высока». Которому Анектанав рекл: «Так есть, сыну». Александер рекл ему: «Можеш мнѣ ю указать?» Отповѣдал Анектанав: «Пойди зо мною годины ночной а укажу тобѣ ю». Александер рекл: «Докончене живота твоего если тобѣ вѣдомо, чи ли не пев-

[1] аблічча, выгляд. [2] фарбы, колеру. [3] лютасць. [4] палкам, поўнасцю. [5] навучаны. [6] бою. [7] адабраў, хваліў. [8] дасціпнасць. [9] з поспехам.

но?» Анектанав отповѣдал: «Есть вядомо заправду, иж от сына моего маю умерети».

Рекши то, вышол проч з полаты. Вышол теж и Александер за ним. Години вечерной вышли перед мѣсто. А коли ходили над перекопом мѣстким, рекл Анектанав: «Сыну Александре, погледай на звѣзды, абачат звѣзду Геркулисову яко се смутит, а Меркурий се веселит. И Овиша теж вижу яснячого. Уже мое практыковане мнѣ близкую смерть от сына моего обѣцуе».

Коли так погледал вгору Анектанав, приступил к нему ближей Александер, забѣжавшисе на него навалностью, пхнул его, аж впал в перекоп, мовечи ему так: «О нещасный! Слушне абысь так умер. Коли есь земских речий не розумѣл, чомусь смѣл о небесских гадать, фалшиве пришлыи[1] речи повѣдаючи?» Которому Анектанав отповѣдал: «Вѣдал есми то добре, ижем таковою смертью мѣл умерети, абом тобѣ того не повѣдал, иж мене мой сын мѣл загубить». Александер рекл: «Тедым я ест сын твой?» Анектанав отповѣдал: «Заправды есм я породил тебе». А мовечи то, умерл.

Александер теды, порушоный милосердъем сыновским, поднесл тѣло умерлого Анектанава на рамена[2] свои, несл его на палац свой. А коли его узрѣла Алимпияда, рекла: «Сыну Александре, што то есть?» Которой отповѣдал: «Тѣло Анектанавово есть». Алимпияда рекла: «Анектанав отец твой был». Александер отповѣдал: «Яко шаленство твое справило, так то есть». И приказал его в гроб сховать.

Тых часов княжа з Каппадокѣи привело одного коня не усмиреного, велми окрутного[3], невымовно великого а велми оздобного, увязавши зо всѣх сторон ланцухи желѣзными, абовѣм той конь, для окрутного войзреня, людей жерл. Дучепал мянован есть, або для знаменя, иж голову мѣл накшталт телца неука, або для того, иж нѣякии рощки походили з его чола.

Коли видѣл цар Филип цудность оного коня, рекл челяди своей: «Прикажите краты желѣзныи справить, абы лотрове[4], котории з права бывают осужени на смерть, были потлумлены от него».

Потом оных дний мѣл отповѣдь цар Филип от бога своего през сон, иж бы той по смерти его царствовать мѣл, хто бы на том окрутном коню ездил.

Александер теды во 12 лѣтех сталсе моцный, смѣлый, мудрий и ростропный[5], бо се уже был научил зуполне всѣх наук вызволеных през учителя своего Аристотеля и Кастора. Нѣкоторого дня, коли се прохожал през оное мѣстце, где стоял он конь несмиронный, коли на него смотрѣл през желѣзныи краты, а перед ним руки и иншии члонки[6] людскии туды и сюды роскиданы, дивовалсе велми и стягнул[7] на тых мѣст руку свою до него през крату. А конь теж стягнул до него шию и почал его руку лизать. А потом, склонивши ноги

[1] будучыя. [2] плечы. [3] лютага. [4] нягоднікі, бандыты, разбойнікі. [5] разважлівы, прадбачлівы. [6] часткі цела. [7] працягнуў.

свои, пал на землю перед ним, а поднемши голову свою, почал остро смотрѣть на Александра. Порозумѣвши Александер поволность[1] оного коня, отворил краты, а вшедши до оного коня, почал его легко а лагодно по хребтѣ гладит. А конь теж заразом инялсе[2] перед ним так покорне ласить, яко коли пес перед паном своим, так теж конь перед Александром. Потом, Александер, всѣдши на него, почал выежчати з краты.

Коли его узрѣл цар Филип, рекл до него: «Сыну Александре вси отповѣди божскии выполнены суть в тобѣ, абовѣм по смерти моей царство мое буде от тебе ряжоно». Которому Александер рек: «Отче, если може быть, допусти мнѣ абых в возѣ царском седѣл». Отповѣдал ему Филип: «Рад, то учиню. Возми собѣ сто рицерев а семдесят тисеч золотых. Едь же так моцным рицерством оздобленый». И сталосе так.

Коли проежчал Александер сполечне[3] з Ефесом философом, приятелем своим, и з дванадцатью панят, котории он собѣ выбрал и на свою волю научал, а мѣл з собою коштовныи убири и золота досыть, приказал теж рицером своим, абы о конех мѣли працу пилную.

Потом, коли се приближал до Полепонту мѣста, забѣжал ему Миколай, цар тои ж краины, з войском своим, абы з ним валку[4] мѣл[5]. Приближившисе до него, рекл ему: «Хтось ты есть? Повѣдай мнѣ! Которому Александер отповѣдал: «Я есм Александер, сын царя Филипа Македонского». Цар Миколай рекл: «А которого мене мнимаеш быть?» Александер оптовѣдал: «Ты естесь цар арридийский. А всяко ж нехай твое сердъце в пыху[6] не подносит, ижем тобѣ царскую почестность придал, абовѣм высокии речи звыкли упадать на нискость. А зась нискость бывает подвышона». Миколай цар отповѣдал: «Чисте мовиш! Бач толко сам себе». Александер рекл: «О человече, отступи от мене, бо ничого не маеш против мене мовить, а ни я против тобѣ з яким уволоченем чти[7]». Слышачи тыи слова, цар Миколай велми се розгнѣвал и рекл ему: «Бач то, што тобѣ повѣдаю. Присегаю през здорове отца моего, если на тебе натобѣ мнѣй[8] плюну, умреш». А мовечи то, плюнул на него и рек: «Возми, што на тебе належит, сченя, а соромейся того». Але Александер, водлуг лѣт своих походячи и теж наук своих учителев, рекл ему: «Миколаю, ижесь взгордѣл малость мою, присегаю тобѣ през ласку отцовскую и през живот матки моей, в котором есм был от бога початый...»[9]

**Далей апавядаецца аб паходах Аляксандра ў Сірыю, Палесціну і Іерусалім. Калі Аляксандр падышоў да Іерусаліма, то:**

Слышачи Иадда, архиерей жидовский, присте Александрово, зляксе а, возвавши жидов, уставил им пост през три дни, абы набожными молитвами и офѣрами бога взывали.

---

[1] пакору. [2] пачаў. [3] разам, сумесна. [4] бой, змаганне, барацьбу. [5] На полі ў рукапісу: «вѣл» замест «мѣл». [6] ганарыстасць. [7] абразай твайго гонару. [8] крыху. [9] На гэтым месцы ў рукапісу адсутнічае некалькі старонак тэксту.

от сна, бѣгла до свекра своего Прияма, царя тройского. И почала, плачучи просити его, абы в день завтрешний не пущал на войну Ектора, сына своего, бо певне убит, мовит, буде. И сон ему сказала.

А коли назавтрее прибрався цар Ектор противко Ахиллѣю валчить, зашли ему тройскии пании, то есть Якама, мати, жена и сестри его, не допущаючи ему выходить на войну. Мати указовала ему перси, мовечи: «О сыну, вспомни, однак, на мои болѣсти, которнем през тебе подыймовала, то тепер не зоставляй мене без плоду. Услухай, а ужалуйся матки твоей». Жена теж его принесла сына своего и повергла его перед ним, мовечи: «Змилуйся наостаток и ужалуйся над тым маленким а милым сыном твоим, который се по тобѣ сиротою зостать мае». А он их жадною мѣрою не услухал а вышол противко Ахиллѣю. Всяко ж се з собою того дня не валчили, але учинили примире на два дни. Потом Ектор того ж дня выбил сем полков грецкого войска. А назавтрее зась Ектор, не утерпѣвши, выехал валчити з Ахиллѣем, которого наехал Ахиллѣй, пробил его копьем и с коня мертвого скинул. А потом, его взявши, до своего шатра принесл. Полки теж вси роспорошил и позабивал валечники.

Коли увѣдали княжата и панове тройскии о забитю Ектора, плакали ревно. А Приям цар, отец его, оболокшисе в подлыи а роздертыи шаты, и взявши гусли, шол до греческого обозу. И допытавшися Ахиллѣева шатра, пришол до него, играючи жалосно на гуслях, где накормили и напоили его з вечери за росказанем Ахиллея.

А коли в ночи вси уснули, Приям цар шукал в шатрѣ сына своего Ектора. И нашол его на постели мертвого лежачого з Ахиллѣем, которого видѣвши, Приям воздхнул зо всего сердца и заплакал. А Ахиллѣй, очутившися от сна, зляклъся велми и пытал его: «Кто есть?» А он рече: «Ям есть Приям, цар тройский. Шукаю Ектора, сына своего». Улякшися[1] зась, Ахиллѣй рече ему: «Поневажесь ты есть — от страху твоего естем мертвый». Рекл Приям: «Не бойся, пане мой, з дѣтинства того не чинил есм, абых кого спячого стратил. Але прошу тебе о Ектора, сына моего». И рекл Ахиллѣй: «Если мнѣ присягнеш на том, же мене з Трои мѣста выпустите здорового, теды я сам Ектора до мѣста понесу на плечах своих». И присягл Приям цар. Теды Ахиллѣй назавтрие, взявши на плечи Ектора, и принесл его до мѣста Трои и отдал его им почтиве. И рекл Приям цар до Ахиллѣя: «Пойдива до церкви бога Аполона и учинимо присягу и примире не воеватися межи собою, а дам за тебя дочку свою Полексену, которая есть межи всими невѣсты навдячнѣйша».

И сталося так. Первей Приям присягнул и отступил. Потом приклякнул Ахиллѣй присягать. В том Александр-Фариж, сын Приямов, который засадился потаемне, и устрелил его в самую

[1] спалохаўшыся.

пяту ядовитою стрелою. И утекл з божницы, бо был Ахиллѣй весь у зброи, толко плюсны[1] его были без желѣза. Довѣдалися о том Дисевес и Диоген и Еа, бо были з ним заедно в Трои, и припадши над ним, плакали ревно. А он ледвѣ промовил, мовечи: «Забил мене здрадливе Александр-Фариж». И то рекши, умерл.

Цар Прияи послал до обозу, ознаймуючи греком, штось з Ахиллѣем учинило, а пытаючи их, што мѣл чинити з оным тѣлом. А они приказали, тѣло его спаливши, попел его до них прислати. Учинил то так Прияи. Попел он, в золотую скринку всыпавши, послал до царев до обозу, где все грецкое рицерство плакало по так мужном а ни звитяжоном рицери. И там его поховали.

А узнавши Якама царевая тройская упадок мѣста Трои, Полидвора, сына своего меншого, заслала за море до Полинещора, царя погажского, абы ся не звѣл потомок Трои.

Потом же зась точилася битва велми великая по вси дни, же ся напоила крови вся земля тройская. Искомандрины быстри з кровю плынули. Але вѣщки всяко греком радили, мовечи: «Не возмете Трои мѣста през войну, если не учините над ним якой штуки».

И так умыслили. Учинили коня з дерева велми великого и засклепили в нем 300 велми валечных з оружьем рицеров. А сами якобы бѣжали до своего панства. А коня, оставивши у пристани моря а затаившися в островѣ, скрили.

Обачили трояне, же на пристани человека жадного немаш, дивовалися оному коневи, уробленому мистерне, ане розумѣли здрады. Одны радили коня оного огнем спалити, а другии — в море увалити. Але, коли был пришол от бога намененый час згинути мѣсту, урадили на хвалу звитежства[2] впровадит его до мѣста. И коли упровадили его до мѣста, стали вси ести, и пити, и играти, и безпечне през ноч оную спати. А рицерство грецкое, которое было в коню оном, выпавши, запалили мѣсто.

Теды грекове, котории се были до острова заховали, обачивши поломень великий в мѣсте, зараз приплынули в кораблях до Трои. А оное их рицерство, которое было в мѣсте, отворили им вси мѣстскии брамы, которими яко гвалтовная наплынуло до Трои грецкого люду, котории сѣкли, забияли и мордовали весь народ людский, который был в Трои. Не было взгляду на особы. Дѣточок маленких о мур розбияно, а болших мечем стинано. Паненок теж порывано несчадно, инших в мори топлено. И не было жадного дому, который не был кровю облитый. А иных мордов[3] не можна реч вымовити. Поймавши ж Александра-Фарижа и Елену царицу, привели их до царя Менелая, которим зараз головы поотинати[4] казал. Потом привели Поликсену, дочку Прияма, царя тройского, которой теж голову утяли на гробѣ Ахиллѣевѣ, же такий рицер а для еи марне згинул. Также стяли и Якаму царицу. А Трою, мѣсто на весь свѣт славное, все огнем выкотили и з грунту выверну-

---

[1] ступні, падэшвы. [2] перамогі. [3] здзекаў.

ли, иж праве не зостал камень на камени, которое аж и по сесь день стоит пусто.

Коли теж то увѣдал цар погажский, што се так стало Трои, забил Полидвора, сына Приямова, и вкинул его в море.

А так Менелай, цар грецкий, воротился до Грецѣи з славою а з звитежством великим. Стоял под Троею 10 лѣт и 7 месяцей.

И так конец стался тройскому панству.

А Ахиллѣй он был сын царя Каяты, а индѣ повѣдают Фирилеша.

Омир[1] — автор той Тройской повѣсти.

А индѣ пишут, же оную Поликсену один сенатор[2] тройский, именем Енея, заховал ю от смерти, иж ему была покревная[3], за што был от греков з панства выволаный[4], о чом зараз знай.

---

[1] Гамер. [2] На полі рукапісу: «княжа». [3] сваячка. [4] выгнаны.

# ГИСТОРИЯ АЛБО ПРАВДИВОЕ ВЫПИСАНИЕ СВЯТАГО ИОАННА ДАМАСКИНА О ЖИТИИ СВЯТЫХ ПРЕПОДОБНЫХ ОТЕЦ ВАРЛААМА И ИОАСАФА И О НАВЕРНЕНЪЮ ИНДИЯН

Аповесць «О житии... Варлаама и Иоасафа», як і «Александрыя», была шырока распаўсюджана ў літаратурах сярэдневяковага Усходу і Захаду, дзе яна перакладалася на мноства моваў і выконвала ролю прапагандыста хрысціянскага веравызнання. Узнікла яна ў Індыі на аснове народных паданняў аб юнацтве Буды, вобраз якога пазней разросся ў вобраз вядомага хрысціянскага святога, легендарнага Іоасафа. З Індыі аповесць паступова прасоўвалася на Захад, і за час свайго падарожжа яна так абрасла новым матэрыялам, што цяпер немагчыма выявіць ні яе першапачатковага выгляду, ні тых напластаванняў, якія пазней згрупаваліся вакол сюжэта гэтай лягенды.

Сама лягенда, дзякуючы прастаце свайго сюжэта, звычайна застаецца нязменнай. Сюжэт яе наступны. Цару, у якога нараджаецца доўгачаканы сын, прадказваюць, што гэты сын абавязкова загіне або здрадзіць веравызнанню бацькоў, калі даведаецца пра няшчасці, якія пануюць на зямлі. У мэтах захавання сына, бацька імкнецца зрабіць усё магчымае, каб той не ведаў навакольнага жыцця з усёй яго горыччу. Але намаганні бацькі дарэмныя. Сын пазнае жыццё і сустракае пустэльніка, які схіляе яго да новай веры і адрачэння ад зямнога жыцця. Царэвіч прымае новую веру, далучае да яе свайго бацьку і народ, а потым пакідае свецкае жыццё і сам становіцца пустэльнікам.

На гэты просты сюжэт, які перажыў потым рад відазмяненняў у залежнасці ад таго або іншага рэлігійнага і сацыяльнага асяроддзя, куды ён трапляў, напластоўваліся шматлікія павучальныя апавяданні-прытчы. Яны і саздзейнічалі шырокай папулярнасці аповесці і былі тым няўстойлівым матэрыялам, які з асаблівай лёгкасцю падвяргаўся ўвесь час зменам, устаўкам і скарачэнням.

Першая вядомая нам пісьмовая апрацоўка аповесці «О житии... Варлаама и Иоасафа» з'явілася ў Іране ў VI—VII ст. ст., у часы кіраўніцтва дзяржавай

Сасанідамі. Гэтая апрацоўка і паслужыла арыгіналам для пазнейшых перакладаў на іншыя мовы, у тым ліку і еўрапейскія.

Усходнім славянам аповесць стала вядома каля XII ст. па грэчаскай версіі, якая ўзнікла ў Палесціне ў IX ст. і рэдактарам якой доўгі час па непаразуменню лічылі славутага багаслова, гімнатворца Іаана Дамаскіна, памёршага каля 749 г. У працэсе распаўсюджвання на Русі пераклад аповесці з грэчаскай версіі падвяргаўся ў сваю чаргу творчым апрацоўкам: перараблялася і сама аповесць і некаторыя яе прытчы, якія пазней увайшлі ў склад многіх рэлігійна-павучальных зборнікаў.

На тагачасную беларускую літаратурную мову «для утѣхи и ползы християнской» аповесць была перакладзена «старанем и коштом иноков общежителного монастыра Кутеенского» ў 1637 г. у Оршы. Ініцыятарам перакладу і надрукавання яе быў магілёўскі архімандрыт Варлаам Палоўка. Неабходнасць перакладу «Гистории... о житии... Варлаама и Иоасафа» на беларускую мову, апрача жадання даць праваслаўнаму чытачу павучальнае чытанне «под час утисненя церкви православной», было абумоўлена і палемічнымі мэтамі. Выданнем гэтай кнігі трэба было даказаць беспадстаўнасць сцверджання езуіцкага прапаведніка Пятра Скаргі аб тым, што ў айца Усходняй царквы — Дамаскіна ёсць указанне на паходжанне святога духа не толькі ад бога бацькі, але і ад бога сына. Пераклад аповесці быў зроблены, як зазначана на цітульным лісце, з дзвюх крыніц: грэчаскай і славянскай.

«Гистория... о житии... Варлаама и Иоасафа» на працягу свайго шматвяковага жыцця заўжды карысталася нязменным поспехам. Яе прытчы пранікалі ў фальклор, рэлігійныя пропаведзі XVII і XVIII ст. ст., «Богагласнікі», а пазней і ў мастацкую літаратуру, напр. «Дзве аповесці» Жукоўскага, «Тры праўды» Майкава, паэма І. Франка «Прытча пра жыццё» і інш.

Ніжэй пададзеныя ўрыўкі з аповесці аб Варлааму і Іоасафу друкуюцца па экземпляру выдання Кутэенскага манастыра 1637 г., які зараз знаходзіцца на захаванні ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве.

## ГЛАВА I

### *О наверненъю индов през святого апостола Фому и королю инъдийском Авеннѣру*

Индиа краина ест великая и людная, которая далеко от Египту лежит и от стороны египетской. Отголь море заходит. Землею зась до перских границ досѣгает. Тая теды (краина. — *А. К.*) темностю балвохвалскою[1] пред тым была огорнена и барзо грубыми обычаями заражена и в спросных[2] злостях ся найдовала...

Так працягвалася да нараджэння Ісуса Хрыста. Пасля смерці і ўваскрашэння Хрыста яго вучні разышліся па ўсяму свету прапаведваць вучэнне свайго настаўніка.

На тот же час и святѣйшый Фома, один з дванадцати Христовых апостолов, до Инъдии для проповѣди збавенной науки посланый был. За помочью теды божиею и за потверженем през послѣдуючии знаки поганских забобонов темность отгнана ест. И они, от балвохвалских офѣр и службы будучи вызволени, до правой вѣры себе прилучили. А так през апостольские руки, якобы отрожени з Христом през крещение, поеднани сут. И помалу ся множачи

[1] язычаскай. [2] непрыстойных, ганебных.

в вѣре, намнѣйшой змазы[1] не маючой, поступовали и церкви по всем панствѣ будовали. А кгды зась в Египтѣ манастиры закладать и законных людей немалые згромаженя почалися збирать, и оных цнот и живота ангелского слава по всем свѣтѣ ся розышла и аж до индов завитала, их теж до такого ж жития побудила так барзо, же много их, опустивши все до пустыни уходили и в смертелном тѣлѣ безтелесный живот прыймовали.

Кгды теды речи в так знаменитом постановеню были, и золотыми крылами (яко ся звыкло мовити) на небо многие взлѣтали, повставает нъякий кроль в том же панъствѣ именем Аввенир, муж в правдѣ, богатством и потужностю[2], звытяжствами[3] и дѣлностью военною, и взростом ведлуг тѣла значный, а надто пиекностю[4] облича знаменитый, и з свѣтских и барзо прудко вянучих речий повоженя[5] над мѣру ся выносячи. Але зась иле[6] взглядом души великий терпѣл недостаток, многими злостми будучи стисненый и зараженый, иж ся в поганствѣ найдовал и в забобонах балвохвалских велце ся кохал. А кгды кроль в великой роскоши и потѣхах телесных найдовалъся и на жадной[7] речи, чого бы похотѣл и прагнул, не сходило, тое толко само потѣху его прерывало и сердце фрасунком[8] наполняло, то ест иж был безпотомный, абовѣм дѣтей не мѣл. О тое ся фрасовал, яким бы способом от того звязку волным был и, сплодивши потомство, отцем назватися могл, над которую реч посполите[9] у многих ничого немаш вдячнѣйшого. И такий был тот кроль, и такого умыслу и розуменъя.

Презацный зась народ християнъский и згромаженя иноков, кролевскую службу и честь за ништо собѣ важачи, а ни ся его срокгости боячи, през ласку божую знаменитые поступки чинили. В невыповѣденом множствѣ ся найдуючи, ничого ся бынамнѣй[10] на кроля не оглядали а службы божей з великою горячостю пилновали. Для того теж многие з них, которые до иноческого чину ся удавали, всѣ речи в том свѣтѣ потѣшные охотне занедбывали а в самой ся побожности кохали и прагненем смерти за Христа и пришлого[11] благословенства милостю палали. И для того не ляккливым и не трвожливым сердцем, але барзо смѣлым и статечным[12], спасителное Христово имя выславляли и Христа единого в устѣх своих мѣли, оминаючую и сказителную[13] дочасных речий натуру, а пришлого живота певность и несмертелность, всѣм ясне и открыте указовали, и як нѣякие побудки[14] и насѣня им подавали, за которыми бы ся до бога удали и живота в Христѣ скритого доступили. З чого многие, найсолодшей тоей науки послухавши, от срокгой темности ошуканя отступовали а до вдячной правды свѣтлости прылучалися так барзо, же нѣкоторые и зацные мужеве и сенаторы, откинувши того свѣта тяжары, в зебране иноков себе поличили.

---

[1] знявагі, ганьбы. [2] магутнасцю, сілаю. [3] перамогамі. [4] цудоўнасцю, прыгажосцю. [5] поспехаў, удач. [6] але ж колькі. [7] ніякая. [8] смуткам, непакоем, трывогай. [9] звычайна, заўсёды, часта. [10] ні ў якім разе. [11] будучага. [12] сур'ёзным. [13] разбуральную, спусташальную. [14] стымулы, заахвочванні.

Кароль, убачыўшы ў гэтым страшэнную небяспеку, загадаў усім манахам вярнуцца да ранейшага жыцця, у адваротным выпадку пагражаў суроваю караю, якую ён у хуткім часе і пачаў прымяняць. Але змяніць становішча каралю не ўдалося. Нават любімы яго сенатар — галоўны гетман (гл. главу 2-ю) не паслухаў парад караля і ў асабістай размове з ім даказваў яму перавагу духоўнага жыцця над свецкім. Аднак гэта не пераканала караля, і ён з яшчэ большым запалам прыняўся за знішчэнне манахаў.

## ГЛАВА 3

### *О нароженю Иоасафа Кролевича и што о нем астролиогове оповѣдили*

Кгды теды кроль в так тяжком блудѣ и ошуканю зоставал, уродилъся ему сын барзо пиенкный. И з тоей пиенкности, оказуючейся на нем, што мѣло быть з него, презначаючи [1]; бо так всѣ повѣдали, же в той земли дитя таковой пиенкности и цудности никгды пред тым не было видѣно. Кроль прето, з нароженя будучи потѣшеный, Иоасафом его меновал и до болванских божниц, як безрозумный, пошол, абы безрозумнѣйшим офѣры принесл. И оным за тое подяковане, на знак вдячности, учинил, не вѣдаючи запевне, хто бы был всѣх добр правдиве початком, которому духовную офѣру принести был повинен. Он теды, речам бездушным и нѣмым нарожене сына прыписуючи, всюды посланцев розославши, все посполство [2] на обхожене его родин зобрати старался. И было видѣть всѣх для боязни кролевской збѣгаючихся и з собою речи належачие до офѣр приносячих, кождый ведлуг своего преможеня и охоты своей противко нему. Особливе зась он сам до щодробливости побудку чинил, як найболей и найболшых волов забиваючи, офѣровал. И таким способом велце знаменитый празник отправивши, всѣх як сенаторского стану и на урядах будучих, так жолнѣров, и посполитых и селян великими подарками осмотрыл.

В той же самый день обхоженя родин сыновских выборных мужей якобы пятдесят, которыи ся в халдейской мудрости около прысмотрованя и розезнаня бѣгов небесных бавили, до кроля събрало. Которым, росказавши на покой до себе прыйти, от каждого з особна вывѣдовался, што бы з новорожоного дитяти напотом мѣло быти. Они зась, розне мыслячи, повѣдали, иж маеть быти богатый и можный и всѣх первых кролев маеть превышшити. Один зась астролиог, биглѣйший в науце над всѣх товарышей своих, так повѣдѣл: «Иле [3] з небесных звѣзд бѣгу зрозумѣти могу, кролю, — сына, тобѣ тепер урожоного, зацность и велможност не в твоем кролевствѣ будет, але в другом, лѣпшом и барзо значнѣйшом. И розумѣю о нем, же ся до вѣры християнской, которую ты преслѣдуеш, удасть, ани сподѣваюся, абы мѣл от того пред се взятя и надѣи отступити».

---

[1] У тэксце памылка, павінна быць: «презначали». [2] насельніцтва. [3] колькі.

Тое зась оповѣдѣл астролиог, як пред тым Валаам: «Не жебы астролиогия на правдѣ ся садила, але бог, оттинаючи незбожным вшелякую вымовку, правду през самых неприятелей обявил».

Кроль теды, як послышал такое ознаймене, тяжким и смутным сердцем прынял и утѣху его ему так пресѣкл. Еднак же и особливом едном мѣстѣ барзо оздобный палац збудовавши и дом коштовный в нем зготовавшы, там сына засадил и росказал, абы, кгды почнет выростать, никому до него ходити не допускали. И научителей и слуг молодых и красных до него приставивши, тое им росказал, абы ему жадных речий на том свѣтѣ смутных не обявляли, ани смерти, ани старости, ани хоробы, ани убозства, ани жадной якой нендзы [1], которая бы его утѣсѣ перешкодити могла. Але всѣ речи утѣшные и найвдячнѣйшие прекладали, абы в тых самых умысл его, в веселю и роскоши забавлячися, ничога згола о прышлых речах мыслити не могл, а над то и одного слова о вѣрѣ Христовой и его науце не послышал: абовѣм тое пред ним над всѣ речи укрыти на умыслѣ мѣл, астролиокга оного особливе боячися пророцства. А если ся которому з слуг прыдало в хоробу впасти, того зараз оттоль выпровадити казал, а иншого свѣжого и добре здорового мѣсто его подавал, абы ся вшеляко ничого шпетного [2] и прыкрого пред очима его не найдовало.

Таким ся способом кроль заховал и тое мыслил и справовал, видячи бовѣм не видѣл, и слышачи не розумѣл.

А кгды певную вѣдомость взял, иж нѣкоторыи з иноков, которых ани слѣду позосталого быть розумѣл, еще ся найдують, велце ся гнѣвом запалял и окрутне [3] противко их порушал. И возным [4] всюды, по всем мѣстѣ и кролевствѣ, бѣчи росказал, абы нихто з иноков жадным способом нигде по трех днях не нашолся, а если бы по назначеных днях найденый был, абы на огень был поданый. «Тыи абовѣм суть, — мовил, — которые людей зводят, абы роспятого на крестѣ за бога чтили».

А в том часѣ такось ся нѣшто прыдало, же его барзѣй до гнѣву побудило и противко иноков горшым непрыятелем учинило.

## ГЛАВА 4

### *О сенаторѣ одном, который потаемне вѣры християнской ся держал, и о двох иноках спаленых*

Межы сенаторами был один, который первшым был на дворѣ кролевском, человек доброго живота и вѣрою побожный и о своем збавеню пилное чинил старане, еднак з тым таился, боячися кроля. Прето ж нѣкоторые, для тоей поваги, которую великую мѣл у кроля, зайзрячи [5] ему, спотварити [6]

---

[1] беднасці, нястачы. [2] брыдкага. [3] люта. [4] ураднік, у абавязкі якога ўваходзіла вызначэнне віноўнасці каго-небудзь. [5] зайздросцячы. [6] запляміць.

его старалися и барзо се на то усадили. И одного часу, кгды кроль з своим рыцерством, ведлуг звычаю, выехал в ловы, в личбѣ дворян и той цнотливый муж был, который, кгды особне ся отдѣливши ѣхал, — з бозкого, як розумѣю, зпоряженя, — человѣка, в густвинѣ на земли лежачого и ногу сродзе ображеную от звѣра маючого, нашол, который, его идучого видячи, пилне просил, абы его не минал, але, змиловавшися над прыпадком его, до дому своего отпровадити постарался. До того и тое прыдал, иж за тую працу ему не непожитечным [1] и не непотребным мѣл быть. Презацный зась муж оный ему повѣдѣл: «Я заправды, для охоты и милости к цнотѣ, тебе возму и о тобѣ як наболшее старане буду чинити. Але што ж ми з тебе так может быть пожытечного, як мовиш?» Убогий зась оный и недолужный [2] речет: «Я, — мовит, — помылку в словах лѣчу. Абовѣм, если ся коли в словах або розмовѣ ураз [3] який або послизнене найдеть, певнымь лѣкарством оные лѣчу и, жебы ся злое далей не ширило, забѣгаю». Побожный зась оный муж, ачколвек што он повидѣл, за ништо собѣ почитал, еднак же взглядом прыказаня панского оного до дому своего занести и ведлуг слушности огледати росказал.

Леч ненавистные оные и зазростю порушеные люде, о которых пред тым мовилисмо, злость, которую давно уже кновали, выявляючи, оного до кроля таким способом оскаржают, иж не толко хвалы богом отдавать понехал и до християнской вѣры умысл склонил, але якобы теж противко маестатови кролевскому речи шкодливые замышлял, то ест людей посполитых подбуряючи и у всѣх ласку собѣ еднаючи. А хочеш ли о том певнѣй вѣдать, мовять, же ничого не змышляем ани даремне удаем, на особности, досвѣдчаючи его, рекни, иж, опустивши отцевскую вѣру и славу кролевскую, хочеш вѣру християнскую прыняти и габит [4] законный, который як мало почесный ненавидѣлесь, на себе взять.

Кароль прыняў параду і вырашыў праверыць адданасць свайго любімца. Каралеўскі любімец выслухаў караля і, не падазраючы аб рэлігійным выпрабаванні, згаджаецца з «жаданнем» караля і тым самым наклікае на сябе яго тайны гнеў. Зразумеўшы сваю памылку, любімец звяртаецца за парадай да выратаванага ім убогага. Убогі, выслухаўшы ўсю яго гісторыю, дае яму наступную параду:

«Вѣдать маеш, презацный мужу, иж кроль злое и опачное [5] взял о тобѣ мнѣмане, то ест як бысь его кролевство прагнул посѣсти и, хотячи тебе досвѣдчить, то мовил, што мовил. Прето ж встань, а острыгши голову и свѣтное тое одѣне скинувши, а волосеницу на себе вложившы, як наранѣй пойди до кроля. А кгды тебе спытает, на што бысь ся так прыбрал, оповѣж: в той речы, о чомесь вчерашнего дня зо мною мовил, кролю, о том ся ставил готовый будучи за тобою пойти в тую дорогу, в которую запуститися замыслилесь. Бо, хотя роскоши и утѣхи милые суть, неслушнаа ми реч еднак оных без тебе заживать. Але зась цноты дорога, в которую пойти зезволяеш,

---

[1] небескарысным. [2] кволы. [3] удар, траўма. [4] выгляд, аблічча, вобраз. [5] памылковае.

хотя ест тяжкая и прыкрая, еднак, толко бым з тобою был, лацная и вдячная будет. Як бовѣм мене мѣлесь по тѣх того жывота таваришем, так теж и трудностей будеш мѣть, абым теж и прышлых добр з тобою участництво прынял».

Презацный теды оный муж, хорого человѣка слова похвалившы, так учинил, як ему порадил. Которого обачивши, кроль, и такие слова послышавшы, велце ся з того утѣшил, его ся приязни противко собѣ дивуючи, и, фалшывые речи на него собѣ донесеные зрозумѣвшы, в болшом его пошанованю и повазѣ у себе и захованю мѣл. Леч противко законных людей знову ся гнѣвом запалил...

А кгды знову (кроль. — *А. К.*) в ловы выѣхал, двох иноков, в пустыни идучих, обачил, которых зараз поймати и до воза своего прыпровадити росказал. И запалчиве на них пойзрѣвши и огнем, як мовят, дышучи: «Азали [1] не слышалисте, — мовил, — зводителе и выволанцы, возных моих, явне оголошаючих, абы нихто з вашего дияволского закону по третем дни в мѣстѣ котором албо в всем кролевствѣ моем не нашолся, бо иначей вшеляко, абы на спалене был поданый!»

Инокове зась о то мовят: «Ведле твоего росказаня з мѣст твоих и панства выходимо. Але, иж далекую дорогу пред се взялисмо, хотячи до братии нашей зайти, а наживности нам сходит, тоею дорогою идучи, оную збираем, жебы нам живности достало, абысмо от голоду не устали».

Кроль зась речет: «Хто ся смерти боит, дармо ся тот о живность старает». Инокове зась: «Добре рекл кролю, — мовят, — которыи ся смерти боят, о тое ся старають, як бы оной увошли. А которые ж тыи суть? Не иншые, толко которые над речами сказителными [2] схнут и оным ся запаметале дивуют, которые, иж в прышлом жывотѣ ничого доброго одержати не сподѣваются, от дочасных оторватися не могуть и для тоей прычины смерти ся боять. Мы зась, которыисмо давно вже свѣт и што на свѣтѣ ест зненавидѣли, а тѣсною и узкою дорогою для Христа идемо, ани ся смерти боимо, ани речий дочасных пожадаемо, але прышлых добр всею душею прагнемо. Иж прето смерть тая, которую нам задаете, до вѣчного и лѣпшого жывота прейстьем ставается, для того рачей [3] утѣхою нам ест, а нижли боязню».

Тут кроль, пустелников хотячи хитре уловити, рекл: «Што ж ест, азалисте не повѣдѣли, иж уходите, абысте моему росказаню досыть учинили. А если ся смерти не боите, для чого ж утѣкаете? О то и в том, даремне и порожне хвалячися, солгалисте». Отповѣдѣли пустелницы: «Не для того уходимо, абысмо ся от тебе оповидѣной смерти бояли, але тебе жалуючи, абысмо тяжшеи муки тобѣ прычиною не были, уступити замыслилисмо. Иначей абовѣм, иле взглядом нас, жадных ся погорожок твоих не боимо».

На тые слова кроль, гнѣвом порушеный будучы, оных спалити росказал. Так теды слуги божии, живота доконавши, мученической

---

[1] хіба. [2] спустошанымі, зруйнаванымі. [3] хутчэй, лепей.

короны през огонь доступили. И зараз вырок учинил, абы, если бы ся где колвек который инок нашол, без жадного суду был загубленый. Прето жаден з того закону в оной сторонѣ не остал, толко если ся которые в горах и яскинях [1] и печерах земных крыли. Леч о том досыть.

## ГЛАВА 5

### *О сыну кролевском и як ему отец его позволил колко бы крот хотѣл з палацу своего выходити*

Сын зась кролевский, о котором ся почало мовити, в палацу для него збудованом, так мешкаючи [2], же жаден до него не могл дойти, аж до взросту млоденческого [3] прышол, и том часѣ и вшелякой так муринской, як и перской науце выцвичившися [4]. был мудрый и розсудный и во всѣх цнотах [5] значный. Над то еще прыроженые нѣякие квестии [6] задавал научителем своим, так же ся и сами они довтипови [7] млоденца и острому розумови дивовали.

Кроль теж сам оздобной твари [8] его и ростропности здумѣвалъся [9]. Росказовал зась пры нем мешкаючим, абы ся старали, жебы згола [10] ничого о тых речах, которые в том животѣ смутные суть, не вѣдал, иже смерть тые дочасные утѣхи пресѣкает. Леч на порожной надѣи ся садил, и як в прыповѣсти ся обносит, в небо стрѣляти покушался. Яким абовѣм способом смерть рожаеви [11] людскому может быти невѣдома. Прето ж ани того млоденца вѣдомости ушла. Абовѣм, маючи розум быстрый и выцвиченый, сам в собѣ уважал, што бы до того отца привело, же до него всѣм пристя боронил и недопускал, бо сам през себе знал, иж ся тое кром отцевского росказаня не дѣяло. Еднак же самого спытати боялъся як для того, иж бы ему правды был не повѣдѣл, кгды ж отец тое, што бы ему было пожытечного, усмотровал, так теж в собѣ уважал, если бы ся то за волею отцевскою дѣяло, хотя бы ся як найболѣй о том пытал, николи бы еднак самой правды ся от него не довѣдал. Прето ж от других, а не от отца о том довѣдатися постановил.

А так, маючи одного з учителей своих собѣ милшого и зычлившого и оного еще болшею поволностю своею потягнувши и барзо значными подарками осмотривши, от него ся вывѣдовал, што бы до того кроля прывело, же его в том затворѣ замкнувши держал. Тое теж прыложыл: «Если ми о том щыре ознаймиш, над всѣх тебе вывышу и вѣчную з тобою приязнь учиню».

Научитель зась, будучи теж сам мудрый и розсудный, и млоденца быстрый довтип и зо всѣх мѣр доскональый розум добре вѣдаючи, же ся ему за тое ничого злого не станет, розумѣючи, все ему до найменшей речи ознаймил, то ест и о преслѣдованю про-

---

[1] бярлогах. [2] жывучы. [3] юнацкага. [4] навучыўшыся. [5] дабрачыннасцях. [6] пытанні. [7] трапнасці. [8] прыгожага выгляду. [9] дзівіўся. [10] зусім. [11] роду.

тивко християн, а особливе противко тых, которые себе всѣх на службу божую отдали и як зо всѣх околичных мѣст выгнаны суть и выволаны [1], и о том теж, што пры нароженю его астролокгове оповѣдѣли. «Абысь прето, — мовит, — о их науце послышавшы, оной лепѣй ниж нашу вѣру не принял. И для того так ся кроль стараеть, абы ся не многие около тебе отирали, але нѣкоторые толко. И нам теж пилне а пилне прыказал, абысмо ся старали, яко бысь ся о жадных речах смутных того жывота от нас не довѣдал».

О том послышавши, млоденец далей з ним ничого не мовил. Еднак же збавенная мова доткнулася сердца его и ласка Параклитова душевные очи его оттворяти почала...

Кгды теды кроль, отец его, часто оного навѣжал, — великую абовѣм до него мѣл любов, — одного дня в тые слова речет до него: «Кролю, пане мой, хочу ся довѣдати от тебе нѣштось! Для чого уставичный [2] смуток и неуставаючий фрасунок [3] сердце мое зѣдаеть и забивает?» Отец зась, тыми словами на сердцу преpаженый, речет: «Повѣж [4] ми, намилший сыну, што за смуток тебе заходит, и зараз его на веселье отмѣнити постараюся». Тогды млоденец: «Повѣж мнѣ, — речет, — што ест за причина, же естем в таком задержаню и межи тыми мурами и замками естем зачиненый, и так зоставаю, же нихто до мене прийти и видѣтися не может?» «Поневажь, о сыну, — поведѣл кроль, — хочу, абысь того ничого не видѣл, што бы сердце твое засмутило и утѣху твою прервала. Абовѣм тое чиню и упатрую [5], абысь в уставичных роскошах и в вшеляком веселю и доброй мысли по ввесь вѣк жывота своего зоставал». Отповидѣл ему зась сын: «Прошу, кролю, пане мой, вѣдай запевне, иж таким способом не в веселю и доброй мысли, але рачей в смутку и великом стисненю жывот проважу. Также ми теж и самый покарм и напой прикрый ест и горкий, абовѣм прагнеть сердце мое, што ся за тыми мурами дѣеть, видѣти. Прето, если прагнеш, абым веселый и утѣшный живот провадил, дозволь же мнѣ, абым ведлуг воли моей за ворота выходил и з тых речий, огляданя которых мнѣ видѣти не допускают, утѣшалъся».

Тое кроль послышавши, засмутился и тое помыслил, же, если бы ему чого жадаеть отмовил, болшый бы ему смуток и фрасунок задал. Прето, штобы ся ему подобало, учинити обецал. И зараз знаменитыи кони и рыцерству своему, ведлуг кролевской годности, наготоватися росказал, и оному колко бы раз проежчатися захотѣл позволил. Тым зась, которие ся при нем бавили, пилне росказал, абы стерегли, жебы ся ему ничого шпетного пред очи не наражало, але все, штобы было красного и веселого и вдячного, тое ему указовали и розные игры вымышляли, абы такими речами мысль свою забавлял и утѣшал.

Кгды теды таким способом кролевский сын часто проежчался, одного дня, за неосторожностю слуг двох мужей обачил, з которых

---

[1] пракляты. [2] пастаянны. [3] клопат. [4] паведамі, скажы. [5] наглядаю.

один был трудоватый [1], а другий слѣпый. Которых обачивши и на умыслѣ засмутившыся, от тых, которые при нем были, штобы зач [2] и якие бы так чудные дивовиска были, довѣдовался. Они зась, иж того, што ся ему пред очи натрафило [3], утаити не могучи, уломности [4] людские быть повидѣли, которые з зепсованой матерыи и телесных злых вилкготностий на людей звыкли припадати. «На што, —речет он, — на всѣх же то людей звыкли прыходити?» «Не на всѣх, — повидѣли они, — але на тых толко, которых ся здоровье для злых вилкготностей нарушило». Знову теды далей пытатися не перестал млоденец. «Если не всѣ люде звыкли впадати в тые уломности, але нѣкоторые толко, ест ли вѣдомо, на которых тые нендзы мают прыйти, або рачей противным способом без жадного взгляду изненацка [5] родятся?» Отповѣдѣли они: «И хто ж з людей пришлые речи видѣти и оные зрозумѣти можеть, тое абовѣм натуры людской розум переходит, и самых несмертелных богов есть то власность».

Тут пытатися в правдѣ сын кролевский перестал. Але з того, што видѣл, жалосным был на сердцу. И тоею речью новою так был порушеный, же ся постава лица его змѣнила.

Знову зась, кгды проежчаючися, нѣякого престарѣлого старца натрафил, маючого зморщеное лице, ослабѣлые и скрывленые ноги, згорбленое тѣло и голову барзо посивѣлую, который до того жадных зубов не мѣл, и штось незначного, и пересѣкаючи слова, мовил. Подивенем прето знятый, росказавши ближей привести того человѣка, будучих при боку своем, пытался: якое бы так незвычайное дивовиско было. Они зась повѣдѣли: «Тот человѣк ест вѣку подешлого и за уступенем злегка сил и ослабеньем члонков до тоей, як видиш, пришол нендзы». «И який же, — речет он, — конец его будет?» «Не иншый, — повидѣли они, — толко умерети мусит». «Всѣм же то людем, — мовит, — ест назначено, або нѣкоторым толко прыпадает?» Отповѣдѣли они: «Если смерть упередившы, которого тут не зайдет. Иначей быти не может, абы за наступенем болших лѣт такого ж стану не дознал». Затым речет млоденец: «Которого ж року тое на кого прыпадает? И если вшеляко каждый умерети мусит и жадного способу немаш, як бы смерти увойти и в тую нендзу не впасти?» Повѣдѣли ему: «В осмъдесятом або сотном року до тоеи старости люде прыходят, а затым умирают; ани может быти иначей, долг абовѣм прырожоный ест смерть, на люди з початку вложеный. И нихто от его волным быти не может».

**Даведаўшыся аб гэтым, Іоасаф засумаваў і пажадаў сустрэць чалавека, які мог бы даць яму добрую параду і суцешыць яго.**

**Пасланы богам пустэльнік Сенарыцкай зямлі Варлаам ідзе прапаведваць Іоасафу хрысціянскую рэлігію (гл. главу 6). У адзенні купца ён пранікае ў палац царэвіча і размаўляе з ім. Размова Варлаама перасыпана прытчамі — г. зн. апавяданнямі, якія выражаюць пэўную маральна-дыдактычную ідэю ў алегарычнай форме.**

---

[1] хворы, пракажоны. [2] азначала. [3] папалася, трапіла. [4] хваробы. [5] раптоўна.

## [Прытча пра скрыні]

Был абовѣм некгдысь великий нѣякий и знаменитый кроль, которому, кгды на золотом возѣ з немалым рыцерством, маестатови его кролевскому годным, ехал, придалося двох мужей в ошарпаном и шпетном одѣнью, на твари худых и барзо блѣдых, поткати. Кролеви теды вѣдомо было, иж з утруженя телеснаго и з працы жывота, богу посвеченого, тѣло свое так высушили. Як прето их обачил, з воза прудко порвавшися и до земли припавши, оным поклонился, а затым повставшы, барзо любовне облапил и поздоровил.

Сенаторове зась его и преложоные о то за зле мѣли, розумѣючи тот учинок противный быти маестатови кролевскому, але, иж жаден з них явне о тое карати его не смѣл, рожоного брата его направили, абы кроля упомнѣл, жебы стану своему зацному и высокому такой зневаги и зелживости не чинил.

А кгды он брату своему о том повѣдѣл и непристойное и мнѣй пожитечное его понижене зганил, отповѣдь ему кроль учинил, которой он намнѣй не зрозумѣл. Звычай абовѣм был у кроля, же кгды мѣл кого смертю скарати, возного з трубою, которая для того смертелною ся называла, пред ворота посылал. И от трубного голосу вси познавали, иж мѣл умерети. А так под вечер з оголошенем трубным пред дверы брата своего кроль послал, которую кгды он послышал, звонтпившы[1] о своем здоровю, през всю ноч дом свой росправовал. Рано зась, в чорное и жалобное одѣне прибравшися, з жоною и з дѣтми, плачучи и нарѣкаючи, пошол до палацу кролевского.

А кгды его кроль до себе припустил и так плачучого обачил, тых слов до него зажил: «О глупый и безрозумный человѣче! Еслись ся брата твоего, з которым одного естесь рожаю и ровной чести, против которому ни в чом никгдысь не выкрочил, возного так побоял, яким же способом смѣлесь мене з того штрофовати[2], ижем бога моего проповѣдников, который мнѣ смерть и страшное прысте пана моего, против которому иж многие и тяжкие злости пополнилем знаю, над вшелякую трубу голоснѣй и огромнѣй оповѣдают, покорне и унижене поздоровил? О тож тепер, абым твое глупство зганил, того способу ужилем. Так же и тых, которые тебе, жебысь мя з того штрофовал, подмовили, зараз глупство и небачене окажу».

И так згромивши и пожитечне упомневшы, брата своего до дому отослал. Росказал зась з дерева уробить чтыры скрыни, з которых дрѣ, отвсюль золотом оправившы и смердячие трупие кости в оные накидавши, золотыми замками их замкнул. Другие зась двѣ смолою и клеем обмазавши, и дорогого камѣня, и знаменитых перел и вшелякых пахнучих олѣйков наклавши, и волосяными поврозами обвезавши, сенаторов своих, от которых для ушанования оных мужей был штрофованый, до себе прызвал и пред ними тые чтыри

---

[1] спалохаўшы. [2] дакараць.

скрыни поставил, абы шацовали, як много бы тые и як много бы зась овые стояли.

Они зась тые его позолоченые великое цены годные быти повѣдали, слушне абовѣм рекли, жебы в них кролевские короны и клейноты[1] были хованые. Смолою зась и клеем обмазаные подлые и жадной цены негодные быть повѣдѣли.

Кроль зась им повѣдѣл: «И я тое вѣдалем, жесте так мѣли речи, абовѣм телесными очима на видомые речи смотрите. Але не так маете чынити, леч внутрними очима люб цену, люб подлость и шпетность, внутр будучую, усмотровати треба. И зараз позолоченые скрыни одомкнути росказал, з которых тяжкий и прикрый смрод выступил, и брыдкие речи в оных видѣти ся дали. За чим повѣдѣл кроль: «То кшталт тых людей ест, которые свѣтных и коштовных шат заживают и для великой славы и можности над мѣру ся выносят, внутр еднак смердячих костей и злостей сут полные». Потом зась смолою и клеем обмазаные розвязати казал. Всѣх будучих на тот час ясностю и вдячною вонностю речий в них положеных утѣшил. И повѣдѣл им: «Вѣдаете ж, кому тые скрыни подобные сут: покорным оным и взгорженым мужем и подлым одѣнем прыбраным, на которых бы позверховный габит смотрячи, за взгарду и зелживость тосте ми почитали, жем ся пред ними до земли поклонил. Я зась их годность и пиенкность души, очима духовными уважаючи, з дотыканя ся оных славы доступилем и над вшелякую корону и оздобу кролевскую зацнѣйшых быть розумѣлем.

Таким прето способом их завстыдал и, жебы на видомых речах не ошукивалися, научил, але на внутрние пилное око мѣли...

## [З главы 10. Прытча пра салаўя]

Повѣдал (адзін муж. — *А. К.*) абовѣм, иж балвохвалцы[2] едному ловцеви суть подобны, которий кгды соловъя, барзо малую пташечку, поймал и нож взял, абы его зарѣзал и зъѣл, той, маючи собѣ позволеную мову, речет до ловца: «Што ж тобѣ, человѣче, з моей смерти за пожиток будеть? Ани бовѣм мною твое чрево наполнити зможеш. Але, если мя выпустиш, троякую науку тобѣ подам, которой если будеш постерегати, великих пожитков по ввесь вѣк свой дознаеш». Он зась, его словам задивовавшися, обецал тое учинити, и если бы што нового от него послышал, зараз мѣл его выпустити.

Обернувшися затым, соловѣй речет человѣку: «Никгды о тую реч не покушайся, которои доступити не можеш. Никгды речи прешлой[3] не жалуй. Речи неподобной николи не вѣр. Тые три науки заховай и добре ся с тобою дѣяти будет».

---

[1] каштоўнасці, атрыбуты ўлады, рэгаліі, дваранскія гербы. [2] ідалапаклоннікі. [3] мінулай.

Он зась, тых слов розуму и мудрости задивовавшися, его, з силца отвязавши, выпустил. А соловѣй, хотячи досвѣдчити, если бы он тых слов слышаных от него силу зрозумѣл и який з оных пожиток взял, по повѣтру лѣтаючи, речет до него: «Бѣда тобѣ, человѣче, иж ничого в собѣ не маеш розсудку: який жесь скарб сего дня стратил? Бо есть в моем черевѣ перла, болшая над яйце струсее». Што он послышавши, велце ся зафрасовал и жаловал, же соловѣй з рук его ушол. И знову, его поймать кусячися, рекл: «Пойди, прошу, до дому моего, и кгды тя значне учестую и людскость покажу, потом з почестю тебе отпущу».

Соловей зась ему повѣдѣл: «Тепер ясне вѣдаю, ижесь глупый и безрозумный, абовѣм принявши з охотою, што тобѣ было речено, и вдячне выслухавши, ничогось з тых слов пожитку не одержал. Упоминалем тебе абовѣм, абысь речи прошлой не жаловал, а тось ся для того зафрасовал, ижем з рук твоих вымкнул, будучи жалем знятый для речи прешлой. Научилем тя, абысь ся о тую реч не кусил, которой дойти не можеш, и еднак поймати мене важишъся, не могучи дороги моей постигнути. До того и тое повѣдѣлем тобѣ, абысь речи неподобной никгды не вѣрил. А ты еднак, абы перла болшая взросту моего в черевѣ моем была, увѣрилесь. И не мѣлесь с так много розсудку, абысь зрозумѣл, иж и ввесь не естем так великий, як яйце струсѣе. Яким же способом тое тѣлце так великую перлу вмѣстити бы могло?»

Прето таким же способом и кланяючийся балваном в великом глупствѣ зоставают, абовѣм оные руками своими выробили и дѣлу рук своих кланяются, мовячи: «Тые суть створителе наши...»

## [З главы 13. Прытча пра трох прыяцеляў]

Подобные сут знову тыи, которыи, милостю роскошей того живота будучи уловлены и тых солодкостью потягнены, речи сказителные и непевные над пришлые и неомылные за певнѣйшыи мают, человѣкови, маючему трех приятелей, з которых двох з великою сердца прихилностью шановал и барзо ся в них кохал так, же за них аж до смерти застановлятися и вшелякие небезпеченства понести был готовый. О третем зась ничого не дбал, так же никгды ему ани почести, ани приязни своей не оказал, але толко малую нѣякую и омылную любов освѣдчал.

Одного теды дня пришли срокгие и страшные жолнѣре, хотячи его з великою прудкостю до кроля провадити, абы з десяти тисячей талантов, которые был винен, личбу учинил. Для чого, будучи в великом стисненю, шукал кого колвек, жебы ему в здаванъю страшной оной личбы пред кролем был на помоч.

Побѣгши прето до первого и над всѣх инших милшого приятеля, рекл до него: «Вѣдаеш добре, приятелю, як для тебе здорове свое завше в небеспеченство подавалем. Теперь зась нынѣшняго дня в моей кгвалтовной потребѣ твоей помочи и ратунку потребую.

Што ми теды за помоч обецуеш, и якую в тобѣ, приятелю намилшый, маю мѣть надѣю повѣж ми?»

Отповѣдаючи зась, он речеть: «Я приятелем твоим не естем, человѣче, а ни знаю, хто ты естесь, бо я маю инших приятелей, з которыми сегодня треба ми ся веселити, и которых напотом за приятелей собѣ маю мѣти. Прето ж толко два платы[1] тобѣ даю, абысь мѣл на тую дорогу, которую пойдеш. Леч и тые пожитку тобѣ ничого не принесуть. А болш ничого от мене не чекай».

И се он послышавши и о помочи, которой от него чекал, всю надѣю откинувши, до другого приятеля пошол и до него речеть. «Вспамятай, приятелю, як великой чести и добродѣйств от мене дозналесь. Нынѣшнего зась дня, в великую трудность и фрасунок упавши, помочника якого потребую, якую ж ми теперь помоч указати можеш, нехай вѣдаю».

Он зась повѣдѣл: «Я сегодня для забав моих в твоей потребѣ пойти з тобою часу не маю, бо великими клопатами и фрасунками отвсюль естем затрудненый и утисненый. Мало еднак з тобою пройду, хоть з того ничого тобѣ пожитку не будет. А потом зараз до дому вернувшися, в своих справах старатися буду».

З тощими теды руками оный человѣк оттуль вернувшися и жадной помочи не одержавши, нарѣкал на себе для порожней надѣи, которую в здрадливых оных и невдячных приятелех своих покладал, и для непожитечных трудов, которие з милости своей до них подыймовал, себе укорял.

Пошол затым до третего приятеля, которого никгды не шановал, ани утѣхи своей участником мѣл. И до того з завстыженным и засмученным лицем в тые слова речет: «Не смѣю уст моих оттворити к тобѣ, абовѣм тое добре вѣдаю, жем тобѣ николи доброго ничого не учинил, а ним тобѣ зычливым приятелем был. Але, иж будучи велце тяжким фрасунком притисненый, в инших приятелях моих жадной до поратованя надѣи не нашолем, до тебе прихожу, благаючи тебе и просячи, иж если ми хоть малую помоч подати можеш, ничого на мою невдячность не памятаючи, тое учинити не збороняйся».

Он зась з тихим и веселым лицем речет: «И овшем так ест, же тебе за зычливого приятеля моего быть признаваю, и малой твоей противко мнѣ добрчинности будучи памятный, которую тобѣ нынѣшнего дня з пожитком отдам. Прето ж не трвожся, ани лекай, бо я пред тобою вперед пойду и кроля за тобою упрошу, жебы тебе в руки неприятелей твоих не выдал. А так будь безпечным, приятелю намилший, ани ся фрасуй».

Тогды он з сердечною скрухою и з великим плачем речет: «Бѣда ж мнѣ нендзному! Што ж вперед буду оплакивати або жаловати? Чи порожнюю мою противко оных запаметалых, невдячных и здрадливых приятелей любов ганити буду? Чи ли теж на

---

[1] два адзенні.

мою глупую невдячность, которой противко тому вѣрному и щирому приятелеви уживалем, нарѣкати?»

**Выклад:** Першы прыяцель — багацце і прага да яго, якое пасля смерці чалавека застаецца другім, апрача двух адзежын, якія чалавек апранае ў гроб. Другі прыяцель — жонка, дзеці і іншыя сваякі і прыяцелі, якія суправаджаюць толькі цела чалавека да гроба. Трэці прыяцель — вера, надзея, любоў, міласэрдзе, ласкавасць і іншыя дабрачыннасці, якія не пакідаюць чалавека перад богам. Яны характарызуюць богу чалавека.

### [З главы 30. Прытча пра каралеўскага сына]

Кроль нѣякий, не маючи мужского потомства, велце ся фрасовал и тое нещасте себѣ за великое быть розумѣл. В таком теды постановенью будучи, сына сплодил, для чого ся велце утѣшил. Повѣдѣли засъ ему некоторые свѣдомые лѣкары, же если тое дитя пред дванатцатми лѣт солнце або агонь обачит, взрок згола утратит, тое абовѣм постановене очей его оказует.

Што отец послышавши, повѣдают, иж в скалѣ одной мешкане темное выковал и там сына з мамками замкнул, а ни пред скончением дванатцати лѣт овшеки ему жадной свѣтлости указал.

По скончению засъ того часу, сына, который ничого згола з речий тогосвѣтних аж до того дня не видѣл, з того мешканя выпровадил. А затым кроль пред него вшелякие речи, ведлуг своего рожаю, приводити и указовати росказал, то ест мущын на едном мѣстцу, на иншом невѣст, на другом золото, а овде сребро, перлы и камѣне велце дорогое, шаты богатые оздобные, возы прибраные з коньми кролевскими и оправленых уздах и шкарлатным накрытем и сѣдячими на них узброеными, также стада волов и овец и, коротко мовячи, вси речы, ведлуг своего порядку, дитяти указывал.

А кгды пытал, як бы ся каждая реч з особна прозывала, слуги кролевские и дворяне каждой речи имя ему повѣдали. Кгды засъ имя невѣст вѣдати хотѣл, теды мечник кролевский жартом и насмѣх, же ся оные бѣсами называют, повѣдѣл, которые серца людские в блуд потягают. Дитяти засъ сердце до них милостю и пожадливостю барзѣй ся, ниж до всѣх инших речий, запалило и порушило.

Кгды теды вси речи оказавши, до кроля его привели, а кроль, што бы ся ему з всих речий, которые вѣдел, барзѣй подобало, спытал, повѣдѣло дитя: «Ничого иншого, толко бѣсы оные, которые людей зводят. Ани бовѣм так до жадной речи з тых, которые сегодня огледалем, як до тых милостю запалилося сердце мое». На которые слова дитяти, кроль ся задивовал и як ест срокгая и окрутная реч — милость до невѣст оттуль уважил.

Прето ж и ты, не иншим яким способом, толко тым розумѣй собѣ поволным учинити сына своего...

## ЗМЕСТ

На белорусском языке

***Александр Фомич Коршунов***

**Хрестоматия по древней белорусской литературе**

Государственное
учебно-педагогическое издательство
Министерства просвещения БССР
Минск, проспект им. Сталина, 109

Рэдактар *М. Е. Шчэрбун*
Тэхрэдактар *А. І. Сасіновіч*
Карэктар *Е. І. Бруевіч*

---

АТ 02854. Здадзена ў набор 4/V-1958 г. Падпісана да друку 7/VII-1959 г.
Тыраж 5000 экз. Папера 60 × 92¹/₁₆. Пап. арк. 14,875. Друк. арк. 29,75.
Уч.-выд. арк. 33,0. Зак. 277. Цана 7 руб. 60 кап.

---

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

